МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ, СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ І ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР

МІНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ
імя А. М. ГОРКАГА

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА НАРОДНА-ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ

*Пад рэдакцыяй*
*Ф. Янкоўскага*

ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА імя Ул. І. ЛЕНІНА
МІНСК—1960

Кніга ўключае народна-дыялектную лексіку, сабраную ў вёсках Беларусі. Да кожнага слова даюцца граматычныя каментарыі, тлумачэнне сэнсу і прыклады іх ужывання ў сказах. Кніга змяшчае новыя факты і матэрыялы па народна-дыялектнай лексіцы, звяртае ўвагу на неабходнасць збірання, сістэматызацыі, выдання і вывучэння дыялектаў.

Кніга прынясе вялікую карысць спецыялістам-філолагам і ўсім, хто цікавіцца беларускай мовай.

# ПРАДМОВА

Адзін юны збіральнік дыялектнай лексікі і фразеалогіі звярнуўся нядаўна да мяне з пытаннем і трывогаю: ці правільна ён зрабіў, абраўшы аб'ектам сваёй працы і занятку дыялектную лексіку, яе збіранне? Ці не змяніць яму аб'ект працы? Такое пытанне і трывога, як высветлілася, узніклі ў сувязі з тым, што ў апошні час прыкметна ажывілася збіранне беларускай дыялектнай лексікі, што шмат хто паспяхова займаецца гэтаю справаю.

Не перабольшваючы, можна сказаць, што гэтай працы хопіць на вельмі працяглы час, бо багацце народна-дыялектнай лексікі і фразеалогіі — невычарпальнае.

І як добра было б, калі б з кожным днём раслі і памнажаліся рады збіральнікаў народнага багацця — лексікі і фразеалогіі, як і вуснай народнай паэзіі.

Беларуская народна-дыялектная лексіка вельмі багатая, яна вельмі разнастайная па адразняльных тыпах. Сабрана ж да нашага часу вельмі нязначная частка яе, а яшчэ менш надрукавана ў выглядзе слоўнікаў ці розных дадаткаў да лінгвістычных, этнаграфічных і фальклорных прац.

Нават у гэтым невялічкім зборніку народна-дыялектнай лексікі прыводзіцца па некалькі варыянтаў слова, па некалькі слоў, якія абазначаюць адзін прадмет ці паняцце. Так, напрыклад, прыведзены словы з адным значэннем:

ПРЫ'ХАПКАМ (вёска Абідавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці);

ПРЫ'ХВАТКАЙ (вёска Лукі Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці);

ПРЫ'ХВАТКАМ (вёска Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобласці);

ПРЫ'СКАКАМ (вёска Кліны Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці);

ПРЫ'ТАЧКАМ (вёска Шклянцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці);

У спалучэнні з дзеясловам рабіць (зрабіць і інш.) словы прыхапкам, прыхваткай, прыхваткам, прыскакам, прытачкам абазначаюць — рабіць (зрабіць і інш.) час ад часу, у вольную ад асноўнага занятку часіну, адрываючыся ад асноўнага занятку.

Або: у значэнні «нахіліўшы», «нагнуўшы» (піць што-небудзь з вядра, збана) адзначаны такія словы:
НА'ГБАМ (вёска Шклянцы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці);
НАГБО'М (вёска Трасцяніца Барысаўскага раёна Мінскай вобласці);
НАБГО'М (вёска Кліны Бялыніцкага раёна, вёска Клетнае Глускага раёна — Магілёўская вобласць);
НАГНО'М (вёска Зарытава Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці);
НА'ГІБКАМ (вёска Кліманты Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці).

Прыведзеныя прыклады — дівосны матэрыял не толькі для лексікалогіі, а і для марфалогіі і этымалогіі. Ці мала тут такіх выразных і характарыстычных слоў, якія так і просяцца на старонкі кніжак і газет!

У зборнік «Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы» ўвайшлі моўныя факты і словы, сабраныя тт. В. Бекішам, Г. Варавам, М. Гуліцкім, С. Зубрыцкім, Е. Кавалёвай, Н. Калошай, С. Прачам, М. Ралавец, В. Рабкевічам, М. Яўневічам, Ф. Янкоўскім у розных абласцях Беларусі. Большасць гэтых збіральнікаў друкуецца ўпершыню.

Загалоўнае слова падаецца ў фанетычным запісу. Як правіла, да слова даюцца граматычныя паметкі, самае кароткае тлумачэнне і (не заўсёды) сказ, у якім ужыта слова. Рыхтуючы матэрыял да друку, мы свядома ішлі на спрошчаны запіс слоў і сказаў, у выніку чаго не ўсе фанетычныя асаблівасці гаворак (напрыклад, «закрытыя» О і Э (Ô і Э̂), шапялявае вымаўленне мяккіх свісцячых, частковая рэдукцыя галосных няверхняга пад'ему і інш.) адлюстраваны. Рабілася гэта з мэтай аблегчыць друкаванне і карыстанне зборнікам (асабліва для тых, хто не мае спецыяльнай лінгвістычнай адукацыі).

Уключаліся ў гэты зборнік галоўным чынам тыя з сабраных слоў, якія або не ўжываюцца, або рэдка ўжываюцца ў літаратурнай мове. У запісах усіх збіральнікаў нярэдка паўтаралася адно і тое слова. Для зборніка пакідалася такое слова ў адной чыёй-небудзь падборцы. Паўтараюцца ў зборніку словы з адным гукавым складам і рознымі значэннямі, а таксама тыя, якія ўжываюцца ў розных абласцях Беларусі, але не з'яўляюцца «ўзаконенымі» літаратурнымі словамі.[1]

У кожнай падборцы праводзіцца невялікая колькасць прыказак, прымавак фразеалагічных спалучэнняў.

Асабняком стаяць у зборніку матэрыялы В. Рабкевіча і Ф. Янкоўскага: гэта анамастычныя факты з Глускага раёна Магілёўскай вобласці і невялікія падборкі прыказак, прымавак і фразеалагічных спалучэнняў, сабраных на Беларусі пасля Айчыннай вайны.

Трэба спадзявацца, што ў выданні нашых наступных выпускаў «Матэрыялаў для слоўніка народна-дыялектнай мовы» прымуць актыўны ўдзел настаўнікі школ — выхаванцы Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

*Ф. Янкоўскі*

---

[1] Напрыклад, слова праць—мыць (бялізну) адзначана ў Магілёўскай, Гродзенскай, Мінскай, Гомельскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцях; у «Руска-беларускім слоўніку» яно не даецца.

# УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ І СКАРАЧЭННІ

Літараю г абазначаецца *г* выбухное.

Мяккасць зычнага перад наступным зычным абазначаецца мяккім знакам (ь): сьценка, гарбузьнік, зьнецікі.

Падоўжаныя зычныя абазначаюцца падвойным напісаннем літары (збожжа); калі падоўжаным з'яўляецца мяккі зычны, то ён абазначаецца падвойным напісаннем літары з мяккім знакам (аб'едзьдзя, сьмецьця).

Спалучэнне зычнага «ёт» ( j )з наступным галосным «і» абазначаецца спалучэннем—«йі» (чыйіх, у йіх, стайіш, у зграйі, на ўскрайіні).

Аб.— вёска Абідавічы
агульн.— агульны род
адз.— адзіночны лік
арф.— арфаграфічна
Бабр.— вёска Баброві<br>чы
безасаб.— безасабовы (дзеяслоў)
выклічн.— выклічнік
гл.— глядзі
дзеепрым.— дзеепрыметнік
дзеясл.— дзеяслоў
ж.— жаночы род
Жур.— вёска Журавічы
загадн.— загадны лад
займ.— займеннік
зак.— закончанае трыванне
Зам.— вёска Замасточча
злуч.— злучнік
л.— лік
м.— мужчынскі род
мн.— множны лік
н.— ніякі род
наз.— назоўнік
незак.— незакончанае трыванне
неперах.— непераходны (дзеяслоў)
пабочн.— пабочнае слова
памянш.— памяншальная форма
пераносн.— пераноснае (значэнне)
перах.— пераходны (дзеяслоў)
прык.— народная прыказка
прым.— прыметнік
прыназ.— прыназоўнік
прысл.— прыслоўе
р.— родны склон
руск.— рускае, руская (мова)
скл.— склон
Слаб.— вёска Слабодка
часц.— часціца.

*М. ЯЎНЕВІЧ*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КЛІНЫ[1]

АБАГНА́ЦЬ[1] *дзеясл., -ю́, -іш, перах., зак.* Апярэдзіць, перагнаць.

АБАГНА́ЦЬ[2]. Абараць, акучыць (буракі, бульбу). Ні спра́віўся ўсёй абагна́ць (бульбы). Ужываецца побач з падара́ць, падагна́ць, падаку́чыць, абара́ць.

АБГАНЯ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Гл. абагна́ць.

АБДУ́РВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Гл. абдуры́ць.

АБДУРЫ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -ыш, перах., зак.* Ашукаць, падмануць па-махлярску. Ці ні абдуры́лі цябе́? Параўн.: у руск. мове обдуть.

АБ'Е́ДЗЬДЗЯ (аб'еддзе) *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Недаедзены жывёлай корм.

АБЛЕ́ТНІК *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* Дровы, нарыхтаваныя к зіме, якія сохлі ўсё лета. Спалілі ўжо́ ськірту́ (гл.) абле́тніку. Параўн.: ле́тавыя дро́вы. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

АБЛІВА́КА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Дождж пры тэмпературы замярзання вады. Цэ́лы дзень была́ абліва́ка — ня вы́йсьці.

АБМЕ́ШВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Гл. абмяша́ць.

АБМІША́ЦЬ (абмяша́ць) *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Крыху дадаць (чаго-небудзь, звычайна мукі) і змяшаць разам. Абміша́ла тро́хі муко́й (мякіну).

---

[1] Вёска Кліны ўваходзіць у Бялыніцкі раён Магілёўскай вобласці.

АБМУ́ЛІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. му́ліць.

АБМЫ́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Астатак змыленага кавалка мыла. Абмы́лак аста́ўся, вазьмі́ сабе́ бры́цца. Гл. змы́лак.

АБМЫ́ЛАЧЫК (абмы́лачак) *наз., м., р. -чк-а.* Памянш. ад абмы́лак (гл.).

АБО́РА *наз., ж., р. -ы.* Тонкая вяроўка.

Ужываецца таксама аборка. Паміж вяроўкай і аборай (аборкай) ёсць адрозненне: вяроўка—тоўстая, абора—больш тонкая.

АБО́РАЧКА *наз., ж., р. -і.* Памянш. ад або́ра.

АГРЫ́ЗАК[1] *наз., м., р. -зк -а.* Агрызак (яблыка, грушы).

АГРЫ́ЗАК[2] *наз., агульн.* Той, хто груба, са злосцю адказвае на заўвагу, параду, агрызаецца, спрабуючы апраўдацца. То́му агры́ску нічо́га ні скажы́.

АГРЭ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Ударыць, сцебануць, стукнуць. Яму́ ня шту́ка й агрэ́ць чым-нібу́ць.

АДНА́ЧЫ. Аднак, ўсё роўна. Пасабі́ (гл.) парэ́заць дро́вы—адна́чы ты гуля́йіш. Параўн.: укр. одна́че.

АДУБЕ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* 1. Надта змерзнуць. Адубе́лі й ру́кі, й но́гі. 2. Зрабіцца зусім халодным. Даўно́ буракі́ сь пе́чы—адубе́лі ўжо́. Параўн.: Еж, бо крупнік адубее. Я. Колас. 3. Памерці. Та́к і адубе́ў бе́дны пат пло́там.

АЗАЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах.,* зак. Змерзнуць, акалець. Хлапе́ц саўсі́м азале́ў. Гл. зале́ць.

АЗЯЛІ́ЦЬ *дзеясл., -ю́, -іш, перах., зак.* Гл. зялі̀ць. Звычайна ўжываецца з назоўнікам галава. Саўсі́м (дзеці) азялі́лі галаву́.

АЛЕ́ШЫНА *наз., ж., р. -ы.* Вольха. Зрэдку ўжываецца альха́. На Шчагля́нцы до́брыя але́шыны расьлі́.

АЛІ́ *злучн.* Але. Дро́вы то ёсь, алі́ сыры́я.

АПА́ДАК *наз., м., р. -дк-а (-дк-у).* Плод (яблык, груша), які сам зваліўся з дрэва. Ко̀жны гот апа̀ткаў насушу́.

АПАСТЫ́ЛІЦЦА (апасты́лецца) *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Пасварыцца, абняславіцца, быць у непрыязных адносінах (з кім-небудзь). За свой язы́к йіна̀ апасты́лілась с усі́мі. Параўн.: У апошні час ён менш пачаў цікавіцца справамі брыгады: яны

апастылелі яму. Р. Сабаленка, Жменя зярнят, ДВБ, М., 1957, стар. 161.

АПАСТЫ'ЛЫ *прым.* Пра таго, хто апастыляецца з людзьмі. Сварлівы, задзірысты. Гэ́ты апасты́лы йішчэ̀ й у хàту йдзе́ць.

АПАСТЫЛЯ'ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Гл. апасты́ліцца. Ня хòта ш зь людзьмі́ апастыля́цца.

АПІРАЗА'ЦЬ (апераза́ць) *дзеясл., -ж-ý, -ж-аш, перах.* і *без дап., зак.* Сцебануць, ударыць. Зне́цікі (гл.) аперазàў рэ́мнем (арф.).

АПКІ'СНУЦЬ (абкі́снуць) *дзеясл., -е, неперах., зак.* Пачаць кіснуць, ледзь скіснуць. Звычайна ўжываецца ў спалучэнні з назоўнікам малако, з назвамі вадкіх страў.

АПКІ'ШШАЯ (абкі́сшае) *дзеепрым.* ад апкі́снуць (гл.). Ня есь апкìшшага малака́.

АПОЎЗЬЛІ'К *наз., агульн., р. -а.* Пра нікчэмнага, нязграбнага, слабога, няздатнага чалавека. Такòга апо́ўзьліка ня трэ́ба было́ й пасылàць.

АПТО'РКАЦЬ (абто́ркаць) *дзеясл., -ю, -еш, перах* і *без дап., зак.* 1. Забіць, заканапаціць дзіркі (мохам, анучамі, пакуллем). Апто́ркала к зіме́ вòкны, дзьве́ры. 2. Абгарадзіць, абсадзіць (галінкамі, дубцамі). Дзьве грады́ апто́ркалі, кап ку́ры ня ле́зьлі. Німà чым аптòркаць гуркі́.

АПТО'РКАВАЦЬ (абтòркваць) *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Гл. абто́ркаць.

АПТО'РКАЦЬ (абто́ркаць) *дзеясл., -ю, -еш, перах. і без дап., зак.* Вельмі старанна і ўважліва абшукаць. Абша́рылі (немцы) ўвесь двор і не знайшлі́ яго́ (арф.). Параўн.: Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні сваe памяці. Я. Колас, Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, ДВБ, М., 1957, стар. 309.

АПШНЫ'РЫЦЬ (абшны́рыць) *дзеясл., -ыш, -ыць, перах.* і *без дап., зак.* Гл. шны́рыць. Лясьні́к апшны́рыў усе́ двары́.

АПШЫВА'НКА (абшывàнка) *наз., ж., р. -і.* Калёсы, аббітыя (абшытыя) тонкімі дошкамі (замест драбін). У апшыва́нцы вазі́лі (бульбу).

АРЭ'ПТАМ *прысл.* Раптоўна, нястрымна, нахабна, ні на што не зважаючы. Шалёны кот арэ́птам кіда́ецца на чалаве́ка (арф.).

АСКАЛЁ́БАК *наз., м., р. -бк-а.* Клінападобная трэска, адшчэпленая ад дрэва. Гэ́та ш аскалёпкам так уда̀рыла.

АТАГНА́ЦЬ [1] (адагна́ць) *дзеясл., адганю́, адго́ніш, перах.* і *без дап., зак.* Адагнаць (у розных значэннях).

АТАГНА́ЦЬ [2]. Разараць плугам (барозны бульбы), але нямнога. Папрасіла Фра́ніка атагна́ць баразны́ дзьве (бульбы). Побач ужываецца: разара́ць, разагна́ць, наганя́ць (многа).

АТВЕ́ДАЦЬ (адве́даць) *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Пабыць у каго-небудзь блізкага ці знаёмага з мэтай даведацца пра жыццё-быццё яго. Казімір наш хво́ры: трэ́ба атве́даць. У нядзе́лю атве́дала сваю́ Ма̀ню.

АТВЕ́ДАВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Гл. адве́даць.

АТГАНЯ́ЦЬ (адганя́ць) *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Гл. адагна̀ць.

АТКІ́ДАВАЦЦА (адкі́двацца) *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Гл. адкінуцца.

АТКІ́НУЦЦА (адкінуцца) *дзеясл., -уся, -ешся, зак.* 1. Адляцець убок. 2. Адрачыся, зрачыся. Ужываецца, калі гаворыцца аб птушцы, якая адраклася свайго гнязда. Не́шта шпакі адкі̀нуліся (арф.).

АТЛУПІ́ЦЬ [1] (адлупіць) *дзеясл., -пл-ю́, -п-іш, перах.* і *без дап., зак.* 1. Зняць, садраць (скуру, кару). 2. Адарва̀ць. Не́хта адлупі́ў до́шку (арф.).

АТЛУПІ́ЦЬ [2]. Адлупцаваць, набіць. Пале́зіш у я́блыкі— атлу́пюць.

АТО́ПАК *наз., м., р. -пк-а.* Стары, зношаны лапаць. Параўн.: Як стаў прыстуківаць атопкам, аж рот разінулі багі. Тарас на Парнасе.

АТПЕ́РЫЦЬ (адпе́рыць) *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап., зак.* Адлупцаваць, набіць. Ну й атпе́рылі йіх там. Параўн.: праць.

АТПЛІКНУ́ЦЬ (адплікну́ць) *дзеясл., -у́, -е́ш, перах., зак.* 1. Адшпіліць. Побач з *адшпіліць.* 2. Выпрагчы (каня) з плуга, бараны, жняяркі, параконных калёс. Атплікну́ў (з плуга) Арла́ й зье́зьдзіў дамо́й.

АТПРЭ́ЧЫЦЬ (адпрэ́чыць) *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап., зак.* Прагнаць, адправіць назад (звычайна таго, хто зрабіў што-небудзь кепскае). Атпрэ́чылі дзе́ўку дамой: нічо̀га ні хаце́ла дзе́лаць.

АТТА'ПЛІВАЦЬ (адто̀пліваць) *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Адтопліваюць кіслае малако на тварог (у печы).

АТТО'ПЛІНАЯ (адто́пленае) *дзеепрым.* ад адтапіць (гл.). На́шы ўсе лю́бюць атто́пліная (малако).

АЦЕ'СЬЛІВЫ *прым.* Нявыпечаны, сыраваты (хлеб, булка). Параўн.: цеста. Прынясьлі не́йкага ацэ́сьлівага буха́нку (хлеба).

АЦІЛЯ'КАВАЦЦА (ацяля́кваца) *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Надта марудзіць, абыякава, нядбайна адносіцца да справы. Ду́жа ж не ацяля́квайся, а скарэ́й прыхадзі̀ (арф.).

АЦСАДЗІ'ЦЬ (адсадзі́ць) *дзеясл., -дж-у́, -дз-іш, перах., зак.* 1. Пасадзіць асобна ад іншых (пра чалавека). 2. Аддзяліўшы ад групы, пасадзіць у другое месца (аб расліне). 3. Аддзяліць (ад маці), змясціць у іншае памяшканне (аб маладых жывёлах). 4. Пасадзіць другі раз (там, дзе загінула расліна). По́сьлі маро̀зу ацсадзі́ла гуркі̀. 5. Перан. Адбіць. Ацсадзі́лі нялёхкія й памёр.

АЦСКО'ЧЫЦЬ [1] (адско́чыць) *дзеясл., -у, -ыш, неперах., зак.* Адскочыць (у розных значэннях).

АЦСКО'ЧЫЦЬ [2]. Вельмі хутка збегаць, схадзіць ці з'ездзіць куды-небудзь, адарваўшыся ад занятку. У абе́т ацско́чыў у Ра́фалаў—папіро̀с.

АЦСКО'ЧЫЦЬ [3]. Ссесціся, збегчыся (аб малаку). Гэ́та ш трэ́ба—ацско́чыла малако̀. Параўн.: у рускай мове свернуться.

АЦЬСЕ'СЬЦІ (адсе́сці) *дзеясл., адсядзе, неперах., зак.* Збегчыся, адскочыць (гл. 3). Ужываецца толькі з назоўнікам малако. Му́сіць, было̀ (малако) кісла-ва́тае, бо ду́жа адсе́ла (арф.).

АЦЬСЕ'ЙІЦЦА (адсе́яцца) *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Гл. ацьсе́йіць (1).

АЦЬСЕ'ЙІЦЬ (адсе́яць) *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* 1. Пасеяць, закончыць сяўбу (чаго-небудзь). 2. Пасеяць другі раз (на той глебе, дзе было ўжо што-небудзь пасеяна, але загінула). Ле́тась ацьсе́йілі ячме́нь і пасьпе́ў.

БА'ВІЦЦА *дзеясл., -люся, -ішся, незак.* Затрымлівацца (дзе-небудзь). Чаго ты бавіўся там? Параўн.: На кватэры Рыгор не бавіўся. Ц. Гартны, Сокі цаліны, ДВБ, М., 1957, стар. 350.

БАДЗЯ́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Тое, што і басьцяцца (гл.).

БАЛАБО́Н *наз., м., р. -а.* 1. Званок нізкага тону; звычайна вешаюць на шыю збродлівай жывёле (карове, каню). 2. Перан.: Пра чалавека, які многа лішняга і громка гаворыць. Балабо̀н гэ́ты галаву́ азяліў (гл.).

БАЛЬШУ́Н *наз., м., р. -а́.* Хлапец, які трымае сябе або робіць што-небудзь недапушчальнае для свайго ўзросту. Такі́ бальшу́н, а пла́чыць. Гэ́тым бальшуна́м снапы́ вазі́ць, а ня зь дзе́цьмі гуля́ць.

БАЛЬШУ́ХА *наз., ж., р. -і.* Гл. бальшу́н. На́ша бальшу́ха цё̀мнага байі́цца.

БА́ПЧАНКА (ба́бчанка) *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Гатунак белай бульбы, вельмі крухмальнай і смачнай. На гаро̀дзі сё̀літа ба́пчанкі пасе́йілі.

БАСЬЦЯ́ЦЦА (басця́цца) *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Бадзяцца, швэндацца, валачыцца (дзе-небудзь). Ноч басьця́ўся не́йдзя, а дзень сьпіць. Побач з *бадзя́цца* (гл.).

БІ́ТКА *наз., ж., р. -і.* 1. Вынік аднаго заходу пры гульні ў карты. Адно̀й біткі не хапіла (арф.). 2. Ужываецца ва ўстойлівым словазлучэнні гуляць у біткі (г. зн. біць яйкі адно аб адно). Быва́ла на па́ску ў біткі гуля́лі.

БІ́ЦЬ *дзеясл., б'ю, б'еш, перах.* і *без дап., незак.* 1. Біць (у розных значэннях). 2. Побач з *калоць, шчапаць* (толькі дровы). Да паўдня́ біў дро̀вы.

БЛІ́НЬНІЦА[1] (блі́нніца) *наз., ж., р. -ы.* Малая дзежачка, у якой рашчыняюць цеста на бліны. За ле́та блі́ньніца рассо̀хлась.

БЛІ́НЬНІЦА[2]. Пра жанчыну, дзяўчыну, якая любіць есці бліны. Мая́ блі́ньніца то̀лькі бліна́мі й жыве́ць.

БЛІ́НЬНІК *наз., м., р. -а.* Гл. блі́ньніца (2).

БЛЮСЬЦІ́ (блюсці) *дзеясл., блюду́, блюдзе́ш, перах.* і *без дап., незак.* Захоўваць, зберагаць што-небудзь з разлікам, што яно больш спатрэбіцца пасля. Блюду́ тро́хі пшані́цы на насе́ньня. Ду́мала блюсьці мёт, алі́ (гл.) зье́ла.

БО́ЛЬШАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* 1. Павялічваць, павялічвацца. Нам план (пасеву кукурузы) усё̀ бо̀льшаюць. 2. Расці, станавіцца большым. Як дзе́ці бо́льшаюць, дык ляхчэ́й зь йі́мі.

БО'ЙКА[1] *наз., ж., р. -і.* Бітва. Да чаго́ бо́йка даво́дзіць, скале́чылі чалаве́ка.

БО'ЙКА[2]. Невялічкая бочачка з закрытым верхам, у якой б'юць масла. Вы́ліла сьміта́ну ў бо́йку.

БО'ЙКА[3] *прысл.* 1. Бойка. Брыгадзір вы́ступіў бо́йка. 2. Лёгка і роўна. Ужываецца з дзеясловамі калоцца, шчапацца, біцца (гл. біць[2]), калі гаворыцца аб дрэве. Дуб бо́йка шчапа́ецца (арф.). Пе́ршы вос (дроў) бо̀йка кало̀ўся.

БО'ЙКІ[1] *наз., мн. лік* ад бойка (гл. бойка[1], бойка[2]).

БО'ЙКІ[2] *прым.* 1. Бойкі (у розных значэннях). 2. Які лёгка і роўна колецца, шчапаецца. На го́нту трэ́ба бо̀йкая е́лка. Прывязьлі́ бо́йкую сасну́. Гл. шчо́пкі.

БРА'ЗГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* 1. Рабіць шум ударамі прадметаў (металічных, гліняных). Кля́мка ў дзьвіра́х бра́згая. Ні бра́згай тале́ркамі. 2. Перан. Плявузгаць, гаварыць лішняе, балбатаць непрадумана, несур'ёзна. Цэ́лы дзе́нь бра́згала на рабо́ці. До́брая (жанчына) бра́згаць не бу́дзе (арф.).

БРАЦІ'ХА *наз., ж., р. -і.* Братава жонка. У брацíхі такí до́бры хло́пчык.

БРУСО'К[1] *наз., м., р. -к-а.* Тачыльны камень прадаўгаватай формы. У Пітрака́ ўся́кіх бруско́ў ёсь.

БРУСО'К[2]. Частка грабель, куды набіваюць зуб'е. На бруске́ бяро́зы ні хапіла. Параўн.: Добра, што ў таго якраз граблі на возе былі, то ён стаўпцом яму па лбе стукнуў. К. Крапіва, Зб. тв., т. II, ДВБ, М., 1956, стар. 154.

БРЫ'НДА *наз., агульн., р. -ы.* Валацуга, той, хто брындае (гл.). Бры́нда ўсігда́ байíцца рабо́ты.

БРЫ'НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бадзяцца, хадзіць без справы, без занятку. Дзе́ ты бры́ндаў цэ́лы дзе́нь? Аб жывёле. Накармі̀лі до́ма (карову), дык то́лькі бры́ндала па по́лі.

БРЫ'НДЫ *наз., адз. няма.* Ужываецца толькі ў фразеалагізме *біць брынды*—хадзіць без справы, лодарнічаць. Гл. бры́ндаць.

БУ'БІН[1] (бу́бен) *наз., м., р. -бн-а.* Бубен (музычны інструмент).

БУ'БІН[2]. Той, хто бесперапынна гаворыць, выказвае сваё незадавальненне, бубніць сабе пад нос.

БУБНЕ́ЦЬ *дзеясл., -н-ю́, -н-і́ш, неперах., незак.* 1. Глуха стукаць (па фанеры, бочцы, блясе). 2. Невыразна гаварыць, паўтараць сказанае. Зачапі́ то́лькі—й пачне́ бубне́ць.

БУЛЬБО́ЎНІК *наз., м., р. -у, мн. няма, зб.* Сцябло і лісце бульбы. Се́літа ўве́сь бульбо́ўнік зьме́рс. Параўн.: Паляны паміж лясоў былі прыбраны, адно жаўцеў месцамі некрануты пакуль што бульбоўнік. Т. Хадкевіч, Даль палявая, М., 1959, стар. 482.

БУЛЬБЯ́НІК[1] *наз., м., р. -а.* Блін з бульбы.

БУЛЬБЯ́НІК[2]. Пра таго, хто дужа любіць страву з бульбы. Мой Па́ўлік—не́йкі бульбя́нік.

БЯРЭ́МА *наз., н., р. -а.* Такая колькасць чаго-небудзь (дроў, саломы, бульбоўніку і інш.), што можна абхапіць абедзвюма рукамі і панесці. Два бярэ́мы дубо́вых дро́ў спалі́лі. Ужываецца побач з *аха́пак.*

БЯЧЭ́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Дранкавы вобад у крышцы (веку) дзежкі, у рэшаце, сіце, бубне (музычны інструмент). Параўн.: руск. обечайка.

ВАЖДЖЫНА́ *наз., ж., р. -ы́.* Лейчына́. Важджына́ парва́лась—і ён (конь) аглабле́й у ву́гал.

ВАЛЁ́К *наз., м., р. -льк-а́.* Побач з во́рчык (гл.).

ВАР *наз., м., р. -у, мн. няма.* Побач з *кіпято́к.* Нагрэтая да кіпення вада. Гарла́ч з ва́рам на загне́ці (гл.). Сьпірва́ ва́рам аблі́ла́ грыбы́, а по́сьлі жа́рыла.

ВА́РШАЎКА *наз., ж., р. -і.* Арфа, машына для ачысткі ад мякіны змалочанага зерня. Ужываецца таксама ве́ялка. Параўн.: ва́рпа. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ВА́ТНІКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Ватовыя штаны. На старажо́ўства й ва́тнікі вы́далі.

ВА́ТКІ (ва́дкі) *прым.* Маючы лішак вады, не густы, слабы. Ні хваціла мукі́—яно́ й ваткая (пра цеста).

ВЕ́КА *наз., ж., р. -а.* Крышка куфра, дзежкі. Дзе́шка згарэ́ла, а ве́ка нейк уцале́ла. Ужываецца і крышка.

ВЕ́ТРАНЫ *прым.* 1. З ветрам (надвор'е). 2. Перан. (пра чалавека). Лёгкадумны, непастаянны. Які́ ш ён ве́траны.

ВІ́ЛАШНІК (ві́лачнік) *наз., м., р. -а.* Невялікі шасток,

на канец якога ўзбіваюць вілкі. Вілашнік адгарэ́ў. На вілашніку цэ́бар вы́нісьлі.

ВІРЛАВО́КІ *прым.* З вялікімі выпучанымі вачыма. Параўн.: лупаты (у гэтым значэнні) у «Русско-белорусском словаре».

ВІ́ТКА *наз., ж., р. -і.* Скручаны, звіты дубец (бярозавы, лазовы). Віткамі звязваюць («васьмёркай») два калы, калі гародзяць плот жэрдкамі, а таксама прывязваюць паплёты (гл.) да лат. Віткі для прывязвання паплёт яшчэ называюць проста дубцамі ці прывязкамі.

ВО́ДДАЛІК *прысл.* Воддаль, на невялікай адлегласці (ад чаго-небудзь). Пе́ўні шчапіліся біцца, а ён стаіць во́ддалік і смяе́цца (арф.). Ужываецца побач з во́ддаль.

ВО́ЛАКАМ *прысл.* Валочачы па зямлі без прыстасавання. Цягну́лі (бервяно) це́раз ву́ліцу во́лакам (арф.).

ВО́ЛЯ[1] *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Воля (свабода).

ВО́ЛЯ[2] *наз., н., р. -я.* Валлё́. У ку́рыцы во́ля пусто́я. У во́лі каме́нчыкаў мно́га было́.

ВО́РЧЫК *наз., м., р. -а.* Брусок з жалезным крукам на сярэдзіне, за які зачэпліваюцца пастромкі. Як уда́рыў у ка́мінь, дык во́рчык злама́ўся. Параўн.: каро́місла. Трасцяніца Барысаўскага р-на. Ужываецца і вале́к (гл.).

ВО́ТВІТКІ (во́дведкі) *наз., р. -ак (-аў), адз. няма.* Наведванне жанчынамі парадзіхі (дома). Ідучы ў водведкі, прыносяць падарунак, парадзіха частуе гасцей.

ВО́ТРАНА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Абмалочаныя каласы з прымессю дробнай саломы і мякіны. Німа́ йдзе ссыпа́ць во́трану.

ВО́ЧАП *наз., м., р. -а (-у).* Частка збудавання пры студні—жэрдка, за якую прычэпліваюць вядро. Аблідзяне́ў во́чап—ні ўзя́цца рука́мі. Параўн., во́чап. Вайцехова Глускага р-на, Слабада Уздзенскага р-на; саламяно́. Асоўшчына Быхаўскага р-на.

ВУША́К *наз., м., р. -а́.* Брус аконнай і дзвярной асадкі. Вушакі ў дзьвіра́х паста́вілі но́выя. Параўн.: Алеся, прыліпшы да маткі, хіснулася разам з ёю і стукнулася галавою аб касяк. Я. Колас, Зб. тв., т. VI, ДВБ, М., 1952, стар. 339.

ВЫ́БАРСАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Выцягнуць абору з лапця.

ВЫ́ВАРАЦЬ *наз., ж., р. -і.* 1. Вывернутае з карэннем дрэва. На Барку́ нашо́ў вы́вараць на во́з дро́ў. 2. Перан. Той, хто многа ляжыць і не робіць. Во́т ужо́ вы́вараць, а ні чалаве́к. Вы́вараць гэта ўве́сь дзе́нь ляжы́ць.

ВЫ́ДЗЫБАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Выцягнуцца, вырасці вялікім. За го́т вы́дзыбаўся, што́ й ні пазна́ць. Гл. дзыба́ты.

ВЫ́ЗЬВІРЫЦЦА (вы́зверыцца) *дзеясл., -уся, -ышся, зак.* Надта груба, рэзка, павышаным тонам сказаць. Чаго́ ты вы́зьвірыўся та́к на мяне́? Ё́н то вы́зьвірыцца на любо́га.

ВЫ́ЛІВАК *наз., м., р. -а.* Яйка, знесенае без шкарлупіны. Не́шта ста́ла вы́ліўкі не́сьці (курыца). Вы́лівак ні магу́ е́сьці.

ВЫ́МІРХАЦЦА (вы́мерхацца) *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Прагаладацца, паслабець ад вялікай затраты сілы. Дзі́ва што—на казьбе́ вы́мірхайісься. Параўн.: Зося барджэй забегла ў хату, каб перакусіць, вымерхаўшыся за дзень. Ц. Гартны, Сокі цаліны, т. I, ДВБ, М., 1957, стар. 17.

ВЫ́НАСІЦЦА *дзеясл., -сіцца, зак.* Значна знасіцца ад доўгага карыстання (звычайна пра вопратку). Саўсі́м вы́насіліс штаны́: трэ́ба купля́ць.

ВЫ́НАСІЦЬ *дзеясл., ш-у, -іш, перах., зак.* 1. Вынасіць. 2. Значна знасіць (пра вопратку). За го́т Ко́ля ду́жа вы́насіў касьцю́м.

ВЫ́СЬМІГНУЦЬ (вы́смегнуць) *дзеясл., -е, непераx., зак.* Зусім выкіпець (аб страве). Вы́сьмігла бу́льба. Печ зачыні́ла, дык суп саўсі́м вы́сьміх.

ВЫ́СЬПІТАК (вы́спятак) *наз., м., р. -тк-а.* Удар наском нагі (бота, чаравіка). Саба́ка пад но́гі —я вы́сьпіткам яго́. Параўн.: руск. пинок.

ВЫТВАРА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Выраблядь штукі, рабіць што-небудзь незвычайнае, выдзяляцца сваімі паводзінамі, дзеяннямі (пераважна пра адмоўнае). Чаго́ толькі хло́пцы ні вытвара́лі ўчо́ра. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре» вычвараць.

ВЫТВО́РА *наз., агульн., р. -ы.* Той, хто вытварае (гл.). Ну й вытво́ра быў Ада́м.

ВЫ́ЧХАЦЦА *дзеясл., -ецца, зак.* Страціць (уласцівы

якому-небудзь рэчыву) рэзкі пах, смак. Саўсім хрэ́н вы́чхаўся, як пастая́ў.

ВЭ′ДЗГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Неахайна мазаць, размазваць. Цэ́лы дзе́нь вэ́дзгаў гэ́ту пе́чку (бяліў).

ВЯРХО′ЎЯ (вярхо́ўе) *наз., н., р. -я, мн. няма.* Зрэб'е, ачоскі з абтрэпленага лёну. Цяпе́р дзе́ўкі ні зна́юць, што́ тако́я вярхо́ўя. Параўн.: ізрэ́б'я. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ВЯ′СЛА *наз., н., р. -а.* Звязак прадметаў, начапаных на вяроўку ці пруток. Яго́р цэ́лая вя́сла ры́бы прынёс з Ва́біча (рака).

ВЯЧО′РКІ *наз., р. -ак(-аў), адз. няма.* Збірацца на вячоркі—гэта збірацца ўвечары рабіць што-небудзь разам. На вячо́рках, быва́ла, хто прадзе́, хто вя́жа (арф.). Як было́ хало́дна, дык ко́ні на вячо́ркі вадзілі (г. зн. пасвілі не ўсю ноч, а толькі з вечара).

ВЯЧЭ′РАШНІЯ (вячэрашняе́) *прым.* Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам малако. Надоенае ўвечары. Тро́хі было́ вячэ́рашніга малака́. Ужываецца таксама вячэ́рняе.

ГАВАРУ′Н *наз. м., р. -а́.* Той, хто любіць пагаварыць, ахвотна ўключаецца ў гутарку.

ГА′ЙНА *наз., н., р. -а.* 1. Логава (звычайна з саломы), дзе спяць свінні. Парсю́к у га́йні ляжы́ць. Прынісла́ тро́хі сало́мы ў га́йна. Параўн.: гнязд́о. Трасцяніца Барысаўскага р-на. 2. Перан. Беспарадак; усё параскідана, не на месцы. Хоць гэ́та га́йна прыбяры́ сам.

ГАЛАПУ′ПКА *наз., р. -і.* Птушаня, якое не ўсё пакрыта пер'ем, з «голым пупам». Галапу́пак прынясьлі́ зь ле́су й паглумі́лі. Радзей—галапу́п.

ГАЛАШЧО′К *наз., р. -а, мн. няма.* Моцны мароз (часта з ветрам), калі яшчэ не пакрыта снегам зямля. Цэ́лую нядзе́лю галашчо́к пячэ́ць. Такі̀м галашчо́кам і скаці́ні ця́шка.

ГАЛЕ′НЬ *наз., м., р. -льн-я́.* Змецены, зношаны венік. Двор гальнём лу́ччы ме́сьці, чым ве́нікам. Замяці ха́ту хоць гальнём.

ГА′ЛІЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, незак.* Квапіцца, гнацца, зайздросціць. Хто га́ліцца на чужо́я, тэй свайго́ ня бу́дзя мець. Даўне́й хло́пцы га́лілісь на бага́цьця. Параўн.: Хочацца і колецца—Лёгка заня-

воліцца, Дзеўка—крапіва! Ходзяць хлопцы, галяцца. Думкі ж як наваляцца, Ходзіць галава. Я. Колас, Вершы, ДВБ, М., 1946, стар. 158.

ГАНЯ'ЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, перах. і без дап., незак.* Ганяць (у розных значэннях).

ГАНЯ'ЦЬ[2]. Разорваць (барозны бульбы). У Пу́шчы (урочышча) тры дні ўдвух ганя́лі (бульбу). Побач ужываецца: разо́рваць, разганя́ць. (гл.).

ГАПЕ' *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Роўназначная з гоп, ад дзеяслова гопаць. Каро́ва гапе́ цірас плот і ў гра́ды. Радзей—гоп.

ГАРЭ'ЛІК *наз., м., р. -а.* Падгарэлая, абвугленая частка бульбіны, якая варылася ў чыгуне (зверху) ці пяклася ў агні. Гарэ́лікі ські̀ну, а бу́льбу січа́с пата́ўку́. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре» прыгарка, прыгар.

ГА'ТКІ (га́дкі) *прым.* 1. Брудны, запэцканы. За тры́ дні й стаў (мост) га́ткі—трэ́ба мыць. Пра́ма за сто́л з га́ткімі рука́мі? Ужываецца таксама гразны, рэдка—брудны. 2. Брыдкі, агідны, гідкі (гл.). Не́йчы га́ткі кот прышо́ў. 3. Дрэнны, шкодны. Такі́ га́ткі саба́ка: спацьцішка́ мо́жа ўкусі̀ць.

ГАЦЭ' *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Ад дзеяслова го́цаць (гл.). Сь пе́чы гацэ́ (кот) на пасьце́ль. Ужываецца побач з гоц (гл.).

ГЕ'БАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Ледзь варушыць, крата́ць, дакранацца. По́сьлі ране́ньня (у руку) тро́хі па́льцамі ге́баў.

ГІДЛІ'ВАСЬЦЬ (гідлівасць) *наз., ж., р. -і., мн. няма.* Ад гідлівы, гідзіць (гл.).

ГІДЛІ'ВЫ *прым.* Гадлівы, грэблівы. Мая́ Бро́ня ду́жа гідлі̀вая была́. Гідлі́вы й му́хі гідзі́цца (гл.).

ГІДЗІ'ЦЦА *дзеясл., -дж-у́ся, -дз-і́шся, незак.* Гадзіцца, адчуваць агіду, гідлівасць (гл.). Ні ўся́кі гідзі́цца лягу́шкі. Ужываецца таксама гадзіцца. Гл. гідлі̀вы, гідзі́ць.

ГІДЗІ'ЦЬ *дзеясл., -дж-у́, -дз-і́ш, перах.* і *без дап., незак.* Гадзіць, выклікаць гідлівасць, агіду. Як ста́лі яго гідзі́ць, дык кі́нуў е́сьці.

ГІЗАВА'ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, неперах., незак.* Бегаць, насіцца (аб дзецях - падростках). Гізу́юць (дзеці) ве́чар па ву́ліцы. Дзе гізава́ў, там і еш.

ГІ'ТКА (гі́дка) *прысл.* Ад гідкі (гл.) Гі́тка там е́сьці.

ГІ́ТКІ (гідкі) *прым.* Гадкі, агідны, такі, які выклікае гідлівасць, брыдкасць. Йіка́я гі́ткая лягу́шка!

ГЛУ́М *наз., м., р. -у, мн. няма.* Перавод, знішчэнне. Гл. глуміць, зглуміць. Мно́га се́на ў глум пашло́ (згніло). Якоя зь яго́ (парасяці) мя́са, гэ́та ш то́лькі глум.

ГЛУМІ́ЦЬ *дзеясл., мл-ю, -м-іш, перах.* і *без дап., незак.* Глумілі бу́льбу маладу́ю, дык цяпе́р німа́ чаго́ й капа́ць. Ры́бы было́ п, кап яе́ так ні глумі́лі. Гл. зглумі́ць.

**ГО́НТА** *наз., ж., р. -ы.* Гонты. Цяпе́р у нас пасьці́ (гл.) ўсе кры́юць го́нтай.

**ГО́НЬЦІНА** і **ГАНЬЦІНА́** *наз., ж., р. -ы.* Гл. го́нта. Ські́нулась го́ньціна й забі́ла (кураня).

ГО́ПАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Скакаць, падскокваць. Ні танцу́юць, а нейк го́паюць (пра таго, хто не ўмее танцаваць).

ГО́ПНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, неперах., зак.* Скокнуць. Так у адзё́жы й го́пнуў у ваду́.

ГОЦ *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Гл. гацэ́.

ГО́ЦАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Ужываецца ў значэнні гопаць, грукаць, бухаць. Гэ́та ўжо дзе́ці го́цаюць на гарэ́ (на хаце). Хто ш мох го́цаць ў сьцяну́?

ГО́ЦНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, неперах., зак.* Гл. го́цаць, Не́чым цяшкі́м го́цнуў у дзьве́ры.

ГРУ́ДА[1] форма р. скл. назоўніка груд (куча).

ГРУ́ДА[2] *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Замёрзлая гразь (на вуліцы, дарозе). Па гру́дзі ско́ра падаб'е́цца (конь). Параўн.: у «Толковом словаре» В. Даля груда—мерзлая, кочковатая грязь поголу. В. Даль зазначае, што і старая назва декабря (снежня) месяца ад гру́да. Параўн.: польск. grudzień — снежань.

ГРЭ́БАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Дзерці, драпаць, грэбці. Чу́ю, усё́ не́хта па дзьвіра́х грэ́бая, аччыні́ла—аж гэ́та ко́шка.

ГУКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Моцна клікаць, зваць. Цябе́ гука́лі, як ішлі́ касі́ць. Параўн.: А з новых вокнаў Нібы гукалі За новы столік хлапцоў вясёлых. П. Броўка, Зб. тв., т. I, ДВБ, М., 1957, стар. 264.

ГУЛА́[1] *дзеясл.*, форма прошлага часу жаночага роду ад гусці. Ужываецца і гудзе́ла.

ГУЛА'[2] *наз. ж., р. -ы.* 1. Невялікі драўляны шар. 2. Назва дзіцячай гульні. Гулу, як кола, качаюць і адбіваюць, пераймаюць палкай. Дзе́ці гуло́й вакно́ разьбілі.

ГУМНІ'ШЧА *наз., н., р. -а.* 1. Месца, дзе стаяла гумно. На гумні́шчы бу́льба до́брая. 2. Невялікі пляц каля гумна, насупраць варот. На такі́м гумні́шчы ні разьве́рнісься (з возам). Параўн.: Вось Алесь прычхаў дадому, Стаў на прыгуменні. Я. Колас, Вершы, ДВБ, М., 1946, стар. 142.

ГУ'НЬКА *наз., ж., р. -і.* Саматканая пасцілка з грубых, тоўстых нітак, якой звычайна зімой накрываюць каня, засцілаюць воз. Параўн.: гунька ў «Словаре белорусского наречия» І. Насовіча.

ДАЁ'НКА *наз., ж., р. -і.* Пасудзіна, у якую дояць карову. Часцей — драўлянае, з адным вухам вядро. Абру́ч на даё́нцы ло́пнуў.

ДАСУ'ЖЫ *прым.* Вельмі цікаўны, дапытлівы, якому «ўсю́ды трэ́ба». У йіх хло́піц дасу́жы — усю́ды ла́зіць.

ДАЎГАРУ'КІ *прым.* Перан. Пра чалавека, які можа ўзяць, украсці што-небудзь. Ня буць даўгару́кі і на цябе́ ні ска́жуць.

ДО'СЬВІТА *прысл.* На досвітку, досвіткам. Усігда́ до́сьвіта ўстаю. До́сьвіта сьнех пашо́ў. Побач ужываецца досьвіткам. Параўн.: Вярнуўся Сцёпка з паходу на досвіце. Я. Колас, Зб. тв., т. VI, ДВБ, М., 1952, стар. 32.

ДРАБО'К *наз., м., р. -бк-а́.* Невялікі кавалак цукру, солі. Хоць драбо́к са́хару дам дзе́ваццы. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре» — цукар кавалкамі (кускамі). Ужываецца таксама дроп (дроб).

ДРА'ГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Ляпаць, грукаць. Дзьве́рцы ўсю ноч дра́галі. Не́хта дра́гаўдра́гаў у дзьве́ры...

ДРА'ПАЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Скрэбці, дзерці. Усю́ ноч (кот) дра́паў у вакно́.

ДРА'ПАЦЬ[2]. У паніцы, спехам ўцякаць, бегчы. Не́мцы дра́палі ат нас біз агля́ткі.

ДРАХ (драг) *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Гл. дра́гаць. Сказа́ла, дык ён драх дзьвярмі́ й пашо́ў.

ДРЭ'ЎКІ *наз., р. -вак.* Кароткія дробныя дровы, якімі паляць малую печку (бляшаную ці цагляную).

Дрэ́вак у пе́чы насушы́ла. Усе́ дрэ́ўкі згарэ́лі. Адз. дрэ́ўка.

ДРЫ'ГАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Гл. дры́гаць (1). Як стаў дрыгацца й вы́рваўся (пара́сяці).

ДРЫ'ГАЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Звычайна дрыгаюць нагамі. За пярэ́днія (ногі) дзяржы́м, а йіна́ (свіння) за́днімі дры́гаць. За́йдзіцца й нага́мі дры́гая (дзіцяці).

ДРЫ'ГАЦЬ.[2] 1. Дрыжаць, здрыгвацца. Но́ччу ча́ста дры́гая хлапе́ц. Ат хо́ладу аж дры́гаў. 2. Перан. Палохацца, баяцца. Ня дры́гай, трус!

ДУБЕ'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Зябнуць, мерзнуць. Дубе́ў ноч на маро́зі. Гл. адубе́ць.

ДЭ'БАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Ісці малымі крокамі (пра чалавека старога ці слабога здароўем). Стара́я ўжо, чуць дэ́бая. Куды́ ты дэ́байіш?

ДЭ'НАЧКА *наз., н., р. -а.* Памянш. ад дэ́нка (гл.). Сьве́жая (малако) стайіць у шка́фчыку, дэ́начкам накры́та.

ДЭ'НКА *наз., н., р. -а.* Дошчачка, кавалак фанеры, на якой звычайна рэжуць, крышаць што-небудзь (мяса, сала, цыбулю і інш.), дэнкам накрываюць пасуду (гарлач, банку). Вот гэ́та дэ́нка ўжо даўно́ жыве́ць (даўно зроблена).

ДЖГА'ЦЬ[1] *дзеясл., -ае, перах.* і *без дап., незак.* Кусаць (звычайна пра насякомых — камароў, аваднёў, сляпнёў, пчол). Як ста́лі джгаць (пчолы), дык ні знаў, куды́ дзіва́цца.

ДЖГА'ЦЬ[2] *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Лёгка, хутка ісці. Йішчэ́ цёмнінька не́куды джгаў.

ДЖМУ'ХНУЦЬ[1] *дзеясл., -е, неперах., зак.* З шумам успалыхнуць, шугнуць, успыхнуць, загарэцца. Ліну́ла кірасіну, дык як джму́хнуў: чуць біз вачэ́й ні астала́сь.

ДЖМУ'ХНУЦЬ[2] *дзеясл., -у, -еш, неперах., зак.* Ударыць, стукнуць, агрэць (у твар, у вуха). І сам ні зна́я, хто яму́ ў пацёмку джму́хнуў.

ДЖУГА'ВЫ *прым.* Рухавы, жвавы, бадзёры. Джуга́вы йішчэ́ ко́нік.

ДЖЫГНУ'ЦЬ і ДЖГНУ'ЦЬ *дзеясл., перах.* і *без дап., зак.* Укусіць. Гл. джгаць[1].

ДЗЁ'ННАЯ (дзённае) *прым.* Ужываецца толькі з назоўнікам малако. Надоенае днём, у поўдзень.

Ёсць яшчэ малако ранішняе і вячэрняе (гл.). Дзённая (малако) ськісла й німа́ чым забяліць.

ДЗІРВЯ́ШАК (дзеравя́шак) *наз.*, *м.*, *р.* -*а*. Адз. ад дзеравяшкі (гл.).

ДЗІРВЯ́ШКІ (дзеравя́шкі) *наз.*, *р.* -*ак*. Абутак на драўлянай падэшве. Рабілі дзеравя́шкі звычайна са зношаных чаравікаў, ботаў. Па гразі́ ў у дзірвя́шках было́ добра. Ужываецца таксама клумбы (гл.). Цяпер дзеравяшак не носяць.

ДЗІ́ЧКА[1] *наз.*, *ж.*, *р.* -*і*. Дзічка (яблыня, груша). Сёліта дзі́чка саўсі́м ні цьвіла́.

ДЗІ́ЧКА[2]. Бародаўка, невялікі цвёрды («дзікі») нарост на скуры. Усе́ ру́кі ў дзі́чках. Дзі́чка на барадзе́ вы́расла.

ДЗЫБА́ТЫ *прым.* Цыбаты, высокі ростам і тонкі. На тако́га дзыба́тага касьцю́м хоць зака́завай. Гл. выдзыбацца.

ДЗУ́ГАЦЬ *дзеясл.*, -*ю*, -*еш*, *неперах.*, *незак.* Глуха стукаць, бухаць. На ву́ліцы ўсю ноч ко́ні дзу́галі (капытамі). Чу́ла, як не́хта дзу́гаў па двары́.

ДЗЯБЁ́ЛЫ *прым.* Моцны, дужы, здаровы. Стары́к ішчэ́ дзябёлы. Або́двы дзябёлыя — адзі́н аднаму́ ні падда́сца. Аню́цін дзябёлы хло́пчык. Параўн.: руск. дебелый — полный, упитанный; толстый, большой и грубый. «Словарь русского языка», выд. АН СССР, т. I, М., 1957.

ДЗЯ́ТЛІНА *наз.*, *ж.*, *р.* -*ы*, *мн. няма.* Дзікая канюшына (цвіце кветкамі белага колеру). На гумні́шчы дзя́тліны с ахо́тай паскуба́я (конь). Параўн.: Дзяцельнік выпускаў белы мёд. Ц. Гартны, Сокі цаліны, т. I, М., 1957, стар. 301.

Ё́ЛКАСЬЦЬ (ёлкасць) *наз.*, *ж.*, *р.* -*і*, *мн. няма.* Ад ёлкі (гл.). Ё́лкасьці ня чу́ю. Часцей — йілката́ (гл.).

Ё́ЛКІ *прым.* Такі, які страціў пачатковы прыемны смак ад доўгага захоўвання, з рэзкім прысмакам горасці. Ле́ташнія са́ла саўсі́м ёлкая — е́сьці нільзя́.

Ё́МКА *прысл.* Ад ёмкі (гл.).

Ё́МКІ *прым.* 1. Зручны, прыстасаваны. Ё́мкі вілашнік (гл.). 2. Добры, прыстойны. Ё́мкі хло́піц нашо́ўся (жаніх). С Пу́шчы прывёс ёмкі вос дроў.

Ё́ЎНЯ *наз.*, *ж.*, *р.*-*і*. Параўн.: у «Русско-белорусском

словаре» — восець, асець, сушня і ёўня. Ужываецца толькі ёўня.

ЖА́ЛІЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, незак.* Скардзіцца. Е́зьдзіла ў Бялы́нічы жа́ліцца за пе́ньсію. Жа́лілісь усе́ на таго́ брыгадзі́ра.

ЖВА́КА *наз., ж., р.-і, мн. няма.* Жвачка (у жвачных жывёл). Прышла́ с по́ля (карова) й не́шта жва́кі ня жвець. Параўн.: жу́йка. Г. п. Гарадзішча Брэсцкай вобласці; жу́йка — загорнуты ў тканіну пажаваны хлеб з цукрам, які даюць ссаць маламу дзіцяці. Апечкі Стаўбцоўскага р-на.

ЖЖА́ЛІЦЦА (зжаліцца) *дзеясл., -юся, -ішся, зак.* Пашкадаваць, спачувальна аднесціся да каго-небудзь і дапамагчы яму. Жжа́ліўся нат хло́пцам і купі́ў касьцю́м.

ЖМІ́НДА *наз., агульн., р. -ы.* 1. Той, хто плявузгае, разводзі́ць плёткі. Жмі́ндзі гэ́тай нільзя́ ве́рыць. 2. Жміндай таксама называюць скупога чалавека. Така́я жмі́нда й сама́ ня зьесь, і дзіця́м ні дась.

ЖМІ́НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Плявузгаць, распаўсюджваць плёткі, абгаворваць. То́лькі й ве́дая хадзі́ць па ха́тах ды жмі́ндаць.

ЖМУТ[1] *наз., м., р.-а.* Жмут (сена, травы, саломы і інш.).

ЖМУТ[2]. Надта скупы, прагны чалавек, скнара. Тако́га жму́та йішчэ́ ні ба́чыў. У гэ́тага жму́та ні прасі́. Параўн.: руск. жмот.

ЖЫ́ВІНЬКА (жы́венька) *прысл.* Форма́ ацэнкі ад жыва. Жы́вінька зьбе́гай у магазі́н.

ЖЫ́ГНУЦЬ *дзеясл., -е, неперах., зак.* 1. Бліснуць (аб маланцы, агні). Як жы́гніць (маланка) — аш стра́шна. 2. Вельмі хутка скочыць, прабегчы, знікнуць. Жы́гнуў лі мяне́ й як раста́ў.

ЖЭ́РДЗІНА, ЖАРДЗІ́НА, ЖАРДЗІНА́ *наз., ж., р. -ы.* У плоце. Ужываецца часцей, чым жэ́рдзь (гл. 1).

ЖЭ́РТКА (жэ́рдка) *наз., ж., р. -і.* Невялікая жэрдзіна (гл.). За ха́тай жэ́рткі не́хта пабра́ў.

ЖЭ́РЦЬ (жэ́рдзь) *наз., ж., р. -і.* 1. Жэрдзь (у плоце). 2. Тоўстая, моцная жэрдка, якой уціскаюць воз сена, снапоў, саломы і інш. У на́с жэрць—гэ́та, што вос уціска́юць. Параўн.: парубе́нь. Трасцяніца Барысаўскага р-на; рубель у «Русско-белорусском словаре»; у К. Крапівы: Дык ён (сабака)...

чуць не на самы воз ускочыў, лапамі за рубель ухапіўся (Зб. тв., т. 1, ДВБ, М., 1957, стар. 154).

ЗАБАРСА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Уцягнуць у лапаць абору.

ЗА́БАРСЬНЯ *наз., ж., р. -і.* Зачэпленая за вушкі і перакладзеная накрыж абора, якой падвязваўся лапаць да нагі. Німа́ за што за́барсьню зачапіць.

ЗАВА́ЛІНА *наз., ж., р. -ы.* 1. Прызба, земляны насып для ацяплення будынка (хаты, варыўні). Зава́ліны йшчэ ні апко́паны.

ЗА́ВАЛІН *наз., агульн., р. -ы.* Перан. Той, хто толькі ляжыць і нічога не хоча рабіць. Ну й за́валін жа ён—то́лькі сьпіць і ўсё.

ЗАВІ́ДЛІВАСЦЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* У яго́ заві́длівасьці мно́га. Гл. заві́дліві.

ЗАВІ́ДЛІВЫ *прым.* Зайздросны, зайздрослівы. Заві́длівы чалаве́к уве́сь бы сьвет забра́ў. Заві́дліваму ўсё ма́ла.

ЗА́ВІРТА (за́верта) *наз., ж., р. -ы.* Вяроўка, якой прывязваюць аглоблі да пярэдніх капылоў саней. Пянько́вых за́віртаў на паўзімы хапіла.

ЗАВЯДЗЁ́НКА *наз., ж., р. -і., мн. няма.* Мясцовая традыцыя, звычай (так заведзена рабіць што-небудзь). Цяпе́р ужо̀ завядзёнка такая: спраўля́юць ве́чар, як хто йдзець у салда́ты.

ЗАГНЕ́Т *наз., м., р. -у(-а).* Пярэдняя частка печы, насупраць коміна. На загне́ці бу́льба акале́ла. Ня мо́жыць ужо́ сама́ падня́ць (чыгун) на загне́т.

ЗАДЖГА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Гл. джга́ць. (2). Хутка, лёгка пайсці. Так заджгаў, што й ні даго́ніш.

ЗАДЗІ́НКА *наз., ж., р. -і.* Невялікая драбінка, якую прывязваюць да саней (ззаду), каб зручней было сядзець і больш накласці чаго. Задзінку пе́хта ўзяў. Біз задзі́нкі гэ́та ні йізда̀.

ЗАЗЕ́ЛА *наз., агульн., р. -ы.* Ад дзеяслова зялі́ць (гл.). Пра таго, хто зеліць галаву. Гэ́та зазе́ла ўжо прышла́—спако́ю ня бу́дзіць.

ЗАЗІ́МЛІВЫ *прым.* Пра жывёлу (пераважна пра карову), якая цяжка пераносіць зіму, марозы і выходзіць на вясну худая, слабая. Бу́рая й малака́ до̀бра дава́ла ле́там, алі́ (гл.) ду́жа зазі́млівая была́. Параўн.: зазі́місты. Г. п. Гарадзішча Брэсцкай

вобласці; зазімкавы. Кіцін Парыцкага р-на; зазімліваты. Мервіны Клецкага р-на; запáдлівы. Панкратаўка Горацкага р-на, Загорцы Радашковіцкага р-на.

ЗАКАВА́ЦЬ *дзеясл., заку-ю́, заку-éш, перах., зак.* 1. Закаваць (у кайданы). 2. Пры коўцы каня закрануць, пашкодзіць цвікам неарагавелую частку капыта. Закавáлі Сòкала—захрамáў. 3. Ужываецца пры дзіцячай гульні ў схованкі («у палачкустукалачку»). Усе хаваюцца, а адзін шукае іх. Каго знойдзе—«закуе», г. зн. стукам палкі па чым-небудзь (у пэўным месцы) і словамі «кую-кую» дае ведаць, што той «закаваны».

ЗАКА́ЛІЦ (закàлец) *наз., м., р. -а, мн. няма.* Сыраваты слой пры ніжняй скарынцы хлеба, булкі. Закáліц у пáліц.

ЗАКІЛЗА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* 1. Закілзаць. Укласці ў рот каню цуглі. Ужываецца таксама зацугляць, замуздаць (гл.). 2. Уцягнуць у лыч свінні дрот, каб не рыла. Фрòнка закілзáў абóдвух парсюкóў.

ЗАЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Мерзнуць, зябнуць. На рэ́ццы зімóй рýкі залéюць. Гл. зòлкі.

ЗАЛКАТА́ *наз., ж., р. -ы́, мн. няма.* Ад зóлкі (гл.). На такóй залкацé дзень прастаяў.

ЗАМАСЬЦІ́ЦЬ (замасцíць) *дзеясл., -шч-ý, -сц-íш, перах. і без дап., зак.* Гл. масціць. За дзень і замасьцíлі (падлогу).

ЗА́МІЦЬ (зáмець) *наз., ж., р. -і.* Завіруха, завея (што замятае дарогу). У такýю зáміць вы́правіўся нéкуды. Другí дзень зáміць на дварэ́.

ЗАМУЗДА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Закілзаць (каня). Малады́ йішчэ (конь), ні даéцца замуздáць. Параўн.: руск. зауздать.

ЗАМЫЛІ́ЦЦА *дзеясл., -ю́ся, -íшся, зак.* Сціснуць губы, падабраўшы іх к зубам. Другáя (дзяўчына) замы́ліцца й сядзíць (на вечарынцы).

ЗАПА́РКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Аблітая варам, запараная мякіна. Цэ́бар запáркі зьéла (карова). Запáрку дык усю́ паéсь.

ЗАПАТО́ЧЧА *наз., н., р. -а, мн. няма.* Ужываецца толькі ў фразеалагічным словазлучэнні *за ленню і за-*

*паточча не відаць.* Пра надта лянівага, гультаяватага чалавека, якому лянота засланяе ўсё ў жыцці.

ЗАПЕ́ЧАК *наз., м., р. -чк-а.* Драўляны фундамент, на які ставіцца руская печ. Запе́чак то́лькі абгарэ́ў. Гл. зачы́нак.

ЗАПЛІКНУ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -е́ш, перах., зак.* Ужываецца побач з зашпіліць.

ЗАПУСЬЦІ́ЦЦА (запусці́цца) *дзеясл., -іцца, зак.* Гл. запусьці́ць (2). Сёліта запусьцілась (карова) усяго́ на ме́сіц.

ЗАПУСЬЦІ́ЦЬ (запусці́ць) *дзеясл., -шч-у́, -сц-іш, перах.* і *без дап,. зак.* 1. Запусціць. Пакінуць без дагляду, нядбайна аднесціся. Запусьці́лі гра́ды, ні пало́лі. 2. Запусціць (карову), не даіць перад цяленнем. Запусьці́ла ўжо свою (карову).

ЗАТЛУ́МА *наз., ж., р. -ы.* Ад дзеяслова затлуміць, тлуміць (гл.). Мне ні на́да гэ́та затлу́ма. Ну й затлу́ма на маю галаву́.

ЗАТЛУМІ́ЦЬ *дзеясл., -мл-ю́, м-іш, перах., зак.* Гл. тлуміць.

ЗАЦУГЛЯ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Закілзаць (каня). Ужываецца таксама: закілза́ць, замузда́ць (гл.).

ЗАЧЫ́НАК *наз., м., р. -нк-а.* Фундамент рускай печы (гл. запечак) часта робіцца шырэйшы за печ. Выступ фундамента каля бакавой сценкі печы называюць зачынкам або запечкам, прыпечкам. На зачынку́ можна сядзець, ляжаць, што-небудзь паставіць.

ЗБРО́ДАВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Залазіць у шкоду (пра жывёлу), самавольнічаць, браць без дазволу (пра чалавека). Не́хта збро́даваў у сундучку́—ўсё піраве́рнута.

ЗБРО́ДЛІВЫ *прым.* Пра таго, хто збродуе (гл.). Збро́длівая каро́ва, дык балабон (гл.) паве́сілі.

ЗБЫТ *наз., м., р. -у.* 1. Збыт (тавару). 2. Ужываецца ва ўстойлівым словазлучэнні не даваць збыту—не даваць спакою, беспярастанку турбаваць, перашкаджаць, надакучаць. Ку́ры ні даюць збы́ту—ле́зуць у гра́ды.

ЗГЛУМІ́ЦЬ *дзеясл., -мл-ю́, -м-іш, перах., зак.* Перавесці, сапсаваць, знішчыць. Мно́га ле́су зглумілі ў

вайну́. Таку́ю лі́пку зглумі́ў (ссек). Гл. глум, глумі́ць.

ЗДАРО́ЎКАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Вітацца пры сустрэчы. Гэ́ты дзірэ́ктар здаро́ўкайіцца с усімі. Гл. паздаро́ўкацца.

ЗДО́ЛІЦЬ (здо́лець) *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Здужаць, асіліць. Шэ́ры (пеўнік) здо́ліў Тэ́клінага. Ужываецца *здужаць.*

ЗДУРАВА́ЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., зак.* Пераважна ўжываецца ў форме прошлага часу, калі шкадуюць аб чым-небудзь, каюцца. Здурава̀лі ўчо́ра, што ні накры́лі бу́льбы: такі́ маро́с. Здурава̀ў, што тут аста́ўся.

ЗДЫ́РДЗІЦЦА *дзеясл., -дж-уся, -дз-ішся, зак.* Памерці. Зды́рдзіўся стары́. Ужываецца рэдка.

ЗІПА́ЦЬ (зяпа́ць) *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Моцна крычаць, гарлапаніць, лемантаваць. Гл. зя́па.

ЗЛО́МАК *наз., р. -мк-а.* Чалавек, які не ўмее і не хоча рабіць. А ты што, зло́мак? Ён й сам ня зло́мак— прынясе́ць вады́.

ЗМЫ́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Тое, што і абмы́лак (гл.).

ЗНАЧЫ́ЦЬ *дзеясл., неперах., незак.* Аб выразных прыкметах у жывёлы (звычайна ў каровы), якая скора будзе мець прыплод. Друга̀я (карова) й значы́ць до́ўга, ды біс пары́ ш ня це́ліцца.

ЗНО́САК *наз., м., р. -а.* Зусім малое курынае яйка. Зноскі часцей бываюць увосень. Зно́сак дзіця́м звары́ла. Куры́ны зно́сак, як галубі́ная яйцо́.

ЗО́ЛКА *прысл.* Ад зо́лкі (гл.).

ЗО́ЛКІ *прым.* Надта халодны. Ад зо́лкай вады́ й ка̀шаль стаў.

ЗЬГІДЗІ́ЦЦА (згідзі́цца) *дзеясл., -дж-у́ся, -дз-і́шся, зак.* Гл. гідзіцца. Во зьгідзі́ўся й кінуў е́сьці.

ЗЬГІДЗІ́ЦЬ (згідзі́ць) *дзеясл., -дж-у́, -дз-і̀ш, перах., зак.* Гл. гідзі́ць. Згідзі́лі дзе́вак гэ́тымі мыша̀мі.

ЗЬДЗІВА́ЦЦА[1] (здзява́цца) *дзеясл., -еццa, незак.* 1. Зрывацца, звальвацца, злятаць (з чаго-небудзь). Като́к (гл.) усю́ даро́гу зьдзіва́ўся (з калёс). 2. Распранацца, раздзявацца.

ЗЬДЗІВА́ЦЦА[2] *-юся, -ешся.* Здзекавацца (з каго-небудзь). Зьдзіва́ліся зь людзе́й і ўсё́ (у вайну).

ЗЬНЕ́ЦІКІ *прысл.* Знянацку, нечакана, раптоўна.

Зьнéцікі кíнуўся (сабака) пад нóгі. Як крыкнуў зьнéцікі. Параўн.: Альбо песню якую пачнуць, каб адшыць гаваруна, альбо запытае хто знецíку (М. Лынькоў).

ЗЬНЯВЕ́РЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся, зак.* Страціць давер. Пра чалавека, які часта гаворыць няпраўду, не выконвае таго, што абяцае. Нарэшце ён зняверыцца—яму больш не верадь. Зьнявéрылась магазіншчыца, дык і ні пытàюсь. Зьнявéрыцца ня дóўга.

ЗЬЯЛЧЭ́ЦЬ (з'ялчэ́ць) *дзеясл., -е, неперах., зак.* Гл. ялчэ́ць. Зрабіцца ёлкім (гл.). Сыр зьялчэ́ў ужó.

ЗЯЛІ́ЦЬ *дзеясл., -ю́, -іш, перах., незак.* 1. Дурыць, тлуміць, шумець. Ужываецца ва ўстойлівым словазлучэнні зяліць галаву. Цяпéр німá камý зялíць галавы́. 2. Надакучаць чым-небудзь. Купіў малóй канькí, кап ні зялíла галавы́. Ні зялí мне галавы́.

ЗЯПА *наз., ж., р. -ы.* Рот, пашча звера.

У тýю п зя́пу (ваўка) галавá ўлéзла. Параўн.: у «Толковом словаре» В. Даля зепь—горло, хайло, глотка. Ужываецца побач з *ляпа.*

ІГЛІ́ЦА[1] *наз., ж., р. -ы.* Лісце, зелень хваёвых дрэў. Дýжа прыглідàюсь, кап ні папáла йдзе йглíца (пры перабіранні грыбоў).

ІГЛІ́ЦА[2]. Кантовы драўляны брусок, якім змацоўваюцца дошкі дзвярэй. Ігліца шчыльна ўпускаецца ў дошкі, таму дзверы не перакошваюцца. Дóскі йшчэ́ крэ́пкія, а йглíцу трэ́ба міня́ць. Параўн.: ігліца. Смародзінка Крупскага р-на.

ІМЖА́КА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Ад імжыць. Дробны, як пыл, дождж, які нібы праз сіта сее. Імжáка трóхі йшлá з рàніцы. Параўн.: руск. морось; у «Толковом словаре» В. Даля мга, мжица, мжичка—мокрый, холодный туман; мокрый снежок с дождём.

ІМШЫ́ЦЬ *дзеясл., -ý, -ыш, перах.* і *без дап., незак.* Класці мох, атрэп'е паміж бярвення ў цёплым будынку. Мы дык усігдá мóхам імшы́лі.

ЙІЛКАТА́ *наз., ж., р. -ы́, мн. няма.* Ад ялчэ́ць (гл.). У мáсьлі йілкатá ёсь. Радзей—ёлкасць (гл.).

КАБА́Т *наз., м., р. -а.* Цёплая куртка без рукавоў. Самá кабáт пашы́ла й нашý.

КАВІЛА́ *наз., ж., р. -ы́.* І. Мыліца. Пóсьлі ранéньня

Піман с кавілóй хадзіў. Побач з *кастыль*. 2. Прылада, якой вымяраюць плошчу зямлі (дзве палкі, збітыя (перакладзінай) у форме раўнабедранага трохвугольніка; канец адной палкі служыць за ручку). Кавілý на плéчы й пашóў (брыгадзір). Прамéрыў кавілóй шырынý. У гэтым значэнні ўжываецца чыкірдá, казà (гл.).

КАГА́ЛАМ *прысл.* Сумесна, разам. Кагáлам вос уцягнýлі. Нільзя ш разабрáць, як кагàлам крычáць.

КАЗА́[1] *наз., ж., р. -ы́.* Каза (жывёла).

КАЗА́[2]. Тое, што і кавіла, чыкірда (гл.). Пірамéрылі казóй гарóт—лішнíга німá.

КАЗЁ́Л[1] *наз., м., р. -зл-á.* Казёл (жывёла).

КАЗЁ́Л[2]. Грыб з маслена-слізістай шапкай жоўта-карычневага колеру (скурка лёгка здымаецца). Як бáчыш вядрó казлóў набрáлі. Фýнтаў шэсь казлóў ужó насушы́ла. Параўн.: лупя́к (мн. лупякі). Лукі Карэліцкага р-на; руск. маслёнок; у «Русско-белорусском словаре»—масляк.

КАЗЬЛЯ́К *наз., м., р. -á.* Тое, што і казёл (гл. казёл[2]).

КАЛЯ́НЫ *прым.* Цвёрды (пераважна аб тканіне, скуры). Каля́ны каўнéр—янó й красівéй. На нагý не ўзбíць—такíя каля́ныя бацìнкі (арф.).

КАМЛЫ́ЖЖА *наз., н., р. -а.* Зборны ад камлы́жына (гл.). Камлы́жжа грабля́мі разьбівáлі (на градах).

КАМЛЫ́ЖЫНА *наз., ж., р. -ы.* Сухі цвёрды кавалак зямлі.

КАНДЗІБО́БІР (кандзібóбер) *наз., м., р. -а (-у).* Ужываецца ў фразеалагічным словазлучэнні *хадзіць кандзібоберам,* што азначае: быць вельмі задаволеным чым-небудзь, празмерна ганарыцца гэтым, задавацца. Ды ён умéя хадзіць кандзібóбірам.

КАНЕ́ШНА (канéшне) *пабочн. слова* і *сцвярджальная часціца.* Вельмі шырока ўжываецца ў значэнні вядома, зразумела, бясспрэчна, безумоўна. Параўн.: руск. конечно.

КАНЧА́НІ (канчáне) *наз., р. -àнь (-áняў).* Жыхары з канца вёскі. Канчáні ўсігдá пазьнéй прыхóдзюць (на вечарынку).

КАПАНІ́[1] *дзеясл.* Форма загаднага ладу II асобы. Усю́ды капанì нагóй—і бýльбіну знàйдзіш.

КАПАНІ́[2] *наз., р. -ёў (-éй).* Сані, у якіх палазы не гну-

тыя, а зроблены з дрэва, выкапанага з коранем. Қапані ў вайну згарэлі. Қапанёў цяпер мала ёсь.

ҚАПАНІ'ЦА *наз., ж., р. -ы.* Матыка. Засохла зімля й капаніца ні бярэць.

ҚАПАНІ'ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап.; незак.* Матычыць. Перад вайной яшчэ капанічылі ў Пушчы ляда (арф.).

ҚАПЕ'Ц *наз., м., р. -пц-а.* 1. Насыпаны бугор зямлі. Пад Радоўскім (урочышча) і цяпер ёсь капцы, кажуць, што ат войнаў. 2. Груд бульбы, буракоў і інш., абкладзены саломай і засыпаны зямлёй. Қапец бульбы пірабралі. С капца вясной прывязьлі (бульбы).

ҚАПО'ШКА *наз., агульн., р. -і.* Той, хто ледзь варушыцца, корпаецца, павольна і няўмела робіць (асабліва пры зборах куды-небудзь). Ну й капошка—калі ты зьбярэсься? Німа цярпеньня такую капошку ажыдаць.

ҚАПЦЮ'ЛҚА І ҚАПЦІ'ЛҚА *наз., ж., р.-і.* Газоўка. Қапцюлку ў бані пакінулі. Параўн.: капцёлка. Панкратаўка Горацкага р-на.

ҚАРА'ВАШНІҚ (каравачнік) *наз., м., р. -а.* Зборшчык каравак (гл.). Қаравашнік скора будзя ехаць.

ҚАРА'ЎҚІ *наз., р.-ак (-каў), зб.* Непрыгоднае рыззё, старыя анучы. Гэта ш столькі каравак сабрала. Побач з *трап'ё, трапкі.*

ҚАРТАВА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Тасаваць, перамешваць карты ў калодзе.

ҚАРШЭ'НЬ *наз., м., р. -я.* Шыя, карак. Звычайна ўжываецца ва ўстойлівых словазлучэннях *надаваць у каршэнь, гнаць у каршэнь.* Ня трэба гнаць у каршэнь — сам старайіцца.

ҚА'РЫ [1] *прым.* Қары (колер).

ҚА'РЫ [2] *наз., р.-аў, адз. няма.* Қароткія капані (гл.), якія выкарыстоўваюцца для перавозкі бярвення. Бервяно кладзецца на двое саней, з іх пярэднія — кары.

ҚАРЫ'ЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап., незак.* Абчосваць, здымаць, здзіраць кару (з бервяна, жэрдкі). Удвух карылі дзень і ня кончылі.

ҚАТО'Қ [1] *наз., м., р.-тк-а.* Қоцік. Қаток нейдзя прапаў. Ужываецца коцік.

ҚАТО'Қ.[2] 1. Қолца, адпілованае ад круглага палена

Ужо́ бальшуны́ (гл.), а ўсё като́к кача́юць. 2. Кола (у калёсах).

КАЧАРЭ́ЖНІК *наз., м., р.-а, (-к-у).* Месца ў вуглу каля печы, дзе ставяцца вілкі, качарга, чапяла. Ні ўгляну́лась, як йіна́ (кошка) ў качарэ́жніку схапіла мы́шыну.

КАШЛАПЕ́НЬ *наз., агульн., р.-пн-я́ (-пе́ня).* Непаваротлівы, нязграбны, някемлівы чалавек. Гэ́ты кашлапе́нь як пае́хаў у лес, то йішчэ й німа́.

КЕ́БЛА *наз., н., р. -а.* 1. Драўляная цурка цыліндрычнай формы. 2. Дзіцячая гульня. Удзельнікі гульні па чарзе кінутай палкай збіваюць кебла. Адзін з іх ставіць яго зноў на тое самае месца. Параўн.: пікар. Трасцяніца Барысаўскага р-на, Клетнае Глускага р-на; у «Толковом словаре» В. Даля ке́гла—точеный стоячек, столбик для игры.

КІНАЎШЧЫ́К *наз., м., р. -а.* Кінамеханік. Ся́ньня зноў начава́ў кінаўшчы́к. Ужываецца пераважна старымі людзьмі. Побач з *кінамеха́нік.*

КЛУМП (клумб) *наз., м., р. -а.* Тое, што і дзірвяшак (гл.). Мн. лік клумбы.

КЛЫ́ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап., незак.* Камячыць, церці, ціскаць. Біда́, як німа́ зубо́ў: клы́чу-клы́чу скары́нку й прыглыну́ць ні магу́.

КО́ЗЛЫ *наз., р. -аў.* Станок для пілавання дроў. Параўн.: ста́ўчык. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

КО́КА *наз., н., р. -а.* Яйка. З дзіцячай лексікі. Ко́ка ку́рка зьнясе́ць.

КО́КАТ *наз., м., р. -а.* Адростак расліны, пераважна ў хатніх кветках. Фікус пусьціў ужо́ ко́кат. Два ко̀каты ацсадзіла. Ужываецца флянс, адростак. Параўн.: гучок, гук, парастак, атожылак, пасынак у «Русско-белорусском словаре».

КО́РМНЫ *прым.* Адкормлены, сыты. Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікамі кабан, свіння. Ко́рмная сьвіньня́ менш есь. Старгава́лі ко́рмнага кабана́. Параўн.: Кормны і надворны (байка). К. Крапіва, Зб. тв., т. I, ДВБ, М., 1956, стар. 103.

КО́ХЛІК *наз., м., р. -у, мн. няма.* Коклюш. На́шы (дзеці) ко́хлікам пірахварэ́лі.

КРАПІ́ЎНІК *наз., м., р. -а.* Мех з грубога, тоўстага палатна нізкай якасці. Пашы́ла два крапі́ўнікі. У крапі́ўнік ні забярэ́ш (бульбу).

КРАПІ'ЎНІЧЫК (крапіўнічак) *наз., м., р. -а.* Памянш. ад крапіўнік. Прапаў мой крапіўнічык, так жалка.

КРУГЛЯ'К *наз., м., р. -а́.* Кароткі, круглы кавалак дрэва. С аднаго́ круглікá пéчка дроў вы́йшла.

КРУЖА'ЛА *наз., н., р. -а.* Прыстасаванне на лёдзе для катання па кругу: на забіты ў зямлю кол уздзета кола (з калёс, машыны); да кола адным канцом прымацавана жэрдка, а да другога канца яе прывязваюцца санкі. Кола круцяць каламі, і санкі бегаюць з вялікай хуткасцю. Увéсь дзень на кружáлі былí. Забрáў пóпіл і панёс на кружáла (пасыпаць лёд ля кола).

КРЫВА'ЛЫ *наз., р. -аў (-ал), адз. няма.* Крывалы выкарыстоўваюцца для перавозкі бярвення. Адзін канец бервяна кладзецца на перадок калёс, а другі — на крывалы. Крывыя палкі, прымацаваныя да канцоў восі, ахопліваюць бервяно зверху і прывязваюцца да яго.

КРЭ'ПНУЦЬ *дзеясл., -е,-уць, неперах., незак.* Драпвець, дзеравянець, нямець ад холаду. Ужываецца з назоўнікам рукі. Такáя залкатá — рýкі крэ́пнуць.

КУЁ'ЎЧЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся, незак.* Поркацца, забаўляцца. Малы́ куёўчыўся ў пасьцéлі, ні плáкаў. Да абéда зь дзéцьмі куёўчылась.

КУМПЯ'К *наз., м., р. -а́.* Кумпякí капцíць к сьвя́ту бýдзім.

КУМПЯЧО'К *наз., м., р. -чк-а́.* Памянш. ад кумпя́к. К вясьнé кумпячóк блюдý (гл.).

КУРО'САНЬНЯ (курóсанне) *наз., н., р. -я, мн. няма.* Месца ў будынку (звычайна высока), дзе начуюць куры. Дýжа цішкáя (курыца): ніяк ні ўзьляціць на курóсаньня. Параўн.: седала ў «Русско-белорусском словаре»; курóсаньня. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

КУСА'НАК *наз., м., р. -нк-а.* Недаедзены кавалачак (хлеба, булкі). Кусáнка хлéба нікóлі ня вы́кіну вон.

ЛАБА'ТЫ *прым.* 1. Бязрогі. Яé (карову) так і завýць Лабáтай. Параўн.: шýты [1] ў «Дыялектным слоўніку» Ф. Янкоўскага, Выд. АН БССР, М., 1959, стар. 199. 2. Лабаты ( аб чалавеку з вялікім ілбом). Побач—*лабасты.*

ЛАЙНО' *наз., н., р. -а́.* Адна штука бялізны. Лойнамі

(штукамі) звычайна лічаць бялізну, калі яе мыюць. На рэ́цці як ба́чыш папаласка́ла два́ццаць лаё́н. Хоць бы адно́ лайно́ сама́ памы́ла, а то ўсё́ найма́я.

ЛА́ХАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бегаць, хутка хадзіць (шукаючы што-небудзь). Дзе ён ла́хаў цэ́лы дзень?

ЛАЦЬВЕ́Й (лацве́й) *прысл.* Ужываецца ў значэнні лепей, добра; што яму (ёй, табе, ім), чаму не (вучыцца, працаваць). Лацве́й цяпе́р быць брыгадзі́рам. Параўн.: Цімошка прысеў, каб латвей запаліць падпалак... Я. Колас, Зб. тв., т. III, ДВБ, М., 1952, стар. 226.

ЛІДА́ЙІК (ліда́ек) *прысл. у значэнні выказніка.* Моташна. Непрыемнае, пакутлівае адчуванне перад рвотай, пазыў на рвоту. Так ліда́йік было ат грыбо́ў, што чуць ня вы́рвала. Нае́ўся малі́н, аш ліда́йік ста́ла. Чуць што зьесь — і ліда́йік.

ЛІ́ПАВАЧКА *наз., ж., р. -і.* Памянш. ад ліпаўка (гл.). У ліпавацці соль стайіць. Гэ́та ліпавачка йішчэ́ па́міць ба́цькі.

ЛІ́ПАЎКА *наз., ж., р. -і.* Бочка, выдаўбленая з ліпы (не з клёпак). Адно́й ліпаўцы гадо́ў пат со́рак было́ й згарэла.

ЛІПЕ́ЦЬ *дзеясл., -пл-ю́, -п-і́ш, неперах., незак.* Аб чым-небудзь, што ледзь трымаецца і вось-вось можа разбурыцца, паваліцца. Чуць ліпі́ць частаке́т (гл.), ско́ра саўсі́м зава́ліцца. Параўн.: Было відаць, што тут ліпелі Да часу людзі і не дбалі, Гразі ніколі не знімалі, Рабіць парадку не хацелі. Я. Колас, Зб. тв., т. IV, ДВБ, М., 1952, стар. 50.

ЛІСІ́ЦА[1] *наз. ж., р. -ы.* Ліса, лісіца.

ЛІСІ́ЦА[2]. Тоўстае круглае палена, якое кладзецца на сані (упоперак) для перавозкі бярвення. Яно́ зь лісі́цай і саня́м здараве́й.

ЛЫ́НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бадзяцца, швэндацца, хадзіць без справы, ухіляючыся ад занятку. Прые́дзіць дамо́й і лы́ндая па ву́ліцы.

ЛЫ́НДЫ *наз., р. -аў.* Ужываецца ў фразеалагічным словазлучэнні *біць лынды* — лодарнічаць, бадзяцца.

ЛЫ́ТКА *наз., ж., р. -і.* Задняя частка галёнкі, ніжэй калена.

ЛУЗАНЕ́Ц *наз.*, *м.*, *р.* *-нц-а́*. Спелы арэх, які сам вывальваецца або зусім лёгка вылузваецца з гранкі. Назьбіра́ў дзіця́м лузанцо́ў—арэ́х у арэ́х. Бе́лка цэ́лая дупле́ арэ́хаў нанасі́ла, ды лузанцо́ў, жо́ўцінькіх.

ЛУПА́ТЫ *прым.* Пра таго, у каго вялікія, тоўстыя губы. Які ш ён лупа́ты!

ЛЭ́ПАЦЬ *дзеясл.*, *-ю*, *-еш*, *перах.* і *без дап.*, *незак.* Мацаць рукой (часцей—шукаючы што-небудзь упоцемку). Лэ́пала-лэ́пала па дзьвіра́х—чуць кля́мку нашла́.

ЛЭ́ПНУЦЬ *дзеясл.*, *-у*, *-еш*, *перах.* і *без дап.*, *зак.* Гл. лэ́паць. Тапо́р з маро́зу, а ён лэ́пнуў — рука́ й прысты́ла. Параўн.: Арон лэпнуў яго (Ігнася) па плячы. Р. Мурашка, Сын, ДВБ, М., 1957, стар. 108.

ЛЮБО́ВАЯ (любо́вае) *прым.* Зусім поснае мяса, сала з праслойкамі мяса. Жы́рнага (мяса) й у рот ні бярэ́ць, а любо́вая есь. Параўн.: І так, з расою, ранкам Павесіў на кіёк У торбачцы буханку, Любівага скрылёк. М. Лужанін, Прасторы, М., 1958, стар. 114.

ЛЯ́СКА *наз.*, *ж.*, *р.* *-і*. Дошчачка ў драбіне калёс.

ЛЯШЫ́ЦЬ *дзеясл.*, *-у́*, *-ыш*, *перах.* і *без дап.*, *незак.* Ставіць знакі, меткі (салому, галінкі) за сейбітам на загоне. У Пу́шчы (урочышча) паўдня́ кле́вір ляшы́лі. Параўн.: Праслаўляе ён поле І ліповую сеўню. І агні на рабінах З баравое паляны, І красуню-дзяўчыну, Што так лешыць старанна... П. Броўка, Зб. тв., т. ІІ, ДВБ, М., 1957, стар. 178.

МАЛЕ́НСТВА *наз.*, *н.*, *р.* *-а*, *мн. няма.* Дзяцінства, дзіцячыя гады. Мой Вало́дзя з мале́нства па́сьціў каро́ў. Побач ужываецца *змалку.*

МАРШЧАКІ́ *наз.*, *р.* *-о́ў*. Лапці, сшытыя са скуры (зверху скура сабрана ў маршчыны). Адз. лік маршча́к.

МАСЬЛЯ́НКА і МАСЬЛЁ́НКА *наз.*, *ж.*, *р.* *-і*, *мн. няма.* Малочны адыход, што застаецца пры збіванні масла. Параўн.: руск. пахта.

МАСЬНІ́ЧЫНА *наз.*, *ж.*, *р.* *-ы*. Дошка з падлогі. Пат пе́чачкай масьні́чына затле́лась.

МАСЬЦІ́ЦЬ *дзеясл.*, *-шч-у́*, *-сц-іш*, *перах.* і *без дап.*, *незак.* 1. Класці падлогу. Гэ́ту ха́ту наш Ко́сьцік

масьціў. 2. Брукаваць, насцілаць вуліцу, дарогу (каменнем, цэглай).

МА'ТКА *наз., ж., р. -і.* 1. Матка ( у розных значэннях). 2. Маці, матка. У ма́ткі па ўсіх дзіця́х се́рца балі́ць. Біз ма́ткі гадава́ліс (дзеці), а якія до́брыя. Прысла́ў ма́цы гро́шы й пасы́лку.

МАЎМЫ'РА *наз., агульн., р. -ы.* Надта маўклівы, негаваркі чалавек. Тако́му маўмы́ру й сло́ва ця́шка сказа́ць.

МЕ'ЗІНЫ (ме́зены) *прым.* Толькі ў спалучэнні з палец. Сагна́ла но́гаць на ме́зіным па̀льцы. Мезенец не ўжываецца.

МІДУНІ'ЧКА (меду́нічка) *наз., ж., р. -і.* Гатунак яблык.

МІЗГА' (мязга́) *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Мяккі вадзяністы слой (абалона) пад карой дрэва. Параўн.: у «Толковом словаре» В. Даля мезга — заболонь, внутренняя слизистая оболочка дерева (особ. сосны), молодая исподняя кора, еще не затвердевшая.

МОСТ *наз., м., р. -а (-у).* 1. Мост (праз раку, роў). 2. Падлога. Падмо́сьнік (гл.) згніў — і мост лі паро́га асе́ў. Ужываецца таксама памост, пол.

МУ'ЛІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах.* і *без дап., незак.* Церці, націскаць, рэзаць чым-небудзь цвёрдым (скуру, цела). Му́ліць баці́нак у па́льцах. Параўн.: Тая жабрацкая падачка ўсю дарогу муліла мне плечы, бо я нёс у сабе вялікую крыўду на нялюдскую скнарасць і прагнасць. Я. Шарахоўскі, Першы заробак, ЛІМ ад 13/VI 1959.

МУ'ЛКА *прысл.* Цвёрда. Гл. му́ліць. Прывы́кла на пе́чы спаць, то́лькі тро́хі му́лка.

МУ'ЛЬТ *наз., м., р. -у, мн. няма.* Мультан (тканіна). Цяпе́р му́льту й у Ра́фалаві (у Рафалаўскім магазіне) хвата́йіць.

МУ'ЛЬТАВЫ *прым.* Мультановы. К зіме́ до́бра му́льтавая ко́фта.

МЫ'ШЫНА *наз., ж., р. -ы.* Ужываецца побач з *мыш.*

МЭ'РЛЯ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Марля. Ужываецца і марля.

МЭ'ТА *наз., ж., р. -ы.* 1. Мэта (побач з *цэль*). 2. У некаторых гульнях («мячык доўгі» і інш.) вызначаюцца дзве зоны: поле, дзе ловяць, затрымліваюць мяч, і мэта — месца, адкуль б'юць мяч. Пераможцы гульні займаюць мэту, пераможаныя

ідуць «пасвіць» у поле. Быць на мэце — імкненне ўдзельнікаў гульні.

НАБГО'М *прысл.* Ад нагібаць. Піць набгом — піць з вялікай пасудзіны (ражкі, вядра, гарлача), нагнуўшы яе. Крýшкі ні было́, дык мы набго́м зь відра́ (напіліся). Параўн.: нагбо́м. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

НАБРА'ЦЦА *дзеясл., -ýся, -э́шся, зак.* 1. Набрацца (у розных значэннях). 2. Напіцца (гарэлкі). 3. Запазычыць, пераняць (у каго-небудзь). Сь кім павядзе́сься, ат таго́ й набярэ́сься. 4. У фразеалагізме ***набрацца хваробы.*** Ні пуска́й дзяце́й, кап ні набра́лісь ко́хліку (гл.).

НАГАНЯ'ЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, зак.* Наганяць (у розных значэннях).

НАГАНЯ'ЦЬ[2] *дзеясл.* Наразорваць многа (барознаў бульбы). Бýльбы наганя́ў, што й за дзень ня вы́капалі. Побач ужываецца: разагна́ць (гл. 2), разараць.

НАДВО'РНЫ *прым.* Такі, які не стаіць на адкорме ў хлеве (пра свінней). Ле́тась дык саўсі́м надво́рнага (кабана) забі́лі. Параўн.: А ён (кабан) сланяўся й скрыгаў горна, Што лёс зрабіў яго надворным... К. Крапіва, Зб. тв., т. I, ДВБ, М., 1956, стар. 103.

НА'ЗІРКАМ *прысл.* Ісці за кім-небудзь, уважліва назіраючы, не спускаючы з вачэй. Усю́ даро́гу йшлі назі́ркам за йімі.

НАЗЯЛІ'ЦЬ *дзеясл., -ю́, -іш, перах., зак.* Гл. зялі́ць. За дзень до́бра назе́люць галавý (дзеці).

НАКАЗА'ЦЬ *дзеясл., -ж-ý, -ж-аш, неперах., зак.* Паведаміць, перадаць праз каго-небудзь (запрашэнне, вестку). Наказа́лі Ко́сьціку, кап на сьвя́та прые́хаў.

НА'КАЛЬНЫ *прым.* Упарты свавольнік, разбэшчаны, дураслівы, непаслухмяны (пераважна пра дзяцей-падросткаў). Такі́ ш ужо́ на́кальны стаў — усю́ды ле́зіць, ніко́га ні байі́цца.

НАКАНО'ВАНА і НАКАНАВА'НА *дзеепрым.* Суджана, так павінна быць. Даўне́й ве́рылі, што чалаве́ку ўсё накано́вана бо́гам. Калі́ наканава́на жыць — ні памрэ́ць.

НАЛЕ'ТА *прысл.* У будучым годзе. Трэ́ба бýдзіць на-

ле́та й сабе́ пасе́йіць кукуру́зы. Параўн.: Гэта сумысля падпальваюць балота палешукі, каб на выгараным месцы расла на лета маладая, лепшая трава. Я. Колас, Зб. тв., т. V, ДВБ, М., 1952, стар. 272.

НАЛЕ́ЦЬЦЯ (нале́цце) *наз., н., р. -я, мн. няма.* Будучы год, лета. Аста́віла тро́хі сіміна́ гурко́ў к нале́цьцю. Ні прые́дзіць да нале́цьця.

НАПА́СЬ (напа́сць) *наз., ж., р. -і.* Выдумка, памылковае, непраўдзівае абвінавачанне, нападкі. Таку́ю напа́сь пірацярпе́ў.

НА́ПІТА (на́пята) *прысл.* Шырока, да канца расчыніць (акно, дзверы). Дзе ш табе́ бу́дзя це̋пла, калі́ дзьве́ры на́піта аччы́ніны. Параўн.: Насцеж вокны і дзверы Адчынілі кватэры. А. Куляшоў, Зб. тв., т. II, ДВБ, М., 1957, стар. 197. Ужываецца таксама насцеж.

НА́РАСЬЦІНЬ (на́расцень) *наз., м., р. -сн-я і -сцен-я.* Нарасцень бывае на целе жывёлы, чалавека, на расліне. На па́льцы не́йкі на́расцень палучы́ўся (арф.).

НАСЕ́НКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Насенная бульба. Пудо́ў пяць насе́нкі астало́сь. Побач—*се́менка* (гл.).

НАСЛАНЬНЁ́ *наз., н., р. -я́, мн. няма.* Ад наслаць. Няшчасце, бяда, гора, няўдача. Звычайна ўжываецца, калі пасля адной бяды здараецца другая. Атку́ль се̋літа тако́я насланьне̋ на нас?

НАТРАПЫ́ШЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. трапы́шыць. Такі́ хло́піц, а касы́ до́бра ні натрапы́шыць.

НА́ТРУСКАМ *прысл.* Неўтаптана, рыхла (насыпаць, накласці чаго-небудзь у пасудзіну, мех). Мі́сачку мукі́ насы́пала на́трускам, як і йіна́ мне.

НАЎГРУ́НЬ *прысл.* Тое, што і ўгру́нь (гл.). Як пачу́лі крык, усе́ туды́ наўгру́нь і пабе́глі. Ужываецца побач з *шы́бка* (гл.).

НАЎМЕ́ЦІ (наўме́це) *прысл.* Ужываецца ў сэнсе прымечана, на прыкмеце, заўважана, вызначана, аблюбавана. Была наўме́ці до́брая асо́нка — не́хта забра́ў ужо́. Ужываецца таксама на прыкме́це.

НАЎМЫ́СЬЛЯ *прысл.* Наўмысна, адмыслова, знарок. Мо́жа хто й наўмы́сьля ўкі́нуў вядро́ (у кало-

дзёж). Параўн.: Гэта сумысля падпальваюць балота палешукі... Я. Колас, Зб. тв., т. V, ДВБ, М., 1952, стар. 272.

НАЎСПРАМІ'К *прысл.* Прама, карацейшым шляхам. Наўспрамі́к, ля рэ́чкі хо́дзім: так бліжэ́й у Ра́фалаў. Параўн.: напрасця́к у «Русско-белорусском словаре».

НАЦІРАБІ'ЦЬ (нацерабіць) *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, зак.* 1. Нарыхтаваць (дроў з верхавіння, тоўстага суччa), ачысціць (буракі ад лісця). За паўдня́ два вазы́ (дроў) націрабілі.

НАШЫ'ЙНІК *наз., м., р. -а.* 1. Параўн.: Яна... схапіла сабаку за ашыйнік, зацягнула да хлява і прывязала там. І. Шамякін, Крыніцы, ДВБ, М., 1957, стар. 264. 2. Хамуцік разам з прымацаванымі да яго бразготкамі, якія надзяецца на шыю каня. Быў йішчэ́ свой нашы́йнік, дык у вайну́ прапа́ў.

НЕ'-А. Не. Ужываецца толькі як адмоўнае слова-сказ. —Ці ба́чылі тут дзіця́ маё?—Не́-а.—Бу́дзіш е́сьці? — Не́-а.

НЕ'ЧЫСЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Кужаль, вычасаны лён. Параўн.: ку́жаль. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

НІДБА'ЛІЦА (нядба́ліца) *наз., агульн., р. -ы.* Нядбайны, бестурботны чалавек. У тако́га нядба́ліцы ні па чым сэ́рца ні балі́ць (арф.).

НІПУТНЫ' (непутны́) *прым.* Гл. путны́. Ду́жа ш не́йкі ніпутны́ хло́піц.

НІСУСЬВЕ'ТНЫ (несусве́тны) *прым.* Надта вядомы, якіх мала ёсць на свеце. Звычайна ўжываецца для ўзмацнення адмоўных якасцей, учынкаў чалавека. Ён жа п'я́ніца нісусве́тны, як зь йім мо́жна жыць. Нісусьве́тны гульта́й, абма́нщчык.

НІЧАГУ'СІНЬКА (нічагу́сенька) *прысл.* Форма ацэнкі ад нічо́га. Нічога, зусім нічога. У яе́ ш нічагу́сінька ні было́, як ішла́ за́муш.

НІШЧА'СНЫ (няшча́сны) *прым.* 1. Няшчасны. 2. Ужываецца, каб падкрэсліць, узмацніць нікчэмнасць, пагардлівыя адносіны да каго-небудзь. П'я́ніца ты нішча́сны. Гэ́таму гульта́ю нішча́снаму нічо́га ні на́да.

НО'СКІ [1] *наз.* Форма родн. склону адз. л. ад назоўніка носка. Хвацíла мне ат но́скі снапо́ў.

НО'СКІ[2] *прым.* Моцны, трывалы, які доўга носіцца і не дзярэцца (тканіна, абутак). Та́я руба́шка была́ ду́жа но́ская, а гэ́та — сла́бая.

НО'ШКА *наз., ж., р. -і.* Звязак, груз, які нясуць на сабе. Қап уваліў но́шкі дзьве па́параці ў га́йна (гл.).

НЯГЕ'ГЛЫ *прым.* Нязграбны, слабы, нерухавы, фізічна недаразвіты (пераважна аб дзіцяці). Не́йкая нягéглая дзіця́. Ду́жа нягéглы хло́пчык. Параўн.: Сын Вінцэнт быў нейкі нягеглы. П. Броўка, Калі зліваюцца рэкі, ДВБ, М., 1957, стар. 88.

ПАБО'ЛЬШАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, зак.* Гл. большаць.

ПАВЭ'ДЗГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. вэ́дзгаць. Павэ́дзгаў тро́хі пéчку (пабелкай) і пашо́ў.

ПАГА'ЛІЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, зак.* Гл. га́ліцца. Пага́ліўся на бага́цьця, а цяпéр ла́ду німа́.

ПАДБО'РКА[1] *наз., ж., р. -і.* Падборка, падбіранне (ад падбіраць).

ПАДБО'РКА[2] *мн. няма.* Тонкія бярвенні паміж штандарамі (гл.) у падмурку хаты. Два вазы́ на падбо́рку прывёс.

ПАДВЯРНУ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -еш, перах.* і *без дап., зак.* 1. Павярнуць убок і блізка пад'ехаць (да чаго-небудзь). Қ пу́ні падвярну́ў (падводу) ад дажджу́. 2. Няўдачна загнуць, павярнуць (руку, нагу). 3. Паварочаць, перавярнуць. То́лькі падвярну́лі (сена) — й на́ табé дош.

ПАДГА'ЛЫ *прым.* Тонкі, з падцягнутым жыватом (пра жывёлу). У Йва́на цяпéр падга́лы саба́ка.

ПАДМО'СЬНІК (падмо́снік) *наз., м., р. -а (-у).* Мн. лік падмо́сьнікі· Бярвенні, на якія насцілаюць падлогу ў хаце ці іншым будынку. Параўн.: клаць (кладзь). Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ПАДМО'СЬЦЯ (падмо́сце) *наз., н., р. -я, мн. няма.* Яма пад падлогай (для бульбы, гародніны). По́ўная падмо́сьця насы́палі сёліта (бульбы). Побач ужываецца падпо́лле, яма.

ПАДУ'ЗЫ *наз., р. паду́з(-аў), адз. няма.* Паўшоры. Частка збруі без хамута, якая надзяецца на каня. Побач ужываецца *шляя* (гл.). Параўн.: поду́за ў «Толковом словаре» В. Даля — недоуздок, оброть, шлея.

ПАДЖГА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Гл. джгаць. Му́сіць, у Вішо́ў паджга́ла, нійна́чы.

ПАЖА́ЛІЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, зак.* Гл. жа́ліцца. Схадзі́ла ў Саве́т і пажа́лілася (арф.).

ПАЗА́ДЗЬДЗЯ (паза́ддзе) *наз., н., р. -я, мн. няма.* Дрэннае (лёгкае) зерне з пустазеллем; пры веянні ўручную яно застаецца ззаду, не ляціць далёка. Кура́м с пут паза́дзьдзя ёсь. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре» — пазадкі.

ПАЗБРО́ДАВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Гл. збро́даваць. Пазбро́давалі (дзеці) у града́х.

ПАЗДАРО́ЎКАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Гл. здаро́ўкацца. Прайшоў і ні паздаро́ўкаўся.

ПАЗЕ́МКА *наз., ж., р. -і.* Невялікая мяцеліца ў марознае надвор'е, снег па зямлі пераносіцца ветрам. Цэ́лы дзень пазе́мка.

ПАЙІМШЫ́ЦЬ (паімшы́ць) *дзеясл., -у́, -ы́ш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. імшы́ць. Хаце́лі пайімшы́ць ды не́шта так склада́юць (хлеў).

ПАКА́МІСЬ *прысл.* і *злучн.* Пакуль што, пакуль. Хай пабудзіць (дзіця) пака́мі́сь у нас. Пака́мі́сь завязе́ш (воз гною), я гэ́ты вы́кіну с пу́ні. Ужываецца таксама пакуль што, пакуль.

ПАКАПАНІ́ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, зак.* Гл. капані́чыць. Так дзень пакапані́чыш, што й рук ня чу́йіш.

ПАКАРТАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. картава́ць. Пакартава́лі (карты) й зноў гуля́ць.

ПАКАРЫ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -ы́ш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. кары́ць. Да вясны́ сказа́лі пакары́ць (бярвенне) і спалі́ць кару́.

ПАКЛЫ́ЧЫЦЦА *дзеясл., -чыцца, зак.* Гл. клы́чыць. Ле́ташні (лён) ду́жа паклы́чыўся.

ПАКЛЫ́ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Гл. клы́чыць.

ПАКРЭ́ПНУЦЬ *дзеясл., -е (-уць), неперах., зак.* Гл. крэ́пнуць. Здрантвець, адзервянець, знямець (пра рукі) ад холаду. Так пакрэ́плі ру́кі, што ні атшпілі́ць гу́зіка. Параўн.: агра́бнуць. Губіншчына Чэрыкаўскага р-на.

ПАЛА́НАЧКІ *наз., р. -ак (-каў), адз. няма.* Памянш. ад пала́нкі (гл.).

ПАЛА́НКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Малыя начоўкі, у якіх звычайна палаюць тоўчаныя крупы.

ПАЛА́ХАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Гл. ла́хаць. Тро́хі пала́хаў не́йдзя ды й прыбе́х.

ПАЛЭ́ПАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Гл. лэ́пацы. Палэ́паў у сто́ліку й ні нашо́ў (нажа).

ПАМО́СТ *наз., м., р. -а (-у).* Тое, што і мост (гл. 2).

ПАНТО́ПІЛЬ (панто́пель) *наз., м., р. -пл-я.* Вязаны лапаць з тоўстых пяньковых ці ільняных нітак. Даўно́ ўжо панто́плі ня но́сюць. Параўн.: у «Словаре белорусского наречия» И. Носовича пантопель — туфель (стар. 392).

ПАПІКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Упікаць, дакараць. Ужо́ ско́лькі разо́ў папіка́ў мне гро́шы. Побач ужываецца *папракаць* (гл.), *упікаць.* Параўн.: Ён папікае мяне хлебам, адзежаю... Я. Колас, Зб. тв., т. VI, ДВБ, М., 1952, стар. 367.

ПАПІРА́ШКА *наз., ж., р. -і.* Вялікая ёмкая палка, якой можна моцна ўдарыць. Тако́га каня́ то́лькі папіра́шкай падганя́ць.

ПАПІХА́ЙЛА *наз., агульн., -ы.* Бездапаможны чалавек, што нічога не робіць па сваёй волі, якога ўсюды, дзе толькі трэба, пасылаюць рабіць, «піхаюць». Як жа ш ця́шка жыць с такім папіха́йлам.

ПАПЛЁ́ТА і ПАПЛЕ́ЦІНА *наз., ж., р. -ы.* Тонкая (звычайна абчасаная з аднаго боку) жэрдка, якой прымацоўваецца да лат салома страхі; прывязваецца да лат віткамі. Ні хваціла паплё́т, а так бы дакры́лі.

ПАПРАКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Упікаць, дакараць. Побач з *папіка́ць* (гл.), *упікаць.*

ПАРАКО́НКА *наз., ж., р. -і.* Калёсы з дышлем, у якія запрагаюць пару коней.

ПАРО́НКІ *наз., р. -ак (-к-аў), адз. няма.* Дробная бульба, якая звычайна ідзе на корм жывёле. У се́нцах маро́с паро́нкі прыхваці́ў. Побач ужываецца *свіная бульба, дробная бульба.*

ПАРУКА́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Павітацца за руку. То́лькі парука́ліся й машы́на пашла́. Ужываецца рэдка.

ПАСАБІ́ЦЬ і ПАСО́БІЦЬ *дзеясл., -бл-ю, б-іш, непе-*

*рах.*, *зак.* Дапамагчы. Кап хто пасабіў трохі, то й заўтра п дакапалі (бульбу). Побач ужываецца *памагчы*.

ПАСАБЛЯ́ЦЬ *дзеясл.*, *-ю*, *-еш*, *неперах.*, *незак.* Гл. пасабіць. Німа каму ўжо пасабляць.

ПАСЕ́ЙКІ *наз.*, *р.* *-ек*, *адз.* *няма.* Высеўкі, тое, што застаецца ад прасеянай мукі. Вот добра змалолі — й пасейік мала.

ПАСЬЦІ́ [1] (пасці) *дзеясл.* *Форма загадн. ладу адз. ліку ад пасціць.* Гэта цяпер пастоў німа, а бывала пасьці й усё.

ПАСЬЦІ́ [2] *прысл.* Амаль. Пасьці два гады Шурка прабыў у салдатах. Удвух скасілі пасьці гіктар. Параўн.: руск. почти.

ПАТО́РГАЦЬ *дзеясл.*, *-ю*, *-еш*, *перах.* і *без дап.*, *зак.* Гл. торгаць. Трохі паторгаў (палец) і сьціх.

ПАТРАПЫ́ШЫЦЬ *дзеясл.*, *-у*, *-ыш*, *перах.* і *без дап.*, *зак.* Гл. трапышыць. Гэта проста: разоў дзесіць патрапышыш і навучысься.

ПАТРЭ́П'Я *наз.*, *н.*, *р.* *-я*, *мн.* *няма.* Атрэп'е, валакно, якое збіваецца, ачэсваецца пры трапанні ільну, пянькі траплом.

ПАТТО́ПА (падтопа) *наз.*, *ж.*, *р.* *-ы*, *мн.* *няма.* Дробныя трэскі, паленцы, якімі распальваюць дровы ў печы. Гэта ш трэба, ні ўнісла паттопы ў хату, й дош пашоў. Параўн.: падтопа ў «Словаре белорусского наречия» И. Носовича.

ПАТУПІ́ЦЬ *дзеясл.*, *-пл-ю*, *-п-іш*, *перах.*, *зак.* Апусціць уніз. Ужываецца толькі ў спалучэнні з назоўнікамі вочы, галава ва ўстойлівых словазлучэннях. Стала гаварыць, дык ён патупіў галаву, стаіць і ўсё.

ПАТЫКА́ЦЬ *дзеясл.*, *-ю*, *-еш*, *неперах.*, *незак.* Даравыць за дрэнныя ўчынкі, пакідаць непакараным. Кап ні патыкалі яму ўсігда — лучшы было п.

ПАЎДЗЁ́НКІ *наз.* Час у сярэдзіне дня (у поўдзень), на які ўлетку прыганяюць з поля кароў. Сталі ганяць на паўдзёнкі — і малака (каровы) прыбавілі.

ПАЎМІ́ЦЬ *дзеясл.*, *-мл-ю*, *-м-іш*, *неперах.*, *зак.* Падумаць, уцяміць, зразумець. Саўсім ні паўміла, што цяпер ягрaсту німа.

ПАХА'КАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах.* Гл. ха́каць. Па-ха́каў тро́хі й ўсё.

ПАЦЁ'МАК *наз., м., р. -у.* Цемра, цемната. Часта вы-ступае як прыслоўе. Мае́ (дзеці) дык ня бу́дуць адны́ ў пацёмку сядзе́ць. Ці ш у такі́м пацёмку што ўба́чыш?

ПАЦІРАБІ'ЦЬ (пацерабіць) *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, перах. і без дап., зак.* Гл. цірабіць.

ПАЦЬСІ'ТАК (падсі́так) *наз., м., р. -тк-а.* Частае рэша-та, але радзейшае за сіта.

ПАЦЬСЬЛЁ'ПІСТЫ (падслё́пісты) *прым.* Аб чалавеку з мяшкамі, ацёкамі пад вачамі і вузкімі прарэза-мі вачэй. У чалавека падслёпістага не абавязкова дрэнны зрок. Параўн.: падслепаваты ў «Русско-белорусском словаре».

ПІ'ЛЬНА *прысл.* 1. Пільна, уважліва. 2. Вельмі, надта, дужа. Ні ўсігда́ ш пі́льна гро́шы трэ́ба. Ужо́ пі́ль-на вада́ ня трэ́ба. Побач ужываецца *ду́жа.*

ПІ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Пільны, уважлівы (руск. бдитель-ный). 2. Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам патрэба; пільная патрэба—гэта вялікая, неад-кладная патрэба. Ёсць пі́льная патрэ́ба пагава-ры́ць с табо́й.

ПІРАБО'РКА[1] (пераборка) *наз., ж., р. -і.* Ад дзеяслова перабіра́ць.

ПІРАБО'РКА[2]. Дашчаная перагародка ў хаце. Сё́літа ўжо бу́дзім піраборку ста́віць.

ПІРАДО'ЎКА (перадо́ўка) *наз., ж., р. -і.* Вяроўка, якая прывязваецца за перадок калёс для ўціскання во-за рублём.

ПІРАПЕ'ЧКА (перапе́чка) *наз., ж., р. -і.* Малая бухан-ка хлеба, спечаная гаспадыняй, не ў пякарні. Гля-дзі—за тры дні пірапе́чку зье́ла.

ПІРАСЫ'ПАЦЬ[1] (перасы́паць) *дзеясл., -пл-ю, -еш, пе-рах., зак.* Перасыпаць (у розных значэннях).

ПІРАСЫ'ПАЦЬ[2]. Перабудаваць, паднавіць (што-не-будзь старое: будынак, бочку, цэбар). За гот пі-расы́палі ўсю пастро́йку.

ПІРАСЫПА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Гл. перасы́паць[1], перасы́паць[2]. Зьбіра́лісь сё́літа піра-сыпа́ць (хату) і аткла́лі.

ПІРАХЛЯ'БІСТЫ (перахля́бісты) *прым.* Гл. перахля́-

біцца. Тонкі, з упалымі ад голаду, знясілення бакамі (пра жывёлу).

ПІРАХЛЯ́БІЦЦА (перахля́біцца) *дзеясл., -іцца, зак.* Рэзка патанець ад голаду, знясілення (пра жывёлу). Ду́жа пірахля́біўся (конь) з даро́гі.

ПЛО́ЙМА *наз., ж., р.-ы.* Зборышча, вялікая колькасць чаго-небудзь. Хлапцо́ў цэ́лая пло́йма сабра́лась. Параўн.: Яны (нямецкія бамбардыроўшчыкі) ішлі вялікімі плоймамі. К. Чорны, Раманы і аповесці, ДВБ, М., 1951, стар. 526.

ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Гаварыць лішняе, непатрэбнае (пра што-небудзь), «малоць языком», разводзіць плёткі. Плявузгая на чалаве́ка німаве́дама што.

ПО́ДБІГАМ (по́дбегам) *прысл..* Вельмі хутка ісці, месцамі нават бегчы трушком. Я за йімі ўсё по́дбігам і по́дбігам, аж да Гало́ўчына.

ПО́КЛАТ (по́клад) *наз., м., р. -у (-а).* Яйка, якое пакідаецца ў гняздзе, дзе нясуцца куры.

ПРА́СЛА *наз., н., р. -а.* Частка плоту паміж слупкамі, каламі—ад аднаго (слупка, кола) да другога.

ПРАЦЬ *дзеясл., пяру́, пярэ́ш, перах.* і *без дап., незак.* Ужываецца рэдка. Параўн.: пра́льня, пра́чка. Звычайна пяруць палатно, бялізну, калі яе мыюць на рэчцы і б'юць пранікам. Гэ́та бяльлё трэ́ба до́бра праць, бо зано́шана. Параўн.: праць (у гэтым значэнні). Смародзінка Крупскага р-на, В. Негнавічы Барысаўскага р-на; старажытнаруск. пьрати—давіць, таптаць, мыць; польск. prać—мыць (бялізну).

ПРАЧУХА́НКА *наз., ж., р. -і.* Пераважна ўжываецца ва ўстойлівым словазлучэнні даць прачуханкі—набіць, адлупіць, пакараць за што-небудзь. Кап дава́ў прачуха́нкі, ні былі́ п такі́я ба́лаўныя (дзеці).

ПРО́ЛУПКА (пролубка) *наз., ж., р. -і.* Палонка (на рацэ). Лайно́ (гл.) ў про́лупку й пашло́ з вадо̀й. Параўн.: руск. про́рубь.

ПРО́МІЦЦЮ (про́меццю) *прысл.* Вельмі хутка, імгненна, з рэзкімі рухамі. Ужываецца звычайна з дзеясловамі руху: выскачыць, выбегчы, пабегчы, кінуцца, панесціся і інш. Про́міцьцю вы́скачыў с ха́ты. Параўн.: руск. стремглав.

ПРЫМІРГАВА'ЦЬ (прымеркава́ць) *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Абдумаць, абмеркаваць, як лепш зрабіць; прыкінуць, як прыладзіць, прыладзіцца. Крыва́я паплёціна (гл.), дык ні прыміргава́ць, як палажы́ць.

ПРЫ'СКАКАМ *прысл.* Зрабіць што-небудзь прыскакам —не адразу зрабіць, а адрываючыся ад іншай, асноўнай, больш важнай працы за некалькі разоў. Во́кны й пры́скакам мо́жна аглє́дзіць.

ПРЫСТАВА'ЦЬ *дзеясл., неперах., незак.* Гл. прыста́ць.

ПРЫСТА'ЦЬ[1] *дзеясл., -н-е, неперах., зак.* 1. Прыліпнуць да чаго-небудзь, узяцца. 2. -н-у, -н-еш. Нахабна прычапіцца. Прыста́ў, як сьляпы́ к плóту.

ПРЫСТА'ЦЬ[2]. Знясіліцца, змарыцца, не магчы (ісці, рабіць) ад слабасці. Паку́ль прышла́ зь Вішóва, саўсі́м прыста́ла.

ПРЫ'ЦІМКАМ (пры́цемкам) *прысл.* Змрокам, на змярканні. Ужó пры́цімкам прывязьлі́ дрóвы.

ПУСКА'ЛКА *наз., ж., р. -і.* Складзеная ў дзве столкі (напалам) вяроўка для кідання каменняў. Адзін канец вяроўкі накручваецца на пальцы рукі, другі—моцна прыціскаецца вялікім пальцам. На сярэдзіну вяроўкі кладзецца камень. Вяроўку вельмі хутка раскручваюць і адпускаюць адзін канец. Камень з вялікай сілай ляціць. Параўн.: руск. праща.

ПУСТАМАЛО'Т *наз., агульн., р. -а.* Пустамеля. Той, хто бесперапынна і назойліва гаворыць што-небудзь пустое, непатрэбнае, лішняе.

ПУСТАСЬМЕ'Х (пустасмéх) *наз., агульн., р. -у.* Пра чалавека, які вельмі часта і без прычыны смяецца.

ПУТНЫ' *прым.* Талковы, разумны, здатны, кемлівы. Ліванáрдавы ўсе путны́я хлóпцы. Слóва путнóга ні скáжыць. Нічóга ў ягó путнóга німá.

ПЯРНУ'ЦЬ *дзеясл., -ý, -éш, перах.* і *без дап., зак.* Моцна ўдарыць (чым-небудзь). Му́сіць пасту́х пя́рнуў карóву—ня есь. Гл. праць.

РАДО'ЎКА *наз., ж., р. -і.* Чарга. Па радоўцы пасуць уласных кароў, харчуецца пастух. Кóжны гот па радóўцы пасём (кароў).

РАЖЖЫ'ЦЦА (разжы́цца) *дзеясл., -ýся, -éшся, зак.* 1. Набыць неабходнае, пабагацець. Гады́ за тры й

ражжы́цца мóжна. 2. Здабыць, прыдбаць, знайсці што-небудзь. Усю дзярэ́ўню, быва́ла, або̀йдзіш, паку́ль ражжыве́сься тут хле́ба.

РАЗАГНА'ЦЬ[1] *дзеясл., разганю́, разгóніш, перах., зак.* Разагнаць (у розных значэннях).

РАЗАГНА'ЦЬ[2] *дзеясл.* Разараць (барозны бульбы). Разгóнюць дзьве́ баразе̋нкі, й хóпіць мне на дзень. Таксама ўжываюцца: разара́ць, адагна́ць, наганя́ць, адара́ць.

РАЗБЫРЭ'ЦЬ *дзеясл., -э́ю, -э́еш, неперах., зак.* Стаць разбэшчаным, самавольнікам, непаслухмяным, бестурботным, абыякава адносіцца да справы. Саўсі́м ужó разбырэ́ў хлóпец і нічóга не хóча памага́ць (арф.).

РАЗГАНЯ'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Гл. разагна́ць (1, 2). Сабра́ўся ўжо разганя́ць бу́льбу.

РАЗГО'ЎТАЦЦА ~~*дзеясл.*~~, *-юся, -ешся, зак.* Не хацець спаць, выбіцца са сну, ~~не~~ ў пару прачнуўшыся (звычайна ў начны час). Другі́ рас разгóўтаюсь і ня сплю́ паўнóчы.

РАЗЛУ'ЧНІК *наз., м., р. -а.* Мужчына, які быў жанаты, але разлучыўся з жонкай. За не́йкага разлу́чніка вы́йшла ў гóрат (замуж). Параўн.: у руск. мове разлучник—человек, разлучивший близких между собой людей (Толковый словарь русского языка, под ред. Д. Н. Ушакова).

РАЗЛУ'ЧНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Жанчына, якая разлучылася з мужам.

РАЗЛУЧЫ'ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -ышся, зак.* 1. Разыйсціся ў розныя кірункі, расстацца, не быць разам. 2. Скасаваць шлюб. Тот пажылí й не́шта разлучы́лісь (муж з жонкай). Ужываюцца таксама: разыйсціся, разве́сціся.

РАЗО'РВАЦЬ *дзеясл., -аю, -аеш, перах.* і *без дап., незак.* Разорваць плугам (барозны бульбы). Побач ужываецца *разганя́ць* (гл. 2), *ганя́ць* (гл. 2).

РАЗЬБЕ'ГАЦЦА (разбе́гацца) *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Не́шта разьбе́гаўся ся́ньня брыгадзі́р.

РА'ШКА (ра́жка) *наз., ж., р. -і.* Невялікая драўляная пасудзіна, падобная на цэбар. Звычайна ў ражцы замешваюць яду свінням, яе выкарыстоўваюць для вады. Ра́шку бу́льбы зье́лі (свінні) за дзень. Ужываецца (радзей) *шайка.* Параўн.: Штодзень

тры разы́ бу́льбы ў ра́жцы даю́ць яму́ (свінчу)... К. Крапіва, Зб. тв., т. I, ДВБ, М., 1956, стар. 103.

РАЗЯ́ПІЦЬ *дзеясл., -пл-ю, -п-іш, перах., зак.* Разявіць (рот), шырока раскрыць (дзверы, акно). Гл. зя́па. Наво́шта дзьве́ры разя́пілі? Пра чалавека (нядобрага). I ён свой рот разя́піў (гаворыць дрэннае, абы-што).

РАСКУЛЯШЭ́ЦЬ *дзеясл., -е, неперах., зак.* Зрабіцца, як кулеш (растварыцца, разварыцца). Раскуляшэ́ла зацірка. Зварылася ўжо (бульба), аш раскуляшэ́ла.

РАСТАРА́ЦЦА (расстара́цца) *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Набыць, прыдбаць, знайсці (пераважна пазычыць што-небудзь). Растара́лася тро́хі гро̀шы ў людзе́й (г. зн. пазычыла). Дзьве́ до́скі на ра́мы растара́ўся ў Анто́ся. У гэтым значэнні таксама—разжыцца (гл. ражжыцца[2]).

РАСХРЫСТА́НЫ *дзеепрым.* ад расхрыста́ць (гл.). Куды такі расхрыста́ны пойдзіш? Параўн.: Вецер з бору цалуе расхрыстаныя грудзі. П. Броўка, Зб. тв., т. II, ДВБ, М., 1957, стар. 179.

РАСХРЫСТА́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Гл. расхрыста́ць. Раскрыцца, расхінуцца, расшпіліцца (аб зашпіленай сарочцы, каўняры, паліто). Параўн.: расхліста́цца. Слабада Уздзенскага р-на, Куцаўшчына Капыльскага р-на, Комлеўка Клецкага р-на, Падлужжа Слуцкага р-на, Тошчыца Быхаўскага р-на, Каравацічы Рэчыцкага р-на.

РАСХРЫСТА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Расхінуць, расшпіліць (аб зашпіленай сарочцы, каўняры, паліто). Расхрыста́ў руба́шку і йдзе́ць па ву́ліцы—яму́ гэ́та краcíва.

РАСЬЦІРАБІ́ЦЬ (расцерабíць) *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, перах., зак.* Высячы (хмызняк, дробныя дрэўцы), ачысціць ад іх дарогу, лінію. Зьнясьлí ў грут дро́вы й даро́гу расьцірабíлі: пад'е́хаў—і на вос кладзí.

РАСЬЦІРА́БЛІВАЦЬ І РАСЬЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Гл. расьцірабíць. Пасла́лі двух расьцярэ́бліваць даро́гу.

РАСЬЦЯРО́БЫ (расцяро́бы) *наз., р. -аў, адз. няма.* Зарослая хмызняком плошча, на якой высечаны

лес. Дзьве́ но̀чы за́пар на расьцяро́бах начава́лі (начлежнікі з коньмі).

РО'ЙІЦЦА (роіцца) *дзеясл., -іцца, незак.* Уяўляцца, здавацца; такі стан, калі не спіцца, назойлівыя думкі не даюць спакою, мяняюцца адна за адной. Ся́ньня (гл.) мне ўсю ноч ро́йлась абы-што́.

РУКА'ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Гл. парука́цца. Ні хацёў да́жа зь йім рука́цца.

РУ'ЧЫ *прым.* 1. Дарослы, працаздольны, які можа на сябе зарабіць. Цяпе́р лёхка Ахрэ́му (жыць): усе́ дзе́ці ўжо ру́чыя. 2. Моцны, спрытны чалавек. На стох падава́лі два ру́чыя хло́пцы—й астано́ўкі ні было́.

РЭ'ЗЬНІК (рэ́знік) *наз., м., р. -а.* Аладка квадратнай формы, спечаная з хлебнага цеста. К сьнідáньню й рэ́зьнікі до́бра, бо сьве́жыя. Параўн.: перапе́чка. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

РЭ'СКА[1] (рэ́зка) *прысл.* Рэзка. Ду́жа рэ́ска ён сказа́ў мне.

РЭ'СКА[2] *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Дробна парэзаная на сячкарні салома, якая ідзе на корм жывёле. Каро́ва ду́жа ня хо̀чыць рэ́скі е́сьці. Ме́х рэ́скі пазы́чылі на сьвя́та.

РЭ'СКА[3] *наз., ж., р. -і.* Вузкая палоска поля (пераважна лугу). Прыгрысі́ўку падзялі́лі на рэ́скі й скасі́лі. С сваёй рэ́скі ўзяў до́бры вос (сена).

РЭЦЬ (рэдзь) *наз., ж., р. -і.* Па сэнсу адпавядае словам раз, крат. Скласці вяроўку ў дзве рэдзі — скласці ў дзве столкі.

СА'ЛЬНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Невялікая бочка для сала. Ле́тась до́брага закало́лі—по́ўную са́льніцу накла́лі то̀лькі са́ла.

СА ПЛАЧО'М *прысл.* З плачам, плачучы. Пра свайіх дзяце́й са плачо́м раска́звала. Параўн.: про̀плач у «Дыялектным слоўніку» Ф. Янкоўскага.

САЎСІ'М і СУСІ'М *прысл.* Зусім. Ні хачу́ саўсі́м к йім хадзі́ць. Сусі́м ужо́ аслабе́ла. Параўн.: Ну, пачаў так, што я і саўсім нічога не разумею. Я. Скрыган, Скажы адно слова, ЛІМ ад 3/X 1959.

САЧЫ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -ыш, перах.* і *без дап., незак.* Наглядаць, назіраць (звычайна за курыцай, дзе будзе несціся). Хоць паўдня́ сачы́ла (курыцу), алі (гл.) дзіся́так яе́ц знашла́.

САША′ *наз., ж., р. -ы́.* Шаша. Камéньня на сашу́ вазілі цэ́лы гот. Дôўга на сашэ́ ажыда́лі машы́ны.

САЮ′СКА (саюзка) *наз., ж., р. -і.* Скура, якая пры рамонце абутку нашываецца на перад, насок бота. Пірады́ былí слабы́я— саю́скі даў.

СЕ′МІНКА (сéменка) *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Насенная бульба. Трóхі йішчэ́ асталóсь сéмінкі. Побач *насéнка* (гл.).

СІВЕ′Ц *наз., м., р. -ўц-у́.* Жорсткая лугавая трава, якая звычайна расце на пясчаных месцах. На Піскáх тóлькі сівéц і расьцéць. С паўвóза сіўцу́ адбіў (накасіў). Параўн.: Ужо каса мая Прытупілася: Не бярэ сіўцу, Замарылася (Я. Купала, Выбр. тв., 1946, стар. 332); ціпец. Глускі р-н, Капаткевіцкі р-н; пясьсю́к. Чарное Горацкага р-на.

СІЛКО′М *прысл.* Сілаю, прымусам, гвалтам. Ні хацéў ісьці́, дык сілкóм прывялі́. Сілкóм ні застáвіш éсьці.

СКА′ПКА (скáбка) *наз., ж., р. -і.* Стрэмка. Загнáла ў пáліц скáпку, цяпéр нарвáў. Радзей ужываецца стрэ́мка.

СКА′ПАЧ *наз., м., р. -а.* Прылада з двума (ці трыма) загнутымі зубамі, якой скідаюць (скопваюць) гной з воза. Зьбéгай прынясí скáпач. Забы́ўся скáпач і рукáмі ськідаваў (гной). Параўн.: скóпавіч, крук. Трасцяніца Барысаўскага р-на; скóпіч. Вязычын Асіповіцкага р-на.

СКАРАСЬПЕ′ЛКА (скараспéлка) *наз., ж., р. -к-і.* Тое, што і спéшка (гл. 2).

СКЛЕ′ЗІНЬ (склéзень) *наз., м., р. -зн-я.* Пра слабую, худую (звычайна маладую) істоту. Сéліта дык склéзьня нéйкага цялíла (карова).

СКУЛІ′ЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, законч.* Зваліцца (кулём) адкуль-небудзь. Рас дык сь пéчы скулíўся (хлопчык). Таптáла вос і скулíлась на зямлю́.

СЛО′ЙІК (слóік) *наз., м., р. -а.* Невялікая шкляная банка ці гліняны гладышык. У слóйіку вадá нáнач стайíць.

СО′БІЦЬ *дзеясл., безасаб.* Звычайна ўжываецца форма сòбіла—*безасаб. у значэнні выказніка.* Трапілася, выпала, здарылася. Як табé сóбіла гэ́та? Так разрэ́заў нагу́. Дзе ш гэ́та сóбіла вам дастáць машы́нку?

СО'ПКІ *прым.* Рассыпісты. Аб бульбе, якая ўтрымлівае многа крухмалу, разварваецца, а таксама аб яблыках, грушах. Сóпкую бýльбіну й так мòжна зьéсьці. Вот сёліта сóпкая нáша бýльба.

СО'ТКА[1] *наз., ж., р. -і.* Плошча, роўная адной сотай гектара. Па сóрак сóтак за дзéнь скасíлі.

СО'ТКА[2]. Ужываецца ў фразеалагічным словазлучэнні *надаваць (даць) сотак,* што азначае пакаранне: правесці вялікім пальцам, моцна прыціснутым да галавы, супроць валасоў, «пад шэрсць». Ля кóні (на паставе), бывáла, і сóтак надаю́ць, калí не прынясéш дроў ці не адвéрнеш кòні (арф.).

СПРА'ВІЦЬ *дзеясл., -ўл-ю, -в-іш, перах.* і *без дап., зак.* 1. Зрабіць, арганізаваць. Хлóпцы спрáвілі пращчáльны вéчар. 2. Купіць, набыць. Зарабíў дóбра й спрáвіў сабé касьцю́м. 3. Ужываецца ў значэнні пачаць, рабіць. Дзéці спрáвілі такí крык, што нічóга ня чýтна.

СПРА'ЎДЗІЦЦА *дзеясл., -іцца, зак.* Здзейсніцца, збыцца, ажыццявіцца. Гавары́лі, што нéмцу ў нас ня быць,—янó й спрáўдзілась. Рэ́тка якí сон спрáўдзіцца.

СТАРГАВА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Дамовіцца, згадзіцца аб цане пры куплі-прадажы. Ужó старгавáлі хáту ў Лямнìцы.

СТАЎБУ'Н *наз., м., р. -á.* Ужываецца ў параўнальных канструкцыях. Аб тым, хто стаіць і замінае, перашкаджае. Стаў лі вакнá, як стаўбун, і стаíць. Параўн.: стаўбýн (рыба) у «Дыялектным слоўніку» Ф. Янкоўскага.

СТО'ЙЛА *наз., н., р. -а, мн. няма.* Стаіць на стойле жывёла (звычайна каровы) у хляве ў зімовы перыяд. Як стáнуць (каровы) на стòйла, дык сéна скóра паéдзіць.

СТО'ЎПІЦЦА *дзеясл., -іцца, зак.* Гл. тòўпіцца. Стóўпілісь лі дзьвярэ́й—ні прайсьцí.

СТРАПЫ'ШЫЦЦА *дзеясл., -ыцца, зак.* Стачыцца, знасіцца (аб трапышцы). За сінакóс саўсíм страпы́шылась (мянташка).

СТРУ'ШАНКА *наз., ж., р. -і.* Сена і салома, змешаныя (стрэсеныя) разам. Параўн.: З катуха, у які мы кідалі Падласцы трасянку з саломы і сена, мне ўжо не вельмі цяжка было дабірацца да бэлькі.

Я. Брыль, Дзеля сапраўднай радасці, 1952, стар. 306.

СТЫКА́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся.* Заставацца, знаходзіцца, быць дзе-небудзь. Звычайна ўжываецца з адмоўем не. Нікòлі не стыка́еццa до́ма—усё бе́гае не́йдзе (арф).

СУВО́Й *наз., м., р. -я.* Вяроўка, якой падплятали лыкавыя лапці.

СУ́ПРАТКІ (су́прадкі) *наз., -ак (-каў), адз. няма.* Збірацца на супрадкі—сходзіцца ў адну хату прасці, вязаць. К нам усё на су́пратки зьбіра́лісь.

СУР *наз., м., р. -у, мн. няма, зб.* Смецце. Ужываецца і смецце, але сур мае больш шырокае значэнне. Кап хоць су́ру яко́га вы́віс пад бу́льбу. Атку́ль то́лькі гэ́ты сур бярэ́цца? Параўн.: шме́ццяя. Трасцяніца Барысаўскага р-на; руск. сор.

СЬВЕТ (свет) *наз., м., р. -у.* 1. Свет (у розных значэннях). 2. Ужываецца ў значэнні надта многа, безліч. Е́халі, дык лі бра́мы не́шта сьвет людзе́й сабра́лась.

СЬКІ́БА (ськíба) *наз., ж., р. -ы.* Тое, што і скіпка (гл.).

СЬКІ́ПКА (скíбка) *наз., ж., р. -і.* Луста (хлеба). Ні галóдны: до́брую ськíпку хле́ба з ма́слам зьеў.

СЬКІРТА́ (скірта́) *наз., ж., р. -ы́.* Сціртa (дроў, снапоў). Адна́ ськірта́ сухíх (дроў) асталàсь. Параўн.: руск. скирда; вярста́ (толькі дроў). Трасцяніца Барысаўскага р-на.

СЬКІСЬЛІ́ЦЬ (скісліць) *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Звычайна пра малако. Побач—*сква́сіць.*

СЬЛІ́БА *злучн.* Ужываецца пераважна з часціцай толькі ў значэнні: хіба толькі, калі толькі, магчыма. Сьлìба тòлькі ён сам прые́дзіць, тады́ й зьбіра́цца ня трэ́ба. Гро́шы-то яму́ даць мо́жна, сьлìба то́лькі ні захо́чыць вазíцца.

СЬПЕ́ШКА (спе́шка) *наз., ж., р. -і.* 1. Ад дзеяслова спяша́цца. У спешцы і партфель забыўся ўзяць. (арф.). 2. Гатунак ранняй бульбы, якая скора расце, спее. За ву́ліцай тро́хі сьпе́шкі (бульбы) пасадзілі. Ужываецца таксама скарасьпе́лка (гл.).

СЬПІРВА́ *прысл.* Спярша, спачатку. Рука́ сьпірва́ ні бале́ла, а цяпе́р ні падня́ць.

СЬПІЧА́К *наз., м., р. -а́.* Завостраная костка ці цвёрдая

сухая палачка, пры дапамозе якой падплятали лапці.

СЬЦЯЛЕ'ЖЫЦЦА *дзеясл., -ыцца, зак.* Сарвацца, здзецца са шворна (аб калёсах). Абярну́ўся вос— і калёсы сьцялёжылісь. Біз падгэ́рца мо́гуць сьцялёжыцца.

СЮДО'Й *прысл.* Ужываецца сюды і сюдой, але з рознымі значэннямі. Ісці сюдой—г. зн. ісці ў пэўны пункт, але праз гэта месца, тут, гэтым шляхам. Такім чынам, ісці сюдой—г. зн. ісці не толькі сюды і спыніцца, але і далей куды-небудзь. По́йдзем сюдо́й—так бліжэ́й бу́дзе (арф.). Сюдо́й нільзя́ хадзі́ць: тут засе́йіна. Му́сіць, сюдо̀й дзе́ці ла́зюць у сат. Параўн.: ...не ішлі сюдой ні нашы адыходзячы, ні немцы. Я. Брыль, Нёманскія казакі, М., 1947, стар. 24.

СЯ'НЬНЯ *прысл.* Сёння, сягоння. Ся́ньня ўдзень быў схот. То́лькі ся́ньня й пачу́ла, што ра́дзіва право́дзюць.

СЯСТРУ'ХА *наз., ж., р. -і.* Дваюрадная сястра. На міну́тку к сястру́сі забіга́ла. Ужываецца таксама дваюрадная сястра.

ТАРГАНУ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -е́ш.* Гл. то́ргаць (1). Зачапіла шчы́пцамі ко́рань (зуба) і як таргану́ла. Конь таргану́ў—і біто́н зваліўся.

ТАЎХА'ЛЬ *наз., м., р. -я́.* Штуршок, удар (рукой у спіну). Надава́ў яму́ таўхалёў і вы́гнаў с ха́ты. Палучы́ў таўхаля́ ў сьпіну́.

ТВАНЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Гразкае, балоцістае месца, у якім можна ўгразнуць. Ля рэ́чкі така́я твань, што ні прайсьці. Убілась (карова) ў твань і ня вы́лізіць.

ТЛУМІ'ЦЬ *дзеясл., -мл-ю́, -м-іш, перах.* і *без дап., незак.* Дурыць, празмерна дакучаць непатрэбнай гаворкай, шумам. Тлумі́лі ўсю ноч галаву́. Ён тлумі́ў, што пае́дзіць не́куды.

ТО'РГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* 1. Цягнуць не роўна, а рыўкамі. Ты ш ня то́ргай, а до́бра цягні́. Ня бу́дзім так то́ргаць, а то мно́га ні́так парвём (выцягваючы кросны). 2. Адчуванне болі праз аднолькавыя прамежкі часу (з пульсам), звычайна, калі ўтвараецца нарыў. Па́ліц ўсю ноч то́ргаў, ні дава́ў спаць.

ТО́ЎПІЦЦА *дзеясл.*, *-іцца*, *незак.* Стаяць вялікім натоўпам, гурбой, без парадку.

ТРАПЫ́ШКА *наз.*, *ж.*, *р.* *-і.* Брусок з драўлянай ручкай, якім востраць касу. Трапы́шкі дык са́мі дзе́лалі — міша́лі цэ́мінт сь пяско́м.

ТРАПЫ́ШЫЦЬ *дзеясл.*, *-у*, *-ыш*, *перах.* і *без дап.*, *незак.* Вастрыць касу (трапышкай). Параўн.: Касцы расходзяцца па гаку, Як бы ідуць яны ў атаку, І жыва менцяць свае косы. Я. Колас, Зб. тв., т. IV, ДВБ, М., 1952, стар. 215.

ТРОХРО́ШКА (трохро́жка) *наз.*, *р.* *-і.* Вілкі з трыма рагамі. У пу́ні ліваро́т трохро́шку вазьмі́. Ужываецца таксама трохро́шкі.

ТРЫСЬЦІНА́ *наз.*, *ж.*, *р.* *-ы́.* Тонкая пласцінка ў бёрдзе.

ТУДО́Й *прысл.* Ужываецца туды і тудой, але гэтыя словы маюць розныя значэнні. Ісці тудой — г. зн. ісці ў пэўны пункт (туды), але праз тое месца, тым шляхам, там, абышоўшы што-небудзь (тудой). Такім чынам, «туды» можна трапіць «тудой». Машы́ны цяпе́р е́зьдзюць тудо́й, ціраз кана́ву, паку́ль тут мост пачы́нюць. Параўн.: Тудою ўвосень 1915 года ўцякалі з паласы фронта сяляне з зямлі Горадзенскай і Віленскай. З. Бядуля, Зб. тв., т. IV, ДВБ, М., 1953, стар. 85.

ТУК *наз.*, *м.*, *р.* *-у*, *мн.* *няма.* Тлушч, які выдзяляецца пры смажанні сала. Памака́ю ла́ткі ў тук і ў пе́чку к абе́ду. Мой хазя́йін дык мох ло́шкай тук е́сьці. Параўн.: Сама ж любіш, нябось, мяска І аладкі мазаць тукам? Я. Колас, Вершы, ДВБ, М., 1946, стар. 145.

ТУЧНЫ́ *прым.* Ад тук (гл.). Ужываецца толькі з назоўнікам сала. Хле́бам жа (мукой) кармі́лі, а са́ла не́шта ня ту́чная. Ту́чнага (сала) яно́ й менш расхо́дзіцца.

ТЭЙ *займ.*, *р.* *тога* *(таго).* Той. Тэй жа нічо́га ні сказа́ў і пашо́ў.

УБО́ЙНА *наз.*, *агульн.*, *р.* *-ы.* Упарты, лянівы, наравісты, непаслухмяны (пра чалавека, жывёлу). Малы до́бры быў, а цяпе́р такі́ ўбо́йна стаў. Гэ́ту ўбо́йну (каня) й пу́гай ні падго́ніш. Параўн.: убо́йна. Панкратаўка Горацкага р-на, Кіцін Парыцкага р-на.

УБУ́ХАЦЦА *дзеясл.*, *-юся*, *-ешся*, *зак.* Увайсці, залезці

глыбока (у снег, гразь, ваду). Ста́лі наўспрамі́к (гл.) ісьці́ й убу́халісь у цалі́к (гл.) па кале́на.

УВАРЫ́ЦЦА *дзеясл., -ыцца, зак.* Вельмі добра зварыцца. Го́ра біз зубо́ў: як мя́са ні ўва́рыцца, дык ні магу пажва́ць. Уварыўся гаро́х, аш раскуляшэ́ў (гл.).

УГРУ́НЬ *прысл.* Хутка, шпарка, шыбка. Ужываецца з дзеясловам бегчы (бегаць, пабегчы і інш.). Со́нца ста́ла цямне́ць (пра сонечнае зацьменне), дык мы с Пухо́ўшчыны (урочышча) угру́нь бе́глі дамо́й. Ужываецца таксама *наўгру́нь* (гл.).

УГРЭ́Й *наз., м., р. -э́ю, мн. няма.* Месца, дзе надта прыграе сонца. С угрэ́ю й памідо́ры смашне́йшыя. Німа́ ўгрэ́ю — гуркі́ ні расту́ць.

УДА́ЎНІЦЦА *дзеясл., -іцца, зак.* Надта доўга зацягнуцца (пра што-небудзь, што даўно было, адбывалася). Тро́хі хварэ́ў до̀ма й ду́маў, што ста́ніць лу́ччы. А цяпе́р ўда́ўнілась і наўра́т ці вы́лічуць. У судзе́ сказа́лі, што ду́жа ўда́ўнілась і ня бу́дуць судзі́ць.

УДЖЫГНУ́ЦЬ і ЎДЖГНУ́ЦЬ *дзеясл., -е, перах.* і *без дап., зак.* Гл. джыгнуць. Адна́ такі́ й уджыгну́ла (пчала).

УЖАЛЕ́ЛЫ *прым.* Пра страву, якая ўжале́ла (гл.). Мае́ (дзеці) лю́бюць ужале́лую бу́льбу.

УЖАЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -е, неперах., зак.* Задужа, вельмі ўварыцца, упячыся, усмажыцца. Ужалець (аж стаць жоўтай) можа смажаная бульба ў вельмі гарачай печы. Накры́ла бу́льбу скаварадо́й і паста́віла да́лі (далей), кап до́бра ўжале́ла к абе́ду.

УЗЬМЕ́ЖЫК (узме́жак) *наз., м., р. -жк-а.* Бакавая частка, край шырокай мяжы (на агародзе). Узмежак звычайна зарастае травой. І на ўзьме́шку ёсць травы́ — на паватку́ мо́жна папа́сьвіць (карову). Ужываецца побач з *абмежак.*

УЗЯ́ДЗІНА *дзеепрым.* Узята. Се́на ўзя́дзіна зь бярэ́ма (гл.). Ба́чу, што ўзя́дзіна тро́хі бу́льбы.

УКЛІПА́ЦЦА (укляпа́цца) *дзеясл., -пл-юся, -п-ішся, зак.* Абазнацца, памыліцца, прыняць чужога чалавека за свайго знаёмага. Хаце́ла ўжо загавары́ць зь йім, ды ба́чу, што ўкліпа́лась. У паце́мку й укліпа́цца ня шту́ка. Параўн.: укля́пацца ў Дзятлаўскім, Рудзенскім раёнах.

УЛО́НІ *наз., р. -ей (-яў), адз. няма.* Улонне. Узяць на ўлоні — узяць на калені, на ногі (калі чалавек сядзіць). Сагрэўся хлапе́ц і на ўло̀нях заснуў. Як узіла́ на ўло́ні—і сьці́хла (дзіця). Параўн.: руск. лоно.

УМЫКНУ́ЦЬ *дзеясл., -ý, -е́ш, неперах., зак.* Хутка і незаўважна знікнуць, уцячы. Куды́ ён умыкнýў ацьсюль, ніхто́ й ні ба́чыў. Калі́ ні ўмыкне́ць ку́ды, то пасо́біць (гл.) піране́сьці (бульбу).

УНА́ДЗІЦЦА *дзеясл., -дж-уся, -дз-ішся, зак.* Прывучыцца, узяць моду, звычку часта і назойліва наведвацца (куды-небудзь). Як уна́дзілісь ку́ры ў ячме́нь, дасьпе́ць ні да́лі.

УПЕ́РАК *прысл.* Упоперак. Лёх упе́рак пасьце́лі й сьпіць. Упе́рак ні скарадзілі се̂літа. Ужываецца таксама *ўпо́перак.*

УПЛІКНУ́ЦЬ *дзеясл., -ý, -е́ш, неперах., зак.* Сцёбнуць (чым-небудзь тонкім, гнуткім, напрыклад, пугай, бізуном, дубцом). Друго́му (каню) ўплікну́ць трэ́ба лі сядзе̂лкі. Уплікну́ў разы́ два пу́гай. Гл. ушпілі́ць.

УСКАПАНІ́ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Гл. капані́чыць. Ускапані́чыла адну́ гра́тку й ўжо прыста́ла.

УСПА́ЦЦА *дзеясл., -пл-ю́ся, -п-ішся, неперах., зак.* Моцна заснуць. Так успа́лісь, што й ня чу́лі, як граза́ была́. Што за хло́піц: як усьпі́цца — ні разбудзі́ць.

УТО́ЎПІЦЦА *дзеясл., -пл-юся, -п-ішся, зак.* Змясціцца, улезці. Сабра́лі парціза́ны схот, і столькі людзе́й прышло́, што ня ўто́ўпілісь ў ха́ці. У адну́ ськірту́ (гл.) чуць уто́ўпілісь (дровы). Гл. то́ўпіцца.

УШПІЛІ́ЦЬ *дзеясл., -ю́, -іш, неперах., зак.* Ужываецца побач з уплікнуць (гл.). Ляні́ваму (каню) ня ўшпі́ліш — ні пабяжы́ць.

ХА́КАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Часта, цяжка дыхаць. Учо́ра ўжо быў сла́бы — чуць ха́каў. Аж ха́кае (сабака) ад жары́ (арф.).

ХАЛАДЗЯ́НКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Халодная вада ў лазні. Цэ́бар халадзя́нкі нанасі́лі. Біс халадзя́нкі на палку́ ня ўсе́дзіш.

ХЛОП[1]. *Выклічнікава-дзеяслоўная форма.* Кры́шка хлоп і закры́ла яго (ката́).

ХЛОП[2] *наз., м., р. -а.* Клан, пыж. Скрутак пакулля, ваты, паперы, якім забіваюць зарад у паляўнічай стрэльбе. Аш хлоп задыміўся. Хлоп с па́кульля. Параўн.: ... паляўнічыя кладуць у патрон ватныя пыжы. «Звязда» за 26/IX 1959.

ХРА'ПНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, зак.* Імгненна зламаць (зламацца). Хра́пнуў частаке́ціну (гл.) ды ў яго́ (сабаку). Сук хра́пнуў — і скале́чыўся хлапе́ц.

ХТО'КАЛА *наз., агульн., р. -ы.* Той, хто пытае пра што-небудзь, хоць да гэтага і сам мае непасрэднае дачыненне; звычайна ўжываецца ў дыялагах.— Хто разьбіў стака́н? — Хто́кала (г. зн. той, хто пытае). Ужываецца таксама *хто̀цкі* (гл.).

ХТО'ЦКІ *наз., агульн., р. -ага.* Тое, што і хто́кала (гл.).— Хто ні прачыта́ў кнішкі? — Хто́цкі.

ХУ'КАЛКІ і ХУ'КАЎКІ *наз., -ак (-ав-ак).* Клубы пару з роту пры нізкай тэмпературы. У ха́ці ху́калкі — тапіць трэ́ба.

ХУ'КАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, незак.* Выдыхаць цёплае паветра праз складзеныя ў трубку губы; напрыклад, хукаюць у рукі, калі ім холадна. Вада́ зо́лкая (гл.) — то́лькі ху́кайіш у ру́кі.

ЦАЛІ'К *наз., м., р. -а́, мн. няма.* Снег (звычайна глыбокі), па якім не працёрта дарога. Цалі́к па бру́ха каню́: йдзе́ць-йдзе́ць і ста́ніць. Усю́ даро́гу цалі́к.

ЦАПУ'-ЛАПУ' *прысл.* Хутка і абы-як, не прадумана (рабіць што-небудзь). Сьпірва́ (гл.) сядзіць ру́кі скла́ўшы, а по́сьлі ўжо цапу́-лапу́. Цапу́-лапу́ — й сабра́лась.

ЦАЎЁ' *наз., н., р. -я́.* Ручка ў некаторых прыладах. Разьміша́ла со́ду цаўё́м (ложкі). Асталі́ся то́лькі вілкі з сукава́тым цаўё́м (арф.).

ЦЕ'ПІРСІ (це́перся) *прысл.* Даўно, дужа доўга. Ха́ты йішчэ́ ні зрубіў, а це́пірсі ўзяў лес. Це́пірсі жджом цябе́. Параўн.: Ці цеперся носіцца Юзік з сваім намерам. К. Крапіва, Выбр. тв., М., 1947, стар. 206.

ЦІКАВА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах.* і *без дап., незак.* Уважліва сачыць, пільнаваць, наглядаць. До́ўга цікава́ў у кутку́ й — цап! (кот злавіў мыш). Цікава́лі за йім — і папа́ўся.

ЦІРАБІ'ЦЦА (церабіцца) *дзеясл., -бл-юся, -б-ішся, незак.* 1. Часацца, чухацца. Пірад дажджо́м ку́ры

цярэ́бюцца. 2. Гл. цірабі́ць (1). Яло́вая вяршы́на ця́шка цярэ́біцца. Але часцей: яло́вую вяршы́ну ця́шка цірабі́ць.

ЦІРАБІ́ЦЬ (церабі́ць) *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, перах.* і *без дап., незак.* 1. Высякаць (хмызняк), ачышчаць (верхавіну ад сучча, капусту ад лісця). Мікала́й і ле́тась кусты́ на лагу́ цірабі́ў. 2. Часаць, чухаць. Што ты ўсё сваю́ сьпі́ну цярэ́біш? 3. Лупцаваць, біць. Запе́рлі ў се́нцы й дава́й там цірабі́ць (сабаку). 4. Перан. Рэзка гаварыць, выказвацца (звычайна крытыкаваць). Сьпірва́ ні хацеў выступа́ць, а по́сьлі й стаў пра́ўду ў во́чы цірабі́ць. Параўн.: церабіць у «Русско-белорусском словаре»; теребъ у «Толковом словаре» В. Даля — росчист из-под кустарника, зарослей.

ЦІШКО́М *прысл.* Ціха, крадком, незаўважна. Цішко́м прыхадзілі дамо́й (з лесу). Другі́ цябе́ цішко́м уку́сіць.

ЦУГЛЯ́НКА *наз., ж., р. -і.* Аброць з цуглямі.

ЦУ́РКА *наз., ж., р. -і.* Самая малая колькасць (чаго-небудзь). Хаця́ п цу́рка дроў была́ — й то не. Ні цу́ркі се́на ўжо німа́.

ЦЯЖО́К *наз., м., р. -жк-а́.* Пастронак. Тады́ й цішка́ ні было́ ш чаго́ зьвіць.

ЦЯХ (цяг) *наз., м., р. -а.* Мн. лік цягі. Тое, што і цяжо́к (гл.). Увіза́ў вос ця́гам.

ЧАЛЕ́СЬНІК (чале́снік) *наз., м., р. -а (-у).* Пярэдняя частка печы, дзе дым выходзіць у комін. Ніскі чале́сьнік. У чале́сьніку вы́сьміх (гл.) суп. Параўн.: чале́шнік. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ЧАРЭ́НЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Верхняя частка печы (блізка каля коміна), якая найбольш награецца. На чарэ́ні як ба́чыш вы́сыхлі (яблыкі). Параўн.: чэ́рань. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ЧАСТАКЕ́Т *наз., м., р. -у (-а).* 1. Плот, пляцень з тонкіх сукоў, прутоў. Аснова плота (тры жэрдкі, прыбітыя да слупкоў — унізе, уверсе і пасярэдзіне) пераплятаецца сукамі (пераважна яловымі), прутамі (альховымі, бярозавымі). Сьнех ро́ўны ш частаке́там. Сядзі́ць (сарока) на частаке́ці й шчабе́чыць. 2. Сучча, пруты, якімі гародзяць плот. Націрабілі з вос яло́вага частаке́ту. У гэтым значэнні ўжываецца частако́л (гл.).

ЧАСТАКЕ́ЦІНА *наз., ж., р. -ы.* Сук, прут (з плота). Частакéцінай апіразáў (гл.). Нівóднай частакéціны за зімý ні прапáла. У гэтым значэнні ўжываецца частакóліна (гл.).

ЧАСТАКО́Л *наз., м., р. -у (-а).* Тое, што і частакéт (гл.). Ужó саўсíм згніў частакóл.

ЧАСТАКО́ЛІНА *наз., ж., р. -ы.* Тое, што і частакéціна (гл.).

ЧАСЬЦЯКО́М (часцякóм) *прысл.* Часта. Часьцякóм лі Йвáна (ляснік) стайіць машына. Нáша (дачка) часьцякóм прыхóдзіць з Магілёва.

ЧУНЬ *наз., м., р. -я.* Адз. лік ад чуні (гл.).

ЧУНІ́ *наз., р. -ёў (-ей).* Лапці, сплеценыя з тонкіх вяровак, а таксама сшытыя са скуры. Чуні біс калóткі ні спляцéш. Пяньковыя чуні дóўга насіліс. Цяпер такога абутку не носяць.

ЧЫКІРДА́ *наз., ж., р. -ы́.* Тое, што і кавілá (гл. кавіла[2]), казá (гл. каза[2]).

ЧЫ́МСЯ *злучн.* Чым. Звычайна ўжываецца ў складаным сказе. Чы́мся стóлькі ажыдáць, лýччы самóй схадзіць. Лýччы саўсíм быць біз гаспадарá, чы́мся с такíм мушчы́нам. Ужываецца таксама *чым.*

ШАРУ́Н *наз., м., р. -ý (-á), мн. няма.* Цвёрды покрыў на снезе, які звычайна ўтвараецца пасля адлігі. Крэ́пкі шарýн—на кані мóжна éхаць. Зімóй у шкóлу па шарунý хóдзюць. Параўн.: шарпак, шарон у «Русско-белорусском словаре».

ШАРУНО́К *наз., м., р. -нк-á, мн. няма.* Памянш. ад шарýн (гл.).

ША́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., незак.* Гл. апшáрыць. Шáрылі ўсю́ды.

ШВЕ́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Швачка, краўчыха. Луччы німа быць швейкай. Дóбрай швéйцы ўсігдá нясýць (шыць). Побач ужываецца *партніха.*

ШВЭ́НДАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Хадзіць без асаблівай патрэбы, бадзяцца, цягацца. Чужы́я хлапцы́ пад вéчар тут швэ́ндаліс—мýсіць, йіх гэ́та рабóта. Параўн.: Цэлую раніцу не было чаго рабіць. Сімон швэндаўся па двары. Э. Самуйлёнак, Будучыня, ДВБ, М., 1947, стар. 55.

ШКО́ДА[1] *прысл. у значэнні выказніка.* Шкада. Хáту прадавáць ўсё шкóда.

ШКО́ДА[2] *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Псаванне, пашкоджанне, страта. Ста́да ў лес, а йіна̀ (карова) наза́т і ў шко̀ду, у клёвір. Чые́ п то парася́ты сто́лькі шко́ды надзе́лалі?

ШКУТ *наз., м., р. -а́.* Невялікі кавалак, абрэзак, шматок тканіны. Шкут ат ко́фты аста́ўся. Са шкуто́ў мо́жа што й шшыю.

ШКУТО́К *наз., м., р. -тк-а́.* Памянш. ад шкут (гл.). Ко́жны шкуто́к хава́ю.

ШКУ́ЦЬЦЯ *наз., н., р. -я, зб.* Рыззё, абноскі, абрэзкі. Шку́цьця сабра́лась мно́га. У шку́цьці чулкі́ знашла́.

ШЛІЯ́ (шляя́) *наз., ж., р. -і́.* Паўшоры. Ужываецца побач з *паду́зы* (гл.).

ШЛУ́НЬНЯ (шлунне) *наз., н., р. -я., адз. няма.* Ужываецца звычайна ў праклёнах, а таксама калі выказваецца гнеўнае абурэнне на каго-небудзь, хто сваімі дзеяннямі «выцягнуў шлунне» (з другога) — выматаў сілы, выцягнуў вантробы. Кап зь яго́ шлу́ньня павыця́гавала. За ме́сіц усё шлу́ньня зь мяне́ вы́цігнуў.

ШНЫ́РЫЦЬ *дзеясл., -ыш, -ыць, неперах., незак.* Хутка хадзіць, аглядаць адно месца за другім, каб знайсці што-небудзь. Шны́рылі пат ко́жным ку́сьцікам (шукалі баравікоў).

ШТАНДА́РА *наз., ж., р. -ы.* Кароткая, тоўстая шула (звычайна дубовая ці сасновая). Штандары ўкопваюцца ў зямлю, і на іх ставіцца будыніна, печ. Во́сім штанда́р пат ха́ту прывязьлі́. Штанда́ра (пад печчу) асе́ла — й ко́мін трэ́снуў.

ШУ́ПІК *наз., м., р. -а.* 1. Варанае яйка з пабітай шкарлупой. Шу́пікам у біткі ні гуля́юць. 2. Перан. Слабое што-небудзь. А ўжо шу́пік у яго́, а ня се́рца.

ШЧАГЛА́ *наз., ж., р. -ы.* Журавель (студні). Шчагла́ ро́ўная зь лі́пай. Усё згарэ́ла, й шчагла́ (у вайну). Параўн.: у «Толковом словаре» В. Даля, щегла — дерево, бревно, лесина, лестница в одно бревно; шчагла́—Лубяны Бялыніцк. р-на, Зарэчча Шклоўск. р-на; шчогла—Зубава Бялыніцк. р-на. У іншых раёнах мае розную назву: **ПРУГЛО́** (Труханавічы, Падлужжа Слуцк. р-на, М. Грозава Капыльск. р-на, Жабін Старобінск. р-на), **КО́-**

**ВАРАТ** (Куцаўшчына Капыльск. р-на, Мервіны Клецк. р-на), **СТРАЛА′** (Кіцін Парыцк. р-на, Бабровічы Глуск. р-на, Жаралец Бярэзінск. р-на), **ЖУРАВЕ′ЛЬ** (Дамашкі Бярэзінск. р-на, Лукі Карэліцк. р-на), **ЖУРО′Ў** (Загорцы Радашковіцк. р-на), **ВАГ** (Сакаўшчына Валожынск. р-на), **ВА′ГА** (у Горацкім і Уздзенскім р-нах), **АСВЕ′Р** (Чаркасы Докшыцк. р-на, Паставы, Глыбоцкі, Мядзельскі р-ны), **ПЕРАСВІ′Р** (Негнавічы Барысаўск. р-на), **СВІ′РШНЯ** (Бакшты Юрацішк. р-на).

ШЧА′ВІЛЬ (шча́вель) *наз., м., р. -ўл-ю.* Шчаўе. Цяпе́р дык се́юць шча́віль.

ШЧАПА′ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Калоць, рашчэпліваць (дрэва). Удву́х рэ́залі, адзі́н — шчапаў (дровы). Ужываецца таксама *кало́ць, біць* (гл.).

ШЧО′ПКІ *прым.* Тое, што і бо́йкі (гл. бойкі[2]). Пра дрэва, якое лёгка і роўна шчапаецца, колецца. Калі́ шчо́пкая е́лка, коп шэсь за дзень дасі́ (зробіш гонты).

ШШЫ′ЦЦА (сшы́цца) *дзеясл., -ецца, зак.* Пакрыцца, зацягнуць чым-небудзь паверхню. До́брая мя́са — жыр аш шшы́ўся (на паверхні жыдкай стравы).

ШЫ′ПКА[1] (шы́бка) *наз., ж., р. -і.* Шыба (шкло). Дзве шы́пкі дзе́ці разьбі́лі. Ні шы́пкі цэ́лай ні астало́сь. Ужываецца таксама *шы́ба.*

ШЫ′ПКА[2] *прысл.* Шпарка, хутка. А ўжо шы́пка пабе́гчы ні магу́, як быва́ла. Шы́пка е́халі: за які́х підзіся́т міну́т й до́ма.

ШЫ′ЦІК *наз., м., р. -а.* Рэмень. У йіх дык і рэ́мінь, і шы́цік. Побач з *рэ́мень.*

ШЭ′РАНЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Іней (у марознае надвор'е). Вот красі́ва, як усё ў шэ́рані! Параўн.: Надышлі марозы, Рэчкі закавалі, Белыя бярозы Шэранем убралі. Я. Колас, Вершы, ДВБ, М., 1946, стар. 35; йінь. Трасцяніца Барысаўскага р-на.

ЯДО′МКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Адборная, лепшая бульба, якая ідзе на харчава́нне чалавека. Пад масто̀м (гл.) ядо́мкі ёсь пудо́ў дзе́сіць.

Я′ДРАНА *прысл. у значэнні выказніка.* Аб пагодзе: холадна, суха і ясна (на небе). Пад ра́ніцу я́драна ста́ла. Ся́ньня цяпле́й адзіва́йся—на дварэ́ я́драна.

Я́драна і ўлётку бывáе (арф.). Параўн., руск. **вёдро.**

Я́ДРАНЫ[1] *прым.* Гл. я́драна. Хоць бы гуркí ні памéрзьлі—дýжа я́драная ноч. Параўн.: руск. ведренный.

Я́ДРАНЫ[2] *прым.* Якасны, добры—буйны, поўны (пра каласы, зярняты), сочны, свежы (пра яблык). Пшаніца на гумнíшчы (гл.), густáя, я́драная. Жы́та вы́расла, алí ні я́драная—кóлас малы́. Параўн.: Жыта на лядзе ўрадзіла небывалае. Высокае, ядранае, як кукуруза. Я. Шарахоўскі, Першы заробак, ЛІМ за 13/VI 1959.

Я́ЛЧЭЦЬ *дзеясл., -е, неперах., незак.* Рабіцца ёлкім (гл.). Вóкарак ужó ялчэ́ць пачáў.

* * *

АДНО́ ВО́КА ТАЎЧЭ́, А ДРУГО́Е МЕ́ЛЕ (арф.). Звычайна гавораць пра надта быстрага, жулікаватага чалавека.

АДНЫ́ (ТО́ЛЬКІ) КО́СЬЦІ АСТАЛІ́СЯ. Зусім худы, высахшы, толькі косці тырчаць.

АДСАДЗІ́ЦЬ НЯЛЁ́ГКІЯ (арф.). Збіць да смерці, страшна пакалечыць.

АЖ НОС У ПРЫ́СЯДКІ ГУЛЯ́Е (арф.). Гавораць пра таго, хто з вялікім апетытам, надта стараннa есць.

АНІ́ ВУ́ХАМ НЕ ВЯДЗЕ́ (арф.).

АТ ТАКО́Й (ГЭ́ТАЙ) ЯДЫ́ ДА ПАРО́ГУ ХАДЫ́.

БАКІ́ ПАРВА́ЦЬ (РВА́ЦЬ). Усé там бакí парвáлі ат сьмéху.

БІЦЬ ЛЫ́НДЫ. Бадзяцца, швэндаць, хадзіць без справы. Цэ́лы дзéнь нéйдзя бíў лы́нды. Гл. лы́нды.

ВЫ́ГНАЦЬ ДУ́РЫКІ. Правучыць, «выгнаць» дрэннае, кепскае.

ВЫ́КАПАНАЯ МА́ЦІ. Вельмі падобная да маці.

ВЫ́КАПАНЫ БА́ЦЬКА. Вельмі падобны да бацькі.

ВЫ́ЦЯГНУЦЬ ШЛУ́НЬНЯ. Усé шлýньня вы́цягнуў зь мянé. Гл. шлýньня.

ВІСНА́ ВО́ЧЫ КРА́ДЗІЦЬ (УКРА́ЛА). Параўн.: Мяккая пярына вочы адбірае. Я. Колас, Вершы, ДВБ, М., 1946, стар. 35; вочы адбірае. Клетнае Глускага р-на.

ДАВА́ЦЬ ДАВА́Ў, ДЫ З РУК НІ ПУСКА́Ў.

ДАЦЬ ПРАЧУХА́НКІ. Набіць, пакараць. Гл. прачýханка.

ДО́ХЛАЯ НАПА́ЛА. На йіх (свінней) се́літа не́йкая до́хлая напа́ла.

ЗА ЛЕ́НЬНЮ Й ЗАПАТО́ЧЧА НІ ВІДА́ЦЬ. Пра надта лянівага, гультаяватага чалавека. Гл. запато́чча.

ЗА ШТО БІ́ЛІ, А ЗА ГЭ́ТА ХВАЛІ́ЛІ. Звычайна кажуць жартам ці з іроніяй на таго, хто вельмі стаDанна есць.

ЗУП ГАРЫ́ЦЬ. Зайздросна, гледзячы на што-небудзь прывабнае, прыгожае.

ЗЯЛІ́ЦЬ (АЗЯЛІ́ЦЬ) ГАЛАВУ́. Ніха́й малы́я зе́люць галаву́, а то й гэ́тыя йішчэ́ крычàць. Гл. зялі́ць, азялìць.

ІДЗЕ́ СЛІ́СКА, АЛІ ДНО БЛІ́СКА. Вельмі смачнае, але мала. Ужываецца ў пераносным значэнні.

І КРО́ШКІ ПАДАБРА́Ў (ПАДАБРА́ЛА). Вельмі падобны (падобная) да каго-небудзь з блізкіх родных (да бацькі, маці). Ўве́сь ба́цька—і кро́шкі падабрàў (арф.).

ІСЬЦІ́ З ГО́ЛЫМІ (ПУСТЫ́МІ) РУКА́МІ. Не по́йдзеш жа на вясе́лле з пусты́мі рукàмі (арф.).

КАМУ́-КАМУ́, А МНЕ (яму, ёй, табе, ім) ДВА КАМУ́. Мне (яму, ёй, табе, ім) давядзецца (давялося) больш узяць на сябе цяжару, турбот, клопату, чым іншым.

КАРО́ТКІ ЗАВАРО́ТКІ. Мала, не хапае сілы, здольнасці, сродкаў (зрабіць што-небудзь).

КУПІ́ЛА ПРЫТУПІ́ЛА. Няма або зусім мала грошай для набыцця чаго-небудзь.

КУПІ́Ў—НІ ЗГУБІ́Ў.

КУПІ́Ў—НІ ПРАПІ́Ў.

НАВУЧЫ́ЦЬ НА ПЕНЬ БРАХА́ЦЬ. Навучыць дрэннаму, непрыстойнаму.

НАДАВА́ЦЬ У КАРШЭ́НЬ. Набіць, адлупцаваць. Гл. каршэнь.

НА ДВАРЭ́ ЧЭ́РЦІ ЖЭ́НЯЦЦА (арф.). Вельмі дрэнная пагода: страшэнная завіруха, вецер, снег.

НЕ ГО́ЛЕНА, ДЫК СТРЫ́ЖАНА (арф.).

НІ ДАВА́ЦЬ ЗБЫ́ТУ. Не даюць (хлопцы) збы́ту з гэ́тым веласіпе́дам (арф.). Гл. збыт (2).

НІ ДАВА́ЦЬ ПРАХО́ДУ. Бесперапынна турбаваць, назойліва дамагацца чаго-небудзь.

НІ СПУСКА́ЦЬ ВАЧЭ́Й. Уважліва сачыць, назіраць.

НІ СПУСКА́ЦЬ ЗЬ ЯЗЫКА́. Вельмі часта гаварыць аб адным і тым жа.

НЯ СТО́ЛЬКІ ПО́МАЧЫ, ЯК НЕ́МАЧЫ. Не столькі дапамагае, як перашкаджае, нават шкодзіць.

НІКО́МУ НІ Ў ША́ПКУ. Незалежна ні ад каго, ні перад кім шапкі не знімаць. Купілі сваю́ медаго́нку— цяпе́р ніко́му ні ў ша̀пку (арф.).

НІ СВА́ТА, НІ БРА́ТА. Няма ні сваякоў, ні блізкіх знаёмых.

НІ ЦУ́РКІ. Нікольki няма (дроў, сена, саломы). Гл. цурка.

НО́СІЦЦА, ЯК ПІ́САНАЯ ТО́РБА.

НЯМА́ ЧЫМ ЗУ́БА ВЫ́КАЛУПАЦЬ. Ані няма яды.

ПАСЬМІЯ́ЎСЯ ПЛЯШЫ́ВЫ Ш ШАЛУДЗІ́ВАГА.

ПРЫ́ДЗЕ КО́ЗА ДА ВО́ЗА (арф.). Напамін, папрок таму, хто абыякава аднёсся, не выканаў якой-небудзь просьбы,—і яму так адкажуць.

СТАЙІ́ЦЬ, ЯК СТАЎБУ́Н. Хаця́ п зварухну́ўся — стайі́ць, як стаўбу́н. Гл. стаўбу́н.

ТЛУМІ́ЦЬ ГАЛАВУ. Гл. тлумі̀ць.

ТРЭ́БА, ЯК Е́СЬЦІ.

ТУГІ́ НА АДДА́ЧУ. Таму́ й пазыча́ць ніхто́ ня хо́чыць, што ён тугі на адда́чу.

УЛЕ́СЬЦІ З ВУША́МІ (У ДАЎГІ́).

УЛЕ́СЬЦІ ПА ВУ́ШЫ (У ДАЎГІ́).

УСЁ ТАБЕ́ (яму, ёй, ім) НІ СЛА́ВА БО́ГУ. Незадаволенасць, ніяк не дагадзіць, унаравіць.

ХАДЗІ́ЦЬ КАНДЗІБО́БІРАМ. Ня бу́дзіць цяпе́р хадзі́ць кандзібо́бірам. Гл. кандзібо́бір.

ХОЦЬ ВА́РУ ПАД ЯГО́ ЛІ. Надта моцна спіць. Не разбудзіць—хоць ва́ру пад яго́ лі (арф.).

ХОЦЬ ВАЎКО́Ў ГАНЯ́Й. Пра вялікую халодную хату. У тако́й ха́ці хоць ваўко́ў ганя́й.

ХОЦЬ ДРО́ХКА, ДЫ НАГА́М ЛЁ́ХКА.

ХОЦЬ ПА́ЛКАМІ БАРАБА́НЬ. Пуста ў хаце, няма мэблі.

ХОЦЬ ПУ́ЗА РАСЬПІРАЖЫ́. Удосталь, колькі хочаш, многа.

ЦІРАБІ́ЦЬ ПРА́ЎДУ Ў ВО́ЧЫ. Адкрыта, смела гаварыць у вочы праўду.

ЦЭ́ЛАЯ ГО́РА.

ЦЭ́ЛАЯ НІШЧА́СЬЦЯ.

ЦЭ́ЛАЯ БІДА́. З гэ́тымі кура́мі цэ́лая біда́—ле́зуць у гра̀ды.

ЧО́РТ ВЕ́РУ ЎКРА́Ў. Пра манюку, якому ніхто не верыць.

ЯК БА́ЧЫШ. Вельмі хутка. Як ба́чыш напіса́ла пісьмо̀ (арф.).

ЯК ПЛЮ́НУЦЬ. Нічога не азначае, без ніякіх цяжкасцей. Яму́ ш ку́рыцу засе́ч—як плю́нуць.

ЯК ПРА́З ЗЯМЛЮ́ ПРАВАЛІ́ЎСЯ. (арф.). Прапаў, знік.

ЯК ПРАТО́НУЎ.

ЯК У ПРО́ЦЬМУ (ідзе). Ско̀лькі ўжо чаго́ ні дава́лі—усё́ як у про́цьму ідзе́ (арф.).

ЯМУ́ (ёй, ім, табе) ГАВАРЫ́, А ЁН ДАГАРЫ́. Насуперак гаварыць, рабіць (адмыслова ці па прычыне недакладнага разумення).

*М. РАЛАВЕЦ*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ПУСТАСЕЛЛЕ[1]

АДО́НАК *наз., м., р. -нк-а.* Зроблены з колікаў, палак і галля насціл, на якім складаецца (кідаецца) сена ў стог. Адо́нак на́да крэ́пкі ро̀біць, кап ні згніло́ се́на.

АЗЯРЫ́НА *наз., ж., р. -ы.* Шырокае і глыбокае месца на рацэ. Дава́й закі́нім (сетку) яшчо́ ў гэ́ту азяры́ну.

А́ЙІР. *наз., м., р. -у, мн. няма.* Аер. Як мамы́йіш падлогу, пакідай айі́р, кап па́хла ў ха̀ці. Параўн. у гэтым значэнні ў П. Панчанкі: «...Як ластаўка гняздо старанна лепіць і як шчупак ў затоне ломіць аір...» (Выбр. тв., 1956, стар. 52).

АКАЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -е́-ю, -е́-еш, неперах., зак.* 1. Вельмі замерзнуць. Ня сто́й, то́пай нага́мі, а то акале́йіш. Сагрэ́цца ш німа́ дзе. 2. Вульгарн. Памерці, здохнуць. Хай той акале́йіць, хто вайны́ тэй хо́чыць.

АКАЛО́Т *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* Снапы (сноп) жыта, абмалочаны з большага ўручную, каб не сцерці саломы. На́да навыбіра̀ць куле́ў с акало́ту ды хле́ў накры́ць.

АЛЕ́ШНІК *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* 1. Зараснік з дробных алешын. У але́шніку малі́ны зьбіра́лі. 2. Альхо́выя дровы. Прыве́с вос але́шніку.

АЛІ́ *злуч.* Але. Хоць ро̀стам вялі́кі, алі́ ро́зуму ма́ла.

АПО́ЎЗЛАЯ *прым.* Ужываецца ў спалучэнні з назоўні-

[1] Вёска Пустаселле ўваходзіць у Докшыцкі раён Віцебскай вобласці.

кам *жаба*. Спалучэнне «апоўзлая жаба» абазначае нікчэмнасць.

АСЕ'ЛІЦА *наз., ж., р. -ы.* Гароды, размешчаныя на вільготнай глебе воддаль ад вёскі. На аселіцы звычайна расце капуста, часам і каноплі. Параўн.: аселіца і сяло, сяліба. Схаджу наламлю капусьніку ў аселіцы. Параўн.: Вятры Табуны белагрывыя гоняць Па бяскрайніх прасторах Сцюдзёных палёў і аселіц... П. Панчанка, Выбр. тв., 1956, стар. 46. Я бадзяўся каля аселіц Да вячэрняй зары (Там жа, стар. 185).

АСПАДНІ'ЦА *наз., ж., р. -ы.* Спадніца. Аспадніца ў яе лоўкая.

АСТУПІ'ЦЦА *дзеясл., -пл-юся, -ішся, зак.* Адыйсці ў бок ад святла (ад акна), якое раней закрываў сабою. Аступіся ат вакна́, а то стаў, як за́сланка, нічо́га ня ві́дна.

АТВЕ'ДАЦЬ (адве́даць) *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Наведаць, праведаць каго-н.

АТВЕ'ТКІ *наз., толькі ў мн.* Наведанне жанчыны, якая нядаўна нарадзіла дзіця; адведзіны. Зьбіра́юся ў нядзе́лю схадзіць у атве́ткі к Ната́льлі. Ў атве́тках была́.

АТГА'НІЦЬ (адга́ніць) *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Ганячы, адгаварыць рабіць што-н. Хаце́ла купі́ць тэй маце́рыйі, алі мне атга́нілі.

АТКВІЦІ'ЦЬ *дзеясл., -іць, неперах., зак.* Згубіць апетыт да якой-небудзь стравы. Даюць дзіця́ці ўсё ма́нку ды ма́нку, дзі́ва што атквіці́ць.

АТО'ЖЫЛАК *наз., м., р. -а.* Сцябло расліны ў самым пачатку яго развіцця не з зерня, а з кораня. Дуп пусьці́ў ато́жылкі.

АТМА'ЛКУ *прысл.* З маленства, з малых год. Ён у мяне атма́лку такі́ запа́длівы.

АТО'ПАК *наз., м., р. -пк-а.* Зношаны абутак.

АТСТРО'ЙІЦЬ (адстро́іць) *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Адбудаваць. Шко́лу атстро́йілі.

АШКЫ'РА *выкл.* Ашкы́ра (на авечак) у хлеў. Шкы́ра куды́!

БАБІ'НКІ *наз., толькі ў мн.* Пачастунак, гулянка, якая спраўляецца бацькамі з выпадку нараджэння дзіцяці. Калі́ ро́дзіцца дзіця́, у нас спача́тку спраў-

ляюць бабінкі, тады́ атвéткі, а пóсьля ўжо—хрэ́зьбіны.

БАГУ'НЬНІК (багу́ннік) *наз., м., р. -у, мн. няма.* Расліна з непрыемным пахам, якая расце на балоце. Ад багу́ньніку забалéла галава́. Дзе дурніцы растуць, там і багу́ньнік.

БАДЗЯ'ЦЬ *дзеясл., -я́-ю, -я́-еш, перах., незак.* Неахайна адносіцца, насіць (адзенне, абутак). Чаму́ ты так бадзя́йіш нóвую сукéнку? Ні бадзя́й так ша̀пку!

БАДЗЯ'ЦЦА *дзеясл., -я́-юся, -я́-ешся, незак.* 1. Валяцца (аб рэчах). Па ўсé́й ха́ці бадзя́йіцца адзéжа, хóць бы прыбра́ла. 2. Хадзіць дзе-н., куды-н.; хадзіць без мэты. Параўн. у гэтым знач.: «Студэнты, салдаты, чыноўнікі—хто там пытаўся, адкуль яны і навошта бадзяюцца?» Я. Скрыган, Апавяданні, Мінск, 1956, стар. 50.

БАРДЖЭ'Й *прысл.* Вышэйшая ступень ад хутка. Форма звычайнай ступені не ўжываецца. Барджэ́й ідзí.

БАРСЬНІ' *наз., р. -ёў, адз.* барсень. Лапці, звязаныя з пяньковых вяровачак. Зараз не носяць. Даўнéй, бывáла, зімóй тóлькі ў барсьня́х і хадзѝлі. Да́жа на йгры́шча ў барсьня́х хадзíлі.

БАЦЬВІ'НЬНЯ (бацвíнне) *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* 1. Бурачныя сцябло і лісце. Бацьвíньня дóбрая парасло́. 2. Страва, звараная з бацьвіння.

БІСЬПІРАСТА'НКУ (беспераста́нку) *прысл.* Бесперапынна, безупынна. Дзіця́ крычы́ць бісьпіраста́нку дзень і ноч, ня вéдайім, што рóбіць.

БЛЫ'НДА і БЛЭ'НДА *наз., аг., р. -ы.* Той, хто ходзіць, бадзяецца без справы, без працы.

БЛЫ'НДАЦЬ і БЛЭ'НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бадзяцца, хадзіць без справы, без працы. Дзе ж гэ́та ты блы́ндаў цэ́лы дзéнь?

БО'ЙКА *наз., ж., р. -і.* Драўляная пасуда, вузкая і высокая (у выглядзе бочачкі), у якой робяць (б'юць) масла.

БРАЦЕ'НЬНІК (брацéннік) *наз., м., р. -а.* Дваюрадны брат. Мой брацéньнік прыйіжджа́ў. Ужываецца і дваюрадны брат.

БЫ'ЛЬЛЯ (бы́лле) *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Пер'е цыбулі. Гóрача, дык бы́льля ў цыбу́лі ста́ла сòхнуць.

БЯРНО' *наз., н., р. -á.* Бервяно. Параўн. у П. Панчанкі:

«Хто на лаву сеў, а хто на бёрны...» (Выбр. тв., 1956, стар. 235).

ВАЗО'Н *наз., м., р. -а.* Хатняя расліна. Параўн.: «...усё ў кутках і за вазонамі ахутаў паўзмрок...» І. Шамякін, Пошукі сустрэчы, Полымя, № 11, 1959, стар. 35.

ВАНДЗЭ'ЛАК *наз., м., р. -а.* Звязак якіх-н. прадметаў. Ніда́ўна тут прайшла́ кабе́ціна з вандзэ́лкам у рука́х.

ВАЎЧЫ'НЫ *прым.* Непрыгодны да яды, ядавіты (аб грыбах ці ягадах). Нямо́жна е́сьці гэ́тыя я́гады, яны́ ваўчы́ныя.

ВЕ'ТРЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Ачышчаць збожжа ад пылу і смецця, сыплючы зверху тонкай струёй; смецце зганяецца ветрам у бок, а збожжа сыплецца ў якую-н. пасудзіну ці на пасцілку. Сяго́ньня паўдня́ ве́трыла жы́та.

ВЕ'Я *наз., ж., р. веі, мн. няма.* Завіруха. Куды́ ты по́йдзіш у таку́ю ве́ю?

ВІ'РЛЫ *наз., толькі ў мн., зняважл.* Вочы. Вы́таращчыў ві́рлы сва́е.

ВІРО'К *наз., м., р. -рк-а́.* Невялічкая палачка з пракручанай дзіркай усярэдзіне, куды працягваецца нітка; пры дапамозе вірка навіваюць ніткі. Віро́к злама́ўся.

ВІРХАВО'ТКА[1] (верхаво́дка) *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Вада, якая ідзе на рацэ паверх ільду. Ужо́ вірхаво́тка пашла́, ціраз раку́ ні прае́дзіш.

ВІРХАВО'ТКА[2]. Рыба, якая трымаецца звычайна ў верхніх слаях вады.

ВІСЛАВА'ЦЬ (веслава́ць) *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, неперах., незак.* Гнаць вяслом лодку. Віслава́ў про́ціў цячэ́ньня, дык замары́ўся.

ВО'СІЦЬ (во́сець) *наз., ж., р. -і.* Будынак, у якім сушаць і мнуць лён.

ВУ'НЬДЗІКА (ву́ньдзека) *прысл.* Вунь дзе. Ву́ньдзіка пашо́ў той чалаве́к.

ВЫ'БАРСАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Выцягнуць з абутку (бацінка ці лапця) шнурок ці абору.

ВЯРЭ'НЯ *наз., аг., р. -і.* Някемлівы, мешкаваты чалавек, няўдалы.

ГАЛАРУ'Ч *прысл.* Без рукавіц, з голымі рукамі. Ня йдзі́ галару́ч, надзе́нь іспо́ткі.

ГА′НІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах., незак.* Нядобра выказвацца, гаварыць (пра што-н., каго-н.).

ГАРЛА′Ч *наз., м., р. -á.* Збан. Гарлáч разьбіўся.

ГАРЛА′ЧЫК[1] *наз., м., р. -а.* Памянш. ад гарлач (гл.).

ГАРЛА′ЧЫК[2]. Жоўтая кветка, якая расце ў рацэ. Кветка і лісце яе знаходзяцца на паверхні вады. Гарлáчыкаў нарвáла дзяцё́м.

ГАРО′Т (гарóд) *наз., м., р. -а.* Палавіну гарóда засадзíла пасóльлю.

ГАЦІ′ЦЬ *дзеясл., -чý, -ціш, перах., незак.* 1. Закідваць яму, топкае месца. Хадзíлі грэ́блю гацíць. 2. Марна пускаць, марна траціць (на каго-н. што-н.).

ГНЕ′ВАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Крыўдзіцца. Ня гнéвайся на мянé, я ні вінавáта.

ГРО′ЗЬБА *наз., ж., р. -ы.* Пагроза. Я й прóзьбай, я й грóзьбай, а ён усірóўна сваё́ прáвіць.

ГРУ′ПКА (грýбка) *наз., ж., р. -і.* Печка, звычайна ў чыстай палавіне хаты.

ГРЫМЕ′ЦЬ *дзеясл., -мл-ю, -м-іш, неперах., незак.* 1. Грымець. 2. Пераноснае. Крычаць, лаяць, бушаваць, абвінавачваць. Ён кóжны вéчар грымíць грóмам на ўсíх у хáці.

ГУКА′ЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Гаварыць. Ні пірабівáй, калí відзіш што лю́дзі гукáюць.

ГУКА′ЦЬ[2] і гýкаць. Клікаць (каго-н. у лесе). Гукні (гýкні) яго.

ГУТАТА′ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Гушкацца, калыхацца.

ДАДУШЫ′. *Выклічнік тыпу* далі-бог: Дадушы, ён казаў гэ́та. Дадушы́, гэ́та праўда.

ДО′БРЫЦА *наз., ж., р. -ы.* Добры, правы бок (тканіны, адзежы), адваротны знайніцы (гл.). У гэ́тай мацéрыйі ця́шка пазнáць, дзе дóбрыца, а дзе знáйніца.

ДРАНІ′ЦЫ *наз., адз. драні́чына.* Невялікія сасновыя дошчачкі, якія не пілуюць, а «дзяруць», падобна лучыне (гл.), шчапаюць. Драніцамі звычайна крыюць дах. Драні́цамі бýдзім хлеў крыць. Параўн. у гэтым значэнні: «И панъ не казалъ никому... в лесе драницъ драци», 1534 г. (М. Г. Булахаў, Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы.

ДРАЧ[1] *наз., м., р. -á.* Птушка.

ДРАЧ [2]. Блін, спечаны з дранай бульбы. На сьнéданьня драчóў напіклá.

ДРА́ЧКА *наз., ж., р. -і.* Тарка.

ДРЫВО́ТНЯ *наз., ж., р. -і.* Месца на дварэ, дзе рэжуць дровы, колюць іх і г. д. Тапóр на дрывóтні застáўся.

ДУРО́НІК *наз., м., р. -а.* Той, хто дурэе.

ДУРО́НЫ *прым.* Свавольны. Суседаў сын нáтта ш дурóны.

ДУРЫ́ЦЬ *дзеясл., -ý, -ыш, перах., незак.* Песціць, балаваць. Бýдзіш так дуры́ць сынкá, дык дабрá ат яго ні дажджэ́сься.

ДЗІРКА́Ч [1] (дзяркáч) *наз., м., р. -á.* Птушка драч.

ДЗІРКА́Ч [2]. Зношаны венік. Дзіркачóм шаравáла падлóгу.

ДЗЮБА́ТЫ *прым.* З доўгім вострым носам (пра чалавека). Тут ужó нéйкі дзюбáты прыхóдзіў, пытáўся.

ДЗЯВУ́ЛЬЛЯ *наз., ж., р. -і.* З адценнем знявагі. Маладая дзяўчына, падростак. Такóй дзявýльлі і на рабóту ў калхóс парá п хадзíць, а йінá ўсё сядзíць дармаéдам у бáцькавай хáці.

ДЗЯ́ГА *наз., ж., р. -і.* Пояс са скуры. Дзя́гу нóвую купíў.

ДЗЯ́ДЗІНА *наз., ж., р. -ы.* Дзядзькава жонка. Дзя́дзіна зь дзя́цькам прыхóдзілі.

ДЗЯНЬНІ́К *наз., м., р. -á.* Месца на двары, куды ссыпаюць смецце. У гэтым знач. ужываецца і *шуметнік* (гл.).

ДЗЯ́ЦІЛІНА (дзя́целіна) *наз., ж., р. -ы, зб., мн. няма.* Дзікая расліна, нагадвае канюшыну. У вайнý зьбірáлі дзя́ціліну, сушы́лі, таўклí і пяклí зь яе пірапéчкі. Пчóлкі лётаюць па дзя́ціліні.

ЖЫЛЯ́ЦЦА *дзеясл., -я́юся, -я́ешся, незак.* Напружвацца, рабіць намаганні, сіліцца. Ні жыля́йся напрáсна, усірóўна адзíн ні падніміш.

ЗАВЁ́РТКА *наз., ж., р. -і.* Вялікая цёплая хустка. Дóбрую завёртку купіла сабé.

ЗАЗІ́МАК *наз., м., р. -а.* Снег (веснавы, асенні), які бывае нядоўга (некалькі дзён), а потым растае. Часам зазімкам называюць рэзкае моцнае пахаладанне. Вяснóй бывáюць тры зазíмкі: на пупýшку, на лягýшку й на кукýшку.

ЗА́КРУТКА *наз., ж., р. -і.* Зачыні дзьве́ры на за́крутку.
ЗАЛЕ́ТАСЬ *прысл.* Два гады назад. Гэ́та зале́тась было́.
ЗАЛО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Мужава сястра. Мая зало́ўка за́муш выхо́дзіць. Нізаму́жняя зало́ўка—друга́я сьвякро́ўка (прык.).
ЗА́ПАР *прысл.* Раз за разам без перапынку. Два разы́ за́пар зье́зьдзіў у лес.
ЗАПЕ́ЧАК *наз., м., р. -чк-а.* Месца каля печы, дзе размешчаны пол і палаці.
ЗАПІ́САВАЦЦА (запісвацца) *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* 1. Запісвацца. 2. Рэгістравацца (пра шлюб). Мікала́й зь Нінай пашлі́ ў сільсаве́т запі́саваццa.
ЗАСТУПА́ЦЦА [1] *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Выступаць у абарону каго-н. Німа́ чаго́ заступа́цца за яго́.
ЗАСТУПА́ЦЦА [2]. Закрываць сабою святло (ад акна). Адыйдзі́ ат вакна́, а то заступі́ўся, нічо́га ні віда́ць.
ЗАТАЎСЬЦЕ́ЦЬ (затаўсце́ць) *дзеясл., -е́-ю, -е́-еш, неперах., зак.* Зацяжараць.
ЗАЦІ́ШАК *наз., м., р. -шк-у, мн. няма.* Месца каля будынкаў ці ў лесе, куды не даходзіць вецер. Ста́нім тут у заці́шку, цяпле́й бу́дзіць.
ЗДУ́РАНЫ *дзеепрым.* Распешчаны, раздураны. Такі́ зду́раны, што ба́пцы зь йім ця́шка спра́віцца.
ЗЕ́ЛЬЛЯ (зе́лле) *наз., н., р. -я.* Лякарства.
ЗЁ́ЛКІ *наз., адз. няма.* Высушаная лекарская трава. Параўн. у гэтым значэнні: «Я часта прыпынюся каля сталоў, Дзе разлажылі прадаўшчыцы зёлкі, Сабраныя з усіх лугоў, палёў...» М. Танк, Полымя, № 11 за 1959 г., стар. 61.
ЗІ́МНІК *наз., м., р. -а.* Дарога праз балота, па якой можна ездзіць толькі зімой, калі балота замерзне. Каля зі́мніку мно́га жураві́н назьбіра́ла.
ЗНА́ЙНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Унутраны, адваротны бок (тканіны, адзення), адваротны добрыцы (гл.). Пасьці́лку скла́давай на зна́йніцу.
ЗНАЦЬЦЁ́ *наз., н., р. -я́, мн. няма.* Каб жа знацьцё́, дык і ні кра́талася п зь ме́ста (Каб ведала, каб знала...).
ЗЯЛЕ́ЗЬНІК *наз., м., р. -а.* Невялічкі гаршчок (чу́гунны, алюмініевы).

ЗЯЛЕ'ЗЬНІЧЫК *наз., м., р. -чк-а.* Памянш. ад зялезьнік (гл.).

ІГРЫ'ШЧА *наз., н., р. -а.* Вечарынка. Параўн. у П. Панчанкі: «А на вуліцы, на вуліцы—ігрышча ў поўны ход» (Выбр. тв., 1956, стар. 56). «Ігрышчы, гулянкі» (Там жа, стар. 199).

ІЗНО'Ў *прысл.* Зноў. У гэтым жа значэнні ўжываецца і ўзноў. Ізно́ў прыбі́ў до́шку ні так.

ІСПО'ТКА *наз., ж., р. -і.* Рукавіца з адным пальцам. Іспо́ткі цёплыя зьвіза́ла. Зімо́й біз іспо́дак ні абы́йдзісься.

ІСТО'ПКА *наз., ж., р. -і.* Будыніна, памяшканне, дзе захоўваецца бульба, капуста, іншая гародніна. На зіму́ бу́льбу ў істо́пцы ссы́палі, а к вясьне́ ў я́му схава̀лі. Параўн. у гэтым знач.: варо̀ўня (в. Будзілаўка).

КАЗА'НЬ *наз., ж., р. -і, мн. няма (прастам., зняважл.).* Гаворка, размова. Піраста́нь ты сва́ю каза́нь каза́ць, надае́ла ўжо слу́хаць.

КАЛУБЕ'НЬ *наз., ж., р. -і.* Ложак для маленькага дзіцяці. Дзіця́ пла́чыць, ня хо́чыць у калубе́ні ліжа́ць.

КАМО'РКА *наз., м., р. -і.* 1. Пакой у хаце, адбіты дошкамі. Ха́ту пірабі́лі на камо́ркі, павярну́цца німа́ дзе. 2. Цёмнае, адбітае дошкай памяшканне, якое служыць кладоўкай.

КАМЫ' *наз., толькі ў мн.* Тоўчаная звараная бульба. Налі́й у ку́бак малака́ запіва́ць камы́.

КАРА'ВЫ *прым.* Брудны. У яе́ ўсягды́ дзе́ці кара́вых хо́дзяць.

КАРА'ЎКА *наз., ж., р. -і.* 1. Брудная анучка. 2. Перан. Неахайная жанчына, якая ходзіць заўсёды брудная.

КАРЦІ'ЦЬ *дзеясл., -іць, неперах., незак.* Турбуе, трывожыць, непакоіць. Параўн. у гэтым значэнні: «Цяпер яна (лука) карціць ім: праз два гады тут будзе добры луг, чаму ж не прыбраць яго?» Я. Колас, Зб. твор., т. III, Мінск, 1952, стар. 117.

КАСЬЦЯ'НКІ (касця́нкі) *наз., р. -ак, толькі ў мн.* Ягады. Параўн.: касцяніка ў «Руска-белар. слоўніку».

КА'ТАР *наз., м., р. -у, мн. няма.* Сып на губах, каля

губ пасля прастуды. Малóга кáтар апсыпаў, нéдзе прастудзіўся.

КА′ЎКАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Кот кáўкайіць пад дзьвярмí.

КАШЭ′ЛЬ *наз., м., р. -я.* Плоская прадаўгаватая кашолка, сплеценая з тонкай лучыны. Кашэль складаецца з дзвюх частак. Адна з іх, трохі большая, уздзяецца на меншую зверху ўніз, закрываючы яе. На кашэль чапляюць аборыну ці які-н. рэмень, каб можна было ўзяць яго (кашэль) на плячо. У кашалях звычайна носяць ежу, калі ідуць куды-н. на цэлы дзень (на луг, на поле, на пáсту). Пакладзí лýсту ў кашэ́ль.

КМІН *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* Кмен (гл. «Руска-бел. слоўнік»). Параўн. у П. Панчанкі: «...Дым над хатай, снапамі прыціснуты ток, Матчын спеў і гароды, прапахшыя кмінам...» (Выбр. тв., 1956, стар. 129).

КО′НЦАМ *прысл.* Абавязкова. Кòнцам табé ўсё сягóньня зрóбіць, бýдзіць і зáўтра дзень.

КО′ПТАР *наз., м., р. -у, мн. няма.* Насыпанае што-н. звыш якой-н. меры. Нáбірку с кóптарам малíн назьбірáла.

КРАКТАВІ′НЬНЯ *наз., н., р. -я, мн. няма.* Жабіная ікра. Ля бéрага ў сáжалцы мнóга крактавíньня.

КРА′МА *наз., ж., р. -ы.* Магазін. Крáму нóвую пастрóйілі.

КРА′МНАЕ *прым.* Фабрычнае, купленае ў краме (пра тканіну). Даўнéй крáмныя сукéнкі тóлькі ў сьвя́та надзівáлі.

КУ′РАЦ *наз., м., р. -а.* Малы хлябок з астаткаў цеста. Кýрац ужó сьпёкся, мóжна вынімáць.

КУ′РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* 1. Куры́ць. 2. Гарэць без агня, дыміць. Дрóвы кýраць у пéчы.

ЛА′ВА *наз., ж., р. -ы.* 1. Прылада для сядзення. Лавы бываюць доўгія, ставяцца каля сцен ка куце, не перамяшчаюцца часта з месца на месца. Нашóў тапóр пад лàвай (прык.). 2. У спалучэнні «гнаць лавы»—гнаць плыты, сплаўляць лес.

ЛА′ДНАГА *прысл.* Шмат, не мала. Ды ўжо ладнага жджом, а ягó йшчó німá.

ЛАХУ'ДРА *наз., ж., агульн., р. -ы.* Неахайны, апушчаны, няспрытны чалавек.

ЛЕ'ТНІК *наз., м., р. -а.* Дарога праз балота, па якой можна ехаць летам. Параўн: зімнік. По́йдзім ле́тнікам.

ЛЕ'ШКА *наз., ж., р. -і.* Памянш. да ляха́ (гл.).

ЛЁ'СТАЧКІ *наз., толькі ў мн.* Ліслівыя словы, размовы. Сьпірша́ лёстачкі ўсё ды лёстачкі, а тады́ й кіпцю́ры паказа́ў.

ЛІПЕ'ЦЬ *дзеясл., -пл-ю, -п-іш, неперах., незак.* 1. Ледзь трымацца (чаму-н.). Стара́я ха́та, алі́ ш ліпіць яшчо́. 2. Пра чалавека—жыць, не падаючы надзей на сілу, магчымасць працаваць і на працяглае жыццё.

ЛІХА' (ляха́) *наз., ж., р. -і.* Града ў агародзе. Уве́чара апкапа́йім ле́хі.

ЛУПА'ТЫ *прым.* З вялікімі губамі. Нікрасі́вая дзе́ўка, не́йкая лупа́тая, раба́я.

ЛУ'ПКА (лу́бка) *наз., ж., р. -і.* Пасудзіна, сплеценая з саломы і тонкіх лазінак.

ЛУ'СТА *наз., ж., р. -ы.* 1. Кавалак адрэзанага хлеба. У гэтым жа знач. ужываецца скіба (ськіба, ськіпка). 2. Ежа, якую бяруць з сабой, калі ідуць ці едуць куды-н. на працяглы час. Вазьмі́ на́ лу́сту хле́ба з малако́м. Лу́сту ш ні забу́цься ўзя́ць.

ЛЫ'НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Тое ж, што і блындаць, блэндаць (гл.). Лы́ндайіш цэ́лы дзень, хоць бы памагла́ мне тро́хі.

МАГІ'ЛЬНІК *наз., м., р. -а.* Мо́гільнік.

МАКЛА'К *наз., м., р. -а.* Надта поўнае дзіця. Ні на́да насіць гэ́тага маклака́ на рука́х, ніха́й сам хо́дзіць.

МАЛЬСАБІ'НКА *наз., ж., р. -і.* Від хатняй расліны. Цвіце невялікімі чырвонымі кветкамі.

МАНІ'ЦЬ *дзеясл., -н-ю, -н-іш, неперах., незак.* Хлусіць.

МАНЬЦЕ'ЛЬ *наз., м., р. -я.* Той, хто маніць, абманвае. У гэтым значэнні—маню́ка.

МАТАВІ'ЛА *наз., н., р. -а.* Прыстасаванне, на якім зматваюцца ніткі ў маткі́.

МАТУ'С *наз., -а́.* Вузкі доўгі кавалачак матэрыі (тканіны), падобны да вяровачкі. Дай матуза́ якога завіза́ць мех.

МАТЫ'ЛЬ *наз., м., р. -я́.* 1. Насякомае. 2. Гліст. Дзіця́ матылі́ заму́чылі.

МА́ЦЯР *наз., ж., р. -ы.* У адзіночн. ліку ўжываецца і маці, а ў множным—толькі ма́ціркі, часам ма́ціры.

МАЧЫ́ЛА *наз., н., р. -а.* Выкапаная ў нізкім месцы шырокая яма, у якой мочаць каноплі. Ле́та было́ тако́я сухо́я, што ўсе мачы́лы пірасо́хлі.

МАЧЫ́ЦЬ[1] *дзеясл., -ý, -ыш, перах., незак.* Мачыць. Дошч се́на мо́чыць.

МАЧЫ́ЦЬ[2]. Засольваць агуркі.

МЕ́НШЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Памяншаць, змяншаць. Ня ме́ншы аго́нь.

МЕ́НЬНЯ *наз., н., р. -я.* Імя. Якóя ш мы дадзíм ме́ньня ей?

МІНТРЭ́ЖЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., незак.* Непакоіць, перашкаджаць. Ты ей мінтрэ́жыш толькі.

МУРО́ЎКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Густая мяккая трава. Селі на муро́ўцы ў цяньку́. Параўн.: у руск. мове мурава́, ва ўкр. мурава́, у польск. мове murawa.

НА́БІЛІЦЫ *наз., толькі ў мн.* Частка ткацкага станка, у якую ўстаўляецца бёрда.

НА́БІРАЧКА *наз., ж., р. -і.* Памянш. ад на́бірка (гл.).

НА́БІРКА *наз., ж., р. -і.* Маленькая кашолачка, сплеценая звычайна з лучыны. Калі многа ягад, набіркай збіраюць ягады ў большую кашолку. Я ўжо тры на́біркі назьбіра́ла. Параўн. у гэтым значэнні ў П. Панчанкі: «Мы не раз у гэтым самым лесе Набіралі набіркі малін» (Выбраныя творы, 1956, стар. 70).

НАВО́Й *наз., м., р. -я.* Частка ткацкага станка (іх дзве, на адну навіваецца пража, а на другую—палатно).

НАДО́ЙІЧЫ (надо́ечы) *прысл.* Нядаўна, на гэтых днях. Параўн. у такім жа значэнні у З. Бядулі: «Ён ім гэта абяцаў надоечы на сенакосе» (Зб. твор., т. III, стар. 381).

НАЗА́ЎТРАЯ *прысл.* Назаўтра. Параўн. у гэтым значэнні: «На завтрее в пятницу по мене приславъ панъ...» Баркулабаўскі летапіс. «Могилёвская старина», 1900, стар. 8.

НАЛЕ́ТА *прысл.* На наступны год, у наступным годзе. Гэ́тага се́на, му́сіць, хо́піць яшчо́ й нале́та. Ганну́лька нале́та ўжо по́йдзіць у шко́лу.

НАЛУ́ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Знайсці, сустрэць, трапіць.

НАМЁ́Т *наз., м., р. -а.* Вельмі тонкае палатно ў два

ніты з каляровымі палоскамі па баках (хусткі, ручнікі). Даўнéй намéтамі сватóў абвя́звалі.

НАПА́ШКІ *прысл.* Ужываецца пры дзеясловах надзець, накінуць, апрануць (верхняе адзенне).

НАСА́ТКА *наз., ж., р. -і.* Насавая хустачка.

НАСЁ́БАЯ *прым.* Адзенне, якое носяць кожны дзень, у якім працуюць; не святочнае.

НАСІ́ЛКІ *наз., адз. няма.* Каромысел.

НАСТО́ЛЬНІК *наз. м., р. -а.* Абрус не ўжываецца.

НЕ́ДЗІКА *прысл.* Недзе, дзесьці. У гэтым значэнні ўжываецца і недзе.

НЕ́КАЛІ[1] *прысл.* Калісьці.

НЕ́КАЛІ[2]. Няма часу. Ей усё нéкалі. Нéкалі былó гэ́та зрóбіць.

НЕ́ШТА[1] *займ.* Нешта.

НЕ́ШТА[2] *прысл.* Чамусьці. Нéшта сын дóўга ня éдзіць, праждáліся ўжо.

НІВІРУ́ТНЫ (невіру́тны) *прым.* Неверагодны.

НІШТО́[1] *займ.* Нішто.

НІШТО́[2] *прысл.* Нядрэнны, нядрэнна. Ніштó сабé сукéнка, мóжна насíць.

НЯДУ́ЖЫ[1] *прым.* Слабы, без сіл.

НЯДУ́ЖЫ[2]. Хворы, часцей—не цяжка хворы. Нéшта няду́жы ўжо трэ́цьці дзень.

НЯЛЮ́ЦКІ (нялю́дскі) *прым.* Дрэнны, не такі, як патрэбна; не такі, як «у добрых людзей».

ПАДЛА́ШЧАВАЦЦА (падлáшчваца), *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Паддобрываца, падлізваца. Перш нагавары́ла, з грáзьзю зьмішáла, а тады́ падлáшчавáйіцца.

ПАДЛЁ́ТАК *наз., м., -тк-а.* 1. Птушаня, якое крыху лятае. 2. Перан. Дзіця дашкольнага, малодшага школьнага ўзросту, жвавае, лёгка бегае.

ПАДЫ́СПАД *прысл.* На самы ніз чаго-н. Палажы́ гэ́та ў скры́ню пады́спад.

ПАДЗЬДЗЁ́ЎКА (паддзёўка) і ПО́ДЗЬДЗІЎКА *наз., ж., р. -і.* Кароткая верхняя цёплая вопратка.

ПАЗАЛЕ́ТАСЬ *прысл.* Тры гады таму назад.

ПАЗА́ЎТРА І ПАЗА́ЎТРАМУ *прысл.* Праз 2 дні. Сын пазáўтра прыéдзіць.

ПАЗЁ́МКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Зімовы вецер, які мяце снег каля зямлі, па зямлі. Ужó катóры дзень дзьмець пазёмка.

ПАКАШТАВА́ЦЬ *дзеясл., -ў-ю, -ў-еш, перах., зак.* Паспытаць.

ПАЛА́НКІ *наз., толькі ў мн.* Маленькія начовачкі, пры дапамозе якіх ачышчаюць стоўчаныя крупы, зерне і інш. (гл. пала́ць).

ПАЛАСКА́ЦЦА *дзеясл., -шч-ўся, -шч-ашся, незак.* 1. Паласкацца. 2. Перан. Швэндацца, аціравцца. Казе́нцы ко́жную нядзе́лю пало́шчуцца ў на́шым ле́сі.

ПАЛА́ЦІ *наз., адз. няма.* Насціл з дошак пры печы, звычайна над полам (гл. пало́к) пры глухой сцяне. На палацях звычайна адпачываюць. Цяпер сустракаюцца рэдка.

ПАЛА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Ачышчаць зерне, крупы і інш. пры дапамозе паланак (гл.).

ПАЛО́К. Памяншальнае ад пол, невялічкі пол. Палок робіцца ў хаце і ў лазні. У хаце зараз сустракаецца вельмі рэдка.

ПАЛУ́ДНІВАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Абедаць.

ПА́РА *наз., ж., р. -ы.* Дзве адзежыны разам, калі паверх кажуха надзяецца плашч ці армяк. На начле́х на́да па́ру надзіва́ць.

ПАСО́ЛЬ *наз., ж., р. -і, зб., мн. няма.* Фасоля. Пасо́ль до́бра ўзышла́.

ПАСТАЯ́ЛКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Вяршкі, смятанка. На́да зьняць пастая́лку з малака́.

ПАСТЫ́Р *наз., м., р. -а́.* Пастаянны пастух, які адказвае за стада. Пастыр пасе стада ўвесь час, а пастух—кожны дзень новы, па чарзе. Выганя́й, пасты́р ўжо тру́біць.

ПАСЯЛЕ́НЬ *наз., м., р. -я.* Той, хто мала займаецца справамі, а любіць толькі хадзіць з хаты ў хату па вёсцы. Параўн.: па сяле.

ПАТО́М *часц.* Але, але ж, усё ж, аднак, а ўсё ж. Пато́м такі́ сказа́ла ўсё мне.

ПАТПЛЁ́ТКА *наз., ж., р. -і.* Зробленая з косткі або з моцнага дрэва прылада, якой падплятаюць лапці. Часам падплётку выкарыстоўваюць і ў іншых мэтах.

ПАТПРЫ́ПАЧАК (падпры́пачак) *наз., м., р. -чк-а.* Месца пад прыпечкам, куды ставяць посуд.

ПАТТА́КАВАЦЬ (падтàкваць) *дзеясл., -ва-ю, -ва-еш,*

*неперах., незак.* Пацвярджаць, згаджацца, гаварыць «так».

ПАЦЬЦІКАВА́ЦЬ (падцікава́ць) *дзеясл., -ку́-ю, -ку́-еш, перах., зак.* Падпільнаваць. Ужываюцца абодва словы.

ПЕ́КНЫ *прым.* Прыгожы.

ПІ́КАРА. Назва гульні, падобнай да рускіх гарадкоў. Нагу́ хло́пец зьбіў, гуля́ючы ў пікара.

ПІРАБАРСА́ЦЬ (перабарса́ць) *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Выцягнуць шнурок, абору (з аднаго чаго-н.) і ўцягнуць (у другое што-н.).

ПІРАБО́РЛІВЫ (перабо́рлівы) *прым.* Такі чалавек, які ўсё «перабірае», не можа выбраць (што-н., каго-н. па густу ці па смаку). Кап ты ня быў такі піраборлівы, то ажаніўся п ужо̀.

ПІРАЛЕ́ТАВАЦЬ (перале́таваць) *дзеясл., -у-ю, -у-еш, неперах., зак.* Пражыць, прабыць лета. Аве́чкі пірале́тавалі ў Загала́ўі.

ПІРАЛЕ́ТАК (перале́так) *наз., м., р. -тк-а.* Цялё, якое пражыло ўжо лета. Учо́ра на база́ры пірале́тка купілі.

ПІРАПЕ́ЧКА (перапе́чка) *наз., ж., р. -і.* Тоўсты блін з прэснага (някіслага) цеста. Напікла́ пірапе́чак на квас. Пірапе́чку сьпікла к бацьві́ньню (гл. бацьвінне 2).

ПІСЬКЛЁ́НАК *наз., м., р. -а.* 1. Кураня. 2. Перан. Малое плаксівае дзіця. Гэ́ты піскле́нак пішчы́ць ко́жную ноч, спаць ні дае́ць.

ПЛАСКАНЕ́ і ПЛАСКАНІ́ *наз., зб., адз. няма.* Каноплі без семя, маніцы. Параўн.: пло́скуні (Ф. Янкоўскі, Дыялектны слоўнік, 1959). Ужо́ пара́ ірва́ць пласкане́. У гэтым значэнні ўжываецца і *білухі.*

ПЛА́СТАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Хадзіць без мэты, марна трацячы час. Ве́чна ён пла́стайіцца па сяле́, ніяк рабо̀ты сабе́ ня зно́йдзіць.

ПО́ВАТ (по́вад) *наз., м., р. -а.* Нядоўгая, але тоўстая і моцная вяроўка.

ПО́ЛІЎКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Страва з бурачнага расолу, сушаных грыбоў з прыправамі.

ПО́ЛУДЗІНЬ (по́лудзень) і ПАЛУ́ДЗІНЬ *наз., м., р. -я.* Абед.

ПО́РСТКІ *прым.* Такі (пра чалавека), які балюча і рэзка рэагуе на папраўкі, заўвагі ці парады.

ПО́СЬЛЯ (по́сля) *прысл.* Пасля. Сказа́ла, што пры́дзіць по́сьля.

ПРА́ЖЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Пражыць гарох, боб, фасоль. Перш на́да гаро́х намачы́ць на́нач, а ў ра́ньні пра́жыць ў пе́чы на скаваро́ццы. Дзе́ці ду́жа лю́бяць пра́жаны гаро́х.

ПРА́ЛЬЛЯ (пра́лля) *наз., ж., р. -і.* Жанчына, якая прадзе, папрадуха.

ПРАСАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, перах., незак.* Гладзіць (прасам) бялізну, адзенне.

ПРУ́ТКІ *прым.* Пругкі, дужы, з моцнымі мускуламі. Хоць малы́, а пру́ткі. 2. Перан. Ната пру́ткі ты на гэ́та.

ПРЫДА́ТАК *наз., м., р. -тк-а.* Той, хто ходзіць, не адстаючы ні на крок. Прыдаткам звычайна называюць дзяцей, якія не адстаюць ад маці, бацькі.

ПРЫ́ПАЧАК *наз., м., р. -чк-а.* Частка печы (пярэдняя), на якой ставяць гаршкі перад тым, як іх уставіць у печ.

ПРЫТВАРО́НІЦ *наз., м., р. -нц-а.* Прытворшчык.

ПРЫ́ЦІМКАМ (пры́цемкам) *прысл.* Увечары, калі пачынае цямнець. Гэ́ту рабо́ту мо̀жна зро́біць і пры́цімкам. Ужо́ пры́цімкам прые́халі дамо̀ў.

ПРЫ́ХВАТКАМ *прысл.* Рабіць што-н. не ўвесь час, а сяды-тады ў вольную часіну.

ПУК *наз., м., р. -а́.* Пяро цыбулі, якое нясе насенне. У мяне́ се́літа ўся цыбу́ля пашла́ ў пукі́.

ПУЛЯ́ТЫ *прым.* З вялікімі вытрашчанымі вачыма. Дзе́ўка ду́жа пуля́тая.

ПУТ[1] (пуд) *наз., м., р. -а́.* Мера вагі.

ПУТ[2] *наз., м., р. -у, мн. няма.* Спалох, перапалох.

ПШОННЫ *прым.* Пшанічны. Ужываецца побач з *пшанічны.*

ПЯ́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* 1. Біць, лупцаваць (каго-н.). 2. Біць пранікам бялізну. Ба́цька ко̀жан ве́чар пя́рыць яго́, а ён усіро́ўна сваё́.

РАДО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Чарга пасвіць кароў, авечак і г. д. У нас пасты́р пастая́нны, а пастухі́ ганя́юць у радо̀ўку. Пасты́р харчу́йіцца ў радо́ўку.

РАЗІ́НЬКА *наз., ж., р. -і.* Чалавек няўважлівы, няспрытны, някемлівы. Ні дзяўчы́на, а разі́нька не́йкая расьце́ць. Прада́ць разі́ньку (Параўн. руск.: считать ворон).

РАМА́Н[1] *наз., м., р. -а.* Імя мужчыны.
РАМА́Н[2] *наз., м., р. -у, мн. няма.* Суп з гароху.
РАСХРЫСТА́НЫ *дзеепрым.* Расшпілены (на грудзях). Ён ве́чна хо́дзіць расхрыста́ны, гэ́та ш прастудзі́цца мо̀жна.
РАСХРЫСТА́ЦЬ *дзеясл., -а́-ю, -а́-еш, перах., зак.* Расшпіліць (на грудзях). Маро́с на дварэ́, а ён гру́дзі расхрыста́ў.
РАШЧЫ́НА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Рошчына.
РЭ́ЗЬГІНЫ *наз., толькі ў мн.* Рэзгіны.
РУДЫ́ *прым.* Карычневы.
РУЛІ́ *наз., адз. —руль.* 1. Бульба, якая зімуе на полі. Вясной, калі аруць поле, рулі выворваюцца. У рулях вясной застаецца амаль адзін крухмал. Параўн. у гэтым жа значэнні: лапуны́ (в. Ваўча), каве́ркі (в. Будзілаўка). 2. Бліны, аладкі, спечаныя з рулёў.
РЫЗЬЗЁ́ (рыззё) *наз., н., р. -я́, мн. няма.* Старое парванае адзенне.
РЫЗЬЗЁ́ЎКА (рыззёўка) *наз., ж., р. -і.* Пасцілка, вытканая са стужак. Аснова ў рыззёўцы з нітак, а ўток з рызьзя.
СА́ЖАЛКА *наз., ж., р. -і.* Штучны вадаём, копанка.
САКАЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -е́ -ю, -е́-еш, неперах., зак.* Замерзнуць. Пагрэ́юся тро́хі, а то ў но́гі сакале́ла.
САРАВА́ТКА *наз., р. -і, мн. няма.* Сыроватка.
СЕ́РАН *наз., м., р. -у, мн. няма.* Цвёрды верхні пласт снегу, па якім можна ісці не правальваючыся.
СЕ́МЯ *наз., н., р. семя, мн. няма.* Семя ільну. На́да напа́рыць се́мя ды прылажы́ць к хво́рай назэ́.
СКА́ЛА *наз., н., р. -а.* Ужываецца і сука́ла. Прылада, пры дапамозе якой робяць (наматваюць) цэўкі.
СКО́РЫНЬКА (ско́ранька) *прысл.* Хуценька.
СЬЛІ́МІР *наз., м., р. -а.* З сямейства паўзуноў. Ня бо̀йся, гэ́та сьлі́мір, ён ні куса́йіцца. Вужа̀ка куса̀йіцца, а сьлімір не.
СПРА́ЎДЖАВАЦЦА (спра́ўджвацца) *дзеясл., -ецца, -ешся, незак.* Збывацца, здзяйсняцца.
СТАВЫ́ *наз., адз. няма.* Асноўная частка (варштат) самаробнага ткацкага станка.
СТАЕ́НЬНІК (стае́ннік) *наз., м., р. -а.* Сыты, добра дагледжаны конь, на якім не працуюць, а трымаюць для выезду. Параўн. у П. Панчанкі: «І наш гене-

рал пад галошанне медзі На слуцкім гарачым стаенніку едзе». (Выбр. творы, 1956, стар. 212).

СТО'ЙКА *наз., ж., р. -і.* Драўляная прылада, у якой малыя дзеці вучацца стаяць. Сто́йку паста́ў лі вакна́, ніха́й дзіця́ глядзіць на ву́ліцу.

СХО'ДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Здужаць. Ці сходайіш жа падня́ць гэты мяшо́к?

СУ'ДЫ *наз., толькі ў мн.* Два вядры, у якіх носяць ваду. Прынісла́ двоя су́даў ваді́ (г. зн. чатыры вядры).

СЬЦІ'РКА[1] (сціркa) *наз., ж., р. -і.* Анучка, якой сціраюць стол.

СЬЦІ'РКА[2]. Гумка, якой «сціраюць» напісанае.

СЯРНІ'ЧКА *наз., ж., р. -і.* Запалка.

ТАБА'КА наз., ж., р. -і. *мн. няма.* Даўне́й са́мі се́йілі таба́ку.

ТА'МАКА *прысл.* Ужываецца побач з *там.*

ТАЎСТА'Я[1] *прым.* Тоўстая. Бе́рны таўсты́я на́тта.

ТАЎСТА'Я[2]. Цяжарная (жанчына).

ТРАСО'ЧНІК *наз. м., р. -у, зб., мн. няма.* Перагной на дрывотні, які вывозяць на поле, агарод (трасочнік робіць глебу больш рыхлай).

ТРА'СЦА *наз., н., р. -а, мн. няма.* У вайну́ ўсіх тра́сца піратрасло ў сяле́.

ТУ'ТАКА *прысл.* Ужываецца побач з *тут.* Параўн. у такім жа значэнні ў З. Бядулі: «Тое, што стары бачыў і чуў тутака да гэтага лета 1924 года, не змясцілася б у вялікай кнізе» (т. III, стар. 170).

ТРЫСЬЦЕ'Н (трысце́н) *наз., м., р. -а* Прыбудова (з бярвенняў) к хаце. Параўн.: тры сцяны. У трысцене звычайна размешчана кухня.

УВЕ'ЧАРА *прысл.* Увечары. Ужываецца побач з *вечарам.*

УЗМЕ'ЖАК *наз., м., р. -жк-а.* Кавалак неўзаранай зямлі ў канцы палоскі поля.

УЗНО'Ў *прысл.* Зноў. У гэтым жа значэнні ўжываецца *ізноў.* Я ізноў прышла к вам.

УЛУ'КАТКІ і УЛУ'КАТКУ *прысл.* Зігзагам.

УСЛО'Н *наз., м., р. -а.* На Беларусі гавораць яшчэ заслон, слон, зэдаль, перадок.

УСЛО'НЧЫК *наз., м., р. -а.* Памянш. ад услон.

ХАЛАДЗЕ'Ц *наз., м., р. -дц-а́, мн. няма.* Квашаніна.

ХАТУ'ЛЬ *наз., м., р. -я́.* Звязак чаго-н., якіх-н. прадме-

таў. У вайну дужа надае́ла с хату́лямі па ле́сі насіцца (хаваючыся ад нямецка-фашысцкіх карнікаў).

ХВАСТА́Ч *наз., м., р. -а̀.* Ручнік для посуду. На канцах хвастача доўгія махры з нітак, сплеценыя ў «хвасты».

ЦА́ТКА *наз., м., р. -і.* Ужываецца і *цацка.*

ЦЁ́НГЛЯ *прысл.* Заўсёды.

ЦЯЛУ́ХА *наз., ж., р. -і.* Карова. Ужываецца побач з *карова.*

ЧАРЭ́МХА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Чаромха. Параўн.: «Душны пах чарэмхі...» П. Панчанка, Выбр. тв., 1956, стар. 182.

ЧО́ЎНІК *наз., м., р. -а.* Прылада ткацкага станка. У чоўнік укладваецца цэўка з ніткамі.

ЧО́ХАЎКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Насмарк. Не́дзіка прастудзіўся, дык чо̀хаўка заму́чыла, нія́кай ра́ды ні дам.

ШАЛУПІ́НЫ *наз., зб., толькі ў мн.* Абчысткі ад бульбы. Шалупі́н сьвіньня́м навары́ла. У гэтым значэнні ўжываецца *шалупя́кі* і *лупі́ны.*

ШАРАЧО́К *наз., м., р. -чк-у́, мн. няма.* Саматканае палатно з каляровымі клеткамі ці палоскамі.

ШЛЯК *наз., м., р. -а́.* Узорчаты край хусткі.

ШУ́МА *наз., ж., р. -ы, зб., мн. няма.* Смецце. Вы́нісі шу́му на дзяньнік.

ШУМЕ́ТНІК *наз., м., р. -а.* Месца на двары, куды выкідаюць шуму (гл.).

Я́МКА *наз., ж., р. -і.* Частка прыпечка збоку, куды выграбаюць з печы вуголле. Прыкрытае попелам, яно можа захоўвацца гарачым цэлыя суткі.

ЯСІ́К *наз., м., р. -а.* Маленькая падушачка.

*Е. КАВАЛЁВА*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСАК АБІДАВІЧЫ І ЖУРАВІЧЫ[1]

АББІВА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Ужываецца з назоўнікамі *клён, яблыкі, грушы.* Куды́ ся́ньні ты йдзёш?—Лён аббіва́ць пасла́лі. Аб.

АБІРА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Абіраць грушы, слівы. Аб.

АБКРЫ'ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, перах., зак.* Побач ужываецца дзеяслоў *абпянуцца.* Абкры́йся платкòм, бу́дзя цяплéй. Аб.

АБКРЫВА'НКА *наз., ж., р. -і.* Вялікая хустка, якою абкрываюцца ў дарозе. Аб.

АБЛО'ГА *наз., ж., р. -і.* Поле, якое не ўзорваецца некалькі год. Аб.

АБПІВА'ЦЬ *дзеясл., -еш, -е, перах., незак.* Часта і многа піць у людзей. Абпіва́ў нас, аб'йіда́ў і спасіба ні сказа́ў. Аб.

АБПЯНУ'ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -ёшся, неперах., зак.* Побач ужываецца дзеяслоў *абкрыцца.* На, во пасьцілку, абпяніся, а то намóча (дождж). Аб.

АБПЯНУ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -ёш, перах., зак.* Абпяні платóк, а то сьнег пайшóў. Аб.

АБЛІВА'ХА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Зімовы дождж. Аб.

АГО'НЬ[1] *наз., м., р. -ю́.* Агонь.

АГО'НЬ[2] *наз., м., р. -ю́, мн. няма.* Гарачка, высокая тэмпература. Параўн.: у фразеалагізме *агнём гарыць.* Аб.

---

[1] Вёска Абідавічы ўваходзіць у Быхаўскі раён Магілёўскай вобласці, вёска Журавічы—у Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці.

АДКАСНУ'ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -е́шся, неперах., зак.* Адчапіцца. Адкасьніся ты ад мяне́, ад мае́й галавы́. Аб.

АЛЕ'ШНІК *наз., м., р. -у, зборн.* Іва́н ко́ся ў але́шніку. Аб.

АНДРА'К (андарак) *наз., м., р. -а́.* Жаночая спадніца з саматканага сукна. Андракі́ цяпе́р то́лькі ў стару́х. Аб.

АПРО'Ч *прысл.* Асобна. Аб.

АХА'ПАК *наз., м., р. -пк-а.* Хва́цця й аха́пка дроў. Аб., Жур.

АЦЕ'СЬЛІЎКА *наз., ж., р. -і.* Тоўстая, гультаяватая жанчына. Аб.

АЧУНЯ'ЦЬ *дзеясл., -я́-ю, -я́-еш, неперах., зак.* Падужаць, выздаравець пасля хваробы, набрацца сілы. А Хадо̀ра такі́ ачуня́ла. Аб.

БАГА'ТА *прысл.* Многа, шмат. У яго́ ду́жа кніг бага́та. Аб.

БАГАЦЕ'Й *наз., м., р. -я.* Багаты, заможны. О, ён на ўве́сь рае́н багаце́й. Аб.

БАГУ'Н *наз., м., р. -у́.* Назва расліны, якая расце на тарфяных балотах. Калі̀ йдзеш у дурні́цы, трэ́ба каза́ць: Мы ў бало́та, багу́н з бало̀та. І так сказа́ць тры разы́, каб ні бале́ла галава́. Аб.

БАГУ'НЬНІК *наз., м., р. -а, зборн.* Гл. багу́н. Аб.

БАЛО'НЬНЯ *наз., н., р. -я., мн. няма.* Заліўны луг, вельмі нізкі. Ужо касі́ць пашлі̀ на бало́ньня. Аб.

БАРО'К *наз., м., р. -рк-а́.* Назва ўчастку лесу. Жур.

БЛЫ'НДАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, неперах., незак.* Хадзіць без справы, бадзяцца, швэндаць. Аб.

БЛЫ'НДА *наз., ж., р. -ы.* Чалавек, які ходзіць без справы, бадзяга, валацуга. Аб.

БЛЮСЬЦІ' *дзеясл., -д-у́, -дз-е́ш, перах., незак.* Доўга што-небудзь захоўваць. Што блюдзё́м, то людзё́м. Аб.

БЛЮ'ДАЧКА *наз., ж., р. -і.* Сподак. Аб.

БРАЦЕ'НЬНІК *наз., м., р. -а.* Дваюрадны брат. Браце́ньнік мне падары́ў на вясе́льлі часы́. Аб.

БРУС[1] *наз., м., р. -а́.* Перакінутая цераз рэчку тоўстая шырокая дошка, на якой мыюць бялізну. На брусу́ мы пяро́м пла́цьця. Аб.

БРУС[2] *наз., м., р. -а̀.* Кавалак мыла. Уве́сь брус змы́ліла. Аб.

ВЕ'ХАЦЬ *наз., м., р. -хц-я.* Пучок саломы або травы, якім мыюць посуд. Аб.

ВІКО'НА *наз., ж., р. -ы.* Абраз. Віко́ны займа́лі ўве́сь ву́гал за стало́м. Аб.

ВІ'ЛАШНІК *наз., м., р. -а.* 1. Цаўё ў вілках. 2. Месца каля печы, дзе стаяць вілкі. Аб.

ВІ'ЛЬЧЫК *наз., м., р. -а.* Стык двух бакоў страхі. Аб.

ВІР *наз., м., р. -у.* Глыбокае месца ў рэчцы. Аб.

ВІРЛАВО'КІ *прым.* Чалавек, у якога вялікія вочы. Аб.

ВО'ДВІДКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Трэ́ба схадзі̀ць у во́двідкі. Аб.

ВУГНЯ'ВЫ *прым.* Чалавек, які гаворыць у нос; гугнявы. Аб.

ВУ'ЛАЧКА *наз., ж., р. -і.* Завулак. Аб.

ВЫ'ПІЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* 1. Выпіць. 2. З'есці (проса), выпіваюць неабмалочанае проса вераб'і. Маха́лам ні намаха́йісься, усё проса вераб'і вы́пілі. Аб.

ВЫ'РАДЗІЦЦА *дзеясл., -уся, -ішся, неперах., незак.* Прыгожа апрануцца. Вы́радзілася як на вясе́льля. Аб.

ВЫ'САДКІ *наз., адз. няма.* Буракі, морква, капуста, якія садзяць вясной для насення. Се́літа ўсе вы́садкі памерзлі. Аб.

ГАЛУ'ШКА *наз., р. -і, звычайна ўжываецца ў мн.—галушкі.* Бульбяныя клёцкі, звараныя ў малацэ. Уста́нь ра́на, дык зьдзе́лаю галу́шкі. Аб.

ГАРО'ЧЧЫК *наз., м., р. -у і -а.* Кветнік. Насажу́ се́літа ў гаро́ччыку клубніц. Аб.

ГЛЯ'К *наз., м., р. -а̀.* Вялікі збан для мёду. Аб.

ГРА'ЗКА *прысл.* Мокра, брудна ў хаце, на дарозе. У йіх на стале́ гра́зка, нільзя́ е́сьці. Аб.

ГРУ'БКА *наз., ж., р. -і.* Галандская печка. Трэба ўжо, сыно̀к, гру́бку тапі́ць. Аб.

ГУ'БКА *наз., ж., р. -і.* Мера палатна або асновы па даўжыні сцяны, на якой «снавалі аснову». Паста́віла кро́сны гу́бак на пяць. Аб.

ДАРМА' *прысл.* А мне ён дарма́ аддаў. Аб., Жур.

ДРАЧ *наз., м., р. -а́.* Зношаны венік. Пашука̀й там драч на дварэ́. Аб.

ДРАЧО'НІКІ *наз., м., часцей ужываецца ў мн., р. -аў.* Бліны з цёртай (дранай) бульбы, дранікі. На драчо́нікі бу́ду бу́льбу драць. Аб. Параўн.: Трапіш да

кабеціны рахманай—Паспытаеш, друг мой дарагі, Дранікі са свежаю смятанай, бабку, клёцкі, нават пірагі. Пімен Панчанка, Збор. твораў, т. II, Мінск, 1959, стар. 244.

ДУБЕ́ЦЬ *дзеясл., -é-ю, é-еш, неперах., незак.* Мерзнуць на холадзе. Саўсім ру́кі адубе́лі на хо́ладзі. Аб.

ДУРНІ́ЦЫ *наз., адз. няма.* Буякі. Аб., Жур.

ДЗЕ́РАВА *наз., н., р. -а.* Дрэва. Аб., Жур.

ДЗЮ́НЬДЗІХА *наз., ж., р. -і.* Неахайная, апушчаная жанчына. Хо́дзіш, як та́я дзю́ньдзіха. Аб.

ДЗЮ́БАН *наз., м., р. -а.* Чалавек з доўгім носам. Аб.

Ё *дзеясл.* Ёсць. Ці ё ў цябе́ рэ́шата? Аб.

Ё́МКА *прысл.* Добра (сядзіць на плечах вопратка). Ёмка сядзі́ць пальто́. Аб.

ЖЛУ́КЦІЦЬ[1] *дзеясл., -кч-у, -іш, перах., незак.* Заліць бялізну. Аб.

ЖЛУ́КЦІЦЬ[2] *дзеясл., -ч-у, -іш, перах., незак.* Многа піць. Аб.

ЖЫВАСО́Л *наз., м., р. -у.* Вадкасць, што выдзяляецца з мяса. Палажы́ сьцягно̀ ў жывасо́л. Аб. Параўн.: пра́саль. Клетнае Глускага раёна.

ЖЫВАСІ́ЛАМ *прысл.* Гвалтоўна, сілком. Пра́ма жывасі̀лам зацягну́лі за сто́л. Аб.

ЖЫ́ТНІК *наз., м., р. -а.* Гатунак яблыкаў. Аб., Жур.

ЗАВО́ЗНА *прысл.* 1. Многа збожжа ў млыне. 2. Пераносн. Многа спраў. Аб., Жур.

ЗАМЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -é-е, неперах., зак.* Здранцвець. Аб.

ЗАНЯДУ́ЖАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, неперах., зак.* Захварэць. Аб.

ЗАПІСА́ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -ашся, неперах., зак.* Зарэгістраваць шлюб у ЗАГСе. Аб., Жур.

ЗАСІВІ́ЦЬ *дзеясл., -ю́, -іш, перах., зак.* Забяліць малаком страву. Аб.

ЗДАРО́ЖЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся, неперах., зак.* Вельмі стаміцца ў вялікай, цяжкай дарозе. Аб.

ЗДРАНЬЦЬВЕ́ЦЬ *дзеясл., é-е, неперах., зак.* Гл. Замлець. Здраньцьвела рука—замлела, занямела рука. Аб.

ЗЕ́ЛЬЛЯ *наз., н., р. -я.* Ужываецца толькі ў значэнні лякарства. Даў до́ктар зе́льля, зь нядзе́лю п'ю ўжо. Аб.

ЗЯЛЁ́НКА *наз., ж., р. -і.* Назва ўчастку лесу. Жур.

ЗЯМЁ'Т *наз., м., р. -у.* Агарожа з бярвенняў. Такія зямёты наставіў, што й ні заляціць птушка. Аб.

ЗЯЛО' *наз., н., р. -á.* Пустазелле, насенне пустазелля. У пpòci дўжа мнóга зялá. Аб. Купíла грэчкі—аднó зялó. Жур.

ІСТО'БКА *наз., ж., р. -і.* Будынак, дзе захоўваецца бульба, буракі, ставіцца на зіму капуста. Аб., Жур. Параўн.: стопка, варыўня. Клетнае Глускага раёна.

КАГА'Л *наз., м., р. -у.* Шумнае зборышча людзей. Сабрáўся ўжо кагáл, нічóга ні зрóбіш цяпéр. Жур.

КАПА'ЦЬ *дзеясл., -á-ю, -á-еш, перах., незак.* 1. Капаць. 2. Капаць бульбу (буракі) — убіраць бульбу (буракі). Капáць бýльбу памаглí студзéнты й вучанікі. Аб., Жур.

КАТУ *выклічн.* Аб Параўн.: кац, псік. Клетнае Глускага раёна.

КІЁ'ЎКА *наз., ж., р. -і, звычайна ўжываецца ў мн.* Аб. Пачатак кукурузы. Кукурýза расьцé ў калгáсі, а кіё'ўкі тóлькі ў гарóдзі, а рáзьніцы німá ніякай. Аб.

КРА'ЛЯ *наз., ж., р. -і, звычайна ўжываецца ў мн. — кралі* (каралі). Крáлі рассыпала, ніяк ні пазьбірáю. Аб.

КРУПЕ'НЯ *наз., ж., р. -і.* Страва з круп. Наварыла крупéні цэлы чыгýн, трóхі засівíла малакóм. Аб.

КРУЦЕ'ЛЬ *наз., м., р. -я́.* Чалавек, які жыве абманам, прайдзісвет. Аб.

КО'ПАНЬ *наз., ж., р. -і.* Сажалка. Кóпань сáмі капáюць і мóчуць там пянькý, лён на кýжаль. Аб.

КУ'БЕЛ *наз., м., р. -а.* Круглая бочка для адзення, палатна, збожжа. Я прывізлá сьвякрýсі два кýблы адзéжы. Аб.

КУЛЬ *наз., м., р. -я́.* Кулямі крышы крыюць. Аб.

КУЛА'ГА *наз., ж., р. -і, ужываецца толькі ў адз.* Мучная страва з калінаю. Сéньні печ натапíла дýжа жáрка, бýду кулáгу варыць. Аб.

КУ'ХТАЛЬ *наз., м., р. -я.* Ужываецца ў злучэнні з словам «даць». Даць кýхталя — ударыць кулаком пад бок, рабро. Дай яму кýхталя, каб ня лез. Аб.

ЛА'ДКА *наз., ж., р. -і.* Аладка. Аб.

ЛІСАПЕ'ТА *наз., ж., р. -ы.* Веласіпед. Аб.

ЛУПА'ТЫ *прым.* З вялікімі вачыма. Аб.

ЛЯ́ЛЬКА *наз., ж., р. -і, мн.— ля́лік.* Аер. Аб.
МЕ́СЯЧАК *наз., м., р. -чк-а.* Месяц. Аб.
МО́СТ [1] *наз., м., р. -а́.* Мюст цераз рэчку, канаву, ручэй. Аб., Жур.
МО́СТ [2] *наз., м., р. -а́.* Падлога ў хаце. Аб.
НАБО́ЖНІК *наз., м., р. -а.* Ручнік на абразах. Е́та тка̀ны ро́знымі ўзо́рамі або вы́шыты ручні́к, до́ўгі, бе́лінькі і выве́швайіцца на віко́нах. Аб.
НАВЫ́ПЕРАДКІ *прысл.* Наперагонкі. Аб.
НАДЗЕ́ЖНІК *наз., м., р. -а.* Абрус, якім накрываюць хлебную дзяжу. Аб.
НАЗАЛЯ́ЦЬ *дзеясл., -я-еш, -я-е, неперах., незак.* Дакучаць. Аб.
НАЗО́ЛА *наз., агульн., р. -ы.* Назойлівы чалавек. Аб.
НАЛІ́СЬНІК *наз., м., р. -а, ужываецца часцей у мн.* Тонкія блінчыкі з пшанічнай мукі. Аб.
НАПУ́ГАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Напіцца. Аб.
НА́ЦЕ *дзеясл.* Вазьміце. На́це ва́шы газе́ты. Аб.
НАШПІГАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́ю, -еш, перах., зак.* Вельмі поўна накласці што-небудзь (кашолку, чамадан, скрынку і г. д.). Нашпігава́ў цэ́лую карзі́ну. Аб.
НЕ́КАЛІ [1] *прысл.* Няма калі. А ну́ цябе́, мне не́калі з табо́й вазі́цца. Жур.
НЕ́КАЛІ [2] *прысл.* Калісьці. Тут не́калі ху́тар Чу́баў быў. Аб.
НЕСКЛАДУ́ХА *наз., ж., р. -і.* Жанчына, якая робіць усё няўдала. Жур.
НІШЧЫ́МНІЦА *наз., ж., р. -ы., мн. няма.* Жылі́ на адно́й нішчы́мніцы: ні са́ла, ні малака́. Аб.
НІМАВЕ́ДАМА *прысл.* Невядома. Німаве́дама куды́ дзе́ўся. Аб.
ПАГО́Н *наз., м., р. -а.* Назва адной з вуліц. Аб.
ПАД *наз., м., р. -у, зборн., мн. няма.* Яблыкі, грушы, слівы, якія самі апалі. За е́ту ноч сто́лькі па́ду ляжы́ць у саду́. Аб.
ПАДО́Л [1] *наз., м., р. -у.* Ніжняя частка спадніцы. Аб.
ПАДО́Л [2] *наз., м., р. -а.* Мелкае месца ў рэчцы, дзе мыюць бялізну. Аб.
ПАЛО́НЬНІК *наз., м., р. -а.* Вялікая лыжка, якою наліваюць страву. Аб., Жур.
ПАТУРА́ЦЬ *дзеясл., -а́-ю, -а́-еш, неперах., незак.* Ва ўсім згаджацца. Ды ні патура́й ты яму́, а то ў яго́ ро́гі на галаве́ вы́растуць. Жур.

ПЕ́РУН і ПЯРУ́Н *наз., м., р. -а́* і *-у́.* Як уда́рыў пе́рун пра́ма ў ха́ту. Аб.

ПЛА́ЦЬЦЯ *наз., н., р. -я.* 1. Агульная назва бялізны. Папра́ла пла́цьця зра́ньня. Аб. 2. Сукенка. Пашы́ла сабе́ пла́цьця. Аб., Жур.

ПО́ДБІЎКА *наз., ж., р. -і.* Падкладка ў вопратцы. Трэ́ба падшы́ць по́дбіўку, а то ўся парва́лася. Аб.

ПО́СКАДНІ *наз., адз. няма.* Маніцы. Аб.

ПО́СУД *наз., м., р. -у, мн. няма.* Агульная назва ўсёй пасуды (міскі, лыжкі, нажы, гаршкі, чыгуны, начоўкі, кружкі). Аб.

ПРА́СЛА *наз., н., р. -а.* Агульная назва любой агарожы. Да тро́йцы нільзя́ пра́сла гарадзі́ць, а то дошч загаро́дзіш. Аб.

ПРАЦЬ *дзеясл., пяру, пярэш, перах., незак.* Мыць (бялізну) пры дапамозе праніка. У вабе́д трэ́ба праць пла́цьця ды бе́гчы на рабо́ту. Аб.

ПРЫ́ХАПКАМ *прысл.* Рабіць што-небудзь сяды-тады ў вольную часіну. А я ўсю кудзе́лю пры́хапкам папра́ла. Аб.

ПУ́ГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Вельмі хутка есці страву. Аб.

ПУ́НЯ *наз., ж., р. -і.* Частка гумна, дзе складаюць сена. Пуняй называюць і хлеў, дзе стаіць карова. Аб.

ПУСТЭ́ЧА *наз., агульн., р. -ы.* Несамастойны, пусты чалавек. Гры́шка така́я ўжо пустэ́ча, што ні дай жа ж бог. Аб.

ПЭ́РКАЛЬ *наз., м., р. -ю.* Фабрычная тканіна —паркаль. Аб.

РАВО́К *наз., м., р. -ўк-а́.* Ручэй. Ха́та стаі́ць ля раўка́. Аб., Жур.

РЭ́ПАНКА *наз., ж., р. -і.* Груша або яблык, верхняя частка якіх лопнула ад сонца. Аб.

САЧО́К *наз., м., р. -чк-а́.* Кароткая жаночая жакетка на ваце. Аб.

САША́ *наз., ж., р. -ы́.* Шасэйная дарога, шаша. Аб.

СКА́БКА *наз., ж., р. -і.* Ска́бку ў нагу́ загна́ла, ні магу́ ступі́ць. Аб.

СКАВА́РКА *наз., ж., р. -і.* Скварка. Так пасу́ша скава́ркі, што й е́сьці німа́ чаго́. Аб.

СКАВАРО́ДНІК *наз., м., р. -а.* Печыва з хлебнага цеста (пячэцца на скаварадзе перад полымем). Аб.

СҚРЫЛІ′ *наз., адз. няма, р. -ёў.* Смажаная бульба. Аб., Жур.

СКУПЯРДЗЯ′КА *наз., агульн., р. -і.* Скупы чалавек. Аб.

СЛАНЕ′ЧНІК *наз., м., р. -у.* Побач — со́нца. Аб., Жур.

СЛОН *наз., м., р. -а́.* Услон. Аб.

СМАЛЕ′НКА *наз., ж., р. -і.* Жанчына з Смаленшчыны. Аб.

СМАЛЯ′К *наз., м., р. -а́.* Смалісты корч для падпалкі. Накапа́ў смалякоў цэлы воз. Аб.

СО′НЦА [1] *наз., н., р. -а.* Сонца.

СО′НЦА [2] *наз., н., р. -а.* Сланечнік. Аб., Жур.

СПРА′ЎНЫ *прым.* Здаровы, фізічна моцны чалавек. З а́рміі прые́хаў сын, ды такі спра́ўны. Аб.

СТАЛЮ′ГА *наз., ж., р. -і.* Козлы для распілоўкі дроў. Аб., Жур.

СТРЭ′ЛКА *наз., ж., р. -і.* Пяро цыбулі, якое нясе насенне. Уся́ цубу́ля пашла́ ў стрэлкі. Аб.

СУКА′ЦЬ *дзеясл., -ч-у, -аш, перах., незак.* Скручваць дзве ніткі разам. Аб.

СУРАДО′Й *наз., м., р. -ю.* Свежае, толькі што выдаенае малако—сырадой. Аб.

СУРО′ВАДКА *наз., ж., р. -і.* Сыроватка. Аб.

СЬМЕ′ТНІШЧА *наз., н., р. -а.* Месца на двары, дзе высыпаецца смецце. Аб.

СЯ′НЬНІ *прысл.* Сёння. Ся́ньні я яшчэ́ нічо́га ня е́ла. Аб.

СЯНЬНІ′К *наз., м., р. -а́.* Напры́ сяньні́к сьве́жай сало́май, бу́дзя ямчэ́й спаць. Аб.

СЯСТРУ′ХА *наз., ж., р. -і.* Дваюрадная сястра. К сястру́сі хадзі́ла шыць пла́цьця, ў мяне́ сястру́х по́ўна сяло́. Аб.

ТРАПКА′Ч *наз., м., р. -а́.* Ручнік з махрамі. Аб.

ХРА′ПКА *наз., ж., р. -і.* Ножка качана капусты. Кандра́т, ра́бая каро́ва ўсе хра́пкі пахру́пала. Аб.

ЦЕ′ПІРСЯ *прысл.* Даўно. Ці це́пірся ён пашо́ў, а ўсё німа́шака. Аб.

ЦІПЛЯ′К *наз., м., р. -а́.* Замаразкі на глебе. Ціпля́к гарбузы́ прыхваціў тро́хі. Аб.

ЦІЛЯПЕ′НЬ *наз., м., р. -пн-я́.* Непаваротлівы, няспрытны чалавек. Аб.

ЦЫГА′НКА *наз., ж., р. -і.* Гатунак яблыкаў. Аб., Жур.

ЦЯПЛО′ [1] *наз., н., р. -а́.* Агонь. Запалі́ ўжо цяпло́, а то цёмна ў ха́це. Аб., Жур.

ЦЯПЛО́[2] *наз., н., р. -а́.* Параўн.: у рускай мове — «костёр». Накла́лі цяпло́, напяклі́ бу́льбы. Аб., Жур.

ЧАРТАКО́ЖЫНА *наз., ж., р. -ы.* Фабрычная тканіна — корт. Аб.

ЧАРЭ́НЬ *наз., ж., р. -і.* Пляцоўка, верх рускай печы. На чарэ́ні сьпіну́ нагрэ́ла. Аб. На чарэ́ні ўсе я́блыкі пасушы́ла. Жур.

ШАЛУПЕ́ЙКА *наз., ж., р. -і, звычайна ў мн.* Абчысткі ад бульбы. Аб.

ШАМПА́НКА *наз., ж., р. -і.* Гатунак яблыкаў. Аб., Жур.

ШАРО́ЙКІ *наз., адз. няма.* Астаткі ад прасеянай мукі. Аб.

ШКІ́РА *выклічн.* Шкі́ра дамо́ў, шкі́ра! (на авечак). Аб.

ШЧЫКЕ́Т *наз., м., р. -у.* Від агарожы. Аб.

*В. БЕКІШ*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ КЛІМАНТЫ[1]

АБАМБЕ′РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Дрэнна пастрыгчы, як авечку. Хто гэ́та цябе́ так абамбе́рыў?

АБІ′РКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Астаткі ад чаго-небудзь разабранага, расхапанага.

АБМЕ′ЦІЦА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Мука з абмецця, прыгодная на корм жывёле. Гл. абмецця. Абме́ціцы мяшкі́ мо́жа два бу́дзя.

АБМЕ′ЦЬЦЯ (абме́цце) *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Зерне нізкага гатунку. Жы́та се́лята до́брая й абме́цьцяў ма́ла.

АПШУ′СТАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, перах., зак.* Спача́тку прыдо́брыўся, а по́тым апшу́стаў ды й шука́й у по́лі ве́тру.

АВА′ЛАК *наз., м., р. -а.* Прылада, якой прасуюць («качаюць») бялізну.

АГУ′ЛЬНА *прысл.* Наогул, увогуле. Агу́льна, кажу́, німа́ ў йіх то́лку ў сям'і.

АКАЛО′Т *наз., м., р. -у, мн. няма.* Снапы жыта, абабітыя збольшага. Сяго́ньня акало́ту с капу́ наабіва́ў.

АКАРА′СКАЦЦА *дзеясл., а-юся, а-ешся.* Справіцца з якімі-небудзь справамі, працай. Гэ́ты ты́дзень сто́лькі рабо́ты было́, ле́дзьве акара́скаўся.

АНУ′ЧНІК *наз., м., р. -а.* Чалавек, які збірае ўціль, сыравіну. З ану́чнікам ні старгу́йісься, яму́ ўсё кап да́рам.

АПА′ТКІ (апа́дкі) *наз., р. -аў, адз. няма.* Зусім зялёныя

[1] Вёска Кліманты ўваходзіць у Маладзечанскі раён Мінскай вобласці.

грушы, яблыкі, якія падаюць вельмі рана. Малы́ наеўся апа́ткаў, аж жыватóм захварэ́ў.

АПАРО́ЦЬ *дзеясл., -у́, -аш, перах., зак.* Абшукаць; аблазіць шукаючы. Ужó ш так дóбра схава́ла — й апарóў.

АПЕ́НТЫ *прым.* Абцягнуты шчыльна, у абцяжку. Цяпе́р пашла́ мóда апе́нтыя спадні́цы насі́ць.

АПЛІ́К *наз., м., р. -а́.* У пальцэ́ аплiка́ німа́.

АПО́ЎЗЬЛІК *наз., м., р. -а.* Абразлівая назва нязграбнага на выгляд закажанелага чалавека. Стыда́лася п ты с такі́м апоўзьлікам займа́цца.

АПО́РКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Боты з адрэзанымі халявамі. І я́, брат, у гэ́тых апóрках у баль папа́ў.

АПРА́ТАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Прыбраць, прывесці ў парадак. Запу́шчана ха́та — чуць апра́талі за дзе́нь.

АПЯ́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах.* Пабіць, выцяць. Хлапца̀ апя́рылі на ву́ліцы, прышо̀ў дамóў пла́чачы.

АРЖО́НЬНЯ *наз., н., р. -я, мн. няма.* Поле, дзе расло жыта.

АСЯРО́ДАК *наз., м., р. -дк-а і -дк-у.* Сарцавіна ў сцвалах раслін. А ў маёй мóркаве й асяро̀дак смашны́.

АТРУПЯНЕ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах.* Вельмі спалохацца, страціць самаўладанне. Цёмна былó, а тут з-за вугла́ як вы́скачыў не́хта, дык я́ й атрупяне́ла.

АТЫ́МАЎКА *наз., ж., р. -і.*Ануча для адымання гаршкоў з печы. Агульная назва брудных ануч. Збяры́ гэтыя аты́маўкі ды ану́чніку адда́й.

АЦЕ́СЬЛІВЫ *прым.* Сыраваты, з закальцам (пра хлеб ці булку). Такі́ ўжо пачасту́нак: аце́сьлівага хле́ба лу́сту пакла́ла...

АШЧАРЭ́ПІЦЬ *дзеясл., -пл-ю, -п-іш, перах., зак.* Абхапіць моцна рукамі. Як была́ мала́я, дык, быва́ла, ашчарэ́пя за шы́ю ру́чкамі...

БАГА́ТКА *наз., ж., р. -і.* Назва расліны. Бага́ткамі на Купа́льля абразы́ аптыка́яць.

БАДЗЯ́ЛЫ *прым.* Чалавек, які многа дзе бываў, бадзяўся, бывалы. Гэ́ты не прападзе́, ён бадзя́лы. Такóму бадзя́ламу нічóга ні стра́шна.

БАЁ́ВІК *наз., м., р. -а.* Жакет ці кофта, пашытыя з байкі.

БАМБЭ́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Невялікі барабан з браз-

гулькамі. Слова ўжываецца ў пераносным сэнсе— жывот. Ты сваі́м бамбэ́лкам усю му́зыку заглуша́йіш.

БАРДЗЕ́Й *прысл.* Хутчэй. Ні затры́млівайся, бардзе́й по́йдзім.

БАЦІСТО́ВЫ *прым.* З бацісту.

БАЦЯ́Н *наз., м., р. -а́.* Бусел. Як дзіця́ наро́дзіцца, дык малы́м ка́жаць, што баця́н прыне́с.

БЕ́ЛЬМЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Вочы (абразліва). Вы́лупіў ён на мяне́ свае́ бе́льмы...

БЛО́ЦІЦЬ *дзеясл., -ч-у, -ц-іш, перах., зак.* Травіць пасевы, сенажаці. Ня сто́лькі зье́лі тае́ канюшы́ны, ко́лькі збло́цілі.

БЛУ́ЗЬНІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, неперах., незак.,* у вымаўленні блу́зьніць і блю́зьніць. Трызніць. Блю́зьніш ты, брат, сусі́м ня то́е гаво́рыш.

БО́МА *наз., ж., р. -ы.* Доўгая жэрдка—апора (для будаўніка) на будаўніцтве саламянай страхі.

БО́ЎДЗІЛА *наз., агульн., р. -ы, абразл.* Дурань. Трэба ш было́ с тым бо́ўдзілам займа́цца.

БРА́ТКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Від палявых кветак. Вы́шыю бра̀ткі на чо́рным. Параўн: у рускай мове анютины глазки.

БРУ́НГАЛА *наз., н., р. -а.* Ворчык.

БРУХЕ́ЛЬ, *наз., м., р. -я, зняваж.* Празмерна тоўсты чалавек. Даўне́й брухля́мі пано́ў зва́лі.

БРЫДА́ *наз., ж., р. -ы́, мн. няма.* Прыкрая з'ява, ацэначна-зневаж. пра чалавека. Сяго́ньня гра́ды ко́нчыла пало́ць: хоць гэту брыду́ збыла́ з галавы́. Дзе ты, брыда́, цяга́йісься?

БРЭ́НДЗАЛА *наз., агульн., р. -а.* Чалавек, які рэдка сутыкаецца дома, валацуга, бадзяка. Дзе ты цяга́йісься, брэ́ндзала?

БУРВА́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Невялікі ўзгорачак, сухое месца на нізіне. Ко́пы ле́пі на бурва́лках ста́віць.

БУ́РКА *наз., ж., р. -і.* Тое, што і армяк. У даро́гу бяз бу́ркі німа́ як е́хаць.

БУРНО́С *наз., м., р. -а.* Тое, што і армяк, бу́рка.

БУЧ *наз., м., р. -а.* Вялікая судзіна з саломы, у бучы́ звычайна захоўваюць муку. Пад бучо́м мы́шы гне́зды павілі.

БІЛЬМА́ТЫ (бяльма́ты) *прым.* Тое, што і зяркаты,

толькі з большым адценнем зняваґі. Не́мяц адзі́н быў на́тта стра́шны, бяльма́ты.

ВАЗЮРЫ′ *наз., р. -о́ў, адз. няма.* Так называюць нязграбны, дрэнны абутак. Ты свайі́мі вазюра́мі ўсю падло́гу задратава́ў.

ВАНСА′Ч *наз., м., р. -а̀.* Мабыць, адзін са старажытных міфічных вобразаў. Які цябе́ ванса́ч ганя́я тут?

ВЕРХАВО′ТКА (верхаво́дка) *наз., ж., р. -і.* Дажджавая або вясенняя вада ў студні.

ВО′ДВЕТКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Звычай наведвання парадзіх. У водведкі ходзяць адны жанчыны. Ба́бы з во́двядак іду́ць, пе́сьня аж разьляга́йіцца.

ВО′СЬЦІ *наз., р. -яў, адз. няма.* Рыбалоўная прылада, складаецца з трох зубцоў. Васьця́мі до́бра лаві́ць ры́бу вялі́кую.

ВО′ЎЧЫ (грыб) *прым.* Не прыгодны ў ежу. Глядзі́, во́ўчых грыбо́ў у кош ні пакладзі́.

ВЫПЛЫВА′НІК *наз., м., р. -а.* Выплыванікі—самыя раннія баравікі, якія пачынаюць расці, калі «выплывае» жыта, г. зн. калі з'яўляюцца каласы. На самым узьле́ску штук пя́ць выплыва́нічкаў харо́шых знайшо́ў.

ВЫПЛЫВА′НІЧАК *наз., м., р. -чк-а,* памянш. ад выплыва́нік. Гл. выплыва́нік.

ВЫ′РАБІЦЦА *дзеясл., -бл-юся, -б-ішся, зак.* Выбрацца, вызваліцца. Як зале́с у гушча́р, дык чуць вы́рабіўся наза́т. Пападзе́ш у яго́ ла́пы дык ня вы́рабісься.

ВЫСТРАНЧА′ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Дагаджаць, забяспечваць (чым-небудзь).

ВЫ′ЦАГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Выжыць, ажыць, акрыяць пасля цяжкай хваробы. Гэту зіму́ чуць вы́цагаў, на́тта ш хварэ́ў.

ГАБЛЁ′ЎКА *наз., ж., р. -і, пераносн.* Лупцоўка.

ГАВЫЛЯ′ЦЬ *дзеясл., -еш., -е, неперах., незак., абразлівае.* Плакаць.

ГАЛАВЕ′НЬ *наз., м., р. -ўн-я, абразлівае.* Чалавек з непрапарцыянальна вялікай галавой.

ГАЛЁ′КАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Без падставы, без прычыны крычаць. Такі́ ўжо бісталко́вы чалаве́к, ве́чна галё́кая.

ГАМЭ′РНЯ *наз., ж., р. -і.* Празмерна вялікае памяшканне.

ГАРБАВА́НАЯ *прым.* Гафрыраваная. Такія кветкі можна толькі з гарбаванай паперы зрабіць.

ГІЛЬ *наз., м., р. -я́.* Снягір. І гілі зімой к будынку ціснуцца.

ГЛАДЫ́Ш *наз., м., р. -а́.* Збан без ручкі.

ГЛЕЙ [1] *наз., м., р. -ю, мн. няма.* Глей.

ГЛЕЙ [2] *наз., м., р. -ю, мн. няма.* Адвар з ячменных або іншых круп. Доктар казаў, што толькі гляек з масламдаваць можна.

ГО́ЙСАЦЬ і ГАЙСА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Шпарка бегаць без (пэўнай) мэты. Чаго ты гойсайіш цэлы дзень? І якая карысць, што гайсайіш?

ГО́РАЙ *прысл.,* ужываюцца варыянты: горай, горы, гарэй. Горш.

ГО́ЦКАЦЦА *дзеясл., -ся, -ешся, незак.* Гушкацца. Залёс на сук ды гоцкаўся, аш пакуль зваліўся.

ГРАНІ́ЦЦА *дзеясл., -іцца, незак.* Разрастацца з кораня. Здэцца й рэтка сейілі, а пагранілася й вунь якоя густоя жыта.

ГРАМАЗДА́ *наз., ж., р. -ы́, мн. няма, зніжальн.* Няўклюдная рэч значных памераў. Трэ было табе валачы гэту грамазду, у наж жа свой шкапчык ёсь.

ГРУБА́Я *прым.* Цяжарная.

ГРУНТВА́ГА *наз., ж., р. -і.* Ватэрпас. Біз грунтвагі і першая бірвяно ні паложыш.

ГРЫБО́К *наз., м., р. -бк-а́.* Від праснакоў.

ГРЫМЯ́К *наз., м., р. -а́,* у вымаўленні: грымяк і грумяк. Удар кулаком па спіне.

ГРЫ́ПА *наз., ж., р. -ы.* Грып (хвароба). Сёлята на грыпу палавіну людзей пірахварэла.

ГРЭ́НКА *наз., ж., р. -і.* Кусцік (жыта, цыбулі), які вырастае з аднаго зерня. Нашто было ўсю грэнку порціць, вырваў бы адну цыбуліну.

ГРЭ́НКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Сукупнасць пчаліных сотаў, звычайна ўжываецца да дзікіх пчол, да чмялёў, вос. Чмялёў нехта выдзяр, адны грэнкі навярху валяюцца.

ГУТАЛІ́НА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Гуталінай пачысьці боты: да людзей жа йдзеш.

ГЭ́ТТА *прысл.* Тут. Тым бокам, відаць, часта дажджы йдуць, а гэтта толькі папырская.

ДРАНКУ'ЛЬКА *наз., ж., р. -і.* Шрацінка, шрот. А ў гэ́ным гаршчо́чку по́ўна дранку́ляк было́.

ДРАПА'К *наз., м., р. -а́.* Культыватар. Ле́пі, чым драпако́м, нічы́м зямлю́ ня вы́рабіш.

ДРЫНГАЛЯ'СТЫ *прым.* Высокі і тонкі, з непрапарцыянальна доўгімі нагамі.

ДУ'НЬДЗІЦЬ *дзеясл., -іш, -іць, неперах., незак., іраніч.* Ссаць. Як бычо́к, ду́ньдзя.

ДЗЮ'ДЗЯ *наз., ж., р. -і, з дзіцячае лексікі.* Свіння. Вунь дзю́ткі хо́дзяць... По́йдзім дзю́так па́сьвіць.

ЖА'ЛІЦЦА *дзеясл., -юся, -ішся, незак.* Скардзіцца. Ду́майіш, я табе́ дару́ю? Пайду́ пажа́люся.

ЖАЛУБА'ЦЬ *дзеясл., -ю, еш, перах., незак., ацэначназніжальн.* Піць. Дабра́ліся да гладыша́ й вы́жалубалі ўсё да дна́...

ЖЫГУ'Н *наз., м., р. -а́.* Няўрымслівы чалавек, вечна неспакойны, нават без прычыны. Мэ́нка ж жыгуно́м с тым, кідайіцца бяс то́лку.

ЗАВІНУ'ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -е́шся, зак.* Прылежна ўзяцца за працу. Завіну́ліся, дык як бач ско́нчылі...

ЗАДЭ'ЧЫЦЬ *дзеясл., -ч-у, -ч-ыш, неперах., зак.* Закінуць, згубіць. І сам ня ве́даю, дзе сва́ю ша́пку задэ́чыў?

ЗАЖЭ'ГЛІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, неперах., зак.* Моцна захацець. Во́т жа зажэ́гліў малы́ гармо́нік купі́ць.

ЗАКАЯ'ННЫ *прым.* Упарты, злосны.

ЗАЛО'ЖНІК *наз., м., р. -а.* Паліца пры сцяне для лыжак, місак і інш. Нош?... Паглядзі, ў зало́жніку паві́нен быць...

ЗАМО'РАК *наз., м., р. -рк-а.* Жывая істота або расліна ці зерне, не здольныя развівацца і жыць. Гэ́та ўжо ні куранё́, а замо́рак нейкі.

ЗАРЫВА'ЦЬ *дзеясл., -е, неперах., незак.* Пераставаць даіцца (пра карову). Яна й до́брая каро́ўка, то́лькі зарыва́я на до́ўга.

ЗАСТАРО'НАК *наз., м., р. -нк-а.* Адгароджаная невысокай сцяной частка гумна, дзе складаецца збожжа. У адны́м застаро́нку зло́жым жы́та, а ў другі́м—ячме́нь, аве́̈с...

ЗАЎЧАРЫ'Х *прыслоўе.* Пазаўчора. Мусі́ць заўчары́х яна сама́ тут была́.

ЗА'ЯЧАЯ КАПУ'СТА. У вымаўленні: за́ячая і за́йчая капу́ста. Лясная расліна (oxalis acetosella). У бла-

ка́ду (блакада—блакіроўка нямецка-фашысцкімі войскамі раёнаў партызанскіх баз) галада́лі, шча́ўям ды за́йчай капу́стай і жылі́.

ЗЬБЯЁ'ДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Згубіць, закінуць, страціць. Была́ ш і сва́я, але дзе́ці зьбяёдалі.

ЗВО'ЛЬНІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Вызваліць ад выканання якіх-небудзь пэўных абавязкаў, зняць (з пасады). Цяпе́р ужо́ но́вы старшыня́, таго́ яшчэ́ ле́тась зво́льнілі.

ЗГАРУ'СЬЦІЦЬ *дзеясл., -шч-у, -сц-іш, перах., зак.* Набыць з вялікай цяжкасцю. Ме́сяцы за два мо' й згару́шчу касьцю́мчык.

ЗЛО'МАК *наз., м., р. -мк-а.* Няздольны чалавек. І ня зло́мак Сымо́н, а ні папра́віў.

ЗМО'ВІНЫ *наз., р. -аў і -ін., адз. няма.* Адзін з этапаў шлюбнага абраду. Бацькі́ сяго́ньня на змо́віны паехалі.

ЗНА'ЙДА *наз., ж., р. -ы.* Знаходка. Не вялі́кая зна́йда—тапо́р за ла́вай.

ЗЫ'МСІК *наз., м., р. -а.* Карніз у мураваных збудаваннях, у печы. Дэталь гэта знаходзіцца не на самым версе збудовы, а некалькі ніжэй, выступам. Сярнічкі там, на зы́мсіку вазьмі!

ЗЯРКА'ТЫ *прым.* Сінонім да бяльма́ты (гл. бяльма́ты).

КАВЯЛА *наз., ж., р. -ы́, зняважл.* Нага. Падабра́ў бы хоць кавёлы, парасстаўля́ў на ўсю ха́ту.

КАЛАНІ'ЦА *наз., ж., р. -ы.* Калёсная мазь. Кашу́ля ш у яго́, як та́я каланіца, чо́рная.

КАЛЮ'ГАВІНА *наз., ж., р. -ы.* Каляіна з выбоінамі. У калю́гавінах вады́ по́ўна.

КАЛЯДА' *наз., ж., р. -ы́, мн. няма.* Назва выкармленага кабана, якога павінны закалоць перад калядамі.

КАПТУ'Р *наз., м., р. -а́.* Від дзіцячага галаўнога ўбору. Надзе́нь мало́му капту́р. У каптурку́ цяпле́й бу́дзя.

КАРУ'ЗА *наз., агульн., р. -ы.* Чалавек з задзірыстым характарам, фанабэрысты, непамяркоўны.

КАЧАРЭ'ЖНІК *наз., м., р. -а.* Месца ў хаце, дзе стаяць венік, вілкі, чапяла і г. д.

КВЭ'ЦАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Калупацца. Зноў трэ́ба бу́дзя квэ́цацца ўвесь дзень. Яшчэ квэ́цайісься тут?

КЕ'ПАЛА *наз., агульн., р. -ы.* Маруда, чалавек, які квэцаецца (гл. квэ́цацца) і не можа нічога зрабіць.

КІЁ'ЎКА *наз., ж., р. -і.* Балотная расліна (Typha latifolia) Нарві кіёвак: хай дзе́ці гуляюць.

КІРМАШО'ВІКІ *наз., м., р. -аў, іранічнае.* Пярэднія зубы. Німа́ ўжо зубо́ў, вот сьпе́раду йшчэ кірмашо́вікі тарча́ць...

КІТ *наз, м., р. -у.* Параўн: у рускай мове оконная замазка. Гато́вага кі́ту ў магазі́ня німа́.

КЛІНЫ' *наз., р. -о́ў, адз. няма.* Прарэх у штанах. А ўжо́ чалаве́к такі́, ве́чна з рашшпілянымі кліна́мі хо́дзя.

КО'НАЎКА *наз., ж., р. -і.* Кружка самаробная. Ко́наўку паста́ў ля вядра́.

КО'ПТАР ужываецца ў форме твор. скл. адз. л. з прыназ. «з» (с ко́птарам). З верхам, паверх поўнага Га́рняц с ко́птарам набра́ў пшані́цы.

КО'РБА *наз., ж., р. -ы.* Сталярная прылада для зручнага свідравання дзірак невялічкага дыяметру. Бяс ко́рбы тут і за дзень ні папракру́чавайіш гэ́тулькі дзю́рак.

КОРХ *наз., м., р. -а (-у).* Мера даўжыні—на шырыню далоні. Кабана́ до́брага закало́ў, са́ла пашці́ на ко́рх. Кархі́ са два́ ні хваці́ла палатна́.

КО'ПКА *наз., ж., р. -і.* Бакавое паглыбленне на прыпечку печы, куды загортваюцца вугольлі, жар. Паглядзі́, мо́жа ў ко́пцы яшчэ́ й жар ёсь.

КО'ЎЗАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Катацца на санках, лыжах, каньках. Вун ко́лькі дзяце́й ко́ўзайіцца на лё́дзя.

КРАМА'Ч *наз., м., р. -а́.* Нож з адламаным напалам лязом.

КРАПЕ'Ш *наз., м., р. -а.* Месца, дзе сцякае вада са страхі. Сыйдзі́, ня сто́й пат крапяжо́м.

КРУ'ЧАНІК *наз., м., р. -а.* 1. Ветраны, непаслядоўны ў паводзінах і адносінах чалавек. 2. Неспакойны, непаседлівы чалавек. З такі́м кру́чанікам хі́ба ўжыве́ш? Ну пасядзі ты хвіліну, кру́чанік мой малы́.

КРУ'ШНЯ *наз., ж., р. -і.* Вялікая куча каменняў, сабраных з поля. Тут камяні́стая по́ля, скро́сь кру́шнямі зава́ляна.

КРЫЧЭ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -ы́ш, неперах., незак.* Крычаць.

Стаў я крычэ́ць, але ніко́га ўжо ні было́.

КУРА́Ч *наз., м., р. -а́.* Гермафрадыт.

ЛЕ́ПІ *прысл.,* у вымаўленні: ле́пі і ле́пяй. Лепш. Ле́пі п ты памаўча́ў. Ён ле́пяй зро́бя.

ЛЁК *наз., м., р. -у, мн. няма.* Селядцовы расол. До́брыя сяляццы́: то́лькі што зь лёку вы́цягнуў.

ЛЁ́ТАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бегаць. Уве́сь дзень пралётаў па ву́ліцы.

ЛОГ *наз., м., р. -у.* Луг. На тым лагу́ муражна́я трава́.

ЛОСЬ *наз., м., р. -я́.* Від грыбоў. Ласі́ й здаро́выя грыбы́, але на вы́глят нізгра́бныя.

ЛУ́ПКА (лу́бка) *наз., ж., р. -і.* Прадаўгаватая судзіна з саломы. Трэ' апаражніць лу́пку, бо за́ўтра се́йіць по́йдзім.

ЛУ́ЗАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак., зніжальн.* Гаварыць. Або́ што ён там ро́бя? За́йдзя ды лу́зая, се́дзячы...

ЛУ́ПА *наз., ж., р. -ы. абразлівае.* Губа. Сядзі́ць лу́пы разьве́сіўшы.

ЛЫ́НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Бадзяцца, швэндаць без занятку. До́сі ўжо лы́ндаць, за кніжкі бяры́ся.

ЛЭШ *наз., ж., р. -ж-ы.* Хлусня, нагавор. Ні за што таку́ю лэш цярпе́ў.

ЛЯ́ПА *наз., ж., р. -ы.* Рот у жывёлы. Як абраза, ужываецца ў адносінах да чалавека. Адзі́н рас, по́мню, свіньня́ ўхапіла ў ляпу дзіця́ і ўжо ў хлеў не́сла.

ЛЯХЧА́ЦЬ (лягча́ць) *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Кастрыраваць. Папрашу́ Я́ську, кап парсючко́ў вы́ляхчыў.

МАКРЫ́ЦА *наз., ж., р. -ы.* Палявая расліна, расце на вільготных участках. Макры́цу до́бра рваць, яна, як ва́та, ця́гніцца.

МАЛЁ́ГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Угаворваць, прасіць. Цэ́лую гадзіну малёгаў—і ні паслу́хаў.

МАТЛАХО́Н *наз., м., р. -а, абразл.* Нясталы, непаседлівы і няўстойлівы чалавек. А дзе ш той матлахо́н папёрся?

МАШЫНЭ́РЫЯ *наз., ж., р. -і, іранічн.* Нескладанае, прымітыўнае прыстасаванне, прылада.

МУЛЬТА́Н [1] *наз., м., р. -у, мн. няма.* Байкавага тыпу тканіна. З мульта́ну на зіму́ капта́нчык пашы́ла.

МУЛЬТА́Н [2] *наз., м., р. -у.* Ґатунак табакі. Адну́ гра́тку мульта́ну пасадзі́ў.

МУ́ТАРНА *прысл.* Моташна. Аж му́тарна ста́ла ат тых угаво́раў.

МЫШАПО́Р *наз., м., р. -а.* Праныра, чалавек, які ўсё можа знайсці, апароць. Дзе ш ты ат таго́ мышапо́ра што ўхава́йіш!..

МЭ́НКА *наз., ж., р. -і.* Му́ка, пакута. Нашто́ было́ ўсе гэ́тыя мэ́нкі пірано́сіць.

МЯДНІ́ЦА *наз., ж., р. -ы.* Вялікая эмаліраваная міска. Пада́й мядні́цу сюды́!

МЯ́ЛІНЬНЯ *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Адыходы пры пярвічнай апрацоўцы ільну або канопляў—кастры́ца. Мя́ліньня мно́га назьбіра́лася.

МЯ́ЛІЦА *наз., ж., р. -ы.* Прылада, на якой труць лён. Ня бу́ду мя́ліцу пра́віць, усіро́ўна яна́ ні патрэ́бна.

НА́БЕРАТКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Паўшоры. Біз на́бератак з гары́ апа́сна е́хаць.

НАВІДАВО́КУ *прысл.* А я ні баюся—ўсё навідаво́ку раблю́.

НА́ВІТ *часц.* Нават. На́віт сярні́чкі ўзяць забы́ўся.

НАВО́ДНЫ *прым., -ая.* Прыблудны (пра жывёлу). Ужываецца ў пераносным сэнсе і пра прышлага, нетутэйшага чалавека.

НА́ГІПКАМ *прысл.* Набгом, піць не адрываючыся. Дабра́ўся да жба́на, дык усю сьмята́нку на́гіпкам вы́жлуктаў.

НАЗАЛЯ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Рабіць на злосць, насуперак. Ішо́ў бы што рабі́ць, а то стайіш ды назаля́йісься.

НАЙІ́МЯННА *прысл.* Абавязкова, дакладна. Глядзіш, найі́мянна прыдзі́, раз ужо дагавары́ліся.

НАКАЛПА́К *прысл.* Манера завязваць хустку. Іш, прыфраньці́лася, й ху́стку накалпа́к завяза́ла.

НАЎРЫ́ЦЦА *дзеясл., -у́ся, -ы́шся, зак.* Нечакана спаткаць, натрапіць. Я ўжо й дамо́ў ішо́ў, і якра́с Сцяпа́н наўры́ўся.

НАЎЛЕ́ЧКА *наз., ж., р. -і.* Навалочка. На наўле́чкі цімнава́тага набра́ла.

НАФТАЛІ́НА *наз., ж., р. -ы.* Нафталін. Нафталі́ны палажу́ ў ку́фар, бо моль ўсё пае́сь.

НЯДБА́ЙЛІК *наз., м., р. -а.* Бесклапотны чалавек. За

майім мýжам, за нядбáйлікам, мая доля ліхая... **З народн. песні.**

ПАДЖЫ́ЛЫ *прым.* Сталы, у гадах (чалавек). Ён ўсё знáя, вядóма, чалавéк паджы́лы.

ПАЧШАХНУ́ЦЬ (падшахнýць) *дзеясл., безасаб., неперах., зак.* Рэзка змяніць паводзіны або настрой. Спакóйна сядзéў чалавéк, а тады́, як пачшахнýла што, давáй прыставáць да ўсіх.

ПА́ПА *наз., ж., р. -ы, з дзіцячае лексікі.* Хлеб.

ПАЛЫКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Глытаць. Мáма, а Ю́зік цэ́лую вішню палыкнýў.

ПАМАЎЗА́ *наз., агульн., р. -ы.* Чалавек (часцей дзіця), які любіць залезці куды не трэба. Нідзé ад гэ́тай памаўзы́ ні схавáйіся.

ПАНАДВО́РАК *наз., м., р. -у.* Сядзіба; месца, забудаванае гаспадарчымі будынкамі. Увéсь панадвóрак заваліў ламáччам.

ПА́РКА *наз., ж., р. -і.* Пара (коней). Пáрку вазьмі. Пáркай скарэ́й зрóбіш.

ПАСТЫ́Р *наз., м., р. -á.* Пастух. Апóшнія гады́ стары́ той за пастырá быў.

ПАТРАХІ́ *наз., р. -óў, адз. няма.* Вантробы. Дабярýся, дык усé патрахí сь цябе вы́трасу...

ПАШЧЭ́МКІ *наз., р. -ак., адз. няма.* Сківіцы. Так жа зýбы балячь, што да пашчэ́мак ні дакранýцца.

ПІРАБІРА́НКА (перабірáнка) *наз., ж., р. -і.* Від саматканых дываноў, пакрывалаў. Цяпéр ужó ня ткуць ні пірабірáнак, ні раднá.

ПІРАПЯЛЁ́СТЫ (перапялёсты) *-ая, прым.* Разнамасны. І цяпéр 'шчэ пóмню тую пірапялёсьцінькаю карóўку.

ПЕ́РХАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Сінонім да кашляць. Якóя там у яго здарóўя: ўсю ноч пéрхая.

ПЕ́СЕЛЬНІК *наз., м., р. -а.* Чалавек, які хораша спявае і любіць спяваць. О-о, такóга пéсяльніка пашукáць трэ́ба.

ПІСО́ГА *наз., ж., р. -і.* Драпіна (больш значная). Сусім нóвы стол і ўжо стóлькі пісóгаў.

ПІЦАВА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Рэзаць тупым нажом або пілаваць тупою пілой. Да паўдня́ адну калóтку піцавáлі.

ПО́ШЫЎКА *наз., ж., р. -і.* Навалочка. Тое, што і наў-

ле́чка. Хаце́ла чаго́ кваці́стага на по́шыўкі на-бра́ць.

ПРЫСК *наз., м., р. -у, мн. няма.* Раскалены попел, пясок з вуголлем. Палажы́ бу́льбу ў прыск, дык як стой сьпячэ́ш.

ПРЭНТ *наз., м., р. -а.* Арматурнае жалеза, жалезныя пруты дыяметрам на 1—2 см. З гэ́нага прэ́нта мо́жна й ло́мік зрабі́ць.

ПУ'ГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах. і без дап., незак.* Піць вельмі многа. До́сі табе́ пу́гаць гэтуваду́! Ты ўсё яшчэ пу́гайіш тут?

ПУЛЬСЭ'ТКА *наз., ж., р. -і.* Своеасаблівы ўзор вязання; пульсэ́тка моцна расцягваецца, гэтым узорам пачынаюцца шкарпэткі, рукавіцы і інш. Рукаві́цы заўсёды трэ́ба с пульсэ́ткі пачына́ць.

ПУ'ЦКА *наз., ж., р. -і, з дзіцячай лексікі.* Шчочка. А пу́цкі ш у яе́, як намалява́ныя, такі́я ружо́вінькія...

ПЭ'ЦКАЛЬ *наз., м., р. -я.* Чалавек, які бярэцца рабіць усё, але не можа нічога зрабіць добра. Учо́ра дзень пракалупа́ўся с тым пэ́цкалем ды й ру́кі апусьціў.

ПЯНЬКО'ЎКА *наз., ж., р. -і.* Вялікая хустка. Пянько́вак цяпе́р і ня но́сяць, а даўне́й дык ба́бу бе́днай шчыта́лі, калі сває́й пянько́ўкі ня ме́ла.

ПЯРХЛЯ'К наз., *м., р. -а́.* Фізічна слабы чалавек. Параўн.: Перхаць.

ПЯ'РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Адбіваць пранікам палатно або бялізну. Палатно́ добра бе́ліцца, як вада́ блі́ска, папя́рыш яго́, на со́нца пасьце́ліш.

ПЯТНАСТО'ЎКА *наз., ж., р. -і.* Маладая дзяўчына гадоў пад пятнаццаць.

РАБАЦІ'НЬНЯ *наз., н., зб., р. -я.* Рабаце́нне. Гэ́ны ш, што ў рабаці́ньні ўвесь.

РАДНО' *наз., н., -а́, мн. няма.* Від саматканага палатна. Радно́—гэта як пало́ска наўскася́к выхо́дзя.

РАНДЭ'ЛЯК *наз., м., р. -лька.* Каструля з ручкай. Што ў рандэ́льку ва́рыцца?

РАП'Ё'М *прысл.* Неадступна, напорна, настырна. Ні аччапі́цца, рап'ём апанава́лі.

РАПТУ'Х *наз., м., р. -а́.* Пяхцёр. З раптухо́м се́на нясі́. Паткі́нь каню́ рапту́х.

РАСХА'ЯЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Расчыніць

дзверы. Крычы́ ні крычы́—усёро́ўна расха́я дзьве́ры й по́йдзя.

РА'ТА *наз., ж., р. -ы.* Чарга. На́ша ра́та йшчэ ні падышла́.

РАЧАНЦА' *прысл.* Зрэдку, не сістэматычна (пра яду). Хо́ць бы рачанца́ чаго́ ўхваці́ць.

РО'ЎНІЦА *наз., агульн., р. -ы.* Або ён табе́ ро́ўніца? З ро́ўніцай і гуля́ць трэ́ба.

РУГАВА'ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, неперах., незак.* Турбаваць, крануць, паварушыць (саркастычна). Паду́маць, зругава́ў таку́ю асо́бу.

РУ'ТА *наз., ж., р. -ы.* Пакаёвая расліна, вазон. Рутай аздабляецца вэлюм. А бада́й тая ру́тачка завя́ла... Не паліва́й ру́тачку вадо́ю, а паліва́й ру́тачку сыто́ю... (З вясельнай песні).

РУЧЫ'ЦЬ *дзеясл., -ыць, безасаб., неперах., незак.* Ідзе ў руку, шанцуе (у жывёлагадоўлі). Ня ручы́ць мне сь сьвіньня́мі, ко́жны гот до́хнуць.

РУЧЭ'ЙКА *наз., ж., р. -і.* Скрутка ачышчанага валакна. Усяго́ па́ру ручэ́як за гэ́ту зіму́ спра́ла.

РЫ'ДАЛЬ *наз., м., р. -я.* Рыдлё́ўка (жалезная лапата). Мо́жа ў вас ры́даль ёсь? Тут і ры́длям ні ўкапа́йіш.

РЫ'МЗАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Доўга і нудна гаварыць. Хва́ці ўжо ры́мзаць, абры́дала.

РЫШТО'К *наз., м., р. -а́.* Выкладзеная каменнем канаўка ўздоўж брукаванай вуліцы або дарогі для сцёку вады. Вада́ рышткáмі сьцяка́я, а на ву́ліцы су́ха.

РЭ'ВА *наз., агульн., р. -ы.* Плакса. Сунімі́ гэ́ту (гэ́тага) рэву.

РЭ'ГІ *наз., р. -аў, звычайна ў мн.* Маленькі ручаёк, які сцякае па чым-небудзь. Зь яго́ пот рэ́гамі цёк. Пахаладае: на акне́ рэ́гі пацяклі.

РЭ'ПА *наз., ж., р. -ы.* Цыпкі на нагах або руках. Таку́ю рэ́пу за ле́та развё́ў, што хоць тра́хтар пуска́й.

САЛАДЖА'ЦЬ *дзеясл., -е, неперах., незак.* Станавіцца салодкім. Крыху́ пастайі́ць і ўжо саладжа́я.

СВІНА'РКА *наз., ж., р. -і.* Від грыбоў. С цэ́лай ку́чы здаро́вую сьвіна́рку мо' з адну́ й зна́йдзіш...

СЕЛЬЦІСО'Н *наз., м., р. -а.* Від свіной каўбасы, прыгатаванай асобым спосабам. Хацэ́ла сельцісо́на зрабіць, ды ня ве́даю як.

СІЛЯ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Чэрпаць. Засіліў ваді́ зь вядра́, дый та́я мутна́я была́.

СКЛЮТАВА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Абчэсваць. Знутры́ сцэ́ны пры́дзіцца псклютава́ць.

СКО́ЧКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Расліна (Sempevivum soboliferum). Гэ́тыя ско́чкі бо́лі на магі́лах са́дзяць.

СКРЫ́ЛЬ *наз., м., р. -я́.* Адрэзаная тонкая частка (скібачка) яблыка, морквы і г. д. Мо́ркву трэ́ба то́нінькімі скрылька́мі парэ́заць.

СМАЛЯ́НКА *наз., ж., р. -і.* Лугавая кветка (Viscaria viscosa). Ні люблю́ я гэ́тых смаля́нак: смало́й па̀хнуць.

СО́ЛАДЗЬ *наз., ж., р. -і.* Прарошчанае зерне, солад. Нарыхтава́ў с паўпу́да со́ладзі.

СПРАНА́ДЗІЦЬ *дзеясл., -дж-у, дз-іш, неперах., зак.* Набыць прывычку, павадзіцца. Так жа спрана́дзіў у сат ла́зіць...

СПРАНА́ТРЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., зак.* Тое ж, што і спранадзіць. До́брая каро́ва, але с по́ля спрана́трыла ўціка́ць.

СПРО́НЖКА *наз, ж., р. -і.* Спражка.

СПУ́ЛКА *наз., ж., р. -і.* Суполка. Спу́лка горш, як ску́ка. У спу́лца рабі́лі.

СТАЛЬВА́ГА *наз., ж., р. -і.* Трайны ба́рак (ворчык) для параконнай запрэжкі. Стальва́гі німа́, што я бу́ду рабі́ць с па́ркай?

СТРУКАВЕ́НЬ *наз., м., р. -ўн-я́, іранічн.* Кучаравы чалавек. Ні люблю́, як на́тта струкаве́нь. Страча́й свайго́ струкаўня́...

СТРУКАВА́ТЫ *прым., іранічн.* Кучаравы.

СТРЫХО́ЎКА *наз., ж., р. -і, будаўніч.* Прылада для выраўноўвання саломы пры крыцці страхі. Стрыхо́ўку трэ́ба но́ваю зрабі́ць.

СТРЭ́ПАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, звар., незак.* Рабіць асцярожныя, слабыя шорахі. Чу́ю — стрэ́пайіцца не́шта, гляджу́ — аж гэ́та Бо́бік.

СХО́ЦЦЫ (параўн.: сходзіць) *наз., р. -аў, адз. няма.* Ступенькі, лесвіца. Каля́ га́нку схо́дцы зраблю́.

СЬЦЕ́НКА *наз., ж., р. -і.* Дарога, якая праходзіць за будынкамі паўз вёску (паралельна вёсцы). Ле́пі сьце́нкай ець, ні так трасьці́ бу́дзя.

СЯВА́ЛКА *наз., ж., р. -і.* Тое, што і лубка (гл. лубка). На по́лі сява́лку забы́ўся.

ТОР *наз., м., р. -у.* Санны след на снезе. Па гато́ваму то́ру ле́пі е́хаць, як у цэ́лая. Павара́чвай у тор.

ТРУТ (труд) *наз., м., р. -у.* Пакуты, цяжкасці. Ко́лькі трудоў піранясе́ш, паку́ль дзяце́й вы́гадавайіш.

ТРУДНАВА́ЦЬ *дзеясл., -ну́-ю, -ну́-еш, неперах., незак.* Пакутаваць, гараваць. Пірат сьме́рцю, бе́дны, так труднава́ў.

ТРЫБУХА́Ч *наз., м., р. -а́, зняважл.* Празмерна тоўсты чалавек. Ні хачу́ с трыбухачо́м дзе́ла мець.

ТУПА́К *наз., м., р. -а́.* Няздатны да навукі. Няма чаго́ с тым тупако́м го́йсаць, за кні́шкі бяры́ся.

ТЫН *наз., м., р. -у.* Агарожа з бярвенняў, як сцяна. Даўне́й не́калі двор ты́нам агара́джавалі.

ТЫ́ШЧЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся.* Залазіць, прабірацца. Заты́шчыўся не́дзе ў кут і ні віда́цьусі́м.

ТЭ́БАЛЬ *наз., м., р. -я.* Інструмент для пракручвання дзірак у дрэве, дыяметр—каля 5 см. Ты маладзе́йшы, лесь с тэ́блям на сьцяну́.

УЗДЗЯБУ́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак., зніжальн.* Апрануць. Узьдзябу́р яку́ю тра́нту ды йдзі бардзе́й.

УЗРО́ЎЯ *наз., н., р. -я.* Насып паўз канаву, па беразе (на берагах) канавы. Сядзі́ць сабе́ на ўзро́ўі, но́гі зьве́сіўшы.

УЛУ́КАТКУ *прысл.* Крыва, зігзагамі. Як сярбану́ў дзве шкля́нкі, дык і пашо́ў улу́катку.

УНА́ДЗІЦЦА *дзеясл., -дж-уся, -дз-ішся.* Тое, што і спранадзіць (гл. спранадзіць). Зо́сін кот уна́дзіўся кураня́т цяга́ць.

УПРО́ЧКІ *прысл.* Пайсці ўпрочкі—пакінуць сям'ю. Ужо пэўна разо́ў пяць хадзі́ў упро́чкі.

УПЯ́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Ударыць, выцяць. Злаві́лі аднаго́ ды калі ўпя́рылі, дык біз агля́ткі ўцяка́ў.

УРАБІ́ЦЦА *дзеясл., -бл-юся, -б-ішся,, зак.* Уве́сь у гразі́ прышо́ў, так урабі́ўся, што й ні пазна́ць.

УРО́БЛЕНАЯ. Добра апрацаваная (пра глебу). Той клін найле́пі ўро́бляны.

УРО́КІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Кабе́та та́я памага́ла ад урокаў. Мой жа, ня ўро́кам ка́жучы, пераста́ў піць.

УРЭ́ПІЦЦА *дзеясл., -пл-юся, -п-ішся, зак.* Ухапіцца.

Хацеў уцячы, але я ўрэпіўся за рукаво й ні пусьціў.

УШЧУ'НАК *наз., м., р. -нк-у, мн. няма.* Уціхаміранне, супакой. Няма ўшчунку на вас.

ФАТЫ'ГА *наз., ж., р. -і.* Старанне, клопаты. Шкода толькі фатыгі ды часу.

ФАТЭ'ЛЬ *наз., м., р. -я.* Крэсла. Вазьмі фатэль ды сяць.

ФУТЭ'РАК *наз., м., р. -рк-а.* Від вопраткі на футры. Паехаў жа ў футэрку, ні замерзьня.

ХАЛАДО'К *наз., м., р. -дк-ў.* Цянёк. Хадзі во ў халатку пасядзім.

ХВАЛА' *наз., ж., р. -ы.* Слава, вядомасць. Адзін зьеш хоць вала—адна хвала.

ЦЯЦЯЎЁ' *наз., н., р. -я.* Сцяблінка травяной расліны без лісцяў. Якая тут трава: цяцяўё нейкая тарчыць.

ЦІКА'ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Красціся, падкрадацца, падпільноўваць. Апсік у поле! Ізноў да куранят цікайісься.

ЦІ'ПКА *наз., ж., р. -і, з дзіцячае лексікі.* Курыца. Пайдзём на дворык, там ціпку зловім...

ЦЫБА'ТЫ *прым.* Адзін немяц, цыбаты, натта ш злосны быў. Ня ведайіш таго цыбатага?

ЦЫ'ТРА *наз., ж., р. -ы.* Абразлівая назва жанчыны. Гляджу, аж яна, як цытра, сядзіць.

ЧУЖАНІ'ЦА *наз., агульн., р. -ы.* Зусім чужы, далёкі чалавек. І каб ужо свой, а то — чужы-чужаніца нейкі прыблукаўся.

ЧУЖЫ'-ЧУЖАНІ'ЦА. Гл. чужаніца.

ШАЛАМЭ'ЙКА *наз., ж., р. -і, іранічна-зняважл.* Галава. Глядзі ня лесь, бо аткруцяць шаламэйку.

ШАРАВА'РКА *наз., ж., р. -і.* Абавязковыя работы па ўпарадкаванню дарог. Пры Польшчы на шараварку ўсіх ганялі.

ШАРГУНЫ' *наз., р. -оў, адз. няма.* Аздабленне конскай збруі. Шаргуны роўна мілагучна звіняць. Ш шаргунамі куды цікавей ехаць...

ШАРСТКІ' *прым.* Цвёрды, калючы, шурпаты (аб матэрыі). На выгляд добрая, але ш натта шарсткая.

ШВІРГЕ'ЛЬ *выклічнікава-дзеяслоўная форма тыпу* бразь. Падаю яму, як чалавеку, ў рукі шапку, а ён—швіргель яе пат парох.

ШНЫ'РЫЦЬ *дзеясл., -ыш, -ыць, неперах., незак., іра-*

*нічн.* Прыдуць, бывала, не́мцы, усе́ вуглы́ апшны́раць.

ШПІГУНА́Р *наз., м., р. -у, мн. няма.* Шкіпінар. Шпігуна́рам нацёрці—то́жа памага́я.

ШЧАБЛО́ *наз., н., р. -а́.* Папярэчныя перакладзіны лесвіцы. Драбіна но́вая, а шчэ́блы ўжо палама́лі.

ШЧАПА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* 1. Расколваць (бервяно, палена). 2. Пераносн. Яка́я ш гэ́та гульня́, калі галаву́ рашчапі́ў?

ШЫДЭ́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Прылада для вязання карункаў. Ні забу́цься купі́ць шыдэ́лак.

ШЭ́РАНЬ *наз., ж., р. -і.* Верхні цвёрды пласт снегу, які не праломліваецца пад нагамі. Гэ́тай зімо́й шэ́рані ні было́.

ШЭ́ХЛА *наз., м., р. -ы́.* Прастак, непаслядоўны ў паводзінах, у гутарцы, у адносінах з людзьмі. Ш шэ́хлам тым хі́ба ўжыве́ш?

ЮР *наз., м., р. -у, мн. няма.* Слова ўжываецца ў значэнні старaславян. «вожделение». Юр разьбіра́я.

Я́ВАР *наз., м., р. -у, мн. няма.* Аер. Люблю́, як у ха́ця я́варам па́хня.

Я́ГРАСТ *наз., м., р. -у, мн. няма.* Агрэст. Каля пло́ту скро́зь я́грастам засадзі́лі.

ЯКАТА́ЦЬ *дзеясл., -ч-у, -ч-аш, непарах., незак.* Енчыць. Так жа якатаў, бе́дны, што аш у грудзя́х забале́ла.

*Г. ВАРАВА*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСАК БАБРОВІЧЫ, ЗАМАСТОЧЧА, КАТКА, СЛАБОДКА[1]

АБАМЛЕ́ЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., зак.* Самлець. страціць прытомнасць. Бабр.

АБЛАВУ́ХІ *прым.* З вялікімі вушамі. Бабр.

АПО́ЎЗЬЛІК *наз., м., р. -а.* Малы хлопчык, які невядома дзе бадзяецца ў дрэннае надвор'е. Бабр.

АПРУ́ЦЯЦЬ, АПРУЦЯНЕ́ЦЬ, СПРУЦЯНЕ́ЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., зак.* Роўназначнае слову здо́хнуць. Бабр., Катка Замаст.

АПРЭ́СЬНІК *наз., м., р. -а.* Праснак. Вуйшаў хлеб, трэба хоць апрэсьнік (спячы). Бабр.

АРЭ́ШЧЫНА *наз., м., р. -ы.* Арэшына, арэхавае дрэва. Знайшо́ў було́ адну́ арэ́шчыну й цэ́лую ка́йстру арахо́ў нарва́ў. Бабр.

АСКРА́К *наз., м., р. -а.* Чалавек, у якога заўсёды беспарадак пад носам. Атлупі́ е́таго аскрака́ дай е́сьці ні да́й. Бабр.

БАХІ́ЛЫ *наз., р. -аў.* Зробленыя з камеры (аўтамабільнага кола) галошы на валёнкі, буркі. У бахілах до́брэ й па вадзе́ хадзіць. Слаб.

БО́ЛБАЦЕНЬ *наз., м., р. -я.* Балбатун. Трахім?.. Дак ето ж несусьве́тны бо́лбацень. Бабр.

БРЫ́ЛЬ *наз., м., р. -ю.* Невялікі выступ над уваходам у печ. На брылі́ ляжа́ць сьпі́чкі. Бабр.

БУГВЕ́Д. Бог ведае. Пляце́ бугве́д што. Бабр.

БЯЛЬМА́Ч *наз., м., р. -а́, зняважл.* Сляпы чалавек, жывёліна; сляпец. Катка.

---

[1] Вёскі ўваходзяць у Глускі раён Магілёўскай вобласці.

ВЕ́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Павека (павекі вачэй). Не́што на ве́йку се́ло. Бабр.

ВЕСЯЛУ́Н *наз., м., р. -а.* Вясёлы чалавек, жартаўнік. От і весялу́н жа е́ты Фе́дзя! Бабр.

ВІСЛАГУ́БЕЦ *наз., м., р. -бц-а.* Гл. віслагубы. З тым віслагу́бцам не дагаво́рысса. Бабр.

ВІСЛАГУ́БЫ, ВІСЛАГУ́БУЙ *прым.* Чалавек з тоўстымі, абвіслымі губамі. Чорт ты віслагу́буй! Бабр.

ВОЛ *наз., м., р. -а́.* 1. Кастрыраваны бык. 2. Балотная птушка. Слу́хай, як вол вадзяны́ бу́хае. Бабр.

ВЫЗЬВЯРА́ЦЦА *дзеясл., -ешся, -ецца, незак.* Крычаць дзікім голасам (на каго-небудзь). То́лькі я пераступі́ла паро́г, а ён як ву́зьвярыцца, як накі́нецца на мяне́. Бабр.

ВЫ́ПРУЦІЦЦА, ВУ́ПРУЦІЦЦА *дзеясл., -ішся, -іцца. зак.* Выцягнуцца, як прут. Сьцебану́ў папру́гаю, дык ён аж ву́пруціўса. Бабр.

ВЯ́КАЦЬ, ЎЯ́КАЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., незак.* Плакаць (у адносінах да малога дзіцяці).

ВЯРГІ́НЯ *наз., ж., р. -і.* 1. Табака з прыемным пахам. Не́што ў нас вяргіня перавяла́ся. Бабр. 2. Кветкі. Расьцьвіла́ вяргі́ня. Катка.

ГА́ПКА *наз., ж., р. -і.* Разрэз, праз які праходзіць гузік пры зашпільванні. Трэ́ба га́пку сашы́ць, а то разарва́ласа. Бабр.

ГАРБУ́ЗЬНІК *наз., м., р. -у.* Націна гарбузоў. Увесь гарбу́зьнік патапта́лі. Бабр.

ГРЫМ *выклічнікава-дзеяслоўная форма.* А го́сьці грым на дво́р. Бабр.

ГУ́РА *наз., ж., р. -ы.* Гурба (снегу). За но́ч таку́ю гу́ру сьне́гу намяло́. Замаст.

ДУБІ́ЦЬ *дзеясл., -бл-ю, -іш, перах., незак.* А ён (воўк) кінуўса ў ста́до, схваціў аўцу́ і падубі́ў у але́шнік. Бабр.

ДУБНЯ́К *наз., м., р. -у́.* Участак лесу, дзе растуць дубы. Вот грыбо́ў набра́ў на дубняку́! А ўсе здаро́вуе, белагало́вуе. Бабр.

ДУХІ́ сьпе́рло. Заняло дыханне. П'ёрса, п'ёрса да ле́су, аж духі́ сьпе́рло. Бабр.

ДЖВО́ГАЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., незак.* Моцна сту́каць (дзвярыма, званіць у рэйку і г. д.). От уп'ёкса за дзе́нь: со́ўдаецца туды́-сюды́ да джво́гае (дзвярамі). Бабр.

ДЗЕРАЗА́, ДЗЯРАЗА́ *наз., ж., р. -ы.* 1. Лясная расліна, якая сцелецца па зямлі. Бабр. 2. Пераносн.: задзірлівы чалавек. От жэ дзераза́, не падо́ляе, а сераўно́ ле́зе. Катка.

ДЗЁ́БНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, перах.* і *без дап., зак.* Выпіць гарэлкі. Бабр.

ДЗЯГ *наз., м., р. -а.* Палоска лазы, падрыхтаваная для пляцення лапця. Бабр.

ДЗЯЖНІ́К *наз., м., р. -а́.* Палатняны ручнік, невялікі, з махрамі; на яго кладуць спечаныя бліны, аладкі. Бабр.

ДЗЯЛЯ́НКА *наз., ж., р. -і.* 1. Участак лесу. Усю дзяля́нку ву́сяклі. Слаб. 2. Кавалачак (порцыя) сала, мяса, каўбасы. Бабр.

ЖУ́ЖАЛЬ *наз., м., р. -ю.* Попел. Жу́жалю с папяро́сы нараскіда́ў. Бабр.

ЗАВІ́НЧВАНКА *наз., ж., р. -і.* Крышка з вінтавым нарэзам. Заві́нчванку згубі́ў, цяпе́р чарніло вуліва́яцца. Бабр.

ЗАДЗЕ́ЦЦА *дзеясл., задзе́нешся, задзе́нецца, зак.* Прапасці невядома дзе. І дзе́ той наш но́жык задзе́ўса? Бабр.

ЗАМ'Ё́Т *наз., м., р. -у.* Сценка паміж шуламі. Закі́нь за зам'ёт, хай валя́яцца. Бабр.

ЗА́ТКАЛО *наз., м., р. -а, зняважл.* Сно́ўдаяцца, як за́ткало дурно́е. Бабр.

ЗАСКА́ЛЬКО *наз., агульн., р. -а.* Чалавек, што жмурыцца ад блізарукасці ці проста ад прывычкі. Бабр.

ЗА́СЛАНКА *наз., ж., р. -і.* Металічная ці драўляная прылада, якой засланяюць печ, каб не выходзіў дух (цяпло). От раскі́далаcа мая за́сланка, й німа́ чым пе́чы засланіць. Бабр.

ЗГЛАМАЗДЭ́КАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Зрабіць (што-небудзь) неахайна, абы з рук. То ж дзед зглamazдэ́каў такі крываклу́буй (гл.) засло́н. Бабр.

ЗІ́МКА *наз., ж., р. -і.* Насенная цыбуля, якая адразу ўзыходзіць пасля сыходу снегу. Бабр.

ЗЬВЯГА́ *наз., агульн., р. -і.* 1. Брахлівы сабака. От зьвягу́ найшлі́ на сваю́ го́лаву. Бабр. 2. У пераносн. сэнсе—пра чалавека. Бабр.

ЗЯЛЁ́НКА *наз., ж., р. -і.* Разнавіднасць грыбоў зялёнага колеру. Зялё́нкі дак тые расту́ць ку́чамі. Бабр.

КАЗЬЛЯ'К *наз., м., р. -á.* 1. Усякі грыб, акрамя баравіка. От казьлякóў нараслó! Катка. 2. Размоклая рэч (пераноснае). Бабр.

КАЛО'К *наз., м., р. -лк-á, памянш.* ад кол. Бабр.

КАМАКІ' *наз., р. -óў, адз. няма.* Бульбяная каша. Ат'éўса на Гáньніных камакóх. Бабр.

КАМЕ'ШНІК *наз., м., р. -у.* Кут, дзе стаяць прылады гаспадыні (чапяла, венік, вілкі).

КАНАЗО'БКА *наз., ж., р. -і.* Той, хто прытвараецца быццам плача, ныцік-прытвора. Сьцíхні, каназóбка! Бабр. Параўн.: каназá. Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, 1959 г., выд. АН БССР.

КАПТА'Н *наз., м., р. -á.* Кофта. Ну й харóшы ў Вóлі Халапічáнкі каптáн. Бабр.

(3) КАПТУРО'М ужываецца ў спалучэнні з дзеясловам «налажы́ць». З верхам. Прышлá, дак я ёй мíсу йгруш с каптурóм налажы́ла. Бабр.

КАРТАПЛЯ'НІК *наз., зб., м., р. -у, мн. няма.* Бульбоўнік. Трэ́ба картаплянік сажáць (зжаць). Катка.

КАРУ'ЗА *наз., агульн., р. -ы.* Задзіра, забіяка. Ой, карýза, аччапíса, а то дам, дак сямнáццаць раз паракýлісса. Бабр.

КАТУ'! *Выклічнік.* Катý! штоб цябе... кашáчая парóда! Бабр.

КАШЛУ'ХА *наз., ж., р. -і.* Жанчына з незачэсанымі валасамі. Бабр.

КЛАДЫ' *наз., р. -ó-ў, адз. няма.* Могільнік. Бабр.

КЛЕ'ТКА *наз., ж., р. -і.* Дровы, складзеныя пад страхою. Бабр. Параўн.: касьцёр. Карэліцкі раён.

КО'МІНАК *наз., м., р. -нк-а.* Месца ў печы, на якім палілі лучыну і такім чынам асвятлялі хату. Бабр. Параўн.: камінóк. Карэліцкі раён.

КРЫВАКЛУ'БЫ, КРЫВАКЛУБУ'Й *прым.* Крывабокі, аднабокі. Бабр.

КРЭ'СІЛО *наз., н., р. -а.* Крэсіва. Бабр.

КУДО'Ю *прысл.* Кудóю ён пашóў? Бабр. Кудóю тут іцí, сам ні вéдаю. Слаб.

ЛАЙНО' *наз., н., р. -á.* Адна з рэчаў дзіцячай пасцелі. Завярні ў лайнó дзіця́. Бабр.

ЛА'ПКА *наз., ж., р. -і.* 1. Лапка. 2. Яловая галінка. Бабр.

ЛАХТЫ'Р *наз., м., р. -á.* Лахман. А камý астанéцца еты лахты́р пасля́ маé сьмéрці? Бабр.

ЛАШКУ́Т *наз., м., р. -á.* Чалавек, які дзесьці бадзяецца і заўсёды спазняецца. Лашку́т, не шы́йса (гл.) на кут. Бабр.

ЛЁ́СТА *наз., ж., р. -ы.* Добразычлівая, вельмі памяркоўная дзяўчына. Ма́ня Бу́сьлікава така́я ж ужэ лёста, што хоць ты яе ў папе́рку завярці́. Бабр.

ЛІСЯ́ВЫ *прым.* Ласкавы, тактоўны. Лісявуй чалаве́к, нічо́го ні ска́жэш. Бабр.

ЛЯМЕ́Ш *наз., м., р. -у.* Сыраваты, ацеслівы хлеб.

ЛЯМЕ́ШКА *наз., ж., р. -і.* Няўдала згатаваная страва. Бабр.

МАЛЕ́Й *наз., м., р. -я.* Спакойны, флегматычны чалавек. Хіба тако́го мале́я ў злосць прывядзе́ш? Бабр.

МАНЬКУ́Т *наз., м., р. -á.* Гл. манюка. Чалавек, які гаворыць няпраўду. Не вер етаму манькуту. Катка.

МАНЮ́КА *наз., агульн.* Чалавек, які кажа няпраўду, маніць, ілжэ. Слу́хай е́таго маню́ку—то ён ска́жэ, што ба́чыў камара́ тры то́ны. Бабр.

МАТКА *наз., р. -і.* 1. Адно з пяшчотлівых слоў пры звароце. Ма́тка мая́, кве́тка, чаго ты плачэш? Бабр. 2. Ма́тко—клічная форма. Ай, ма́тко, што й гавары́ць... Бабр.

МАЧА́НКА *наз., ж., р. -і.* Страва з мукі, сала, мяса. Бабр.

МУ́ДРЫКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Штукарства. Кінь мне е́тые му́дрыкі, а то палу́чыш! Бабр.

МУРЛА́СТЫ *прым.* Чалавек з шырокім поўным тварам. Бабр.

МУРЛА́ТА *наз., ж., р. -ы.* Бервяно, на якое апіраецца сваёй асновай кроква. Ужэ кро́кву (кроквы) на мурла́ты паста́вілі. Бабр.

МУША́РЫНА *наз., ж., р. -ы.* Лясная трава карычневага колеру. Па мушары́не грыбу́ вялі́кіе расту́ць. Бабр.

НАБЕ́ДРЫКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Набедры. Бабр. Параўн.: шоры. Карэліцкі раён. Параўн.: шлеі. Докшыцкі раён.

НАБІ́РАК *наз., м., р. -рк-а.* Любая невялікая пасудзіна, у якую бяруць ягады, а потым перасыпаюць у большую пасудзіну. Што ж мне ўзяць за набі́рак? Бабр. Параўн.: набі́рак—зробленая з лубу пасудзіна спецыяльна для ягад. Асіповіцкі раён.

НЕ́-А *адмоўе.*—Ты по́йдзеш касі́ць?—Неа.

НЕЗДАЛЕ'ЦЬ, НІЗДАЛЕ'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Быць слабому здароўем, нядужаму, хвораму. Ніздалéю я ўжэ саўсім. Бабр.

НЕ'МАЧ *наз., ж., р. -ы.* Слабасць, бяссілле; ужываецца ў спалучэнні немач найшла. Каб на цябé нéмач найшлá. Бабр.

НІПЕ'ЎНЫ *прым.* Слабы. Такі ўжэ ніпéўны éты мой мéншы хлóпец. Бабр.

ОТ ТАКІ', ОТ ТАЧКІ', ОТ ЭТА'ЧКІ, ВАТЭ'ТАЧКІ. Вось такі, вось гэтакі. А янá мне далá от тачкí кусóчак, як вераб'ю ўклюнуць. Бабр.

ПАБЯГУ'ХА *наз., ж., р. -і.* Жанчына, што любіць пабегаць з хаты ў хату і разносіць розныя навіны і плёткі. Бабр.

ПАВАДО'К *наз., м., р. -дк-á.* Кароткі кавалак вяроўкі. Бабр.

ПА'ДАЛКА *наз., ж., р. -і,* звычайна ўжываецца ў мн.— пáдалкі. Яблыкі, грушы, якія апалі самі (нязбітыя, нястрэсеныя). Цэ́лае вядрó пáдалак назьбірáла. Бабр. Параўн: апáдкі. Докшыцкі раён. Параўн.: пáданкі. Бабруйскі раён.

ПАДВАРО'ТНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Дошка, якая закрывае праход пад варотамі. Сьвíнні атапхнýлі падварóтніцу, залéзьлі на двор і ўвесь скапáлі. Бабр.

ПАДПЕ'ЧАК *наз., м., р. -чк-у.* Пустое месца пад печчу. Ад падпечак — прыслоўе падпечкам. Тхары́ падпéчкам завялíса. Катка.

ПАЛО'СКА *наз., ж., р. -і.* Невялікі, вузкі ўчастак зямлі. Бабр., Катка, Замаст., Слаб. 2. Зматаная ў колца лаза. Надрáў палóсак двáццаць лазы́. Бабр.

ПА'ПЛІСКА *наз., ж., р. -і.* Плоская палка. Бабр.

ПАПРУ'ГА *наз., ж., р. -і.* Рэмень. Патперажы́са папрýгаю: цяплéй бýдзе. Бабр.

ПА'РАНКА *наз., ж., р. -і.* Запараная сечка, мякіна з бульбай, з мукою. Бабр.

ПАРО'НКІ *наз., адз. няма.* Аблупленая, звараная цалкам бульба. Еж парóнкі с хлéбам: трывалéй бýдзе. Замаст.

ПА'СЬМЯНЕ *наз., н., р. -я.* 30 нітак. Бабр. Параўн.: назоўнікі з лікавым значэннем: капа, бочка, тузін.

ПАТА'ПЦЫ *наз., адз. няма.* Страва: крышаны хлеб у малацэ, вадзе, квасе. Бабр. Параўн: рулí. Асіповіцкі раён. Параўн.: цю́пка. Докшыцкі раён.

ПАХА́ТУХА *наз., ж., р. -і.* Жанчына, якая любіць пабегаць па хатах, пачуць і расказаць навіны, плёткі. Бабр.

ПАХУ́ЧКА *наз., ж., р. -і.* Лугавая расліна з шырокімі светла-зялёнага колеру лістамі. Паху́чкі нарва́ла. Бабр.

ПЛЯСЬ *выклічнікава-дзеяслоўная форма,* параўн.: дзеяслоў пля́снуць. Бабр.

ПО́СПАЛ *прысл.* Запар, побач. Мікі́та па́сьціў каро́ву (каровы) два дні по́спал. Бабр.

ПО́ТРАХІ *наз., р. -аў.* Вантробы. Як варсану́, дык і по́трахаў твайі́х не застане́цца. Бабр.

ПРАБАЧА́ЦЬ *дзеясл., неперах., незак.* Выбачаць. Вазьмі́ ко́лькі есь, а на бо́льшае прабача́й. Бабр.

ПРАСТАРЭ́КАВАЦЬ *дзеясл., -у-ю -у-еш, -у-е, неперах., незак.* Многа, абы што гаварыць. Бабр.

ПРЫЧЫНДА́ЛЬЛЕ *наз., н., р. -я.* Прылады, прыладдзе. Разлажы́уса с свайі́м прычында́льлем. Бабр.

ПЯРЭ́ГАД *наз., м.* Перыяд пагодлівага надвор'я паміж дажджамі. Цэ́лы дзень дож сь пярэ́гадам ідзе. Бабр.

РАДО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Разнавіднасць грыбоў светла-карычневага колеру. Растуць кучамі (радамі). Німа́ грыбо́ў хоць ты радо́вак набяры́. Бабр. Параўн.: радо́ўка—пасвіць па чарзе каровы. Докшыцкі, Асіповіцкі раёны.

РА́ЛЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Раздвоены (разгалінаваны) ствол дрэва. Ну й дро́вы! Адны́ ра́лы не́йкіе. Бабр.

РА́НЬНІК *наз., м., р. -у.* Пылок з кветак дзеразы, ім засыпаюць раны (відаць, ад гэтага такая і назва). Учо́рэ Гану́ля бага́то ра́ньніку пры́несла. Бабр.

РО́ЗВАЛЬНІ *наз., р. -яў, адз. няма.* Прыстасаванне да саней, для расшырэння іх плошчы. З ро́звальнямі бага́то больш се́на пало́жыш. Бабр. Параўн.: шара́гі. Карэліцкі раён.

РЫЖМЕ́ЛЬ *наз., м., р. -я́, зняважл.* Рыжы (чалавек). Бабр.

РЫЗМА́НТЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Манаткі, лахманы. Бабр.

САЛО́МЯНІК *наз., м., р. -а і -у.* Сяннік. Трэ́ба сало́мянік напха́ць, а то пераце́рса. Замаст.

САХА' *наз., ж., р. -і.* Сохі — слупы, на якія апіраецца страха павеці. От до́бру саху́ прыўёз. Бабр.

СКА'ЛКА *наз., ж., р. -і.* 1. Крэмень, з якога крэсівам высякаюць агонь (іскры). Знайшо́ў чо́рную ска́лку. Бабр. 2. Кропля тлушчу ў страве. Ба́чыш, ска́лкі пла́ваюць, а гаво́рыш—нішчы́мнае. Катка.

СКА'ЦЕРКА, СКА'ЦЯРКА *наз., ж., р. -і.* Абрус. Засьцялі́, до́нька, ска́церку. Бабр.

СКЛА'СЬЦІ [1] *дзеясл., -у́, -е́ш, перах., зак.* Складці (дровы, кнігі і г. д.).

СКЛА'СЬЦІ [2] *дзеясл., -е, перах., зак.* Скапаць, зрыць, сапсаваць (гародніну ў гародзе, пасевы, бульбу). Сьвіньня́ ўсю граду́ скла́ла. Бабр.

СЛІ'НЬКО *наз., агульн., р. -а.* Слінявы чалавек. Ат, у таго слінька ву́прасіш! Бабр.

СМАЛЯ'К *наз., м., р. -а́ і -у́.* Смалісты кавалак хвоі. Бабр.

СО'НЯШНІК *наз., м., р. -у.* Сланечнік. Бабр.

СПА'ДКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Спадчына. А каму ётые спа́дкі астану́цца? Бабр.

СПА'ТКІ *з дзіцячай лексікі.* Дзіця́ хо́чэ спа́ткі (спаць). Бабр.

СПЛЯ'ЖЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* 1. Збіць да смерці (каго-небудзь). От спля́жыў, дак спля́жыў. 2. Стаптаць (пасевы, сенажаць). Пусьціў карову, дак яна спля́жыла ўсе карто́плі. Замаст.

СТАРАЖАВА'ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, -у́-еш, перах., незак* Вартаваць. Даніло старажу́е кладо́ву. Бабр.

СЫРО'МЛЯ *наз., ж., р. -і.* Сырое, мокрае (дрэва, сена, салома). Дзе така́я сыро́мля будзе гарэ́ць? Бабр.

СЭ'НДА *наз., агульн., р. -ы.* Чалавек, які заўсёды гаворыць многа небыліц. Сьціхні ты, сэ́нда. Бабр.

ТО'ПЕНЬ *наз., м., р. -я.* Рыбалавецкая снасць, зробленая з лазовых дубцоў. Уюно́ў ле́пей за ўсё лаві́ць то́пням. Бабр.

ТРАПЛО' *наз., м., р. -а́.* 1. Прылада, пры дапамозе якой трэплюць лён. 2. Пераноснае. Чалавек, які многа гаворыць без патрэбы, балбатун, пустазвон. І калі́ ётае трапло́ сьціхне? Бабр.

ТРЫПУ'ТНІК *наз., м., р. -у.* Падарожнік (расліна). Бабр.

ТРЫСЬЦЕ'НЬНІК *наз., м., р. -а і -у.* Прыбудова да

будынка (хаты, хлева) з трох сцен. Трысьце́ньнік шчэ здаро́вуй, мо́жно ву́брацць на хле́ў. Бабр.

УЗЫ'ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Даць, падсунуць (каму-небудзь што-небудзь дрэннае, непрыемнае). От шту́чку ўзы́чыў. Бабр.

УШПУЛІ'ЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, неперах., зак.* Сцебануць, хвасянуць, выцяць моцна, з задавальненнем. Ах, ушпулі́ў. Як прывары́ў, аж агнём запякло́. Бабр.

ХВАРСЕ'ЦЬ *дзеясл., -іш, -іць, неперах., незак.* Фарсіць. Бабр.

ХВІ'ЛЯ *наз., ж., р. -і.* Непагадзь з ветрам, снегам ці дажджом. Ну й хві́ля падняла́ся. Бабр.

ХВО'СНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, перах., зак.* Перацягнуць, сцебануць. Бабр.

ХЛАП'Я' *наз., н., р. -я́ц-і,* ад назоўніка хлопец (па ўзору дзіця, цяля). Падростак. Куда́ ты е́тае хлап'я́ паця́гнеш? Бабр.

ХЛІСНУ'ЦЬ *дзеясл., -у́, -е́ш, перах., зак.* Хлісьні́ цёплых карто́пель. Бабр.

ЦЫР *наз., м., р. -у.* Высушаны грыб (губа), нараст на дрэве, які пасля апрацоўкі ўжываўся пры высяканні агню. Бабр.

ЦЫЛЁ'НКА *наз., ж., р. -і.* Галёнка. Бабр.

ЦЯЛЕ'ШНІКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Верхняе перакрыццё ўнутры печы. Што п ты правалі́ласо зь е́тымі цяле́шнікамі, вува́льваюцца й па́даюць у чыгу́н. Бабр.

ЧВЯ'КНУЦЦА *дзеясл., -уся, -ешся, зак.* Бабр. Параўн.: Нешта глуха чмякнулася аб зямлю... М. Лынькоў, Векапомныя дні.

ЧЫКІЛЯ'ЦЬ *дзеясл., -я́-еш, -я́-е, неперах,, незак.* Ісці кульгаючы. Бабр.

ЯГО'ДНІК *наз., м., р. -у.* Ягаднік. Бабр.

ЯНБРЫ'ЧАК, ЯМБРЫ'ЧАК *наз., м., р. -а.* і *-у.* Імбрычак. Бабр.

* * *

Абяца́нкі-цаца́нкі, а дурно́му ра́дасьць. Бабр.
Аляксе́й праня́ў. Крываўка. Бабр., Замаст.
Вазьмі́ ўдавіно́ (дзіця), бо ў яе адно́. Бабр.
Гадо́к прабы́ў дай на ба́бу забы́ў. Бабр.
Дзе́ткі за це́скі, а мацяркі́ за ко́скі. Бабр.

Злавíць лісý. 1. Злавіць лісу. 2. Жарт. Прапалі́ць у вопратцы дзірку. Бабр.
Каб не мéрлі, дак бы й нéба патпéрлі. Бабр., Замаст.
Каб ты вы́хвараў (вýхвараў)! Бабр.
Кідуны́ кідаюць (каго-небудзь ад злосці). Бабр.
Кідае (кінуло) у дры́жыкі. Бабр.
Маўчáць, пакýль зýбы тырчáць! Бабр.
На Бары́са беражы́са. Бабр.
На Бары́са за ніву бяры́са. Бабр.
Нам хоць і вóўна, абы кішка пóўна. Бабр.
Нóсіцца, як дýрань с стýпаю. Бабр.
Пакýль вóчкі—дак сьвéт, пакýль рýчкі—дак хлéб. Бабр.
Паслýхай нóвасьці, што прынёс з вóласьці. Бабр.
У айчы́ма чэ́рці пад ачы́ма. Бабр.
Узялíса ў бóкі дай пашлí ў скóкі. Бабр.
Урадзíў ні ўрадзíў, а шчэ гóлы ні хадзíў. Бабр.
Хáй цябе чóрная сарóчка ні чапáе! Бабр.
Э́х, рэж, Андрэ́й, Не шкадýй лапцéй, Бо учóрэ на базáры Лáпці нóвы заказáлі. Бабр.
Як май змаявáў. Бабр.
Як сеў, дак і прыкіпéў. Бабр.

*М. ГУЛІЦКІ*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗАРЫТАВА[1]

АБІРА́ЦЬ[1] *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Чысціць (бульбу). Я се́ла карто́плі абіра́ць, а ён ко́шык плёў, здэ́цца.

АБІРА́ЦЬ[2] *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Здымаць садавіну, здымаць рой (з дрэва, з куста). І я́блыкі трэ́ба абіра́ць, а ўсё ча́су ні вы́бяраш нія́к.

АДРЫ́НА *наз., ж., р. -ы.* Халодная пабудова, у якой захоўваюцца вазы, сані, сельскагаспадарчы інвентар. Як прышлі́ а́гянты, дак ён у адры́ну схава́ўся.

АПАЛО́НІК[1] *наз., м., р. -а.* Вялікая драўляная лыжка, якой разліваюць страву.

АПАЛО́НІК[2] *наз., м., р. -а.* Галавасцік.

АПА́ЛУШКІ *наз., адз. няма.* Начоўкі, у якіх апалаюць зерне, крупы. Пазы́чыла ёй апа́лушак, дак ты ду́маяш прынясе́?

АПЯРАЗА́ЦЬ *дзеясл., -ж-у́, -ж-аш, неперах., зак.* Ударыць, перацягнуць. Апяраза́ў міш плеч папру́гаю.

АСЫПА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Акопваць бульбу, буракі, капусту. С плу́гам ні дае́дзяш у такі́ куто́к, дак трэ́ба рука́мі асыпа́ць.

АТХЛЯПЕ́СЬЦІЦЬ *дзеясл., -іш, -іць, перах., зак.* Адчыніць дзверы, вокны (неадабральна). Я палю́-палю́ пе́чку, а ён атхляпе́сьціў дзьве́ры й пабе́х.

АШО́РСТАК *наз., м., р. -тк-а.* Жэрдка ў гумне, прымацаваная паміж сохамі на ўзроўні сцен; ашо́рстак быў раней таксама ў хатах.

---

[1] Вёска Зарытава ўваходзіць у Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці.

БАРУКА́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся.* Дужацца. Барукáўся пакá нос ні разьбíў.

БАХІ́ЛЫ *наз., р. -аў, звычайна ўжываецца ў мн.* Саматробныя галёшы.

БУ́ДЗЯНЬ *наз., м., р. -я.* Будні дзень; не святочны.

БЫ́ТТА. Быццам.

ВАЛІ́СКА *наз., ж., р. -і.* Чамадан. На кнігі другáя валіска.

ВА́ЛЯНКА *наз., ж., р. -і.* Вялікая хустка, якой ахінаюць плечы (а не завязваюць на галаву). Вáлянку вазьмí, мо дошч пóйдзя.

ВЕ́ДАМА *прысл.* Вядома. Ён, вéдама, малéнькі, кóлькі яму трэ́ба.

ВО́ЛЬЯ *наз., н., р. -я. Валлё.* Наéліся (гусі), што аш вóлья абвíсла.

ВО́СІЛКА *наз., ж., р. -і.* Ручка ў вядры. Дóўга ні пранясéш: вóсілка рэ́жа.

ВО́ТВЯДЫ *наз., адз. няма.* Наведванне парадзіхі. Як пóйдзя ў вóтвяды ці на радзíны, дак абязáцяльна нап'éцца.

ВУЖЫ́ШЧА *наз., р. -аў.* Доўгая моцная вяроўка, якой уціскаюць вазы з сенам, саломай, снапамі.

ВУ́ЗГАЛАЎЯ *наз., н., р. -я.* Прымáк бяз вýзгалаўя па дзéрава паéхаў.

ВЫ́СЫПКА *наз., ж., р. -і.* Палатняная дзяруга, на якую высыпаюць сушыць зерне.

ГА́БЛІ *наз., адз. няма.* Вілкі з тупымі зубамі для насыпання бульбы. Гáблямі нагарнýў бы!

ГАЛЯЛЁ́Т (галалёд) *наз., м., р. -у, мн. няма.* Такі галялёт, а ні аднагó каня́ німá паткóванага.

ГЕ́БЛІК *наз., м., р. -а.* Гэблік. Грýшы дастáў на гéблік.

ГІЧА́Н *наз., м., р. -á.* Націна буракоў. Гічанóў пóвян агарóт, а сьвíнья галóдныя.

ГОНТ *наз., м., р. -у, мн. няма.* Гонты.

ГО́РАНЬ *наз., м., р. -ю, мн. няма.* Каляровыя ніткі для вышывання. Тáлька (гл. талька) гóраню два с палавінаю рублí ў лáўцы.

ГРАБЛІ́ШЧА *наз., н., р. -а.* Ручка ў граблях. Арэ́хава граблíшча лёгянькая.

ГРАДУ́С *наз., м., р. -а.* Акапаны, абараны, акучаны радок (баразна) бульбы. Хай разóрай конь ідзé, а ні градýсам.

ГУБА́Р *наз., м., р. -а́.* Чалавек з вялікімі губамі. Мянушка.

ГУБЗДЭ́РА *наз., р. -ы. Зняважл.* Губа, чалавек з вялікімі губамі. Лю́дзі гарэ́лку п'юць, а ён губздэ́ру адве́сіў і сядзіць.

ГУЗЫ́Р *наз., м., р. -а́.* Частка снапа, дрэва ад нізу, ад зрэзу. Такіх дроў прыдубіў машы́ну—адны́ гузыры́.

ГУЙДА́ШКА *наз., ж., р. -і.* Качэлі. Максі́м свайі́м дзе́цям гуйда́шку зрабі́ў.

ГУ́РА *наз., ж., р. -ы.* Гурба. За но́ч гу́ры панадува́ла, што но́са ні вы́суняш.

ДА́ЎКІ *прым.* Несакаўны (яблык, тварог), які не глытаецца. Да́ўкія гру́шкі, паку́ль ні пагні́юць.

ДРАБІ́НЫ і ДРАБІ́НКІ *наз., адз. няма.* Воз для перавозкі сена, саломы, снапоў. Паўкапы ўкінуў у драбі́ны і мчы́цца гало́пам.

ДРАПЧА́К *наз., м., р. -а́.* Брычка. Драпча́к свой меў, ле́йцы раме́нныя.

ДРАЦІ́НА *наз., ж., р. -ы.* Кавалак дроту, на якім падвешваюць лямпу; увогуле кавалак дроту.

ДУ́БІЦЬ *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, -перах., незак.* Везці ці несці цяжкі груз. Як пападзе́ калхо́знага каня́, нало́жыць вос, што ле́дзьвя конь ду́біць.

ДУБІ́ЦЬ *дзеясл., -бл-ю́, -б-іш, перах., незак.* Апрацоўка скуры карой дуба. А я́ ш ўсё ду́маў, што ра́на йіх дубі́ць яшчэ (аўчыны).

ДУБЭ́ЛЬТЫ *наз., звычайна ўжываецца ў мн.* Вокны, якія ўстаўляюцца на зіму.

ДЫМА́Р *наз., м., р. -а́.* Курадым. Сьляпі́цаю ў во́чы ле́зуць, і дыма́р йім (пчолам) ні памага́я.

ЖАЛАБАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́-ю -у́-еш, неперах., незак.* Насіць жалобу. Мужы́к памёр, а яна́ й дня ні жалабава́ла.

ЖАЛО́БА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Па ба́цьку яшчэ ўсё жало́бу но́сіць.

ЖМІ́НДА *наз., р. -ы,* агульн. Чалавек, які ўвесь час нездаволена бурчыць, бубніць.

ЖМІ́НЬДЗІЦЬ *дзеясл., -іш, -іць, неперах., незак.* Бурчэць нездаволена, сабе пад нос; бубніць. Жмі́ньдзіць цэ́лы дзень, аш надае́ла слу́хаць.

ЗАГУ́МЯНЬНЯ *наз., р. -я.* Участак поля, які знаходзіцца за гумном. На загу́мяньні капу́ се́на накасі́ў.

ЗАМЕ́ЖАК *наз., м., р. -жк-а.* Узмежак. Чужы́ заме́жак ні пасаро́мяўся вы́касіць.

ЗАМЕ́ЦІНА *наз., ж., р. -ы.* Моцны зімовы вецер са снегам, які гоніць снег; завея. У таку́ю заме́ціну саба́ку шкада́ с ха́ты вы́гнаць.

ЗА́СТАВАЦЬ *дзеясл., -у-ю, -у-еш, неперах., незак.* Засціць. Ты за́стуяш ба́бі. Схілі́ся.

ЗА́ШМАРГА *наз., ж., р. -і.* Своеасаблівы від вузла. Ні завя́звай за́шмаргай, бо разьвя́жацца.

ЗА́ЯЦЬ *(заядзь) наз., ж., р. -і, мн. няма.* Розная машкара ў спёку. У ле́сі за́яць—конь то́лькі галаво́ю мата́я.

ЗБАБУ́РЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Узваліць груз на плечы, на воз. Збабу́рыў на пле́чы пудо́ў шэсьць і ні пахісну́ўся.

ЗБАНО́К *наз., м., р. -нк-а́.* Гліняная пасудзіна для малака. Як дапа́ў, збано́к малака́ вы́жлухціў.

ЗВАДЫЯ́Ш *наз., м., р. -а.* Чалавек, які зводзіць людзей, каб пасварыліся.

ЗМА́ЛКУ *прысл.* З дзяцінства, з маленства. Зма́лку да рабо́ты прывы́к.

ЗЬБІЁ́ДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Згубіць, страціць, знішчыць. До́ма ду́малі, што ўжэ даўно́ зьбіё́даў.

І́РХА *наз., ж., р. -і.* Палоска скуры, якая ўшываецца ў шво ў кажусе. Кап цябе́ на йірху вы́рабіла с тако́ю рабо́таю.

КАЛАЎРО́ТАК *наз., м., р. -тк-а.* Калаўрот (прылада, якой прадуць лён).

КАНАПЛЯ́НКА *наз., ж., р. -і.* Цёплая, суконная хустка. Захіну́ла канапля́нку, каб у го́рла ні ду́ла.

КАНЮШЫ́НІШЧА *наз., н., р. -а.* На картапля́нішчы й канюшы́нішчы до́бра ро́дзіць жы́та.

КАРТАПЛЕ́НЬНЯ *наз., н., р. -я.* Націна бульбы. Картапле́ньня жжына́ць пара́: зімо́ю се́чка бу́дзя.

КАРШЭ́ЛЬ *наз.* Ужываецца ў спалучэнні—даць у каршэ́ль.

КІ́ТКА *наз., ж., р. -і.* Звязка мятай саломы. Па́ру кітак па кіль тры́ццаць зьвяза́ў.

КЛІНО́К *наз., м., р. -нк-а́.* Сшытая з палатна торбачка, у якую кладуць тварог, каб адціснуць сыр. Густо́я палатно́ на кліно́к.

КО́НАЎКА *наз., ж., р. -і.* Цэ́лую ко́наўку ква́су хало́дняпькага вы́піў.

КО́РБА *наз., ж., р. -ы.* Ручка, якой прыводзяць у рух калодзежны ворат. Завадная ручка машыны. На́гля (гл. на́гля) мале́нькая ко́рба—вядра́ ні вы́круціш.

КУ́ДАСА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Мяцеліца. Ку́даса падняла́ся з ра́ніцы, дак я й дзяце́й у шко́лу ні пусьціла.

КУРАВО́ТКА (кураводка) *наз., ж., р. -і.* Курыца, якая водзіць куранят. Курaво́тка ке́пская: кураня́т пакіня, а сама́ пашла́.

КУФА́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Малу́ю куфа́йку купіла: трэ́ба ш мне адра́зу ні паме́раць.

КУ́ФАР *наз., м., р. -фр- а.* Прыгожа зробленая і размаляваная скрыня для адзення і палотнаў. Вазьмі там у ку́фры ручні́к.

ЛА́НТУХ *наз., м., р. -а.* Коўдра. Ла́нтух жа цяжэ́йшы.

ЛАХА́НЬКА *наз., ж., р. -і.* Гліняная міска. Халадні́к у лаха́ньцы на паліцы.

ЛЕ́ДЗЬВЯ *прысл.* Ле́дзьвя конь ду́біць (цягне).

ЛЕ́СКІ *наз., р. -ак, адз. няма.* Прыстаўная лесвіца, драбіны. Як цыга́н па ле́сках на не́ба хаце́ў зале́сьці...

ЛУХ [1] (луг) *наз., м., р. -у.* Сенажаць. Лух той го́лы, як бараба́н, касі́ць і трудо́ў ні сто́йіць.

ЛУХ [2] (луг) *наз., м., р. -у, мн. няма.* Лу́гу нарабіла да го́лаў сабра́лася паму́ць.

ЛУ́КАТКІ *наз., адз. няма.* Ужываецца ў спалучэнні з дзеясловамі *ісці, адрэ́заць.* Ісці ў лу́каткі, адрэзаць у лу́каткі—крыва, віляючы з боку ў бок.

ЛУШПІ́НА *наз., ж., р. -ы, звычайна ўжываецца ў множ. ліку*—лушпіны. У лушпіны палавіну карто́плі рэ́жа.

ЛЯЖА́К *наз., м., р. -а́.* Гарызантальная частка коміна. Лепш зрабі́ць ляжа́к, да вы́вясьці ко́мін на шчыто́к.

МАГАЗЫ́Н *наз., м., р. -а.* Рэзервуар у лямпе, куды наліваецца газа. У жале́зны магазы́н ні ба́чыш ко́лькі газы́ налі́ць.

МАЧА́НКА *наз., ж., р. -і, адз. няма.* Мучная страва. Зра́зу ўсё адне́кваўся, а як се́ў, дак гаршчо́к мача́нкі ўплёў і ала́дак сь пяць.

МГЛІЦЬ *дзеясл., неперах., незак.* Ідзе дробны дожджык, імгла. Мгліць увесь дзень на дварэ́.

НАВІДАВО́КУ *прысл.* Паблізу, перад вачамі. Навідаво́ку ш стая́ла, і ці ён ні зглéдзяў, ці віт зрабíў то́лькі.

НАВО́ТЛЯЙ *прысл.* Наводліў, наводмаш.

НАГДО́Ў *прысл.* Пазаўчора. І мо́й нагдо́ў вярну́ўся, сла́ва бо́гу.

НА́ГЛЯ *прысл.* Надта, вельмі. На́гля малéнькая ко́рба.

НАГНО́М *прысл.* Піць з бутэлькі, без шклянкі. Нагно́м паўлітра вы́цягнуў.

НАПАШЭ́ЎКУ *прысл.* Пад рукой. Запа́лкі напашэ́ўку палажы́, мо пасьвяцíць на часы́ трэ́ба бу́дзя.

НАПРЫ́ШЛЯЙ. Напрыклад. Напры́шляй, як я с табо́ю, двая́радныя.

НАСТО́ЛЬНІК *наз., м., р. -а.* Абрус. То́лькі засла́ла но́вы насто́льнік, і залілí чарнíлам.

НАСЬЦЁ́БАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Напіцца гарэлкі.

НАЦЯНЬКІ́ *прысл.* Напрасткі. По́йдзяш даро́гаю, та зна́яш, што ні саб'éсься, а нацянькí пайдзí, дак бох вéдая, што бу́дзя.

НІЧАГУ́ТКА. Памяншальнае ад «нічо́га». Нічагу́тка ты́дзянь у рот ні бра́ла.

НО́ША *наз., ж., р. -ы,* часцей ужываецца ў мн.—но́шы. Жэрдкі, на якіх носяць копы сена. Хіба́ на но́шах такýю капу́ пяранясéш?

ПАДВЯЧО́РАК *наз., м., р -а.* Позны абед у час летніх палявых работ. Хадзéм на падвячо́рак, ба́бы. Хва́ціць і дзьвёх норм, а вы па дзéсяць захацéлі.

ПАДГЕ́РАЦ *наз., м., р. -рц-а.* Шво́ран каро́ткі, дак кап хоць падгéрац быў.

ПАМА́ЛУЙ *прысл.* Паціху, злёгку, памаленьку. Здэ́цца, пама́луй сту́кнуў.

ПАПЯЛЬНІ́К *наз., м., р. -а́.* Ануча з попелам, праз якую працэджваюць луг. Вазьмí папяльнíк да падло́гу пратры.

ПА́СІТАК *наз., м., р. -тк-а.* Сіта, гусцейшае за рэшата, але радзейшае за сітко, г. зн. не густое (не частае сіта).

ПАТАШО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Надта вялікая бочка для збожжа.

ПАТПЯРАЗА'ЦЦА *дзеясл., -ўся, -ашся, зак.* Мой мілёнак, як цялёнак, пу́там патпяра́заны.

ПАХАДЗЕ'НЬКА *наз., ж., р. -і.* Прыстасаванне, з дапамогай якога вучаць дзяцей хадзіць. Пры́дзя пара́ й бяс пахадзе́нькі наву́чыцца хадзі́ць.

ПАЦЯРО'П (пацяроб) *наз., м., р. -у.* Высечаны лясок, хмызняк. У пацяро́п па ве́нікі схадзі́ў.

ПАЧЫ'НАК *наз., м., р. -нк-а.* Дзве ручайкі (гл. ручайка), перавітыя на адно верацяно. Пачы́нак — ге́та дзве руча́йкі.

ПЕ'СТА *наз., агульн., р. -ы.* Дзіцё, якое песціцца (пястун, пястуха). А ге́та пе́ста й спадні́цы ма́мінай з рукі́ ні вы́пусьціць.

ПРАМУ'ДА *наз., ж., р. -ы.* Прастора паміж тылавой сценкай печы і сцяной хаты. То́лькі тарага́ны́ разво́дзяцца ў прамў́дзі.

ПРО'ДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Прадаць.

ПРУМЕ'НЯЦ *наз., м., р. -нц-а.* Памяшканне, прыбудаванае да хаты, у якім захоўваецца збожжа, мука, апрацаваны лён. У пруме́нцы якра́с бо́чку со́лі паста́віў.

ПРЫДУ'БІЦЬ *дзеясл., -бл-ю, -б-іш, перах., зак.* Прывезці ці прынесці надзвычай цяжкі груз. Такі́х дроў прыду́біў машы́ну.

ПУ'ДАЛА *наз., н., р. -а.* Пудзіла. На ві́шні пу́дала паста́віў, бо ад ге́тых шпако́ў ні адагна́цца.

ПУХІ'Р *наз., м., р. -а́.* Высушаны і надзьмуты мачавы пузыр. Мой Ва́ня дак і лажы́цца з ге́тым пухіро́м, і ўстае́.

ПЯЧО'РКА[1] *наз., ж., р. -і.* Гатунак грыбоў. Пячо́ркі лепш адвары́ць і сь сьмята́наю е́сьці.

ПЯЧО'РКА[2] *наз.* Пячурка. Зро́біш пячо́рку, та хоць ану́чы бу́дзя дзе вы́сушыць.

ПЭ'ЙСЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Непрыбраныя, распушчаныя валасы. Распусьці́ла пэ́йсы, як руса́лка: ў лес бяжы́!

РАЗБЭ'ЙСЬЦІЦЦА *дзеясл., -ішся, -іцца.* Разбэсціцца.

РАЗВАЛІ'НЫ *наз., р. -ін, адз. няма.* Частка саней. Нашто́ ш ты́я развалі́ны, калі гной паедзяш вазі́ць?

РА'ШКА (ра́жка) *наз., ж., р. -і.* Мы́йся над ра́шкай.

РО́ШВА *наз., ж., р. -ы.* Карункі, якія ўшываюцца ў навалочкі ці настольнікі. Га́ня до́брыя ро́швы мо́жа зрабіць, як захо́ча.

РУ́МЗА *наз., агульн., р. -ы.* Урадзілася не́кая ру́мза.

РУ́МЗАЦЬ *дзеясл., -а-ю, а-еш, неперах., незак.* Плакаць. Мая́ ш, як дво́йку палу́чыць, дак дзе́нь ру́мзаць бу́дзя.

РУЧА́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Верацяно з напрадзенымі на яго ніткамі. Руча́йку яку́ю вы́вяду за ве́чар.

РЭ́ХВА *наз., ж., р. -ы.* Цыліндрычнае колца, пры дапамозе якога прымацоўваецца каса да касся. Но́вую рэ́хву зрабіў Хве́дзік, але вялікава́тая. Параўн.: ба́нька. Ф. Янкоўскі, Дыялектны слоўнік, 1959.

РЭ́ШАТА *наз., н., р. -а.* Надзвычай рэдкае сіта. Я сваю́ квахту́ху ў склеп пасадзіла, рэ́шатам навярну́ла.

СЕ́МАЧКІ *наз., р. -ак, ужываецца звычайна ў мн.* Насенне сланечніку і гарбузоў. Ці то во́сянь така́я, але ш усе́ се́мачкі пусты́я.

СІТКО́ *наз., н., р. -а́.* Вельмі густое сіта. Сітко́ ўзяўся рабіць, але ш се́тачкі ніяк ні знайду́.

СКАРАСЬПЕ́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Гатунак бульбы. Скарасьпе́йкі ду́мала пасадзіць с ко́шык.

СКАРО́ДЗІЦЬ *дзеясл., -дж-у, -дз-іш, перах., незак* Баранаваць. Во́сім чалаве́к лу́бін скаро́дзілі.

СКЛЕП *наз., м., р. -а.* Цэментаваны пограб. Цяпе́р вада́ не́шта патхо́дзіць ста́ла ў мой склеп.

СКНА́РА *наз., агульн., р. -ы.* Скупы чалавек. У ге́тай скна́ры гразі с-пад но́хця ні еста́няш.

СКРЭ́БЛА *наз., н., р. -а.* Металічная шчотка для чысткі коней. Німа́ скрэ́бла, та хоць сало́мкаю пачы́сьціў бы.

СПРУЖЫНО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Прылада для культывацыі глебы.

СПУСТ *наз., м., р. -а.* Фуганак. Якра́с спу́ста ні ўзяў с сабо́ю. Параўн.: спуск. Ф. Янкоўскі, Дыялектны слоўнік, 1959.

ССЫ́ПКА *наз., ж., р. -і.* Мяшочак, у які насыпаецца пер'е. До́брага тава́ру на ссы́пкі прывёс ла́вачнік. Параўн.: на́сыпка. Клетнае, Глускага раёна.

СТО́ЛБІК *наз., м., р. -а.* Грубка (печка). Сто́лбік прапаліць трэ́ба.

СТАВО'К *наз., м., р. -ўк-á.* Воз для вывазкі гною. Ранéй на драбінах éзьдзілі па салóму, а на гнóй мéлі ставóк.

СТО'ЙКА *наз., ж., р. -і.* Прыстасаванне, куды ставяць дзіцё, калі яно яшчэ не ўмее самастойна стаяць. Прыдзя пара́, й бяс стóйкі бу́дзя стая́ць.

СУ'ЧКА[1] *наз., ж., р. -і.* Сучка. Сам мо зачыніў су́чку ў хлявé, а пóтым цэ́лы дзень шука́я.

СУ'ЧКА[2] *наз., ж., р. -і.* Маленькія сані, якія выкарыстоўваюцца для перавозкі доўгіх бярвенняў; сучка прывязваецца да саней. Бяс су́чкі лес траля-ва́ць ду́мая.

СУ'ШНЯ *наз., ж., р. -і.* Будынак, у якім сушаць і труць лён. Драты́ абарва́ліся і ўпа́лі на су́шню.

СЬВЯРДЗЁ'ЛАК *наз., м., р. -а.* Свердзел. Пазы́чыў у Хвéдара сьвярдзёлка, а аднясьці́ забы́ўся.

СЬВЕ'РАНЬ *наз., м., р. -я.* Свіран. У сьвéрні жы́та чы́сьціць.

СЬЦЯГА'Ч *наз., м., р. -á.* Прылада для сцягвання гною з воза. Сьцягàч сам вы́каваў, і той зьбіёдалі.

СЬЦЯРНІ'ШЧА (сцярні́шча) *наз., н., р. -а., мн. няма.* Іржышча. Сьцярні́шча ўкасíў вос.

СЯВЕ'НЬКА *наз., ж., р. -і.* Каробка, з якой сеюць збожжа. У гéту сявéньку пут жы́та лéзя.

СЯЎНІ'К *наз., м., р. -á.* Сеялка (машына.). Сяўнік свой меў і малата́рню, й манéш.

СЯЧКА'РНЯ *наз., ж., р. -і.* Саломарэзка. Сячка́рню купíў, і мая́ карóва сéчкі пакашту́я.

ТАВА'Р *наз., м., р. -у.* Фабрычная матэрыя. Дóбрага тава́ру на ссы́пкі (гл. ссыпка) прывёс ла́вачнік.

ТА'ЛЬКА *наз., ж., р. -і.* Маленькі маточак вышывальных нітак. Та́лькаю аднэ́ю і ручніка́ ні вы́шыяш, ні тó што настóльнік (гл. настóльнік).

ТАРАГА'Н *наз., м., р. -á.* Таракан. Тóлькі тарага́ны развóдзяцца ў прамýдзі (гл. прамýда).

ТАРПАТЫ'Н *наз., м., р. -у, мн. няма.* Шкіпінар. Гарэ́лкі ш ча́ям вы́піў, сьпíну тарпаты́нам нацéрлі, й ка́шаль прайшóў.

ТРАПА'ШКА *наз., ж., р. -і.* Прыстасаванне для трапання ільну. Трапа́шка высакава́тая — ру́кі трэ́ба высóка падыма́ць.

ТЫНКАВА'ЦЬ *дзеясл., -ý-ю, -ý-еш, перах., незак.* Ра-

не́й скі́дая ха́ту ў ку́чу і сядзіць, а цяпе́р і тынку́юць, і бе́ляць.

ТЭ'БЯЛЬ (тэ́бель) *наз., м., р. -я.* Вялікі свердзел. Такі пло́тнік, што тэ́бяля свайго́ ні ма́я.

ТЭ'ЧКА *наз., ж., р. -і.* Партфель. Аддала́ мне тэ́чку, а сама́ пабе́гла.

УЛЕ'ХЦЫ (уле́гцы) *прысл.* Ісці ці ехаць без паклажы, без грузу. Туды́ ўле́хцы зае́халі, а наза́т клы́палі.

УНА'ДЗІЦЦА *дзеясл, -ішся, -іцца, зак.* Уна́дзіўся, як кот у каўба́сы.

УРЭ'Х *наз., м., р. -а і -у.* Агрэх. У тако́га трактары́ста палаві́на по́ля — урэ́хі.

УШЧАПІ'ЦЬ *дзеясл., -пл-ю́, -п-іш, перах., зак.* Зрабіць прышчэпку дрэва. Хо́чу ўшчапі́ць ко́лькі гру́шак, да ўсё ніяк ні зьбяру́ся.

УШЧЭ'ПЫ *наз., р. -аў, ужываецца звычайна ў мн., у адз. толькі з памяншальным суфіксам* — ушчэ́пка. Со́рак ушчэ́паў пасадзіў на со́тках.

ФІРА'НКА *наз., ж., р. -і.* Занавеска. Фіра́нкі но́выя к се́мусі пашы́ла, хоць во́кна ні будуць хляпе́ць го́лыя (гл. хляпець).

ХЛЯПЕ'ЦЬ *дзеясл., -ею, неперах., незак.* Быць адкрытымі, незавешанымі, адчыненымі. Во́кна го́лыя хляпе́юць (без занавесак).

ЦАГА'Н *наз., м., р. -а́.* Чыгун, чыгунок. Кап ты карто́пяль цага́н спа́рыла да абмяша́ла муко́ю, дак і сьві́ньня до́брыя былі́ п.

ЦЁ'РЛА *наз., м., р. -а.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак, канаплянае, ільняное семя. Адно́ цё́рла на ўсё сяло́ застало́ся.

ЦЫРА'ТА *наз., ж., р. -ы.* У бу́дзянь ні бры́тка і цыра́таю стол засла́ць.

ЧАСНЫ'К *наз., м., р. -у́.* Ле́тась цыбу́ля до́брая парасла́, а часны́к уве́сь пагніў.

ША'ЛІК *наз., м., р. -а.* Цяпе́р і на шы́ю завя́зваюць ша́лік, і на го́лаў — ша́лік.

ШАРАВА'РКА *наз., ж., р. -і.* Работы па рамонту дарог. Шарава́рку даўно́ рабілі на той даро́зі.

ШВЭ'ДРА *наз., ж., р. -ы.* Світар. Бе́лянькую швэ́дру хло́пцу зьвяза́ла.

ШВЭ'НДАЦЦА *дзеясл., -ешся, -ецца, неперах., незак.*

Хадзіць ці бегаць без патрэбы. Швэ́ндаяцца, абы ў ха́ці ні сядзе́ць.

ШЛЯ́ГА *наз., ж., р. -і.* Доўбня. Шля́гаю за два́ ўда́ры да канца́ заб'еш.

ШУМАКІ́ *наз., р. -о́ў, адз. няма.* Званочкі пры вобраці ці дузе; бомы. Па сяле́ ш шумака́мі насіліся.

ШЫДЭ́ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Кручок для вязання карунак.

ШЭ́ПШАЛЬ *наз., м., р. -я.* Чалавек з крывымі нагамі. От шэ́пшаль! За адзін дзень бо́ты пакрывіў.

С. ЗУБРЫЦКІ

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ШКЛЯНЦЫ[1]

АБМЕ́ЖАК *наз., м., р. -жк-у.* Се́літа су́ха, на абме́шку й трава́ ні расьце́ць.

АБЯЛІ́ЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Зняць скуру.

АГЛЕ́ДЗІЦЬ *дзеясл., -у, -іш, перах., зак.* Знайсці, выпарапь што-небудзь. Так схава́ла, а ўсірбу́на агле́дзіў.

АДАРА́ЦЬ *дзеясл., -у́, -эш, перах., зак.* Пасля таго, як выбралі бульбу, участак адорваюць (пераворваюць) і збіраюць, ідучы за плугам, бульбу, што не была выкапана. Мы сваю́ бу́льбу даўно́ адара́лі.

АДГЭ́НУЛЬ *прысл.* Адтуль. Адгэ́нуль бо́лі ні пры́едуць машы́ны.

АДМА́ЛКУ *прысл.* З маленства, з малых год, з дзяцінства. Адма́лку ні гуля́ў, усё ў рабо́ці.

АДРА́НАК *наз., м., р. -у, мн. няма.* Ганяць пасвіць кароў на адра́нак — пасвіць раніцой да спякоты і пад вечар, калі спякота спадзе. За́ўтра ўжо на адра́нак ні паго́нюць каро́ў.

АПЫ́ХТАРЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., зак.* Знайсці (што-небудзь схванае). Палажы́ла ў ку́фар, усядно́ апы́хтарыў (цукар).

АСКАЛЁ́ПАК *наз., м., р. -а.* Аскалёпкі — кавалкі драўніны, якія адскокваюць, калі колюць дровы. Ня ўме́йіш (дровы) біць: палаві́ну аскалёпкаў нарабі́ў.

АСТАЛЯВА́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Асесці, пры-

[1] Вёска Шклянцы ўваходзіць у Докшыцкі раён Віцебскай вобласці.

стасавацца жыць на новым месцы. Асталюющца й бу́дуць до́бра жыць: ме́ста до́брая й со́ткі до́брыя.

АСТРЫЖО'НАК *наз., м., р. -у і -а.* Асяродак (у хвоі). Гэ́ныя астрыжо́нкі на ра́мы по́йдуць. На распа́лку астрыжо́нкаў сухі́х насячы́.

АСЬВЕ'Р *наз., м., р. -а.* Частка збудавання пры студні — доўгае бервяно, да аднаго яго канца прымацавана жэрдка з крукам (на які чапляюць вядро), а да другога — цяжар. Асьве́р ні па-пра́ўліны. Не́калі зва́ліцца — людзе́й пазабіва́йіць.

АСЬЛЯПЕ'НЬ *наз., м., р. -я́.* Сляпень. Каро́ў пара́ дамоў гнаць: асьляпні́ зайіда́юць.

АТО'ЖАЛЬЛЯ *наз., р. -я, зб.* Маладыя парасткі, якія вырастаюць з кораня ці ствала засохлага дрэва. Параўн.: жыла. Суха́я йігру́шына ато́жальля пусьці́ла.

АТЫ'МАЛКА *наз., ж., р. -і.* Тое, што і стаўля́нка (гл.). Му́сіць ля во́гнішча аты́малку кі́нула. Аты́малку ні кіда́й, нясі́ ў ха́ту.

АХАПЕ'НЬ *наз., м., р. -я́.* Вялікі ахапак (чаго-небудзь). До́бры ахапе́нь яшчэ́ на́да (дроў), калі́ ня бо́лі.

АХРА'П'Я *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Трава для свіней. Сьсячэ́ш ахра́п'я сьвіньня́м пат паўдзё́н.

АЧА'ХНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, неперах., зак.* Астыць. Ду́жа гара́чы чай. Ніха́й тро́хі ача́хніць.

БАГАТЫ'Р *наз., м., р. -а́.* Багаты чалавек. Гро́шы прапіва́йіць... паду́майіш, багаты́р найшо́ўся.

БАЙДА'Н *наз., м., р. -а.* Так называюць месца на сенажаці, дзе расце маленькі густы сівец (гл.), а іншая трава не расце. Ні зна́ю, як і скасі́ць той байда́н. Гэ́ны байда́н то́лькі з расі́цай пры́дзіцца касіць.

БА'НЬКА *наз., ж., р. -і.* Цыліндрычнае колца, якім прымацоўваецца каса да кассяя. Во́зьміш касу́, што зь ме́днай ба́нькай. До́брую ба́ньку даста̀ў.

БАРА'Н *наз., м., р. -а́.* Фуганак. У Мі́шы барана́ ўзя́ў, бу́дзім до́шкі габліва́ць.

БАСЬЦЯ'КА *наз., агульн., р. -і, зняважл.* Чалавек, які бадзяецца без патрэбы, валацуга. Тако́га басьця́ку й сьве́т ні зна́ў.

БА́СЬЦЯ'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Знеслаўляць (каго-небудзь). Ты заўсёды басьця́іш яго́.

БАЦЯ'Н *наз., м., р. -á.* Бусел. Баця́н адзін не́скалькі гадо́ў лётайіць: па́ры німа́.

БАЦЯНЁ'НАК *наз., м., р. -а, у мн.—баціняты.* Бусляня. Ля гнізда́ бацянёнка знайшлі́ ніжыво́га. Бацінёты вялі́кія, ско́ра бу́дуць лётаць.

БАЦЯНО'К *наз., м., р. -á, у мн. —бацянкі.* Назва расліны. Пасьці́лку бацянко́ў назьбіра́ла.

БЕ'ГАМЛЯ *наз., н., р. -я, мн. няма.* Назва гарадскога пасёлка—Бягомль. Зь Бе́гамля лі́нію (радыё) вяду́ць.

БІ'ТКА *наз., агульн., р. -і. Зняважл.*—чалавек, нічога не варты. Куды́ гэ́на бі́тка гадзі́цца! Ні ў салда́ты, ні ў матро́сы, то́лькі зма́зываць калёсы.

БЛЫ'ШЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Звычайна блышаць дзяцей—г. зн. ушчуваюць, прабіраюць за іх якія дрэнныя ўчынкі, паводзіны. Мішавы благі́я дзе́ці. Ня блы́шыць, вот і развыдрэ́лі. І блы́шыць йі́х, а то́лку ма́ла.

БО'ЎТКА *наз., агульн., р. -і, зняважл.* (пра чалавека). Така́я ш ужо́ бо́ўтка, ні дай бох.

БУЛЬБЕ'ЎНІК *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* Тое, што і бульбоўнік (гл.). Бульбе́ўнік ні жа́ты стайі́ць.

БУЛЬБО'ЎНІК *наз., м., р. -у, зб., мн. няма.* Націна бульбы. Бульбо́ўніку сьсячы́ сьвіньня́м.

БЫ'ТТА *злуч.* Быццам. Ча́ста прытвара́йіцца, бы́тта хво́ры.

БЭ'ЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., незак.* Плакаць голасна. Ну й бэ́чыць, на ўсю́ вёску.

ВА'ДЗІЦЦА *дзеясл., -у-ся, -іш-ся, незак.* Спрачацца, абзываць адзін другога брыдкімі словамі. Ужо́ ва́дзюцца. Кры́ку по́ўна ха́та.

ВАЗО'НЬНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Судзіна, у якой расце хатняя кветка (вазон). Вазо́ньніцу для фікуса зрабіў.

ВА'ЛАК *наз., м., р. -а.* Палка, якой гладзяць («качаюць») бялізну. Не́дзя ва́лак прапа́ў.

ВІННЫ' *прым.* Вінны. Вінны́х я́блыкаў сёліта ні было́.

ВІ'ТКА *наз., ж., р. -і.* 1. Скручаная лазіна, якою прывязваюць салому да латы (на страсе) або пры вязваюць калкі да жэрдкі ў плоце. Калі́ сало́май кры́ць, то й ві́ткі трэ́ба. Жардзё ёсь, то́лькі ві́так

на́да насе́ч. 2. Доўгая лазіна з завязаным верхам, ставіцца на лузе і абазначае, што на гэтым месцы забараняецца пасвіць жывёлу. На асе́ліцы па́сьціць ня мо́жна: сто́раш вітку паста́віў.

ВЫ́ВАРАЦЬ *наз., ж., р. -і.* Вывернутае з карэннямі дрэва. У гушчары́ пад вы́варацьцю ваўкі́ перш пладзіліся.

ВЫ́САКА *прысл.* Высока. Самалёты гудзя́ць... Не́дзя вы́сака паляце́лі. Нашто́ шпако́ўніцу вы́сака ста́віць?

ВЫ́СТРАНЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., зак.* Вельмі дагадзіць ва ўсім. Дзе́ ты ямý вы́странчыш!

ВЫ́ШЧАРЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся, зак.* Груба сказаць. Ён ча́ста вышчыра́йіцца на яго́.

ВЫ́ЮДЗГАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Вымараць, закаравіць. Дзе гэ́та руба́шку вы́юдзгаў?

ВЫЯ́ЎНА *прысл.* Выразна, голасна, громка. У йіх ра́дзіва ні выя́ўна гаво́рыць. Гавары́ выя́ўна.

ВЫЯ́ЎНЫ *прым.* Выразны, голасны, громкі. Паціфо́н выя́ўны, за вярстý чува́ць было́.

ВЯЗЬМО́ *наз., н., р. -а́.* Вязьмом звязваюць снапы. На вязьмо́ сало́мы ні хваціла.

ВЯРШЫ́НКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Вяршкі, смятанка. Малако́ ні ў хало́нным ме́сьці стая́ла—вяршы́нкі саўсём ма́ла.

ВЯ́СКА *наз., ж., р. -і.* Сена, салома, канюшына, увязаныя ў рэзьгіні ці ў вяроўку, лейцы. Яшчэ́ вя́ску сало́мы прынясý й хва́ціць на пацьсьцілку.

ГАБЭ́ЛІК *наз., м., р. -а.* Гэблік. Хоць ніва́жны, алі́ сво́й габэ́лік ёсь.

ГАЛАМЫ́ЗЫ *прым.* Галамызым называюць чалавека, у якога валасы на барадзе растуць чубкамі. Ён галамы́зы: на барадзе́ дзе пу́ста, а дзе гу́ста.

ГАРГА́РА *наз., ж., р. -ы.* Што-небудзь вялікае, незвычайна вялікае. Гарга́ру такýю паста́віў (пра хату).

ГАРЭ́ЛІК *наз., м., р. -у* і *-а.* Выгаралы ўчастак лесу. На гарэ́ліку дроў мно́га сухі́х. Трэ́ба нарэ́заць...

ГІГЕ́ЛЬ *наз., м., р. -ю, у мн.*— гігялі́. Хвошч. На па́пары гігялі́ пусьціліся расьці́.

ГРАБІДЛО́ *наз., н., р. -а́.* Ручка ў граблях. Грабідло́ старо́я было́—злама́лася.

ҐРА́ЦІЯ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Ґатунак бульбы. Пасьля́ дажджу́ гра́ція зазілянéлася.

ГРУЗА́ЛАК *наз., м., р. -а.* Сухі камяк зямлі. Кіда́ўся груза́лкамі, а цяпéр сюды́ ідзéць.

ГЭ́ДАК *прысл.* Гэтак. Гэ́дак бóлі ня бу́дзіць.

ГЭ́НАМ *прысл.* Там. Гэ́нам пóсьля бу́дзім застра́йваць.

ГЭ́ТКІ *займ.* Гэ́ткі ма́ліц, а кап табé што зрабіць. Гэ́ткі са́мы лóжак і яны́ купілі.

ГЭ́ТТА *прысл.* Тут. Дзе капу́ лажы́ць? Гэ́тта ці далéй?

ДАМАЎЁ́ *наз., н., р. -я́.* Труна, дамавіна. Дóшкі прывязьлі—дамаўё́ бу́дуць рабіць.

ДАЎГІ́ *прым.* Доўгі. На́тта даўга́я жардзіна́, ацьсячы́ трóхі.

ДО́ЛКАХ *прысл.* На падлозе, на зямлі. Бу́дзіця спа́ць дóлках, а то ў ха́ці духата́ вялíкая. Ці ня дóлках нóжніцы валя́юцца?

ДРА́БЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Рэбры. Такí худы́: дра́бы віда́ць.

ДРАЦІНА́ *наз., ж., р. -ы́.* Кавалак дроту. Шпакóўніцу драцінóй прывяжаш. Абóрка згніéць і парвéцца.

ДРОНГ *наз., м., р. -а.* Доўгія калёсы, на якіх перавозяць бярвенне, дошкі, жэрдкі.

ДРУ́КІ *наз., р. -аў, адз. няма.* Прыстасаванне для прасушкі бульбоўніку, травы і г. д. Пагóда дóбрая, пры́дзіцца бульбóўнік злажы́ць у дру́кі, кап сох.

ДРУ́ЧЫНА *наз., ж., р. -ы.* Хвоя з сучкамі (15—20 см.). Пры збудаванні друкаў (гл.) бяруцца дзве дручыны, на сукі якіх кладуцца жэрдкі. Дру́чына гатóвая ёсь, тóлькі ўкапа́ць трэ́ба.

ДУ́ЖА *прысл.* Вельмі. Нéшта дзіця́ ду́жа пла́чыць, ці ні захварэ́ла?...

ДЭ́НКА *наз., н., р. -а.* Падстаўка (дошчачка з ручкай) пад патэльню. Дэ́нка вазьмí... На пры́пічку ляжы́ць.

ДЗЕТ[1]. Дзед.

ДЗЕТ[2] *наз., м., р. -а.* Калючая кветка ша́патніка (гл.). Дзед у валасы́ ўкрыпа́ўся, німа́ як вы́драць.

ДЗЯДЗІ́НІЦ *наз., м., р. -а.* Пляцоўка насупраць хаты, а таксама частка двара непасрэдна пры хаце. Карóву на дзядзíніц вы́пусьці.

ЕЧ *наз., ж., р. -ы.* Страравод. Му́сіць еч у кабана́ была́ нінарма́льная. Сла́ба еў...

Ё́ЛКІ *прым.* Малакó ё́лкая, бо карóва цéльная.

Ё´МКА *прысл.* Вельмі ўдала, добра. Палёна тоўстая, глядзі ты, так ёмка падняў.

Ё´СЬЦІКА. Ёсць. Сівéц там засóх, алі ш ён ёсьціка.

ЖАЛЕ´ЗЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Металёвая пастка. Пападзёцца ў жалёзы (пацук) — папалáм пірабіваíйіць.

ЖАЛЯЗЬЗЁ´ *наз., н., р. -я́, зб.* Усялякае жалеза, жалезныя рэчы, часткі машын. Дзéці жалязьзё павязýць здавáць у ларóк.

ЖАЛЯ´СКА *наз., ж., р. -і.* Прас. Жаля́ску ў бабýлі трэ́ба ўзя́ць вéчарам.

ЖУ´ЧКА *наз., ж., р. -і.* Разнавіднасць крапівы—жыгучка. Жýчка апкусáла, ўся рукá распóхла.

ЗАВІХА´ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Хутка і спрытна працаваць. Прышлá да яé, а йінá яшчэ́ ля пéчы завіхáйіцца.

ЗАЛО´ЖНІК *наз., м., р. -а.* Прыбітая да сцяны палка з адтулінай, у якую закладаецца сякера.

ЗА´СМАРШКА *наз., ж., р. -і.* Завязваць засмаржкай— завязваць так, каб, пацягнуўшы за кончык (ніткі, вяровачкі), можна было лёгка развязаць. На вýзіл ні завя́зывай, посьля́ ні разьвя́жыць. Лéпі на зáсмаршку.

ЗАЦЎГЛА´ЦЬ *дзеясл., -á-ю, -á-еш, перах., зак.* Зацугляць, закілзаць. Зацуглáлі бéднага (каня) й нóсюцца як чэ́рці.

ЗА´ТКАЛА *наз., ж., р. -а.* Корак. Побач ужываецца *корак.* З бумáгі зрабі зáткала.

ЗБАСЬЦЯ´ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Зняславіць (каго-небудзь). Збасьця́ў на ніштó чалавéка.

ЗГАРУ´СЬЦІЦЬ *дзеясл., -у, -іш, перах., зак.* Ледзь сабраць сродкаў, каб зрабіць, купіць і г. д. (што-небудзь).

ЗІМО´ЎКА *наз., ж., р. -і.* Гатунак позных яблык. Аднá зімóўка былá й тáя ссóхла.

ЗМА´ЛКУ *прысл.* Тое, што і адмалку (гл.). Змáлку дóсыць хлябнýў гóра.

ЗМАРНАТРА´ВІЦЬ *дзеясл., -ўл-ю, -в-іш, перах., зак.* Бязмэтна, без справы правесці, страціць (час). Жарт, стóлькі чáсу змарнатрáвіў!

ЗЬНЕ´ЎЦІМКУ *прысл.* Знянацку. Сабáка спужáў знéўцімку.

ЗЬЛЕ́ЦІЦЦА *дзеясл.* Палядзі, мо́жа вада́ ўжо зьле́ціла́ся.

ЗЯЗЮ́ЛЬКА *наз., ж., р. -і.* 1. Зязюля. Ра́на чуў, як зязю́лька ў ле́сі кукава̀ла. 2. Лугавая кветка. Зязю́ляк нарва́ў.

КАПШУ́К *наз., м., р. -а́.* Мяшочак для тытуню, кісет. Дастава́й капшу́к, піраку́р зро́бім.

КАРАБО́К *наз., м., р. -а́.* Скрынка з саломы, лубу. Ба́цька наш карапкі ўме́ў шыць.

КАРАНЬНІ́К *наз., м., р. -а́.* Калодны вулей, шпакоўня, зробленыя не з дошак, а з суцэльнага кавалка дрэва, звычайна з такога, у якога выгніў асяродак.

КАРБУ́НАК *наз., м., р. -а.* Ужываецца ў праклёне. Каб цябе́ карбу́нак задавіў! А кыш! Каб на вас карбу́нак які́ напа́ў. Ра́ды ад вас німа́.

КАРУ́ЗА *наз., агульн., р. -ы.* Неадчэпны, задзірлівы чалавек. Ну й кару́за, прычапіўся, як смала́.

КАРЧА́ШКА *наз., ж., р. -і.* Каравая ануча.

КА́РЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Кароткія сані, якія прывязваюцца да звычайных саней, для перавозкі доўгіх бярвенняў.

КАСІДЛО́ *наз., р. -а́.* Касу́ на но́вая касідло́ асадзіў. Ямчэй касіць ста́ла.

КАТУ́Х *наз., м., р. -а́.* Адгароджаны куток у варыўні для бульбы, для гародніны. Сып бу́льбу ў кату́х. Пасля́ палу́дня трэ́ба ўзя́цца кату́х зрабі́ць.

КАШТАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́-ю, у́-еш, перах., незак.* Спытваць, смакаваць. Каштава́ла варэ́ньня — ду́жа сало́ткая.

КВЯ́ТЫ. Кветкі. Квя́ты пад акно́м пасадзі́ла. До́бра па́хнуць квя́ты.

КІ́НШЧЫК *наз., м., р. -а.* Кіномеханік. Кі́ншчык у Бе́гамля пае́хаў. Но́вую карці́ну прывязе́ць. Ці гэ́та кі́ншчык у вас бу́дзіць начава́ць?

КЛЕ́НЧЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., незак.* Вельмі прасіць. Ду́майіш клё́нчыць пірад йім бу́ду? Не!

КО́ЖАН, КО́ЖЫН, *займ.* Ко́жан дзе́нь газе́ты палуча́йім.

КО́ПКА *наз., ж., р. -і.* Невялікая ямка. У ко́пцы вада́ саўсе́м вы́сахла. Ні капа́йця на панадво́рку ко́пкі.

КО'ТКА *наз., ж., р. -і.* Побач (часцей) *кошка.* А коццы малака́ й ні дала́!

КРОК *наз., м., р. -у.* Прарэз у пярэдняй частцы штаноў. Ужо́ пашы́ла штаны́, то́лькі яшчэ́ гузікі ў кро́ку ні прышы́ла.

КРУГА' *прысл.* і *прыназ.* Тры разы́ круга́ ха́ты аббе́х, Піраста́ньця круга́ стала́ бе́гаць.

КРУ'ШНЯ *наз., ж., р. -і.* Груд сабранага камення. Дзве́ кру́шні зьвязьлі́ на машы́ні. Падмуро́ўку ро́бюць у калхо́зным каро́ўніку. З кру́шні я́шчаркі павыла́зілі й грэ́юцца на со́нцы.

КРЫПА'ЦЦА *зваротны дзеясл., ад крыпа́ць* (гл.). 1. Валасы́ скрыпа́ліся. Ні рашчаса́ць... 2. Пераносн. Не́шта крыпа́лася ў сьне́...

КРЫПА'ЦЬ *дзеясл., -а́-ю, -а́-еш, перах., незак.* Блытаць. Ні крыпа́й ні́так, а то рабо́ты бу́дзіць.

КУБЕ'ЛІЦ *наз., м., р.-льц-а.* Бочка з крышкай для сала, мяса. У пу́ні хо́ланна, мо́жна й там кубе́ліц паста́віць. Кубе́ліц ёсь, то́лькі на́тта вялі́кі.

КУЗУ'РКА *наз., ж., р. -і.* Любое насякомае, якое поўзае, а не лятае. Я ка́жную кузу́рку жале́ю. Ці кузу́рачка жыць ня хо́чыць?

КУ'КЛА *наз., ж., р. -ы.* Метка ў жыце—скручаныя, звязаныя каласы. Ку́клу дзе́ці вы́рвалі. Ні зна́ю, дзе й жа́ла пазаўчо́ра.

КУРАДЫ'М *наз., м., р. -у, мн. няма.* Густы дым пры гарэнні не полымем, а пры тленні. Хаця́ п курады́м які́ зрабі́лі, а то камары́ заяду́ць.

КУРЧО'НАК *наз., м., р. -а, у мн.— курчаты.* Кураня. Аднаго́ курчо́нка німа́. Курча́там е́сьці дай.

КУСА'НАК *наз., м., р. -а.* Тое, што і агрызак. Што ты нарабі́ў? Сто́лькі куса́нкаў накіда́ў на стале́.

КУФЭ'РАК *наз., м., р. -а, памяншальнае ад ку́фар.* Кніжкі палажы́ ў куфэ́рак, кап дзе́ці ні парва́лі.

ЛА'ДНА і ЛА'ННА *прысл.* Назьбіра́ла ла́нна арэ́хаў. Насы́паў ла́дна, с паўміха́.

ЛАДНАВА'ТА і ЛАННАВА'ТА *прысл.* ад ла́дна (гл.). Ладнава́та пасе́йілі аўса́, ды прапа́ў гла́тка.

ЛАДНАВА'ТЫ і ЛАННАВА'ТЫ *прым.* Даволі вялікі, не малы. Яшчэ́ со́нца ні паднязо́ся, а ўжо лад-

наваты кусок скасілі. У яго ланнаваты абмежак ёсь, і трава добрая.

ЛА′ДНЫ і ЛА′ННЫ *прым.* Не малы, даволі вялікі. А ужо ладны ў яго кабан. Ланны клубок (нітак) быў, і дзе ён дзеўся?

ЛАЗІНА′ *наз., ж., р. -ы.* Лазовая галіна, лазовы дубец. Вылами хоць лазіну, а то паганяць (каня) німа чым.

ЛАМА′КА *наз., агульн., р. -і.* 1. Прылада, амаль непрыгодная да ўжывання. Німа як араць, такі ламака (плуг). 2. Пераносн.: чалавек, які не ўмее нічога рабіць. Такая ш ламака, кап табе што зрабіць, ані...

ЛАПАТА′ЦЬ *дзеясл., -ў, -аш, неперах., незак.* Гаварыць многа і без сэнсу, балбатаць, барабаніць языком. Лапатала с паўчаса, а што к чаму, я так і ні паніла.

ЛАПУ′Н *наз., м., р. -а.* Мёрзлая бульбіна, якая перазімавала на полі. Вайной людзі й лапуны елі. Бульбу ні адаралі летась — на бульбянішчы лапуноў многа.

ЛАТНО′ *прысл.* Выгадна, вельмі добра, зручна. Латно табе: матка дома, работу ўсю паробіць.

ЛАЎЧЭ′Й *прысл.* Лепш, зручней. На гэтай пожні лаўчэй касіць: места роўная, курганоў німа.

ЛА′ХАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, неперах., незак.* Бегаць у пошуках (чаго-небудзь).

ЛАХУ′ДРА *наз., агульн., р. -ы.* Неахайны, апушчаны чалавек. Ні знайіш гэнай лахудры? Калі йіна што зрабіла талковая?

ЛЁ′ХА *наз., ж., р. -і.* Адтуліна, шчыліна. У сьцяне лёхі... Вецір дзьмець.

ЛІНА′ЦЬ *дзеясл., -еш, -е, неперах., незак.* Ліняць, мяняць поўсць, шэрсць (пра жывёлу). Ні бярыся рукамі — сабака лінайіць.

ЛО′ПАЎКА *наз., ж., р. -і.* Шчэрбіна на лязе касы. Скольк: кашу, а лопаўка ніяк ня сходзіць... Ці ш каса будзіць касіць, калі на ёй адны лопаўкі.

ЛУ′ПІНА *наз., ж., р. -ы, у мн.— лупы.* Губа. Ужо й лупы надуў.

ЛУПІ′ЦЬ *дзеясл., -пл-ю, -іш, перах., незак.* Тое, што

і лупцаваць (гл.). Ну ї луп́іць вас на́да (да дзяцей).

ЛЫ́СІЦЬ *дзеясл., -ш-у, -с-іш, перах., незак.* Скрэбці бульбу не поўнасцю, а толькі збольшага. Сіга́ньня абіра́ць ня бу́ду, а то́лькі лы́сіць.

ЛЯ́ПА *наз., ж., р. -ы, зняважл.* Рот. А ля́па дык ніко́лі ні закры́вайіцца.

ЛЯХА́ і ЛІХА́ *наз., ж., р. -і.* Градка. Дзьве́ ляхі́ агурко́ў пасадзі́ла, ды не́шта ні расту́ць.

МАГІ́ЛЬНІК *наз., м., р. -а.* Могільнік. Сяго́ння на магі́льніку лю́дзі зьбіра́юцца. Се́йілі на тым по́лі, за магі́льнікам.

МАЗГАЎНЯ́ *наз., ж., р. -і. Зняваж.* Галава. Мазгаўня́ ані́ ні ва́рыць. Мазгаўню́ паб'е́ш.

МАКУЛЁ́НДАЧКА *наз., ж., р. -і.* Шэрая чырвонагрудая птушачка. Макулёндачкі паляце́лі.

МА́ЛІЦ *наз., м., р. -а.* Хлопец. Ма́льцы ў са́жалцы купа́юцца. Ма́ліц на́тта спужа́ўся... Но́ччы ніспако́йна сьпіць.

МАМЕ́НТАМ *прысл.* Вельмі хутка, умомант. Маме́нтам прыско́чыў. Ты пабу́дзь тут, я—маментам.

МАНЮ́КА *наз., агульн., р. -і.* Хлус. Я табе́ ня ве́ру, ты маню́ка.

МАРМЫ́ЛЯ *наз., агульн., р. -і і -я, зняважл.* 1. Нелюдзень. 2. Той, хто незразумела гаворыць.

МАЧА́НЬНЯ *наз., н., р. -я, мн. няма.* Страва з мукі, мяса, каўбасы.

МАХЛА́К *наз., м., р. -а́.* Стары грыб. Што то́лку с тых махлако́ў? Яны́ ш і ва́рыць ні гадзя́цца: стары́я...

МІ́ГАМ *прысл.* Тое, што і маментам (гл.). Падажджы́ мяне, я мігам упра́ўлюся са скацінай

МУ́СІЦЬ *пабочнае слова.* Мабыць, магчыма. Му́сіць, у Бе́гамлі купля́ў лісафе́т (веласіпед).

МЯКУ́ША *наз., н., р. -ы, мн. няма.* Мяккая трава. Мяку́шы вы́касіў. Навяжы́ цялёнка намяку́шы.

НАВІДО́КУ *прысл.* У полі зроку, навідавоку. Я ш так і се́ла, каб каро̀вы навідо́ку былі.

НА́ГБАМ *прысл.* Піць нагбам — піць не шклянкай, а са збана, вядра ці іншай судзіны, нахіліўшы яе. Стака̀на німа́, пры́дзіцца зь відра́ на́гбам піць.

НАГУ́ЛА *наз., агульн., р. -ы.* Упарты чалавек. Нагу́ла! Яму́ кажы́ адно́, а ён — друго́я.

НА'КРЫШКІ *прысл.* Від дужання.

НА'КУЦІ *прысл.* На покуце. Ніхáй садзіцца нáкуці, як старэ́йшы.

НАСІ'ЛКА *наз., ж., р. -і.* Гладка абструганая яловая жэрдка; на дзвюх насілках носяць копы. Няе́мка насіць: аднà насíлка таўстáя.

НАСІ'ЛКІ *наз., адз. няма.* Каромысел. Біз насíлак прынясе́ш (вады).

НАСТО'ЛЬНІК *наз., м., р. -а.* Кавалак палатнянай матэрыі, на які звычайна высыпаюць звараную бульбу. Сып бýльбу на настóльнік, е́сьці бýдзім.

НІСПАДЗЕ'ЎКІ *прысл.* Нечакана, неспадзявана. Не́калі ніспадзе́ўкі злóвіць і дась.

НІЧАГЕ'НЬКІ *прысл.,* форма ацэнкі ад нічога.

НІЧАГУ'СЕНЬКІ *прысл.,* форма ацэнкі ад нічога. І ў Бе́гамлі нічагýсенькі ні купìла.

НО'ХАЛЬ *наз., м., р. -я, зняважл.* З вялікім носам (пра чалавека).

НЯЛЮ'ЦКІ *прым.* Дрэнны, не такі, як у людзей. Такíя нялю́цкія кýры, тóлькі лі парòга й сідзя́ць.

ПАБЕ'ГАЦЬ *дзеясл., -е, неперах., зак.* 1. Пабегаць. 2. Пакрыцца (пра карову). Побач ужываецца *пахадзіць.* Се́літа карóва пабе́гала. Карóва пабе́галася.

ПАБЕ'ГАЦЦА. Гл. пабе́гаць (2).

ПАДАВА'ЛКА *наз., ж., р. -і.* Доўгі чаранок ад вілак, якімі падаюць на стог сена, салому. Дзіся́так падавáлак вы́сік. Ці ты ськíдайіш вялìкі стох? Падавáлкі карóткія.

ПАДМУРО'ЎКА *наз., ж., р. -і.* Падмурак, фундамент. Сігáньня падмурóўку пачнý рабíць, тòлькі каме́ньня сабрàць нáда.

ПАДУПА'ЛЫ *прым.* Аслабелы, слабы. У ты́я гады́ падупáлы скот быў.

ПАД'ЯЛІ'НЕЦ *наз., м., р. -у.* Ядловец. Пугаўе́ с пад'ялíнцу е́мкая вы́разаў.

ПАЗЕ'МКА *наз., ж., р. -і.* Суніца. Хадзíця сюды! Тут пазе́мак мнóга. Назьбірáйця паземак к паўдню́, с малакóм яны́ дýжа дóбра.

ПАЛЮ'К *наз., м., р. -á.* Ручка на касі. Палю́к ніжэ́й апусьці, а то зямлю́ бýдзіш рэ́заць.

ПАЛЯДЗЕ'ЦЬ *дзеясл., -ý, -іш, перах., зак.* Паглядзець. Палядзí, які дым ве́рніць за ве́скай.

ПАМЕ́НІЦЬ *дзеясл. ад меней (менш), -ю, -іш, неперах., зак.* Сухата́ стайіць, дык і вады́ ў са́жалцы паме́ніла.

ПАМІДО́РЫНА *наз., ж., р. -ы.* Зялёную памідо́рыну есь, яшчэ́ жыво́т забаліць.

ПАНАДВО́РАК *наз., м., р. -а.* Двор, падворак. Панадво́рак пад ве́чар падмяце́ш — за́ўтра нядзе́ля, лю́дзі бу́дуць.

ПАНА́ТРЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, неперах., зак.* Узяць за правіла рабіць што-небудзь дрэннае (пра чалавека, пра жывёлу). Пана́трылі ку́ры ў пшаніцу хадзіць, хоць маха́лам маха́й.

ПАРКА́Н *наз., м., р. -а.* Плот з тычча (гл.). Не рассо̀ўвайця парка̀н! Ку́ры ў гаро́д бу́дуць ла́зіць.

ПАРУБЕ́НЬ *наз., м., р. -я́.* Жэрдка, якая выкарыстоўваецца для ўвязвання на возе сена, саломы, снапоў.

ПАСАЖЫ́РКА *наз., ж., р. -і.* Пасажырскі аўтобус. Паўднём ня усьпеў на пасажы́рку. Начава́ў у Бе́гамлі. То́лькі на пасажы́рцы ець, а то на папу́тнай машы́ні хо́ланна.

ПА́СКАЛАК *наз., м., р. -а.* 1. Вельмі дрэннае палена. На што табе́ гэ́ны па́скалак? До́брых дроў хвата̀йіць. 2. Пераносн. (пра чалавека). Такі ш па́скалак, гульта́й...

ПАТАРО́ЙКАЦЦА *дзеясл., -ешся, -ецца, зак.* Паспрачацца. Патаро́йкаліся пэ́ўна й ні пае́халі.

ПАТСТО́ЛЬНІЦА *наз., ж., р. -ы.* Брусок, жэрдка, якія прыбіваюцца пад столлю і закрываюць канцы дошак ля сцяны. Столь гато́ва, то́лькі астало́ся прыбіць патсто́льніцы.

ПАТСТРЭ́ШАК *наз., м., р. -а* і *-у.* Дажджы́ пайшлі́, а патстрэ́шак ня зро́блены. Сьце́ны пагнію́ць.

ПАТЭ́ЛЬНЯ *наз., ж., р. -і.* Побач ужываецца скаварада. Ве́чарам ніч̀ога ні вары́ла. Бу́льбу падагрэ́ла на патэ́льні то́лькі.

ПАЎВЕ́ЧЧА *наз., н., р. -а.* Паўвека, 50 год.

ПАЎЦАГЕ́ЛАК *наз., м., р. -а.* Палова цагліны. Паўцаге́лкі ні выкіда́й, то́жа знагадзя́цца. Ні нясі́ бо́лі... Паўцаге́лкаў хва́ціць.

ПАХАДЗІ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -іш, неперах., зак.* 1. Пахадзіць. 2. Тое, што і пабегаць (гл.). Як на тоя ліха, дык і кар̀ова ні пахадзі́ла.

ПАЦЬЦІНА́КА *наз., агульн., р. -і.* Чалавек, які заўсёды любіць падсмейваць другіх. Глядзіця... Пацьцінàка шкля́нскі (з вёскі Шклянцы) явіўся.

ПАЧТА́Р *наз., м., р. -á.* Паштальён, лістаносец. Пачта́р газе́ту прынёс. Той пачтàр ужо́ ня хо́дзіць—но́вага паста́вілі.

ПАЧТА́РКА *наз., ж., р. -і.* Жанчына-паштальён, жанчына-лістаносец. Ву́ньдзіка пачта́рка йдзе́ць. Пачта́рка ўжо хадзíла, алі пíсям ні было́.

ПЕРАБО́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Перагародка ў кватэры.

ПЕРШ *прысл.* Раней, спачатку. Перш то́лькі цапа́мі малацíлі. Перш хадзìў на рабо́ту, а цяпе́р ці ні хварэ́йіць.

ПІРАЖЫРГНУ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -éш, перах., зак.* Пераступіць (цераз што-небудзь). Расьцì ня бу́дзіш, калí піражыргне́ш (чалавека). Тут ву́ска, мо́жна піражыргну́ць.

ПІРАРУ́Б *наз., м., р. -у.* Капітальная сцяна, якая падзяляе хату. Гэ́ныя бярве́ньні тане́йшыя, по́йдуць на піра́ру́б.

ПІЦАВА́ЦЬ *дзеясл., -у́-ю. -у́-еш, неперах., незак.* Многа працаваць, да стомы. Піцава́ў да сёмага по́ту. Ну й піцава́ў: аж руба́шка змо́кла.

ПЛАВО́К *наз., м., р. -á.* Плывец. Ён до́бры плаво́к: на глыбо́кіх містàх пла́вайіць і ні байíцца.

ПЛАСЬЦІ́ЦЬ *дзеясл., -у́, -íш, перах., незак.* Збіваць сена ў пласты. Я бу́ду пласьцìць (сена), а ты грабí з друго́га бо́ку.

ПО́ЖНЯ *наз., ж., р. -і.* Сенажаць. Сёліта касцо́ў мно́га. Ско́ра ўсе по́жні пако́сюць. За ле́сам по́жня до́брая... За́ўтра з брыгадзìркай по́йдуць дзялíць.

ПРАЦЬ *дзеясл., пяру́, пярэ́ш, перах., незак.* Мыць (бялізну). На кла́цці пярэ́ць адзе́жу.

ПРЫЛА́ЗНІК *наз., м., р. -а.* Месца ў лазні, дзе распранаюцца. Параўн.: рускае предбанник.

ПРЫМА́КА *наз., м., р. -і.* Чалавек, які пайшоў у прымы.

ПРЫ́ТАЧКАМ *прысл.* Не часта, час ад часу, у вольную часіну. Сабе́ й ха́ту рабíў пры́тачкам. Дзе ты хаце́ў ско́ра зрабìць (хату)? Адзíн ро́біш, ды й то тòлькі пры́тачкам.

ПЧАЛІНА́ *наз., ж., р. -ы́.* Пчала. Бліска і ні патхо́дзіў, а ўсіро́ўна пчалінà мёду дала́ (г. зн. укусіла).

ПЯШЧЫ'НА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Пясчаны ўчастак зямлі. Піраéхалі сю́ды... Там жа зімля́ благáя—пяшчы́на.

ПЯЧУ'РНІК *наз., м., р. -а.* Той, хто любіць ляжаць на печы (пра чалавека, пра ката). Такі пячу́рнік (кот), хаця́ п на сьмех адну́ мыш злавіў.

РАЗВЫДРЭ'ЦЬ *дзеясл., -э́-еш, -э́-е, неперах., зак.* Раздурэць, разбэсціцца. Развыдрэ́лі дзéці, хоць ты што зь йімі рабі.

РАМАНО'К *наз., ж., р. -á.* Рамонак. На папáры раманкóў аж бéла.

РАПЦЮ'Х *наз., м., р. -à.* Вялікая сетка з вяровачак, у якую набіваюць сена для каня, калі збіраюцца ў дарогу.

РАСПА'ЛКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Смалякóў німá. Дроў сухíх вазьмі на распáлку.

РАСХЛЯ'ПІЦЬ *дзеясл., перах., зак.* Расчыніць. Су́кін сын, чагó дзьвéры расхля́піў? Закрывàй скарэ́й?

СІБІ'РКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Гатунак бульбы.

СІНЮ'К *наз., м., р. -á.* Сініца (птушка). Сінюкі ў вóкны лéзуць—хòлат бу́дзіць. Наштó сінюкì ў хáці? Павыпускàць нàда вон.

СКА'БІНА *наз., ж., р. -ы, у мн. ліку скàбы.* Рабро, рабрына. Скàбіну ў булён укíнула. Худáя карóва, скáбы відáць.

СКО'БЛЯ *наз., ж., р. -і.* Прылада, якою зразаюць кару з дрэва. Скóбля нéдзя завалíлася, увéсь паўдзён шукáў і нідзé ні найшóў.

СО'ЎМА *прысл.* Нахабна, усім разам, кучаю (пра жывёлу). А кыш! Усé сóўма сюды́ прыляцéлі.

ССУЛО'ТАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, перах., зак.* Абслініць, пажаваць (што-небудзь). А псік! Хлеп ссулóтала.

СТАЁ'НКА *наз., ж., р. -і.* Прыстасаванне, дзе ставяць дзіця, якое яшчэ не навучылася хадзіць. Прынясí с тэй хáты стаёнку.

СТАЖА'Р'Я *наз., н., р. -я.* Месца, дзе раней стаяў стог. Стажáр'я патпалілі, агóнь вялізны шугáйіць.

СТАЛЯВА'НЬНЯ *наз., н., р. -я.* Столь.

СТАЎЛЯ'НКА *наз., ж., р. -і.* Ануча, якою ставяць гаршкі ў печ. Ня пòмню, дзе стаўля́нку дзéла.

СТО'ЛІК *наз., м., р. -а.* 1. Памяншальн. ад стол. 2. Шуфлядка ў стале. Бáнку зь ніткамі ў стóлік пастáў.

СУКО'НКА *наз., ж., р. -і.* Ануча, кавалак тоўстага сукна. Абувай сукóнкі, такі марóс—зьмéрзьніш.

СУЧЫ'ЦЬ *дзеясл., -ý, -ыш, перах., незак.* Звіваць некалькі нітак у адну або навіваць нітку на цэўку пры дапамозе сукала. Таўсьцéйшую нітку сучы́, а то мóжыць парвáцца.

СЬВЕРБ *наз., м., р. -у, мн. няма.* Таго кораня, што і дзеяслоў свярбéць. Як хварэ́ла, нéйкі сьверб напàў быў.

СЬЦІБА'ЧКА *наз., ж., р. -і.* Прылада, якою востраць касу. Сьцібáчку нóвую зрабіў, бо адны́м брускóм скóра клёп зрэ́жыш.

СЯРНІ'ЧКІ *наз.* Запалкі. Сярнічкі ў столік клаў...

ТАБУРЭ'ТКА *наз., ж., р. -і.* Табурэ́тку на двóр вы́нісьлі. На камбінàці брат зрабіў дзьве табурэ́ткі, такìя дòбрыя...

ТАРЧО'К *наз., м., р. -à.* Мядзведка (насякомае). Тарчóк пóўзаў на дарóзі, мы забілі.

ТРАСКА' *наз., ж., р. -і., зб. мн. няма.* Траской накрываюць хату. Вазьмý кóні і траскі нарэ́жу.

ТРАСЯ'НКА *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Корм для жывёлы—сена, змешанае з саломаю. Трася́нкі пад вéчар карòві дасí.

ТЫЧЧО' *наз., н., р. -á. зб.* Учóра насéк тыччá, бýду плот гарадзíць.

УЗЛУПІ'ЦЦА *дзеясл., -пл-юся, -п-ішся, зак.* Рана ўстаць. Чагó ты заранья ўзлупіўся?

УКВЭ'КАЦЬ *дзеясл., -ю, еш, перах., зак.* Умараць, зарáвіць. Усé штаны́ ў гліну ўквэ́каў.

УНА'НАЧКІ *прысл.* Побач ужываецца слова упрóчкі (гл.). Пайсці ўнàначкі—пайсці ад сям'і.

УПРО'ЧКІ *прысл.* Тое, што і ўнáначкі (гл.). А ўпрóчкі ня хóдзіць бòлі?

УСТУРЫ'ЦЬ *дзеясл., -ý, -ыш, перах., зак.* Разбудзіць, падняць з пасцелі. Ніяк ня ўстýрыш... Сьпіць да паўдня́. Чуць устуры́ла яго.

УТРАПЁ'НЫ *прым.* Шалёны, звар'яцелы. Нóсіцца, як утрапёны.

УЦЭ'ЛА *прысл.* Чагó ты йдзéш уцэ́ла, сьнех мéсіш?

ХАДУРО'М *прысл.,* ужываецца з дзеясловам хадзíць (фразеалагізм). Такі крык стаяў, аш хàта хадурóм хадзìла.

ЦЁНГ *наз., м., р. -у, мн. няма.* Цяга. Му́сіць цёнг дрэ́нны, дым на хату йдзець.

ЦУДАВА́ЦЦА *дзеясл., -у́-юся, -у́-ешся, незак.* 1. Жартаваць (з каго-небудзь). Ні цуду́йся над ма́льцам. 2. Несур'ёзна працаваць. Цуду́йісься не́шта, а рабо́та на ме́сьці стайіць.

ЦЫБА́ТЫ *прым.* Высокі і тонкі. Не́йкі чужы́ быў, цыба̀ты. У мяне́ заўсе̃ды сьвѝньні цыба̀тыя папада́юцца.

ЦЫ́БІК *наз., м., р. -а.* Бутэлька на 0,25 літра.

ЦЬВЕК *наз., м., р. -а́.* Цвік. Цьвек сагну́ўся. Цьвяко́ў пяць хва̀ціць, бо́лі ні нясѝ.

ЦЭР *наз., м., р. -у, мн .няма.* Грыб на дрэве. На бяро́зі цэр найшоў.

ЧАПЯЛЬНІ́К *наз., м., р. -а́.* Палка, на якую насаджваецца чапяла. Чапяльні́к каро́ткі, сь пе́чы патэ́льні німа̀ як вы́цягнуць.

ЧО́СНАК *наз., м., р. -у, мн. няма.* Часнок. Паўляхі (гл. ляха́) чо́снаку насадзіла.

ЧЭ́ЦЬВІР *наз., м., р. -а.* Чацвер. У чэ́цьвір у мэмэ́сі (ММС) до́скі пачну́ць рэ́заць. За́ўтра во́зьмім каня̆ й завязе̃м бярве́ньні.

ША́ПАТНІК *наз., м., р. -а.* Расліна з шырокімі лісцямі, на якой вырастаюць дзяды (гл.). На абме́жку ша̀патнік вы́рас.

ШАРСЬЦІ́НЬНЯ *наз., р. -я, зб.* 1. Свіное шчацінне. Са́ла до́бра ня вы́смаліна, шарсьцѝньня тарчы́ць. 2. Пераносн. (пра траву). Каро̀ва ня е́сь, адно́ шарсьці́ньня.

ШВА́РНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, перах., зак.* Кінуць (што-небудзь) са злосцю. Нашто кнішку шва̀рнуў?

ШО́ФІР *наз., м., р. -а.* Ду́майіць за шо́фіра вучы́цца паехаць.

ШПАКО́ЎНІЦА *наз., ж., р. -ы.* У на̀шай шпако́ўніцы віраб'і пло́дзюцца, а шпакі ні ра́зу.

ШУМІНА́ *наз., ж., р. -ы́.* Парушынка. Глядзі, му́сіць шуміна́ не́йкая ўляце́ла ў міску. Шуміна́ ў во́ка папа̀ла, рэ́жыцца.

ШЧАВУ́К *наз., м., р. -а̀.* Высокае сцябло шчаўя. Даўне́й лю́дзі зьбіра́лі шчаву́к і хлеп пяклі́.

ШЫ́ПКА *прысл.* Хутка, борзда. Шы́пка ня е́ць, і та́к конь замары́ўся.

ЯЛУ́ШКА *наз., ж., р. -і.* Елачка. Ялу́шкі дзьве до́брыя прывё́с.

---

*Н. КАЛОША*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЛУКІ[1]

АДВЕ'ДЗІНЫ *наз., р. -ін, адз. няма.* Ісці ў адведзіны— ісці наведаць парадзіху. У сястры́ ў адве́дзінах была.

АДРЫ'НА *наз., ж., р. -ы.* Будынак для сена, саломы і іншых кармоў. Цэ́лую адры́ну се́на накасі́лі.

АЗЯРО'Т (азяро́д) *наз., м., р. -у.* Скразны вецер, пройма. Пасто́й цэ́лы дзень на такі́м азяро́дзя.

АКАЛЕ'ЦЬ, *скале́ць, укале́ць, дзеясл., -е́-ю, -е́-еш, неперах., зак.* 1. Моцна змерзнуць. 2. Памерці.

АМЕ'ЦІ *наз., р. -яў, адз. няма.* Аўсяная мякіна. Цэ́лы мех аме́цяў прыне́с.

АПАЛА'ЦЬ *дзеясл., -а́-ю, -а́-еш, перах., незак.* Ачышчаць крупы, проса ці другое зерне ад мякіны і пылу пры дапамозе невялікіх начовачак, якія злёгку падтрасаюць. Апала́ла про́са.

АПРО'МЯЦЬЦЮ *прысл.* Вельмі хутка. Ужываецца з дзеясловамі руху. Як пачу́лі стральбу́, апро́мяцьцю кінуліся ў ле́с.

АПО'РАК *наз., м., р. -рк-а.* Зношаны абутак. Апо́ркі на нага̀х, нічо̀га ня грэ́юць. Побач ужываецца ато́пак.

АСЕ'ЛІЦА *наз., ж., р. -ы.* Сенажаць, луг ля вёскі (паўз вёску, уздоўж вёскі). Гані́ гусе́й на асе́ліцу.

АТЛЕ'ГА (адліга) *наз., ж., р. -і.* Крыху́ атле́жняй ста́ло, а то ўсе маро́с ды маро́с. У атле́гу ляхчэй.

АТО'ПАК *наз., м., р. -пк-а.* Гл. апо́рак.

БА'ГНА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Брудна, гразь (на дарозе, на вуліцы). Ба́гна—ні прайсьці, ні праехаць. 2. Назва ўрочышча—участка балота.

---

[1] Вёска Лукі ўваходзіць у Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці.

БАЛАЗЕ′ *прысл.* Добра што. Побач ужываецца бало́сь. Балазе́ ты прыйшла се́ньня: Парӑўн.: Вазьмуся я за яго, балазе яго бабы ў хаце няма... (Я. Брыль, Выбраныя апавяданні, Мінск, 1959).

БАЛО′СЬ (балазе́) *прысл.* Гл. балазе́.

БАЦ *наз., м., р. -і.* 1. Пацук. 2. Пераносн.: малое дзіця, вельмі рухавае. Не замінáй пад рукáмі, бац малы́.

БІЗУ′Н *наз., м., р. -á, зніжальн.* Чалавек, у якога нічога няма, вельмі бедны.

БІКЕ′Ш *наз., м., р. -у і -а.* Зімовая мужчынская куртка. Скóранько схапіў бікéш і вы́скачыў с хáты.

БІ′ЛО *наз., н., р. -а.* Спінка ў ложку. Павéсь ручнíк на біло.

БЛА′ЗАН *наз., м., р. -а.* 1. Падростак. Штó зь яго вóзьмяш, гэ́та ш блáзан яшчэ. 2. Пераноснае: чалавек, які разважае, як нясталы.

БОР *наз., м., р. -у.* Расліна з сямейства прасяных, зерне яе падобнае да проса. Трэ́ба бóру трóхі звары́ць.

БУДЫ′НАК *наз., м., р. -нк-а.* Уся сельскагаспадарчая пабудова разам з хатай. Усё ў ягó ў парàтку, й буды́нак, як шкля́нка.

БУ′ЧАЁ *наз., н., р. -я.* Месца, пакрытае каменнямі, некалькі ўзвышанае. Карóвы гóняць у бу́чаё.

БЭ′РСАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, перах., незак.* Блытаць (ніткі). Пабэ́рсалі ніткі, цяпéр хібá разьбярэ́ш?

ВАГА′ *наз., ж., р. -і.* Прыладжаны да канца стралы (частка збудавання пры студні) груз. Зусім лёхко цягну́ць ваду́: вагу́ цяшку́ю прывязáлі, дак самó вядрó падымáяцца.

ВАЛО′ВІКІ *наз., м., р. -к-а.* Сталовыя буракі. Дóбрыя буракé (боршч) з валóвікаў.

ВАНДЗЭ′ЛАК *наз., м., р. -лк-а.* Званочак, павешаны каню на шыю. Вандзэ́лак зьвініць, му́сіць нáшы éдуць.

ВА′РА *наз., ж., р. -ы.* Згатаваная страва. Хоць вàры якой падалà п. Мо' вáра ёсьць?

ВЭ′ДЛУХ *прыназ.* У параўнанні з. Вэ́длух сьвéчкі ля́мпа куды́ віднéй гары́ць.

ВЭ′НЬДЗЯКА. *Вунь.* Вэ́ньдзяка карóва хóдзіць.

ВЕ′СЬНІКІ *наз., р. -аў, адз. няма.* 1. Дзверы ў двор, зробленыя з дошак або з лазы. 2. Пераноснае: вéснікі—плёткі.

ВЕ′ТРЫЦЬ *дзеясл., -у, -ыш, перах., незак.* Ачышчаць

збожжа ад пылу, смецця і мякіны пры дапамозе ветру, сыплючы павольна зверху. Ветрыла жыто й ня бачыла, што посьцілка дзіравая.

ВЕ'ТРЫЦЦА *дзеясл., -уся, -ышся, незак.* Хадзіць без справы, бадзяцца, швэндаць. Паветрылася ўжо. Толькі й ведаяш, што ветрыцца ўвесь дзень.

ВЕ'ЧКО *наз., н., р. -а.* Крышка дзежкі. Палажы алатку на вечко.

ВІЖАВА'ЦЬ *дзеясл., -у-еш, -у-е, незак.* Выведваць, выглядваць, шпегаваць. Усё вывіжуя выжла гэтая.

ВЫ'ДЗІРАК *наз., м., р. -рк-а.* Выступ з печы, на якім можна сесці. Пагрэла ногі на выдзірку.

ВЫ'ЖЛА *наз., агульн., р. -ы.* Вельмі хітры чалавек, імкнецца выведаць усё непрыкметна. Выжла гэтая праклятая. Гл. віжаваць.

ВЫ'ЛІТЫ *прымет.* Вельмі падобны, (амаль) аднолькавы. Выліты бацько наш Мішка.

ВЫ'САТКЕ (высадкі) *наз., р. -аў, адз. няма.* Трэба на высатке капусты пакінуць.

ВЫ'ЦЯЦЬ, ВЫ'ТНУЦЬ *дзеясл., вытну, вытнеш, перах., зак.* Стукнуць, ударыць.

ГАЛАЙСТРА' наз., *агульн., р. -ы* Пустадомак, несур'ёзны і бесклапотны чалавек. Носіцца гэтая галайстра цэлы дзень. Параўн.: ...У яго быў пляменнік,—от галайстра нейкі... (Я. Брыль, Выбраныя апавяданні, Мінск, 1959, стар. 5).

ГАНЧА'Р *наз., м., р. -а.* Вілкі, якімі ставяць у печ (вымаюць з печы) гаршкі, чыгуны. Побач ужываецца гаршчэчнік. Вазьмі ганчар, дастань сь печы картоплі.

ГАРАБІ'НА *наз., ж., р. -ы.* Рабіна. Гарабінка тожа ў чырвоным цьвецця. Гарабінавыя пацяркі.

ГАРНУ'ШАК *наз., м., р. -шк-а.* Невялікі гаршчок (на літр ці паўтара). Варылася каша ў гарнушку.

ГІЧА'НЁ *наз., н., р. -я.* Лісты буракоў, бацвінне. Налаамі свіням гічаня.

ГЛАДЫ'Ш *наз., м., р. -а.* Збан, упрыгожаны малюнкамі.

ГЛІНЯ'НКА *наз., ж., р. -і.* Аладка, спечаная з перазімавалай перамёрзлай на полі бульбы, якую сабралі вясной.

ГРО'ЗЬБА *наз., ж., р. -ы.* Пагроза. Ні прозьбы, ні грозьбы ня слухая.

ДАЎГАВЕ'Ц *наз., м., р. -ўц-а́ мн.—даўгаўцэ́.* Жыхар супроцьлеглага канца вёскі. Даўгаве́ц пасе́ аве́ц. З дзіцячае песенькі.

ДРАМНУ'ХА *наз., ж., р. -і.* Неўрадлівая, пясчаная глеба.

ДЗВЫ'НГАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, неперах., незак.* Выпрошваць (што-небудзь) праз плач. Няма чаго́ дзвы́нгаць, усё ро́ўна на каўзе́ль не пушчу́.

ДЗЕ'ВЯР (дзе́вер) *наз., м., р. -а.* Родны брат мужа. Мой дзе́вяр дак заўсе́ды за мяне́ заступа́яцца.

ДЗЯРКА'Ч *наз., м., р. -а́.* Зношаны венік. Прынясі дзяркач шараваць (падлогу).

Ё'МКІ *прым.* Добры, зручны, прыстойны.

Ё'МКО[1] (ёмка) *прысл.* Няёмко яго прасі́ць. Ё'мко ро́біць.

Ё'СЬЦЯКА *дзеясл.* Ёсць. А ў мяне не́штачко ёсьцяка.

ЖАЛЯ'СКО *наз., н., р. -а.* Прас. Насы́п жа́ру ў жаля́ско.

ЖАРАЛО' *наз., н., р. -а́.* Уваход у пограб. Заме́рзла карто́пля, жарало́ аччы́няная пакінулі.

ЖЫВАСІ'ЛАМ *прысл.* Гвалтоўна. Побач ужываецца жыўцом. Жываcі́лам суке́нку разарва́ла. Жыўцо́м сь сьве́ту збыў.

ЗАВІХА'ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, незак.* Рабіць хутка і ўмела.

ЗАВО'С *наз., м., р. -з-у.* У мліне́ заво́зу мно́го.

ЗАКІЛЗА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., зак.* Закілза́й каня́.

ЗАЛУВІ'ЦА *наз., ж., р. -ы.* Сястра мужа. Параўн.: а зало́ўка зла́я, як сьвякроўка ліха́я. З народнай песні.

ЗАПО'ВІНЫ *наз., адз. няма.* Невялікі пачастунак з удзелам самых блізкіх родных перад вяселлем. Параўн.: запі́ць, запіва́ць. Учо́ра запо́віны былі, забяру́ць се́ня На́дзю.

ЗА'ШМАРГА *наз., ж., р. -і.* Завяза́ць за́шмаргу — завязаць так, каб, пацягнуўшы за канец (ніткі, вяровачкі), лёгка развязалася.

ЗАШЭ'РХНУЦЬ *дзеясл., -е, неперах., зак.* Пакрыцца лёгкім тонкім лядком (вада, гразь). То̀лькі зашэ́рхло, а ты на канькé.

ЗНА'ЙДА *наз., ж., р. -ы.* Вельмі цікаўная і хітрая жанчына, ад якой нічога не схаваеш. А гэ́тая зна́йда то́лькі во́кам павядзе́, а дзе ляжы́ць — ба́чыць.

ЗРЭ́БІ *наз., р. -яў, адз. няма.* 1. Кудзеля, якая адыходзіць, як трэплюць лён. Побач ужываецца *асмы́чыны.* 2. Зрэбнае палатно.

ЗЫ́МСІК *наз., м., р. -а.* Невялічкі выступ у варыстай (або рускай) печы. Палажы́ запа́лкі на зы́мсік.

ЗЬВЯРЗЬЦІ́ *дзеясл., -ý, -éш, перах., зак.* Выдумаць. Вярзé невядòма што.

ЗНІ́МШЧЫК *наз., м., р. -а.* Фатограф. Нéкалі зьні́мшчык нас зьняў, дык яшчэ́ ка́ртачкі харóшыя.

ЗЬНЯЧЭ́ЎКУ *прысл.* Нечакана.

ҚАЛАТУ́ША *наз., ж., р. -ы.* Рэдкая, разбітая (коламі, жывёлаю) гразь (на дарозе, на вуліцы, у бродзе). Така́я ўжо калату́ша на дарóзя.

ҚАЛІ́ЎЁ *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Націна. Қалі́ўё то дóбраё, але картóплі нічóга ня ва́рт.

ҚАМО́РҚА *наз., ж., р. -і.* Памяшканне для захавання прадуктаў. Прынясі ква́су с камòркі.

ҚАМЫЗЭ́ЛЬҚА (камізэ́лька) *наз., ж., р. -і.* Там асталіся аўчы́нкі, то камызэ́льку пашы́ць трэ́ба.

ҚАНА́ПА *наз., ж., р. -ы.* Драўляная лава са спінкай. Пу́сто, тóлькі стóлік ды кана́па ля сьцяны́.

ҚАПЦІ́ЛҚА *наз., ж., р. -і.* Запалі капці́лку пасьвяці́ць у пéчы. Побач ужываецца *газóўка.*

ҚАРТАПЛЯ́НЁ і ҚАРТАПЛЕ́НЁ *наз., н., р. -я, зб., мн. няма.* Бульбоўнік.

ҚАЎЗЕ́ЛЬ *наз., м., р. -я.* Расчышчаная ад снегу мясціна лёду для катання. Чуць сьвет, а ён на каўзéль пайшóў.

ҚАЎТА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Глытаць. Қаўта́й цёпляньківі чаёк, ка́шляць ня бýдзяш.

ҚО́НАЎҚА *наз., ж., р. -кі.* Пада́й кòнаўку вады́!

ҚО́ЎГАЦЬ *дзеясл., -еш, перах., незак.* Мыць няўмела, з неахвотай. Қóўгая тут ні сьця́, ні любя́.

ҚРУ́ЧА *наз., ж., р. -ы.* Моцная завіруха, мяцеліца з пераменным ветрам і снегам. На дварэ́ крýча, сьвéту ня віда́ць.

ҚРУЧҚЕ́ *наз., р. -óў, адз. няма.* Қаромысел. Тры разы́ кручка́мі вады́ прыня́сла́.

ҚУ́ПАЛО *наз., н., р. -а.* Гняздо курыцы. Забяры́ я́йкі с кýпала.

ЛА́СЬНЯ *пытальн. часц.* Хіба ж. Ла́сьня ён яшчэ ня прышóў?

ЛЕ́МЗІНА *наз., ж., р. -ы.* Доўгая тонкая галінка без

лісцяў, дубец. Як вазьму лемзіну ды як паганю адгэтуль. Параўн.: ляска. Навагрудскі раён.

ЛЁ'СТАЧКА *наз., ж., р. -і.* 1. Дошчачка ў драбіне (на возе). 2. Усе лёстачкамі сьцёля— лісліва гаворыць.

ЛОБ [1]. Лоб.

ЛОБ [2] *наз., м.* Пераносн.: пакрытая ледзяной карой зямля (пасля дажджу, пасля адлігі). Такі лоб, шагу ня ступіш.

ЛО'ШКО *наз., н., р. -а.* Ложак.

ЛЯ'ДА *наз., н., р. -а.* Частка ткацкага станка. Ня стукай лядам моцна.

МАКАЗЫ'Н *наз., м., р. -а.* Налі газы ў маказын, бо лямпа патухня.

МАРСЬКАНУ'ЦЬ *дзеясл., -ў, -ёш, перах., зак.* Гл. хыснуць. Дзядзько скоранько марськануў яго ложкай па нося.

МАРТАПЛЯ'СЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Ніткі, абрыўкі ў падранай вопратцы, у мяшку, у абрусе. Ніс кашулі абарваны, кругом вісяць мартаплясы.

МЛІ'ВО *наз., н., р. -а.* Збожжа, якое завезлі ў млын.

МЯДНІ'ЦА *наз., ж., р. -ы.* Вялікая міска, у якой ставяць рошчыну для пірагоў.

МЯНТУ'ШКА *наз., ж., р. -і.* Брусок, якім вострацъ касу. Мянтушку ўзяў касу намяньціць. Гл. мяньціць.

МЯНЬЦІ'ЦЬ *дзеясл., -ў, -іш, перах., незак.* Вастрыць мянтушкаю касу. Намяньціў касу.

НАБЭ'ДРЫКІ *наз., -аў, адз. няма.*

НАВО'ЗЫ *наз., -аў, адз. няма.* Участак поля ля вёскі.

НАГДО'ВЯ *прысл.* Пазаўчора. Нагдовя прывозілі кіно, дак і я бачыла.

НАЕ'ДАК *наз., м., р. -у.* Сало, то гэто наедак, а то гурок ці зацірка нішчымная.

НА'РАТКА *наз., ж., р. -і.* Шукаць нараткі — шукаць бяды сабе, на сваю галаву.

НАЎЗНА'Ч *прысл.* Упасці дагары. Наўзнач бразнуўся, што йіскры пасыпаліся.

НЕ'КСЯ *прысл.* Некалькі дзён назад. Нексся купіла хлопцу чаравікі.

НІ'ЧАЛЬНІЦЫ *наз., адз. няма.* Частка ткацкага станка, у якую закладваюцца ніткі. Парвала нічальніцы, будуць кросна стаяць.

НУ́ЛЕ *сцвярджальная часц.* Трэба лічыць, што ну́ле з дзвюх часціц: ну і але. На рабо́ту по́йдзяш? Ну́ле. Побач ужываецца *но́ле* (но́ля).

ПАБЭ́РСАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, перах., зак.* Гл. бэрсаць.

ПАДАТКНУ́ЦЬ дзеясл., *-е́ш, -е́, перах., зак.* Выдаць, зрабіць данос на каго-небудзь. Падаткну́лі на яго́ не́мцам, дак усю́ сям'ю пазабіва́лі.

ПАДЖГА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., зак.* Хутка, імкліва ісці. Паджга́ла, аш пыл куры́ць.

ПАЛКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах., незак.* Глытаць, каўтаць (гл. каўта́ць). Палкні́ лы́жачку ляка́рства.

ПАРАЗУМЕ́ЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, неперах., зак.* Параіцца, пагадзіцца. Паразуме́ўся з буга́лцярам нашчо́т машы́ны й прые́хаў сюды́.

ПА́СА *наз., ж., р., -ы.* Вялікая кадушка. Такро́к цэ́лую па́су жы́та на трудадні́ палучы́лі.

ПА́СКА *наз., ж., р. -і.* Палоска. Суке́нка бе́лая ў сінія па́скі.

ПАСО́ЛЯ, БАСО́ЛЯ *наз., ж., р. -і.* Фасоля.

ПАЧЫ́НАК *наз., м., р. -а.* Навітыя на адно верацяно ніткі з 2—3 руча́ек (гл. ручайка).

ПЕРАДО́ЙКА *наз., ж., р. -к -і.* Карова, якая доіцца другі год узапар.

ПЛЯЦ *наз., м., р. -а.* Месца, якое займае будынак і гарод. До́бры пляц ля ракі́.

ПО́ГРАП, ПО́РГАП (по́граб) *наз., м., р. -а.* Выкапаная ў зямлі яма, а над ёю саламяная будка; выкарыстоўваецца для захавання бульбы зімой. По́вен по́грап карто́пяль.

ПО́ГАЛАСКА *наз., ж., р. -і.* Чутка. По́галаску пу́сьцяць, зь ве́тру вяро́ўку саўю́ць. Пусьці́лі по́галаску, што канцэ́рт прые́дзя.

ПО́ТШЫЎКА *наз., ж., р. -і.* Тонкая вяровачка, якою падшываюць лапці. Трэ́ба по́тшыўку зьві́ць ды ла́пці прышы́ць.

ПО́ШЫЎКА *наз., ж., р. -і.* Навалочка. Пашы́ла но́выя по́шыўкі.

ПРЫ́ХВАТКАЙ *наз., ж., р. -і.* Рабіць што-небудзь прыхваткай — рабіць час ад часу, у вольную ад сталых заняткаў гадзіну. У ха́ця беспара́дак, усё пры́хваткай прыхо́дзіцца рабі́ць.

ПЯРЭ́БІРАК *наз., м., р. -рк-а.* Прывёз там нéкі пярэ́бірак сéна й дýмая хвáціць.

РАБА́К *наз., м., р. -á.* Гліст. Ад рабакóў памёр.

РА́ШКА (рáжка) *наз., ж., р. -і.* Пасудзіна, у якой рашчыняюць цеста на бліны.

РО́НДАЛЬ *наз., м., р. -я.* Невялікая каструля з доўгай ручкай. Налíць малакó ў рóндаль.

РУБЕ́ЛЬ *наз., м., р. -я́.* Жэрдка, пры дапамозе якой увязваюць сена, салому на возе. Ні аднагò рублю́ ў брыгáдзя німа.

РУЧА́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Наматаныя на верацяно ніткі. Цэ́лую ручáйку напрáла.

РЭ́ЗЬГІНЫ *наз. адз. няма.* Сетка з вяровак, краі якой прымацаваны да дзвюх выгнутых дугой арэхавых палачак; выкарыстоўваецца для пераноскі, сена, саломы.

САХО́Р *наз., м., р. -á.* Вілы, пры дапамозе якіх накідваюць гной на воз.

СА́ЧАК *наз., м., р. -а.* Летняя жаночая жакетка. Яна былá ў карóцяньнькім сáчаку.

СЕ́ДАЛО *наз., н., р. -а.* 1. Месца, дзе начуюць куры. На сéдало парá. 2. Месца, дзе чалавек вельмі часта бывае. І сéдало й éдало тваё тут.

СКАПЫ́ЦІЦЦА *дзеясл., -уся, -ішся, неперах., зак.* Памыліцца (у гутарцы). На сабрáні не хацёў выступáць, баяўся скапы́ціцца.

СКЛЮ́Т *наз., м., р. -а.* Вельмі худы чалавек. Зусíм склю́т зрабíўся, духé й ты́я вы́сахлі.

СКРЫ́ЛІК *наз., м., р. -а.* Маленькі, тоненькі кавалачак хлеба, сала. Скры́лік хлéба адрэ́заў.

СМАКТУ́ШКА *наз., ж., р. -і.* Кветка канюшыны. Ужо ўся канюшы́на ў смактýшках.

СЬЛЯВЯ́ДА *наз., р. -ы, агульн.* Вельмі дакучлівы чалавек. Аччапіся, сьлявя́да. Побач ужываецца *слатà.*

СЬЦІЖА́Р'Ё *наз., н., р. -я.* Падмóсткі пад стóг. Воз сьціжáр'я павéзьлі.

СЬЦІ́РТА *наз., ж., р. -ы.* Вялікая ўкладка снапоў.

СЯЛЕ́ДЗЯЎКА *наз., ж., р. -і.* Невялікая бочка, параўн.: селядзéц. Пасалілі сялéдзяўку гуркóў.

ТАКРО́К *прысл.* Летась. Такрóк куды́ лéпшы ўраджáй быў.

ТА́МАКА *прысл.* Там. Тáмака кніга ляжы́ць.

ТАРЦІ́НА *наз., ж., р. -ы.* Кавалак торфу.

ТРО́НАК *наз., м., р. -нк-а.* Ручка (нажа). Паламáлі трóнак, а такі нож быў!

ТРУСКА́ЎКА *наз., ж., р. -і, мн.—трускáўкі.* Клубніцы. Побач ужываецца *барóўкі.*

ТУ́ТАКА *прысл.* Тут. Тýтака квéтак шмат.

УВЭ́ДЗГАЦЦА *дзеясл., -юся, -ешся, зак.* Умазацца. Увэ́дзгаўся па вýшы ў грасць.

УЖЫ́ШЧО *наз., н., р. -а.* Вяроўка, якой увязваюць сена, салому, снапы на возе. Ужы́шчо на вóс палажы́.

УЛЕ́ХЦЫ *прысл.* Без кладзі, паражняком (ехаць).

УПІКА́ЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, перах. і без дап., незак.* Папракаць. Кускóм хлéба ўпікáя.

УСЛО́Н, СЛОН, ЗУСЛО́Н *наз., м., р. -а.* Пастáў услóн да сталá.

ХВАРСЕ́ЦЬ *дзеясл., -ý, -іш, неперах., незак.* Ой, ты, мілы, не хварсі, высока нóса не насі. З частушкі.

ХВАРСУ́Н *наз., м., р. -á.* Такі хварсýн, не падыйсці.

ХЛЫ́СНУЦЬ *дзеясл., -у, -еш, неперах., зак.* Нечакана выцяць па твары. Як хлы́сну, дак адрáзу зарвé (сціхнеш).

ХРАМАЛІ́Н *наз., м., р. -у.* Крэм для абутку.

ХРА́ПА [1] *наз., ж., р. -ы.* Параўн.: Конская мыза —храпа. Я. Брыль, Выбраныя апавяданні, Мінск, 1959.

ХРА́ПА [2] *наз., ж., р. -ы.* На вуліцы храпа. Параўн.: Калі гразь замерзне нагалік, без снегу — таксама храпа. Я. Брыль, Выбраныя апавяданні, 1959, стар. 39.

ХУ́НТЫ [1] *наз., мн. назоўніка* хунт.

ХУ́НТЫ [2] *наз., адз. няма.* Памольны збор у млыне. У другі мяшóк насы́п хýнты аддáць.

ЦУ́ГЛІ *наз., адз. няма.* Кóнік малады́, гарáчы, й цýглі не памагáюць.

ЦЫ́РКАЦЬ *дзеясл., -а-ю, -а-еш, перах., незак.* Пацы́ркаць карову — падаіць карову.

ЦЯРО́МУХА *наз., ж., р. -і.* Чаромха. Цьвілá цярóмуха рáньняй вяснóю. З народнай песні.

ЧАРАНО́К *наз., м., р. -нк -á.* Трымáй лóжку за чаранóк.

ЧАЎПЦІ́ *дзеясл., -éш, -é, неперах., незак.* Гаварыць многа рознага, прыдуманага на чалавека, пля-

вузгаць, верзці. С поль, з гор зьбіра́ла й на яго̀ чаўпла́.

ШАДО́БЯЦЬ *дзеясл., -е-ю, -е-еш, перах., незак.* Разумець. А ты ў гэ́тай кнізе шадо́беeш тро́хі? (арф.).

ШАЛАМКЕ́ *наз., адз. няма.* Скураны ашыйнік у каня, увешаны званочкамі, вандзэ́лкамі (гл. вандзэ́лак). Шаламке́ зьвіня́ць, малады́я е́дуць.

ШАЛАМІ́ЦЬ *дзеясл., -мл-ю́, -м-іш, перах., незак.* Шумець моцна, раздражаць, нерваваць (каго-небудзь). Не шалам́і галаву́.

ШВЭ́ДАР *наз., м., р. -а.* Світар. Швэ́дар купіла.

ШУГА́НКА *наз., ж., р. -і.* Зачэпленая ўверсе за што-небудзь вяроўка, канцы якой звязаныя ўнізе. Цэ́лы дзень ш шуга́нкі ня зла́зіць.

Я́ДРАНА *прысл.* Зорна, ясна на небе. Я́драно, маро́с до́бры бу́дзя.

ЯСЁ́НКО *наз., н., р. -а.* Летняе жаночае паліто. Се́ньня хо́ладно бязь ясё́нка.

Я́СІК *наз., м., р. -а.* Маленькая падушачка.

ЯТРО́ЎКА *наз., ж., р. -і.* Ятроўкі — жонкі родных братоў. Бывáло мая ятро́ўка ўсё свякру́ся раска́жа.

---

*С. ПРАЧ*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСАК ПАРЫЦКАГА РАЁНА

АБГО́НКА *наз., ж., р. -і.* Акучнік, сошка. Чыркавічы.

АБЛО́ГА *наз., ж., р. -і.* Ворная зямля, якая некалькі год не апрацоўваецца. Аблóгу лéсам засадзíлі. Была аблóга, а цяпéр хмызьня́к расьцé. Чыркавічы.

АЗЯРО́Д *наз., м., р. -у.* Пераплёт на слупах для сушкі снапоў. На дзéдаў азярóд лáзіў. Чыркавічы.

АЛЁ́С *наз., м., р. альсá.* Балота, пакрытае густым алешнікам і лазой. У альсé чэ́рці вóдзяцца. Чыркавічы.

АПО́ЎЗЬЛІНА *наз., ж., р. -ы, часцей — у мн.* Пакладзіны, якія кладуцца на верх стога, сцірты, хлява, каб вецер не ўзрываў верх (стога, сцірты, страхі і да т. п.). Кладзí дóбрыя апóўзьліны, каб вéцяр страхý ні зьдзірáў. Здудзічы.

АЦІ́РЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Дробная саломка, якая застаецца пасля абмалоту збажыны. Прыбяры́ аціры: карóўка паéсь. Расава.

БАЛАЦЯ́НКА *наз., ж., р. -і.* Забалочаная нізінка сярод поля або лесу. Расавá.

БАЛЕ́Я *наз., ж., р. -і.* Вялікі цэбар, у якім мыюць бялізну або самі мыюцца. Мольча, Парычы.

БЕ́ЛЬ *наз., ж., р. -і.* Балота, дзе расце пераважна бярэзнік. На тóй бялí сéна ні ядкóя. Мольча. Бéль ачы́сьцілі, хóчуць паарáць і травý пасея́ць. Печышчы.

БО́НДА *наз., ж., р. -ы.* У вёсках Парыцкага раёна бытуе такі звычай: гаспадар (гаспадыня), забіўшы кабана або зарэзаўшы цяля ці авечку, ня-

се лепшы кавалак мяса або сала як гасцінец сваякам ці знаёмым. Такая мода: заб'е кабана й прынясе сала й мяса — ета й называяцца бонда. Чыркавічы. Цётка Ульяна прынесла бонды: кавалак сала й дзьве парэбрынкі. Стужкі.

ВАЗО'К *наз., м., р. -зк-а.* Лёгкія прыгожыя санкі, прызначаныя для раз'ездаў. Брыгадзір у новым вазку пайехаў. Язвін. На вазку сядзелі два сядакі (гл.) й кучар. Чыркавічы. Міхалка зрабіў добры вазок. Расава.

ВАЛЯВА'ХА *наз., ж., р. -і.* Птушка чапля. Пераноснае: непаваротлівы, няўдалы чалавек. Ідзе, як валяваха. Стужкі.

ВАРЭ'ЙКА *наз., ж., р. -і.* Гліняны гаршчок. Прудок, Судавіца.

ВАРЭ'НІК і ВЯРЭ'НІК *наз., м., р. -а, звыч. у мн.* Гатуюць варэнікі з дранай бульбы або з грэцкай мукі, начынкаю служыць мак, семя, мяса. Сьвежыя варэнікі смашныя. Дуброва.

ВІ'ЛЬЧЫК *наз., м., р. -а.* Верх страхі, канёк. На вільчыку бусял кубло (гл.) змайстраваў. Язвін.

ВІША'Р *наз., м., р. -у.* Няскошаная трава, якая зазімавала на сенажаці. Накасіў вішару на подсьціл. Здудзічы.

ВО'СЯЦЬ *наз., ж., р. -і.* Сушыльня ў ёўні: на палаці з круглых жэрдак (ніжнія цапкі) ставяць радкамі снапы, якія прыціскаюць верхнімі жэрдкамі (цапкамі). Наставіў восяць жыта. Мольча. Бывала, досьвята восяць жыта змалоцім. Дуброва.

ВУ'ТВА *наз., зборн., ж., р. -ы.* Качкі. Бач, колькі вутвы разгадавалі. Параска вутву даглядая. Дуброва.

ВЫБІРА'ЦЬ *дзеясл., -ю, -яш, перах., незак.* Брыгадзір казаў, каб ішлі лён выбіраць.

ГА'ЛА *наз., н., р. -а., мн. няма.* Чыстае месца: дзялянка высечанага лесу, сенажаць між лясоў, вялікая паляна сярод лесу. На тым галі добрая трава расьце. Быў лес, а стала гала. Здудзічы.

ГАЛАШЧО'К *наз., м., р. -у, мн. няма.* Голае (без снегу) замёрзлае поле, балота. Галалёдзіца. Касіў вішар (гл.) па галашчоку. Мольча.

ГАЛУ'ШКА *наз., ж., р. -і, звыч. у мн.* Згусткі дранай бульбы, якую вараць з малаком. Варэйку (гл.) галушак наварыла. Чыркавічы.

ГАМА́РНЯ *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Вялікі шум, трэск, піск, сумятня. У мінулым медзеплавільны завод. У е́тай гама́рні й адурне́ць мо́жна. Стужкі.

ГАРБУ́ЗІК *наз., м., р. -а.* Гарбузовае семя, насенне. Ране́й у ко́ляды гарбу́зікамі частава́лі. Чыркавічы.

ГАРМІ́ДАР *наз., м., р. -у.* Вялікі шум, сумятня. Печышчы.

ГЕ́ЙКА *наз., ж., р. -і.* Сяброўка, падружка. По́йдам, ге́йка, у кіно́. Казлоўка.

ГІЗУ́НТЫ ВЫ́ЦЯГНУЦЬ *фразеалагізм.* Наздзекавацца, змучыць, выесці вантробы, душу выняць. Гізунты ад нямецкага gesund (здароўе). З ім зьвяжы́ся—гізу́нты вы́цягня. Чыркавічы.

ГЛАДЫ́ШКА *наз., ж., р. -і.* Пасудзіна для малака. Параўн.: рускае — кувшин. Казлоўка, Язвін, Дуброва.

ГЛЯ́К і ГЛЁК *наз., м., р -а.* Гліняная пасудзіна з вузкім горлам. Дуброва.

ГО́НІ *наз., н., р. -ей, адз. няма.* Загон або частка загону. Узара́ў го́ні пад жы́та. Дуброва.

ГРАЦКО́ЎЯ *наз., н., р. -я.* Поле, дзе расла грэчка. Бяз гно́ю на грацко́ўі жы́та ні расьце́. Мольча.

ГРЫ́ВА[1] *наз., ж., р. -ы.* Грыва.

ГРЫ́ВА[2] *наз., ж., р. -ы.* Града, узгорак, груд сярод балота або нізіннага лесу. У сяро́днюю гры́ву пайшлі́ касі́ць. Расава.

ГУСЬЦЕ́ЧА *наз., ж., р. -ы, мн. няма.* Густы зараснік. Вот гусьце́ча: ні прае́хаць, ні прайсці́. Астроўчыцы.

ГУ́РА *наз., ж., р. -ы.* Гурба снегу. Здудзічы.

ДАШЧЭНДЗІКАЎ *прысл.* Дазвання, зусім, датла. Калі́ была́ вайна́, усё згаро́ла дашчэ́ньдзікаў. Дуброва.

ДО́Р *наз., м., р. -у, мн. няма.* Дахавая дранка. До́рам ха́та кры́та. Расава. Надра́ў тры́ццаць коп до́ру. Мольча. Дор, як і го́нт, до́ўга слу́жыць. Чыркавічы.

ДРА́ЧКА[1] *наз., ж., р. -і.* Тарка. Аб дра́чку ру́ку паро́зала. Купі́ но́вую дра́чку. Пятровічы.

ДРА́ЧКА[2] *наз., ж., р. -і, мн. няма.* Драчку выбіраюць у сцяне, калі ўзводзяць будынак, каб верхняе па-

лена шчыльна клалася на ніжняе. Прудок, Чыркавічы.

ДРУ'К І ДРУЧО'К *наз., м., р. -а.* Прылада, пры дапамозе якой падымаюць цяжар. Калóду driучкóм падвáжваюць. Здудзічы.

ДЗЕ'ЙКАЦЬ *дзеясл., -е, неперах., незак.* Гаварыць, перадаваць чуткі. Дзéйкаюць, што лéта бýдзя дажджлíвая. Мольча.

ДЗЫБА'ТЫ *прым.* Войстры, высокі, ходзіць на цыпачках. Казлоўка.

ДЗЯ'ДНА *наз., ж., р. -ы.* Жонка дзядзькі. Дзя́дна прасіла, каб Антóля памаглá крóсны аснавáць. Мольча.

ДЗЯ'ТЛАВІНА *наз., ж., р. -ы.* Дзікая канюшына. Расава.

ДЗЯ'ТЛАЎКА *наз., ж., р. -і.* Дзікая канюшына. Мольча, Дуброва. Гл. дзя́тлавіна.

ДЗЯТЛО'ЎНІК *наз., м., р. -у.* Дзікая канюшына. Казлоўка. Гл. дзя́тлавіна, дзя́тлаўка.

ЖАК *наз., м., р. -а.* Прылада для лоўлі рыбы. Жакé трэ́ба схадзíць паглядзéць. Чыркавічы. У двýх жакóх шчýчкі былі, у трэ́цім—аднá драбязá. Здудзічы.

ЖЛУ'КТА *наз., н., р. -а.* Кадушка, у якой золіцца бялізна. Пераноснае: п'яніца. Праз жлýкта прóйдзя —пабялéя. Чыркавічы. Ні сýй нóсу ні ў сваé жлýкта. Дуброва.

ЖАЎНА' *наз., ж., р. -ы.* Жоўты дзяцел. У вульлё ўнáдзілася жаўнá. Чыркавічы.

ЗАКО'ТА *наз., ж., р. -ы.* Прыстасаванне для лоўлі рыбы: рэчка ці канава перагароджваецца каламі, якія забіваюцца ў дно, а на глыбокім месцы пакідаецца прасвет, куды ставяць нерат або жак (гл.). Расава. Параўн.: ез. Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, 1959.

ЗАЛО'БАК *наз., м., р. -бк-а.* Франтон. Чыркавічы.

ЗАХВІЦО'НЫ *прым.* Заўзяты, прыдзірлівы, упарты, нахабны, дураслівы. Дуброва.

ЗАЦЕ'ПЛІЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, перах., зак.* Нагрэць печ у ёўні. Настáвіў лёну й ёўню зацéпліў. Мольча.

ЗА'ЯДЗЬ *наз., ж., р. -і.* Розныя насякомыя (мухі, авадні, камары, мошкі), якія кусаюць жывёлу. Ад зáя-

дзі ня́ма рату́нку. Ракшын. Каровы ад за́ядзі схава́ліся ў кусто́х. Дуброва.

ЗДАРО'ЎКАЦЦА *дзеясл.* Вітацца. Ні пасьпе́лі паздаро́ўкацца, а ўжо́ за стол садзя́цца. Мольча.

ЗЬНІ'ЦІЎСЯ *дзеясл.* Прыкінуўся, прыбядніўся, паказаў сябе не такім, якім ёсць сапраўды. Стужкі.

ЙІМШАРЫ'НА *наз., ж., р. -ы.* Невялікі ўчастак мохавага балота сярод поля або лесу. На йімшары́не чарнагало́ў (гл.) расьце́. У глыбо̀кую во́сянь каро́ва й суху́ю траву́ на йімшары́не есь. Язвін.

ЙІМША'РНІК *наз., м., р. -у.* Мохавае балота. Мольча.

ЙІРЖЭ'ЎНІК *наз., м., р. -у.* Накасіў но́шку йіржэ́ўніку. Здудзічы.

КАЗА'Н і КАЗА'НЧЫК *наз., м., р. -а.* Невялікая пасудзіна, звычайна медная, зручная для карыстання ў час жніва, касьбы, у паходзе, там, дзе трэба адмяраць, пераносіць страву (квас, малако). Як бу́дзяш іці́ на се́на, вазьмі́ каза́нчык, ваду́ ў кана́ві бу́дам бра́ць. Расава.

КА'НЬКАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Дакучліва прасіць. Стужкі.

КАША'РА *наз., ж., р. -ы.* Загародка для жывёлы. Загані́ ко́ні ў каша́ру. Стужкі.

КІСЬЛЯ'К *наз., м.,р. -у́.* Кіслае малако, сыракваша. Па адны́м кісьляку́ но́г ні павалаку́. Здудзічы.

КІЯ'Х *наз., м., р. -а́.* Пачатак кукурузы. Чыркавічы, Дуброва, Чэрнін. Параўн.: Быццам першы раз кіяхі ўбачылі. А ў нас кожная гаспадыня раскажа, калі і як трэба сеяць і даглядаць кіяхі, каб яны хутчэй выспелі. М. Вішнеўскі. Калгаснік Беларусі, 1955 г., № 3, стар. 38.

КРЫЖА'ЛКА *наз. ж., р. -і.* Тушаная бульба, нарэзаная скрылямі. Е'тая бу́льба бяз вады́ ту́шыцца. Дуброва.

КРЫ'НДЖАЛЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Сані, прызначаныя для перавозкі бярвенняў. Німа́ на чым е́хаць у лес: Анто̀н но́выя кры́нджалы паламаў. Расава.

КРУ'ЖКА *наз., ж., р. -і.* Круглая балацянка (гл.) сярод поля або лесу. Ко́нь пасе́цца ў Дзямя́навай кру́жцы. Расава́.

КРУЖО'К *наз., м., р.- жк-а.* Круглая балацянка (гл.) сярод поля або лесу. Гно́й паве́зьлі за кружо́к. Расава.

КУБЛО′ *наз., н., р. -á.* Птушынае гняздо. Квактýха сéла на кублó. Расава.

КУ′БЯЛ *наз., м., р. -а.* Дзежка з векам, прызначаная для бялізны, іншых рэчаў або сала. Былò б сáла, а кýбял знóйдзяцца. Чыркавічы.

КУЛІ′ДА *наз., ж., р. -ы.* Буханка хлеба. Сьпéкла тры́ кулíды хлéба. Чыркавічы.

КУ′ЛЬ *наз., м., р. -я.* Сноп выбранай нясцёртай саломы з якой робяць стрэхі. Пазы́ч тры́ кулé хлéў дакры́ць. Чыркавічы.

КУЛЬТУ′РА[1] *наз., ж., р. -ы.* Культура.

КУЛЬТУ′РА[2] *наз., ж., р. -ы.* Маладыя пасадкі лесу. Мольча.

КУП'ЯРЭ′З *наз., м., р. -а.* Фрэза балотная. Казлоўка.

ЛАБЯ′К *наз., м., р. -а.* Гл. залобак. Ракшын, Сасноўка.

ЛУШНЯ′К *наз., м., р. -а.* Вушняк. Трэ́ба на лушнякі лéсу расстарáцца. Пятровічы.

ЛУШЧАЙІ′НА *наз., ж., р. -ы.* Лагчына, даліна. Пятровічы.

МАКАЦЁ′Р *наз., м., р. -тр-э́.* Гліняная пасудзіна з двума вушкамі або ручкамі. Поўны макацёр сьмятаны сабрала. Казлоўка.

МАНЕ′РКА *наз., ж., р. -і.* Бляшаная пасудзіна, у якую наліваюць газу, дзёгаць, алей. Прынясі манéрку гáзы. Стужкі. Дзе тая манéрка, што алéй быў? Чыркавічы.

МАРХА′ЛЬ *наз., м., р. -я.* Баран-вытворнік. Чыркавічы, Ракшын, Казлоўка.

МО′СТ *наз., м., р. -а.* 1. Падлога ў хаце. 2. Мост дарожны, чыгуначны. Здудзічы, Судавіца, Ракшын.

МУ′РАВА *наз., ж., р. -ы.* Дзед гýсі на мýраві пасé. Расава.

НАДО′ЯЧЫ *прысл.* Гэтымі днямі. Чыркавічы.

НАКУВЕ′ЗІЦЦА *дзеясл.* Прыстаць, прычапіцца без дай прычыны. Дуброва.

НАСЕ′НКА *наз., ж., р. -і.* Гарбузовае насенне, гарбузікі. Насушы́лі насéнак дый лýскаюць. Расава.

НА′СКІ *прым.* Наш, тутэйшы. Мольча, Язвін.

НАХА′БА *наз., м., р. -ы.* Назола, прыставака, бессаромнік. Што éта за нахáба звалíлася на маю́ галавý. Дуброва.

НЕ′МАЧ *наз., ж., р. -ы.* Недамаганне. Каб цябé нéмач забрáла. Дуброва.

НЕ́ТРА *наз., ж., р. -ы.* Цяжкадаступнае месца ў багністым балоце, у балоцістым лесе, трушчоба. Была́ така́я не́тра—наго́й ні сту́піш, а за́раз асушы́лі—кано́плі расту́ць. Язвін.

НІПЕ́ЎНЫ *прым.* Нядобры, няўдалы. Ніпе́ўны лён паро́с. Чыркавічы.

НІЎРЫ́МСЬЛІВЫ *прым.* Неспакойны, настойлівы. Дая́рка ніўры́мсьлівая—свайго́ даб'ецца.

НЯБО́ГА *наз., ж., р. -і.* Дачка брата ці сястры, пляменніца. Пятровічы.

НЯБО́Ж *наз., м., р. -а.* Сын брата ці сястры, пляменнік. Дуброва.

ПАДАБА́БАК *наз., м., р. -бк-а.* Грыб падбярозавік. Пятровічы, Чэрнін, Казлоўка, Чыркавічы.

ПАЗА́ДЗЬДЗЯ *наз., н., р. -я, мн. няма.* Малакаштоўнае зерне з пустазеллем. Адны́м паза́дзьдзям сьвіньню́ вы́карміў. Мольча.

ПАКВА́ПІЦЦА *дзеясл.* Пагнацца на дарэмшчыну, стаць прагавітым, скнарай.

ПА́ПЛІЦКА *наз., ж., р. -і.* Палка, дручок. Глядзі́, каб лясьні́к па́пліцкі ні да́ў, што каро́вы на культу́ру (гл.) пуска́яш. Дуброва.

ПАРО́НКА *наз., ж., р. -і.* 1. Вараная скрэбленая бульба. Паро́нак з са́лам намача́ўся. Расава. 2. Бульбяны суп. Мы ва́рым кры́шаную бу́льбу з але́ям ці са́лам—е́та й бу́дуць паро́нкі. Дуброва.

ПАСА́Д *наз., м., р. -а.* Снапы, раскладзеныя для малацьбы цэпам. Быва́ла зь дзе́дам да сьне́даньня два́ паса́ды жы́та змало́цім. Расава.

ПЕ́ЛЬКА *наз., ж., р. -і.* Палонка на лёдзе. Дуброва.

ПЕ́ЛЯ *наз., ж., р. -і.* Глыбокае месца ў стаячай вадзе. На пе́лі ўю́ны ло́вяць. Здудзічы.

ПЕ́Р'Я *наз., н., р. -я, адз. няма.* 1. Пер'е. 2. Аўсяная мякіна. Ніха́й пе́р'я каню́ дастане́цца. Мольча.

ПЕ́СЬЦІЦЬ *дзеясл., -у, -іш, перах., незак.* Шанаваць. Пе́сьціла дачку́, рабо́тацць ні вучы́ла, яна́ й вы́расла на лес гля́дзя. Казлоўка.

ПО́ЖНЯ *наз., ж., р. -і.* Зжатае поле. На по́жні пастухе́ валэ́ пасу́ць. Чыркавічы.

ПО́СТАЦЬ *наз., ж., р. -і.* Частка загону або гоней. Жжа́ла дзьве́ по́стаці жы́та. Расава.

ПРЫАСЁ́ТАК *наз., м., р. -тк-а.* Заканурак у гумне, паміж ёўняй і сцяной, у які сыплюць колас, мякіну.

Насыпляш прыасётак коласу—за зіму конь ні паесь. Мольча.

ПРЫКАРА́СКАЦЦА *дзеясл.* Прывязацца, прычапіцца. Як ішлі са станцыі, прыкараскаўся нейкі чалавек, набіваўся кажух пашыць. Расава.

ПРЫЛА́ЦІНА *наз., ж., р. -ы.* Тонкая абчэсаная жэрдка, пры дапамозе якой салома на страсе прыціскаецца да латы і прывязваецца лазовым вітком. Чыркавічы.

ПЫ́РСА *наз., ж., р. -ы.* Пілавінне, апілкі. Пырсай вока запарушыў. Казлоўка.

П'Я́ТРА *наз., ж., р. -ы.* Прастора паміж ільдом і вадой, якая ўтвараецца ў выніку спаду вады. Ад берагу п'ятра пайшла. Дуброва.

РАЗБАЗЫ́ЛЯЦЬ *дзеясл., -ю, -іш, неперах., зак.* Распесціць, раздурыць. Ужываецца звычайна ў прошлым часе. Разбазылеў, што й палена дроў ні хоча перарэзаць. Расава.

РАСТАНЦЫ́ *наз., н., р. -оў, адз. няма.* Скрыжаванне дарог. Раней на растанцох крыжык стаяў. Сасноўка.

РАХУ́БА *наз., ж., р. -ы.* Падлік, меркаванне, ашчаднасць. Такая рахуба мне ні падыходзіць. Гаварылі, гаварылі, ні к чаму ні прышлі—вот і ўся рахуба. Мольча.

РАЧАНЦЫ́ *наз., р. -оў, адз. няма.* Пэўны тэрмін, час, пасля якога можна рабіць тую або іншую справу, напрыклад, рэзаць цялят, біць парасят і да т. п. Рачанцы выседжваць—дарэмна траціць час. Пераносн.: Непаваротлівы, любіць заседжвацца. Чаго ты рачанцы выседжваяш? Пакуль ні высядзіць рачанцоў, і ні вылазіць. Расава.

РУЛІ́ *наз., р. -ёў, адз. няма.* Страва (малако з крышаным хлебам). Дзёткі, хадзіця рулі есьці. Сама рулёў з'ела, а мужыку сала насмажыла. Чыркавічы.

РУПЛІ́ВЫ *прым.* Клапатлівы, дбайны. У руплівага брыгадзіра й коні спраўныя. Астроўчыцы.

РЫ́ХЦІК *прысл.* Падобны, такі самы. Пайшоў чалавек—рыхцік наш Саўка. Дуброва.

РЭ́ЗЬВІНЫ *наз., р. -аў, адз. няма.* Рэзгіны. Чыркавічы.

САЛО́НІК *наз., м., р. -а, звыч. у мн.* Вараная скрэбленая бульба. Хуцянька пасьнедалі салонікаў з алеям і паехалі ў лес. Дуброва.

СВО́ЙСКІ *прым.* Хатні, прыручаны. Чыркавічы.

СКАРАДА́ *наз., ж., р. -ы́.* Усходы, асенняя рунь. До́брая се́лята скарада́. Коўчыцы.

СКЕ́ПКА *наз., ж., р. -і.* Лучынка, трэска, аскалёпак. Расава.

СКІ́БКА *наз., ж., р. -і.* Луста хлеба. Скі́бку хле́ба ма́слам нама́заў. Расава.

СКРЫ́ЛІК *наз., м., р. -а.* Тушаная бульба, нарэзаная скрылямі. На абед натушы́лі бу́льбы скры́лікамі. Расава.

СТА́Н *наз., м., р. -а.* Стойла жывёлы на пашы ў летні дзень. На ста́н хадзі́ла каро́ву дайі́ць. Мольча.

СТРЫЕ́ЧНЫ *прым.* Дваюрадны. Надо́ечы (гл.) быў мой стрые́чны брат, каза́ў, што ў іх до́ждж прайшо́ў. Стужкі.

СУ́БАР *наз., м., р. -у.* Сумесь зерня розных культур. Се́ння су́бару змало́ў. Вяжны.

СУ́ПЛАЎ *наз., м., р .-а.* Дрыгва. Ні ле́зь у су́плаў, а то права́лісься. Расава. Калі́сьці тут су́плаў быў, уюны́ вадзі́ліся, а цяпе́р тра́ктар ідзе́. Мольча.

СЫ́ТАЎКА *наз., ж., р. -і.* Птушка—сітаўка, пліска. Бытуе прымета: уба́чыў сы́таўку высо́ка—се́й высо́ка (на ўзго́рках); уба́чыў сы́таўку нізка—се́й нізка (на далінах). Чыркавічы.

СЬЦЕ́ЖАР *наз., м., р. -а.* Жэрдка, вакол якой кладзецца стог. Язвін.

СЯДА́К *наз., м., р. -а.* Пасажыр. Калі́сьці Хайім-балаго́л па пя́ць сядако́ў бра́ў. Печышчы.

ТАВА́Р *наз., м., р. -у.* 1. Буйная рагатая жывёла. Уста́ла, як тава́р гна́лі. Язвін. 2. Матэрыял на абутак. Даста́ў тава́ру на чо́баты. Казлоўка.

ТАРАБА́ЛКА *наз., ж., р. -і.* Балбатуха. Слу́хай, што табе́ тая тараба́лка нагаво́рыць. Стужкі.

ТАРА́Н *наз., м., р. -а.* 1. Сушаная або вэнджаная рыба. 2. Худы, знясілены. Вы́сах, як тара́н, а шчэ́ выхваля́яцца. Ракшын.

ТРАСУ́ХА *наз., ж., р. -і.* Малярыя. Гл. хінцуха. Язвін.

УЗВА́Р *наз., м., р. -у, звыч. у мн.* Кампот. Насушы́ла дзі́чак—будзя́ ш чаго́ ўзва́ры вары́ць. Чыркавічы.

УПЕ́РАК[1] *прысл.* Упоперак. Упе́рак даро́гу перайшо́ў.

УПЕ́РАК[2] *прыназ., з родн. скл.* Ста́ў упе́рак даро́гі. Дуброва, Ракшын, Прудок.

ХВО́Я *наз., ж., р. -і.* Пры даро́зі хво́я стая́ла, на ёй бага́та шы́шак було́. Пятровічы.

ХІНЦУ́ХА *наз., ж., р. -і.* Малярыя. Гл. трасу́ха. Казлоўка, Дуброва.

ХУДО́БА *наз., ж., р. -ы.* Жывёла. Зма́лку пача́ў худо́бу па́сьціць. Прудок.

ХУ́РТАВІНА *наз., ж., р. -ы.* Завея, завіруха, бура, халад з ветрам і снегам або дажджом. Сцыпы, Кіцін.

ЦАПКІ́ (НІЖНІЯ) *наз., м., р. -пк-а́, звыч. у мн.* Круглыя жэрдкі, на якія ставяцца снапы на восець (гл.). Мольча.

ЦАПКІ́ (ВЕРХНІЯ) *наз., м., р. -пк-а́, звыч. у мн.* Круглыя жэрдачкі, якія прыстаўляюцца да снапоў, што радкамі ставяцца на восець. Мольча.

ЦУ́РКА *наз., ж., р. -і.* Прылада для вязання снапоў. Пятровічы, Астроўчыцы, Мольча.

ЦЫ́РКАЦЬ *дзеясл., -ю, -яш, перах., незак.* Па каплі ліць, па жменьцы выдаваць. Ні цыркай па жме́ньцы, дава́й па аха́пку. Чыркавічы.

ЦЯМРЭ́ЖНІК *наз., м., р. -у.* Густы, непраходны зараснік, хмызняк. Па тым цямрэ́жніку то́лькі ваўке́ бе́гаюць. Чыркавічы.

ЧАРНАГАЛО́ВІК *наз., ж., р. -а.* Белы грыб, які звычайна расце на высокім месцы, на часціку (гл.) Па часціку́ до́брыя чарнагало́вікі расту́ць. Мольча.

ЧАРНАГАЛО́Ў *наз., м., р. -а.* Расліна, пераважна расце на ўзбярэжжы мохавых балот. Мольча, Чыркавічы. Параўн.: рускае—черноголовка.

ЧАРО́ПКА *наз., ж., р. -і.* Гліняная міска. Пераноснае: непрыгожая, неахайная жанчына. Пятровічы.

ЧАСЦІ́К *наз., м., р. -у.* Чысты хвойнік, без падлеску і расліннасці, пакрыты ігліцай. Дуброва.

ЧАЎПЦІ́ *дзеясл., -у́, -е́ш, неперах., незак.* Гаварыць са злосцю, з лаянкай, абы-што. Чаўпе́ німаве́дама што. Дуброва.

ЧМУ́ЦІЦЬ *дзеясл., -у, -іш, неперах., незак.* Хлусіць, гаварыць небыліцу, выдумку, байку. Мольча, Стужкі, Чыркавічы.

ЧЫ́СЬЛЯНІК *наз., м., р. -а.* Каляндар. Чыркавічы, Дуброва.

ШАЛА́ЦЦА *дзеясл.* Бадзяцца, сноўдацца, швэндацца. Па нача́х шала́яцца, а ўдзе́нь сьпіць. Чыркавічы.

ШВЭ́НДАЦЬ *дзеясл., -ю, -еш, неперах., незак.* Хадзіць без толку, бадзяцца без патрэбы. Пятровічы.

ШТАНДА́РА *наз., ж., р. -ы., мн.—штандàры.* Апорныя слупы, звычайна дубовыя, на якія ставяць будынак. Дубо́выя штанда́ры і ў зямлі до́ўга стая́ць. Язвін.

ШУ́ЯДЗЬ *наз., ж., р. -і.* Пражорлівая сям'я, кампанія, насякомыя. Стужкі.

ШЧАКЕ́Т *наз., м., р. -у.* Агарожа з дошак або колля. Сад загарадзі́ў высо́кім шчаке́там. Мольча.

ШЧА́НЬ *наз., м., р. -я.* Дзежка, у якой квасяць капусту, соляць агуркі. Засмалі́ шча́нь, каб ні пацё́к. Казлоўка.

ШЧЫ́К *наз., м., р. -а.* Вяршыня (вяршаліна) дрэва. Насё́к шчыко́ў на дро́вы. Расава. Са шчыко́ў хлеў паставі́ў. Ракшын. Страх, ко́лькі шчыкаўя́ па ле́сі валя́ецца. Мольча.

Ю́ШКА[1] *наз., ж., р. -і.* 1. Вадкая страва з рыбы, бульбы, грыбоў і інш. Навары́ла бу́льбы з ю́шкай.

Ю́ШКА[2] *наз., ж., р. -і.* Засаўка, закрывалка ў коміне.

Я́ДРАНЫ *прым.* Буйны, яркі, прыметны, адменны; ядраны колас—буйны, каласісты; ядраныя крупы—цэлыя, нясечаныя; ядраная раніца— пагодлівая, росная, марозная, з халадком. Ячме́нь я́драны, то й вы́хад до́бры. Язвін. Параўн.: Як выйшла ядранай роснай раніцай раць дзябёлых касцоў.., закіпела вясёлая, дружная праца. Міхась Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі, 1959, стар. 132.

ЯЛЮГА́ *наз., ж., р. -і.* Густы балотны зараснік, на ўзбярэжжы якога расце ельнік. У то́й ялюзе́ ласі́ хава́юцца. Расава.

* * *

Абду́маўся ў сьвіны́я галасы́. Расава.

Асінавы дух (дровы асінавыя), казлі́ны пух—дык вы́лязя дух. Дуброва.

А каду́к яго́ ве́дая, чаго́ ён хо́ча. Пятровічы.

Бог кара́я, а сам лі́ха ро́біць. Чыркавічы.

Было́ б са́ла, а ку́бял зно́йдзяцца. Чыркавічы.

Вы́рас пад не́ба, а ду́рань як трэ́ба. Расава.

Дзе бё́рда ні хо́дзіць, там ве́цяр ні шко́дзіць. Параўн.: світка (тчэцца) і кажух (не тчэцца). Расава.

Жонка для савету, цешча для прывету, а маці раднейусягó сьвéту. Пятровічы.

За ніўдáчу даюць у прыдáчу. Чэрнін.

За вялíкім чарвякóм і драбязá ганяяцца. Здудзічы.

Здагáдлівы, як Сямёна Хімінага пéвянь: зімóй у пáшню ні йдзé, а сьцежàчкай-сьцежáчкай ды ў млíва. Дуброва.

Казáла лíха, што ні быць дабрý. Мольча.

І тóй злóдзяй, што ўкрáў, і тóй, што схавáў. Печышчы.

Лес ды вадá—рóдныя брáт і сястрá. Казлоўка.

Ні кóсіць Фéдзька, бо ў тóрбе рэдзька. Стужкі.

Працýе, як чóрны вол. Чыркавічы.

Рыбакá па лóццы пазнаюць. Здудзічы.

Сей гóры і далíны: ні бýдзяш мець нішчáснай гадзíны. Пякалічы.

Сóль ды каржы—кашанí (касані) дый ляжы; сыр ды каўбасá—бяры, мая касá. Дуброва.

Твáя мáці й мáя мáці пяклі бýлкі ў аднóй хáці. Дуброва.

У стаячай вадзé й лін не такí смáшны. Чыркавічы.

Хтó ўлéтку цянькý шукáя, той узíмку галадáя. Казлоўка.

Як да дзéла, абы ні спáсьці сь цéла.

*В. РАБКЕВІЧ*

# НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ [1]

Ад квасу бог дае кра́су, ад ту́ку—му́ку.
Адна адной вышай—і ўсе, як мышы.
Адно яйцо на два снеданні не раздзеліш.
Ад яблыні—яблыка, а ад елкі—шышка.
Адзін воўк і за гарою вые.
А шчасця з жабіны прыгаршчы!
Багатага і хвaслівага не разбярэш.
Бацька з маткаю парвалі кішэні, дзецям носячы, а дзеці—ад бацькоў крадучы.
Без гаспадара і грошы—чарапы.
Бліжэй кашуля, чым андарак.
Брат брату—сусед і яшчэ далёкі.
Будзем мы—будуць і грошы.
Бусенькі-бусенькі—і ў мяне і ў цябе нічагусенькі.
Быў піўнічым, ды застаўся нічым.
Бяда ідзе і прычыну вядзе.
Бяздзетнаму і сядун дзіця.
Вада з гор—і рыба з нор.
Вайна—каму вяроўка, каму дойная кароўка.
Вішня—зямля лішня.
Вусы—чэсць, а барада і ў казла есць.
Вучыцца заўсёды прыгадзіцца.
Вымецем памазком, а вывезем вазком.
Вяселлю казала і качарга гуляць ад нядзелі да чацвярга.

---

[1] Народныя прыказкі і прымаўкі, якія тут падаюцца, запісаны (арфаграфічна) выпускніком Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага В. Рабкевічам у апошнія гады галоўным чынам у Капыльскім раёне (Мінская вобласць) і Браслаўскім раёне (Віцебская вобласць).

Галава свабодна і капуста салодна.
Глядзіць на паповы сані.
Голад—найлепшы кухар.
—Голы, збірайся!—Голы гатоў.
Гэты свет і плачучы параплачаш, а той—і скачучы не пераскачаш.
Даволі цалавацца: пара на хлеб старацца.
Да пяці год пястуй дзіця, як яечка, да сямі—пасі, як авечку, тады выйдзе на чалавечка.
Добра сытага карміць, а лысага галіць.
Добрая сварка ў хаце папраўка.
Дождж не дубіна, і я не гліна.
Дорага лыжка перад абедам.
Дурная галава балець не будзе.
Дзе ж дзецца, як вяселле мінецца?
Дзе сасна ні стаіць, а ўсё свайму бору шуміць.
Дзякуй за полудзень: не сыт, не галадзен.
Есць—да́віцца, а бяжыць—ва́ліцца.
Есць, як чужым ротам.
Еж, пакуль рот свеж, бо як пойдзеш да гробу, то з'ясі хваробу.
Жаніўся б і сёння, але дзе жонка спаць будзе?
Жыць—не мех шыць.
Забіў сабаку—брашы сам.
За добрым мужам дык і варона жонка, а за кепскім—і княгіня загіне.
Зарэж карову—слава, зарэж парсюка—сала.
З добраю песняю жыць весялей.
З музы́кі хлеб невялікі, а з гуля́кі— ніякі.
І поп крыча для свае здабычы.
Каб не мерлі, дык бы і неба падперлі.
Каб не плеш, дык і лысы не быў бы.
Каб твае вочы ды ў мой лоб, была б і табе харошая.
Калі не дасі сала, каб твая сенажаць устала.
Красата прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.
—Куды бяжыш, воўча?—Па ўдовіна ды па сіроча.
Куды вароне ні ляцець, а ўсё роўна падаль кляваць.
Куды вецер, туды і дым.
Ласы кусок знойдзе куток.
Летні дождж—на сена гной, а на карову лой.
Лёгка кінуць, ды цяжка падняць.
Ліхам свет не перадышаш.
Любіць—не сена касіць.

Люльку шукае, а люлька ў зубах.
Лысая галава толькі свеціць.
Ляжаш не еўшы, устанеш не спаўшы.
Маладым хоць у вір—абы нам пір.
Малайцу ўсё к ліцу.
Матка плача па дзіцяці ад веку да веку, а жонка па мужу—ад рання да вечара.
Менш ведаеш—лепш спіш.
На вячэру зловім цяцеру.
На вячэру яглы, што так спаць ляглі.
На голы кол не паляціць і сакол.
На грамніцы трэба, каб было хлеба палавіца, а пошару (кармоў)—траціна.
На пакроў мароз—сей пад кустом авёс.
Напіўся, што сабакі морду ліжуць.
На чужыне і камар загіне.
На чужы раток не накінеш платок.
Не бойся ліхога, а бойся ціхога.
Не дай—не сусед, дай—сабе нет.
Не дурак, а ад прыроды так.
Не кот друг чалавека, а сабака, але кот просіць, каб гаспадар што зарэзаў, а сабака просіць, каб што здохла.
Не плюй у карытца, бо мо прыдзецца напіцца.
Не тая радзіна, што мяне радзіла, а тая радзіна, што жонку радзіла.
Не хацела сабача лапа быць на стале—хай будзе пад сталом.
Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.
Няма мяса—і жаба не прыкраса.
Па дурным дурная памяць.
Пакуль адзін бок абстрыжэ, дык другі абрасце.
Памёр—усё гора адпёр.
Панскага роду свінячага заводу.
Плач, галасі, а рады не дасі.
Поп скамароху не таварыш.
Просьба месца мае.
Прышоў нязваны і пайшоў нясланы.
Пчала на любую кветку садзіцца.
П'яніцу і ў лужыне рай.
Рабіцьмеш фільгуючы—заплацяць дзянькуючы.
Разумная галоўка, ды ўсаджана нялоўка.
Разумная галава, ды дурню прышлася.

Рыбака таня́ корміць.
Сабака сабаку і па лапках пазнае.
Свінні не да парасят, калі хвост смаляць.
Сёння сяк-так, а заўтра з блінамі.
Столяр сталяруе—жонка гаруе.
Сякі-такі мужчына: абы дровы ды лучына.
Таго кусі, чый хлеб ясі.
Такая праўда, як сабака сякеру з'еў і дзёгцем запіў.
То дождж, то непагода, а ўсё невыгода.
Той добры край, дзе хлеба акрай.
Трэба дровы—будуйся, трэба хлеб—жаніся.
У вочы—катком, а за вочы—кіпятком.
У каго ў каліце, той і з панам на куце.
У каго ў шкатуле, той і ў тытуле.
Упалага не май за прапалага.
У піўной і ў бані—усе дваране.
Усё роўна ці за адну нагу вісець, ці за дзве целяпацца.
У чужым краі толькі вецер зжаліцца.
Харошае доўга помніш, а дрэннае век не забудзеш.
Хата багата, а гасцей малавата.
Хоць без хлеба пасяджу, але ж на мужа пагляджу.
Хоць галодны, абы жыццё свабоднае.
Хоць за зямлю, абы на зямлю.
Хоць малы, але вялікаму лапці падпляце.
Хоць чорная папа, абы поўная лапа.
Хто бацькоў не слухае, той у пальцы дзьмухае.
Хто ходзіць нацянькі, той набівае ногі і траціць дзянькі.
Цяжка ўздыханне—далёка каханне.
Што старана, то барана.
Чакай з воўка толку!
Чорнага сакала не вымыеш дабяла.
Чым абыякага, дык лепей ніякага.
Чым цяжэй, тым даражэй.
Чэсць і слава таму прыходзіць, хто ў працы наперадзе ходзіць.
Язык гадзіцца на прыказкі, а скура—на прывязкі.
Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць.
Якая работа, такая і капота (сукенка, адзенне).
Якая справа, такая і слава.
Як возьме сыць, дык стоячы спіць.

Як іграюць, так танцуюць.
Як клічуць, так і адклікаюцца.
Як на пакровы дождж, дык на Юр'я ліст.
Як ні мяркуй, дык голым наверх.
Як сама лахудра, то не паможа і пудра.
Як чорта не хрысці, дык кажа: «У балота пусці».
Яму гавары, а ён брык дагары.

---

12 Зак 30

*Ф. ЯНКОЎСКІ*

# ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

Змешчаныя тут прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэнні запісаны ў розныя гады ў многіх мясцінах Беларусі.

Пасля выслоўя адзначаецца, дзе і калі яно запісана.

Некаторыя прыведзеныя выслоўі паведамлены мне сябрамі і знаёмымі; прозвішчы падаюцца адразу пасля выслоўяў.

Не абазначана месца, дзе заўважана тое ці іншае выслоўе, калі той, хто паведаміў мне, не назваў вёскі ці горада, дзе пачуў гэта выслоўе. Прыклады:

1. БАБРО́ЎНЯ—НІКОМУ НЯ РО́ЎНЯ. Паведаміла настаўніца З. Буцько (з Бабро̆ўні Скідзельскага раёна). «З Бабро̆ўні Скідзельскага раёна» азначае, што выслоўе пачута ў вёсцы Бабро̆ўня Скідзельскага раёна.

2. ГЛЯДЗІ́ЦЬ, ЯК ТА́Я ГУСЬ НА БЛІСКАВІ́ЦУ. Паведаміў пісьменнік С. Александровіч. Месца, дзе запісана выслоўе, не абазначана, таму што яно не названа.

Паведамленыя мне выслоўі, як правіла, падаюцца ў арфаграфічным запісу (арф.). У арфаграфічным запісу прыводзяцца таксама некаторыя запісаныя мною выслоўі.

АГІНА́ЦЦА Ў ЦЯНЬКУ́ (у цянька́х) (арф.). Клетнае Глускага раёна, Пярэжыры Валожынскага раёна (1946, 1957).

АГРЭ́Х НЕ ГАРЭ́Х (арф.). Пярэжыры Валожынскага раёна (1957).

АДНА′ ГАЛАВА′—ДО′БРА, ДЗВЕ—ЛЕПШ, АЛЕ ХАЙ АДНА′ РАЗВА′ЖЫЦЬ І НАВА′ЖЫЦЬ. Клетнае Глускага раёна (1946).

АЖАНІ′ЦЦА З МАГІ′ЛАЮ. У кленічы: Каб ты з магілаю ажаніўся! Слаўкавічы Глускага раёна (1952).

АЖАНІ′ЦЦА З СЫРО′Ю ЗЯМЛЁ′Ю (арф.). Клетнае Глускага раёна (1947).

АСЫ′ПАЦЬ ЗО′ЛАТАМ. Параўн.: азалаціць. Г. п. Радашковічы.

АТПА′СВАЦЬ (адпáсваць) РАДО′ЎКУ. Пярэжыры Валожынскага раёна (1956). Параўн.: *адганя́ць чаргу́, атпáсваць чаргу́.* Клетнае Глускага раёна (1956). Параўн.: *атпáсваць калéйку, адганя́ць калéйку.* Паведаміў настаўнік А. Рагойша (з Будраўцаў Шчучынскага раёна) (1957).

БАБРО′ЎНЯ (назва вёскі)—НІКОМУ НЯ РО′ЎНЯ. Паведаміла настаўніца З. Буцько (з Баброўні Скідзельскага раёна) (1948).

БЕЗ МУ′КІ НЯМА′ НАВУ′КІ (арф). Бандары́ Скідзельскага раёна (1948).

ВАЎКА′ НО′ГІ ЖЫ′ВЯЦЬ. Крынкі Карэліцкага раёна (1958).

ВЕК ПРАЖЫ′Ў, ЯК САЛЁ′НЫ ГРЫП ПРАГЛЫНУ′Ў. Паведаміў студэнт Мінскага педінстытута В. Бекіш (з Клімантаў Маладзечанскага раёна) (1958).

ВО′ЧЫ ВЫ′РАЧЫЦЬ (вýрачыць). Пас. Янкі Купалы Глускага раёна (1949).

ВУЧЫ′ЦЬ НЕ СПЯША′ЙСЯ (арф.). Астрашыцкі гарадок Мінскага раёна (1959).

ВЫ′ЦЯГНУЎСЯ, ЯК ЛУТ (арф.) (вырас высокі). Клетнае Глускага раёна (1947).

ГАЛО′СІЦЬ (плáча), ЯК НЯБО′ЖЧЫКА ХАВА′Е (арф.). Клетнае Глускага раёна (1946).

ГАНЯ′ЦЬ У ПО′ЛЯ (ганяць, пасвіць жывёлу). Паведаміў настаўнік А. Рагойша (з Пярэжыраў Валожынскага раёна) (1956).

ГЛА′ТКА ВЫХО′ДЗІЦЬ. Пярэжыры Валожынскага раёна.

ГЛЯДЗЕ′ЦЬ СЯБЕ′. Разýмны, харóшы, такí спакóйны й вéльмі гледзíць себé, шанýецца. Слаўкавічы Глускага раёна (1952). Ты, дзéткі, глядзí хоць сябé. Я старáя, як е, так і дóбрэ, а табé жыць трэ́ба, глядзéць сябé, шанавáцца трэ́ба. Клетнае Глус-

кага раёна (1956). Само́й трэ́ба глядзе́ць сябе́. Хто ш бу́дзя? Г. п. Радашковічы. Параўн.: у рускай мове—смотреть за собой.

ГЛЯДЗІ́ЦЬ, ЯК ТА́Я ГУСЬ НА БЛІСКАВІ́ЦУ. Паведаміў пісьменнік С. Александровіч (1959).

ГУЛЬНУ́Ў, ЯК ГО́ЛЫ Ў КРАПІ́ВЯ. Паведаміў лінгвіст М. Суднік (1958).

ДАВА́ЛІ, ДЫ ЗАНА́ТТА МО́ЦНА ТРЫМА́ЛІ. Г. п. Радашковічы (1952).

ДОЎГ НЕ ВЯРО́ЎКА—НЕ ПАРВЕ́ЦЦА, БУДЗЕ ЦЯГНУ́ЦЦА (арф.). Мінск (1958).

ДУРНО́ГА ВУЧЫ́ЦЬ, ЯК МЁ́РТВАГА ЛЯЧЫ́ЦЬ. Паведаміў настаўнік А. Жук (з Карэліцкага раёна) (1957).

ДЫХНУ́ЦЬ НЕ ДА́ЦЬ (арф.). Нялідавічы Мінскага раёна, Вайцяхоў Глускага раёна (1956, 1946).

ЖЫЦЬ СЬВЯТЫ́М ДУ́ХАМ (нічога не еўшы). Клетнае Глускага раёна (1946).

З М'Ё́ДАМ І ЖЫЦЦЕ́ (жыццё) САЛАДЗЕ́ЙШАЕ. Слаўкавічы Глускага раёна (1952).

З РО́ЗУМУ ТРО́НУЎСЯ. Клетнае Глускага раёна (1945).

З УСЯГО́ СВЕ́ТУ ПА ЗЛО́ДЗЕІ (арф.) (пра зборышча несумленных людзей). Г. п. Радашковічы (1949).

ЗДАРО́ЎЕ ВЫ́НЯЦЬ (арф.). Клетнае Глускага раёна (1945).

ЗЬБІ́ЦЦА З НОХ (доўга шукаючы). Паведаміў выкладчык Гродзенскага педінстытута А. Рагойша (з Пярэжыраў Валожынскага раёна) (1958).

ЗЯМЛЮ́ (зяме́льку) ПА́РЫЦЬ (арф.). Г. п. Глуск (1946).

І МАЯ́ ХА́ТА НЕ КАРЧМА́. Запісана ў Мінску ад калгасніка з Капыля (1958).

І НА ЗДАРО́ВАЙ Я́БЛЫНІ ГНІЛЫ́ Я́БЛЫК ЗНО́ЙДЗІЦЦА. Восава Мінскага раёна (1956).

(І) С КАПЫЛО́Ў ДАЛО́Ў. Астрашыцкі гарадок Мінскага раёна (1957).

І ТРА́СЦА НЕ ТРАСЕ́, Й ЛІ́ХА НЕ БЯРЭ́. Зубарэвічы Глускага раёна (1953).

КАЛІ́ ВЕ́КІ, ТО Й ДЗЁ́ГАЦЬ — ЛЕ́КІ. Кліны Бялыніцкага раёна (1958).

КАМУ́ ПА КА́МУ́, КАМУ́ ДВА́ КАМЫ́, А КАМУ́ Й

ТА́К СЫШЛО́. Запісана ў Мінску ад калгасніка з-пад Валожына (1956).

КАМУ́ ШТО, А БА́БЕ СЫРАДО́Й (арф.) Паведаміў лінгвіст М. Суднік (1958).

КАЎБАСА́ — СЛА́ВА, А КАПУ́СТА — СТРА́ВА. Паведаміў аспірант Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага М. Васілеўскі (з Замосця Слуцкага раёна) (1958).

КЕ́ПСКІЯ ПЕ́СНІ ЛЕПШ ЗА ДО́БРЫЯ СЛЁ́ЗЫ (арф.). Паведаміў пісьменнік С. Александровіч (1959).

КІ́ШКАЮ ЎЗЯЦЬ. Не здатнасцю і здольнасцю, а настойліваю працаю. Турэц Карэліцкага раёна (1958).

КРУ́КАМ СТАЙІМО́ Й РА́ДЫ НЕ ДАДЗІМО́. Крынкі Карэліцкага раёна (1958).

КРУ́КАМ СТАЯ́ЦЬ. Пільна вартаваць, пільна ахоўваць. Клетнае Глускага раёна (1957).

КУДЫ́ ПРО́СЯЦЬ — НЕ ЧАСЬЦІ́, А ДЗЕ НЯ ПРО́СЯЦЬ — АБЫЙДЗІ́. Запісана ад чыгуначніка з Заслаўя.

КУ́КІША Ў КІШЭ́НІ ПАКАЗА́Ў. Запісана ў дарозе з Глуска ў Слуцк (1956).

ЛІ́ЧАНЫЯ ДНІ (дзянькí) (арф.). Тут асталíся лíчаныя дзянькí (арф.). Клетнае Глускага раёна (1949).

ЛЯНО́ТА БЯРЭ́. ЛЯНО́ТА ЗАБІРА́Я. Паведаміў выкладчык Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы З. Захарэнка (з Асташкавіч Даманавіцкага раёна) (1957).

МАЗАЛЁ́ВАЮ ПРА́ЦАЙ НЕ ЗБУДУ́ЕШ ПАЛА́ЦАЎ (арф.). Г. п. Радашковічы (1950).

МАЛАДЫ́, ДЫ СЬПЕ́ЛЫ. Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна (1957). Параўн.: у рускай мове—молодой, да ранний.

МЕЦЬ СПРЫТ. Ні да чóга асаблíвага спры́ту ні мáю. Ракаў Валожынскага раёна (1958).

МЯДЗЬВЕ́ЦЬ НІКО́ЛІ НЯ МЫ́ЙІЦЦА, А ЎСЕ ЯГО БАЯ́ЦЦА. Паведаміў студэнт Мінскага педінстытута Бекіш (з Клімантаў Маладзечанскага раёна) (1960).

МЯДЗЬВЕ́ДЗЬ НІКО́ЛІ НІ МЫ́ЯЦЦА, А ЗДАРО́ВЫ. Клетнае Глускага раёна (1958).

МЯДЗЬВЕ'ЦЬ НІКО'ЛІ НЯ МЫ'ЙІЦЦА, АЛЕ МЁТ ЕСЬЦЬ. Паведаміў лінгвіст М. Суднік (1958).

НА АДНО' КУСА'ЙЛА ПА ТРЫ' СЯРБА'ЙЛЫ (арф.). Паведаміў пісьменнік С. Александровіч (1958).

НА СУХІ' ЛЕС, НА НІ'ЦЫЕ ЛО'ЗЫ. Клетнае Глускага раёна (1952).

НА СУХО'Й Я'БЛЫНІ САЛО'ТКАГА Я'БЛЫКА НІ ЗНО'ЙДЗІШ. Лекараўка Мінскага раёна (1944).

НА ТО'Я ВІР: КАЛІ Й УМЕ'ЛАГА ЎКРУ'ЦІЦЬ, А КА'ЛІ—Й НЯЎМЕ'ЛАГА НА БЕ'РАХ ВЫ'НЯСЯ. Стахава Барысаўскага раёна.

НЕ ДАЙШЛІ' РУ'КІ. Крынкі Карэліцкага раёна (1958).

НЕ ПАЧА'ЎШЫ, НЕ КО'НЧЫШ (арф.). Клетнае Глускага раёна (1945).

НЕ НА СНА'СЬЦІ, А НА ШЧА'СЬЦІ. Паведаміў лінгвіст М. Бірыла (1958).

НЕ ЎЧЫ' (не вучы́) РЫ'БУ ПЛА'ВАЦЬ. Халопічы Глускага раёна (1953).

НЕ ЧАПА'Й ЛІ'ХА, КАЛІ СЯДЗІ'ЦЬ ЦІ'ХА (арф.) Глуск (1945).

НІ ГАДЗІ'НКІ НІ ЧАСІ'НКІ. Г. п. Радашковічы (1950).

НІ САМО'МУ ЗЬЕ'СЬЦІ, НІ ЛЮ'ДЗЯМ АДНЕ'СЬЦІ. Г. п. Радашковічы.

НІ СТУПА'Й НА'ТТА ШЫРО'КА: ЛЫ'ТКІ ЗАДРЫЖА'ЦЬ. Сямкоў Мінскага раёна (1959).

НАБІ'ЦЬ ГУ'ЗА. Паведаміў выкладчык Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы З. Захарэнка (з Асташкавіч Даманавіцкага раёна) (1957).

НАБІ'ЦЬ ГУЗЯ'КУ. Паведаміў выкладчык Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы З. Захарэнка (з Асташкавіч Даманавіцкага раёна) (1957).

НАСО'К ГЛЯДЗІ'ЦЬ У ПЯСО'К. Трасцянец Мінскага раёна (1959).

НЕ'ШТА НЕ'ЙКАЕ. Не́шта не́йкае, што далі́ аш два аўто́бусы. Рахманькі Мінскага раёна (1958).

НЯМА' ДЫХНУ'ЦЬ КАЛІ' (арф.). Нялідавічы Мінскага раёна, Вайцяхоў Глускага раёна (1956, 1946).

ПАБА'ЧЫЎ ЛЮДЗЕ'Й І СЬВЕ'ТУ. Халопічы Глускага раёна (1952).

ПАГІ'НУЛІ, ЯК ПРУСАКІ' НА МАРО'ЗЕ. Клетнае Глускага раёна (1945).

ПАКУ'ЛЬ БА'ЦЬКА КАПУ' ЖЫ'ТА ЗМАЛАЦІ'Ў, ДЫК СЫН АБУ'ЎСЯ (арф). Паведаміў лінгвіст М. Суднік (1957).

ПАМІ'Ж ЛІ'ХАНЬКА І ГО'РАНЬКА (арф.). Г. п. Радашковічы (1951).

ПІЛІ'ПАЎСКІ ЛЁД КА'ЖА: ХОЦЬ ТРАШЧУ', АЛЕ НЕ ПУШЧУ' (арф.). Клетнае Глускага раёна (1945).

ПІЦЬ (напíцца, вы́піць, папіць) КРОЎ. Малыя Бакшты Маладзечанскага раёна, Клетнае Глускага раёна (1950, 1958).

ПЛО'ДНЫ, ЯК ВІДУ'К. Запісана ў дарозе Мінск — Слуцк (1956).

ПО'ЎНЫ, ЯК ВО'КА (арф.). Клетнае Глускага раёна (1952).

ПРА ЦЯБЕ' Й КУРЫ НЯ ШЭ'ПЧУЦЬ. Паведаміла студэнтка Мінскага педінстытута Л. Балотнік (з Пяршаяў Валожынскага раёна) (1954).

ПРЫШЛІ' Ў ХА'ТУ І Б'ЮЦЬ МАЙГО' ТА'ТУ (арф.). Паведаміў пісьменнік С. Александровіч (1959).

ПУ'ГАЮ КАВА'ДЛА НІ РАСЬСЯЧЭ'Ш. Пас. Янкі Купалы Глускага раёна (1946). Параўн.: украінская—Обуха батогом не перебити; руская—Плетью обуха не перешибить.

ПЯТРО'ЎКА—ГАЛАДО'ЎКА, СПА'САЎКА—ЛА'САЎКА. Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна (1957).

РАБІ'ЦЬ ПА КАНЕ'Ц РУК (рабіць дрэнна, кепска). Паведаміў дацэнт У. Калеснік (з Сіняўскай Слабады Карэліцкага раёна) (1958).

РУКА' НЕ ПАДЫ'МЯЦЦА. Крынкі Карэліцкага раёна (1958).

С КАПЫ'ЛЬЛЯ ДАЛО'Ў. Нялідавічы Мінскага раёна (1956).

СА'МА РАЗ (арф.). Найлепш, лепш за ўсё. Са́ма раз сходзіць дадо́му ды і пагавары́ць (арф.). Пас. Янкі Купалы Глускага раёна (1946).

СА'МО РАЗ. Табе́ мая́ ша́пка са́мо раз (якраз падышла па памеру) Клетнае Глускага раёна (1946). Са́мо раз падышо́ў. Байлюкі Глускага раёна (1949).

СІВЫ', ЯК Я'БЛЫНЯ (арф.). Паведаміў фальклорыст М. Грынблат (1958).

СМАКТА́ЦЬ (пасмакта́ць, насмактацца́, высмактаць) КРОЎ. Малыя Бакшты Маладзечанскага раёна (1950).

СТАЙІ́ЦЬ, ЯК ЗА́ТКАЛО. Крынкі Карэліцкага раёна (1958).

СУ́ПРАЦЬ ЛІ́ХА НА ЎЗГО́РАЧКУ. Г. п. Радашковічы.

СХАПІ́ЦЬ (зьесьці) БЯРО́ЗАВАЕ КАШЫ. Вольніца Глускага раёна (1952). Зьесьці бяро́завай кашы. Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна (1957).

СЬВЕТ УБА́ЧЫЎ. Клетнае Глускага раёна (1949).

СЬВЕ́ТУ ПАБА́ЧЫЎ. Слаўкавічы Глускага раёна (1952).

СЬМЯЕ́ЦЦА, ЗАКАСА́ЎШЫ ГУ́БЫ. Паведаміў настаўнік А. Жук (з Карэліцкага раёна) (1956).

ТО́ЛЬКІ Й БА́ЧЫЛІ! (і след прастыў!). Клетнае Глускага раёна (1957).

У ГАСПАДА́РЦЭ Й АБО́РКА СПАТРЭ́БІЦЦА. Клетнае Глускага раёна (1947).

У МЯНЕ́ ВЯЛІ́КАЯ ГА́НЬБА: НО́ГІ НЯПА́РНЫЯ, АДНА́—ПРАВАЯ, А ДРУГА́Я—ЛЕВА́Я. Паведаміў С. Александровіч (1959).

УЗЬБІ́ЦЦА НА ГАСПАДА́РКУ (развесці гаспадарку, набыць гаспадарку, стаць гаспадаром). Клетнае Глускага раёна (1945).

УЗЯ́ЦЬ ЗА ШКІ́РКУ. Г. п. Глуск (1952). Клетнае Глускага раёна (1959).

ХА́Й ЦЯБЕ́ НІХА́Й! М. Краснае Маладзечанскага раёна (1957).

ХАПІ́ЎСЯ, ЯК ЗА ЦЁ́ПЛЫ ХЛЕБ. Паведаміў пісьменнік Я. Брыль (1959).

ХВАРО́БЫ БО́ЙСА, АСТРО́ГУ СЬЦЕРАЖЫ́СА, А ТО́РБЫ НЕ ЦУРА́ЙСА. Вольніца Глускага раёна (1951).

ХАЦЬ БІС ЦУКЕ́РКІ, АЛЕ Ў СПО́ДАЧКУ. Г. п. Радашковічы (1951). ХОЦЬ ТРАШЧУ́, АЛЕ НЕ ПУШЧУ́ (арф.). Клетнае Глускага раёна (1946).

ЦІ Ж ДЗІ́ВА, ШТО НЯВЕ́СТКА СТА́ЛА СВЯКРУ́ХАЮ? (арф.) Слаўкавічы Глускага раёна (1952).

ЦЯ́ГНЯ НА СО́Н. Краснае Маладзечанскага раёна (1957).

ЧА́САМ І КЛЯ́ЧА ДАЛЁ́КА ЗАСКА́ЧА. Запісана ў Мінску ад прыезджага калгасніка (1957).

ЧОРТ ЛА́ПАЮ НАКРЫ́Ў (калі не знаходзіш таго,

чаго шукаеш і што—ведаеш добра—ляжыць бліз-ка, пад рукамі). Паведаміў лінгвіст П. Шуба (1959.)

ЧЫ́СТА (ро́ўна), ЯК ПАСЛЯ́ КАСЫ́ (арф.). Клетнае Глускага раёна (1946).

ШТО ЛА́ПЦІ ЗРО́БЯЦЬ, ТАГО́ БО́ТЫ НЕ ПАПРА́ВЯЦЬ (арф.). Паведаміў аспірант Мінскага пед-інстытута М. Васілеўскі (з Замосця Слуцкага раёна) (1958).

ШУКА́ЦЬ РАТУ́НКУ. Г. п. Радашковічы (1950).

ЯЗЫ́К ПА-ЗА ВУШШУ́ ХО́ДЗІЦЬ (пра балбатуна; параўн.: малоць языком, матляць языком, балба-таць). Паведаміў настаўнік М. Янкоўскі (з Ціньнава Крычаўскага раёна) (1959).

ЯК АТО́ПКАМ ПА ЦЫМБА́ЛАХ. Запісана ў дарозе з Мінска ў Радашковічы (1956).

ЯК БЛІНЫ́ ЎПЛЯТА́Ў, ДЫК ГАЛАВО́Ю МАТЛЯ́Ў (арф.). Паведаміў пісьменнік С. Александровіч. Параўн.: ПАКУ́ЛЬ ЧА́РКІ СЬЦЯБА́Ў, ПАТУ́ЛЬ ПАКЛО́НЫ ДАВА́Ў. Зубарэвічы Глускага раёна (1953).

ЯК ЗА МУ́ЖА ЗАВАЛЮ́СЯ, ДЫК НІКО́ГА НЕ БА-Ю́СЯ (арф.). Паведаміў настаўнік А. Рагойша (з Пярэжыраў Валожынскага раёна) (1956).

ЯК КНОТ (тонкі). Г. п. Радашковічы (1950).

ЯК НА ЗАКА́З. Грыбкі ўсе як на зака́з: чы́сьцянькіе, бе́лянькіе, ро́ўнянькіе. Клетнае Глускага раёна (1950). Падышла́ як на зака́с. Ракаў Валожынска-га раёна (1956).

ЯКІ́ ПА́Н, ТАКІ́ Й БУДА́Н. Клетнае Глускага раёна (1946).

*Ф. ЯНКОЎСКІ*

# УЛАСНЫЯ ІМЁНЫ, ІХ ВАРЫЯНТЫ І НЕКАТОРЫЯ ФОРМЫ АД ІМЁНАЎ

Тут змешчаны мужчынскія і жаночыя імёны, запісаныя ў вёсках Глускага раёна Магілёўскай вобласці: Байлюкі́ (Байл.) [1], Барбаро́ў (Барб.), Бая́наў (Баян.), Блізні́цы (Блізн.), Ве́снаў (Весн.), Ві́льча (В.), Во́льніца (Вольн.), хутар Во́страў (Востр.), гарадскі пасёлак Глуск, Дако́ль (Дак.), Зубарэ́вічы (Зуб.), Каса́рычы (Кас.), Кле́тнае (Кл.), Ключ, Крацко́ў (Крацк.) [2], пасёлак Янкі Купалы, Малі́наў, Но́ва-Андрэ́еўка (Н.-Андр.), Но́вае жыццё (Н. ж.), По́блін (Поб.), Сла́ўкавічы (Сл.), Сымо́навічы (Сым.), Хало́пічы (Хал.), пасёлак Чырво́ны [3].

Спецыяльна збіраннем імёнаў я не займаўся, і падаюцца тут тыя імёны, якія так ці інакш трапілі ў мае́ палявы́я за́пісы, што вяліся некалькі гадоў з мэтай збірання фанетычных, граматычных, лексічных і фразеалагічных матэрыялаў для вывучэння народных гаворак. Дыялекталогію як навуку цікавяць, перш за ўсё, традыцыйныя асаблівасці гаворак. Таму натуральна ў запісах адлюстраваліся, перш за ўсё, традыцыйныя мужчынскія і жаночыя імёны. Некаторыя з імёнаў успрымаюцца як застарэлыя. Так, напрыклад, імёнаў Сызо́н, Спірдо́н, Хадо́сся ў маладога пакалення не сустрэнеш.

---

[1] У дужках прыводзіцца скарочанае абазначэнне назвы вёскі.

[2] Крацкоў уваходзіць у Любанскі раён.

[3] Назвы вёсак запісаны ў той форме, у якой яны бытуюць на Глушчыне. Іншы раз у друку сустракаюцца памылковыя напісанні вёсак, напрыклад, пішуць Сіманавічы — замест Сымонавічы, Халопенічы — замест Халопічы, Веснава — замест Веснаў.

Большасць прыведзеных анамастычных фактаў запісана ў вёсках Клетнае, Барбароў, Байлюкі, пас. Янкі Купалы. З вёсак Малінаў, Бярэжкі, Крацкоў, хутар Востраў—толькі адзінкавыя.

Артыкулы распрацаваны не аднолькава поўна.

Да жаночых імёнаў прыводзяцца варыянты (калі яны зарэгістраваны), памяншальна-ласкальныя формы, прыналежныя прыметнікі. Да мужчынскіх імёнаў прыведзены таксама назвы жонкі (гаспадыні) па мужу (гаспадару), прыналежныя прыметнікі ад гэтых назваў.

Імёны тыпу Даніло, Кірыло, Марко сустракаюцца з аканнем на канцы і без яго: Даніло і Даніла. Гэта абазначаецца так: Даніло (-а).

АГА́ПА, *-ы* (Сл., Кл., Барб., пас. Янкі Купалы). Ага́пка (Кл., Барб.).

Прыналежныя прыметнікі:[1] Ага́пін, Ага̀пчын (Кл., Бабр.).

АДА́Р'Я, *-і*. (Кл., Байл., Н.-Андр.). Ада́рка, Ада́рачка (Кл.).

Пр. прым.: Ада́рйін, Ада́рчын, Ада́раччын (Кл.).

АКСІ́НЬНЯ, *-і* (Кл., Дак.). Аксі́нька, Аксі́ньнячка (Кл)..

Пр. прым.: Аксі́ньнін, Аксі́нчын (Кл.). Гл. Аксе́ньня.

АКСЕ́НЬНЯ, *-і* (Кл.). Аксе́нька, Аксе́ньнячка.

Пр. прым.: Аксе́ньнін, Аксе́нчын (Кл., пас. Янкі Купалы). Гл. Аксі́ньня.

АЛЕ́КСА, *-ы* (Кл.). Але́ксачка.

Пр. прым.: Але́ксін, Але́ксаччын (Кл.).

АЛЕ́НА, *-ы*. Але́нка, Але́начка.

Пр. прым.: Але́нін, Але́нчын (Кл.).

АЛЕ́СЬ, *-я*. Але́сь, Але́сько (-а), Але́сячко (-а).

Пр. прым.: Але́сяў, Але́ськаў, Але́сіха (Кл.). Гл. Аляксе́й.

АЛЁ́НКА, *-і*. Алёначка.

Пр. прым.: Алё́нчын, Алё́наччын (Кл.). Трэба лічыць, што Алё́нка—тое, што і Але́нка. Аднак Алё́нка не ўспрыймаецца як памяншальна-ласкальнае ад Але́на. Але́на— распаўсюджанае імя, Алё́нка—адзінкавае.

АЛЁ́Ш. Гл. Аляксе́й.

АЛЁ́ША. Гл. Аляксе́й.

[1] У далейшым слове «прыналежныя прыметнікі» абазначаюцца скарочана: Пр. прым.

АЛЯКСА́НДРА, *-а.* мужч. Аляксáндрачко (-а) (Кл.).
Пр. прым.: Аляксáндраў (Кл.). Параўн.: Ляксáндра, у Ляксáндры, з Ляксáндраю (-ай) (Угляны Мінскага раёна).
Аляксáндрыха, Аляксáндрышын (Кл.).

АЛЯКСЕ́Й, *-я.* Аляксейко.
Пр. прым.: Аляксéяў, Аляксéйкаў.
Алéсь (Кл., Блін.).
Алёшачко (-а) (Кл., пас. Янкі Купалы, Вольн.).
Аляксéйіха, Аляксéйчыха, Аляксéйішын (Кл.).
Аляксéй, Алéсь, Алёш успрыймаюцца, як розныя імёны.

АМБРО́Ж, *-а.*
Пр. прым.: Амбрóжаў.
Амбрóжыха, Амбрóжышын (Бярэжкі).

АМІ́ЛЯ, *-і.* Амілька, Амілячка.
Пр. прым.: Амілін, Амільчын, Амілячын (Кл., пас. Янкі Купалы).

АМЯЛЯ́Н, *-а.* Амяля́нко (а).
Пр. прым.: Амяля́наў, Амяля́нкаў (Кл.).
Амяля́ніха, Амяля́нішын (Кл.).

АНІ́СЬ, Аніся, Анісю і г. д. (Байл., Кл.). Анісько (-а), Анісячко (-а) (Байл., Кл.).
Пр. прым.: Анісяў, Аніськаў (Кл., Байл.).
Анісіха, Анісішын (Кл., Байл.).

АНТАНІ́НА, *-ы* (Кл., пас. Янкі Купалы, Н. -Андр.). Антанінка, Антаніначка (Кл.). Антóля, Антóлька, Антóлячка (Кл.).
Пр. прым.: Антанінін, Антанінчын; Антóлін, Антóльчын (Кл.).
Словы Антаніна і Антóля ўспрыймаюцца, як розныя імёны (Кл.).

АНТО́ЛЯ. Гл. Антаніна.

А́НЬЦЯ, *-і.* Гл. Гáнна.

АНЮ́ТА, *-ы.* Гл. Гáнна.

АПАЛЁ́НЯ, *-і.* Апалёнька, Апалёнячка.
Пр. прым.: Апалёнін, Апалёнчын, Апалёнячын (Кл., пас. Янкі Купалы).

АПАНА́С, *-а.* Апанáско (-а), Апанáсачко (-а).
Пр. прым.: Апанáсаў, Апанáскаў, Апанáсачкаў.
Апанáсіха, Апанáсішын (Кл.).

АРКА́ДЗЯ, *-я.* Аркáдзько (-а), Аркáдзячко (-а) (Кл.).

Пр. прым.: Арка́дзяў, Арка́дзячкаў. Арка́дзіха, Арка́дзішын (Кл.).

АРЫ́НА, *-ы.* Ары́нка, Ары́начка.
Пр. прым.: Ары́нін, Ары́нчын, Ары́наччын (Кл., пас. Янкі Купалы).

АТРАХІ́М, *-а.* Атрахі́мка, Атрахі́мачка.
Пр. прым.: Атрахі́маў, Атрахі́мкаў.
Атрахі́міха, Атрахі́мішын (Глуск). Гл. Трахі́м.

АЎДО́ЦЬЦЯ, *-і.* Аўдо́цька, Аўдо́цьцячка. Аўду́ля, Аўду́лька, Аўду́лячка.
Пр. прым.: Аўдо́цьцін, Аўдо́ччын, Аўду́лін, Аўду́льчын, Аўду́ляччын (Кл.).

АЎДУ́ЛЯ. Гл. Аўдо́цьця.

АХРЭ́М, *-м-а.* Ахрэ́мко (-а) (Байл.).
Пр. прым.: Ахрэ́маў, Ахрэ́мкаў.
Ахрэ́міха, Ахрэ́мішын (Байл., Кл.).

БАЗЫ́ЛЬ, *-я.*
Пр. прым.: Базылёў.
Базылі́ха, Базылі́шын (Малінаў, Сым.). Гл. Васіль.

БАНЭ́ДЫК, *-а.*
Пр. прым.: Банэ́дыкаў.
Банэ́дычыха, Банэ́дычышын (Малінаў).

ВАЛОДЗЯ. Гл. Лады́мер (Сл.).

ВА́ЛЯ, *-і.* Ва́лька, Ва̀лячка.
Пр. прым.: Ва́лін, Ва̀льчын, Ва́ляччын (Кл., Н. ж.)

ВАСІ́ЛЬ, *-я.* Ва́ся, Васілёк, Васі́лько, Васілёчак.
Пр. прым.: Ва́сяў, Васількo̒ў, Васілёчкаў.
Васілі́ха, Васілі́шын (Кл.).
Параўн.: Базы́ль, Базылёк, Базылёчак, Базылёў (Булашы Мінскага раёна). Гл. Базы́ль.

ВАСЮ́ТА, *-ы.* Васю́тка, Васю́тачка.
Пр. прым.: Васю́цін, Васю́ччын, Васю́таччын (Кл., пас. Чырвоны).

ВО́ЛЯСЬ, *-я.* Во́ляська (-о).
Пр. прым.: Во́лясяў, Во́ляськаў (Кл., пас. Янкі Купалы).

ВО́ЛЬГА, *-і* (Кл., Байл., Барб.). Во́лька, Во́лячка (Кл.).
Пр. прым.: Во́льзін, Во́льчын (Кл., Барб.).

ГА́ННА, *-ы* (Кл., Сл., Хал., Зуб., Байл., Барб.). Га́нначка. Форм Ганнушка, Ганнанька няма (Кл., Байл.,

Барб., Сл.). Гану́ля, Гану́лька, Гану́лячка (Кл., Н.-Андр., Байл.). А́ньця, А́ньцячка (Пас. Янкі Купалы, Кл., Сл.). Аню́та, Аню́тка, Аню́тачка (Кл.). Пр. прым.: Ганьнін, Га́нначчын, Гану́лін, Гану́льчын, Гану́ляччын; А́ньцін, Аню́ччын, Аню́таччын (Кл.).

Параўн.: Га́нька, Га́ньчын (Лекараўка, Угляны, Казекава Мінскага раёна).

ГА́ЛЯ, *-і.* Га́лька, Га̀лячка.

Пр. прым.: Га́лін, Га́льчын, Га́ляччын (Н. ж., Кл.).

ГАНУ́ЛЯ, *-і.* Гл. Га́нна.

ГЕ́ЛЯ, *-і.* Ге́лька, Ге́лячка.

Пр. прым.: Ге́лін, Ге́льчын.

ГЭ́ЛЯ, *-і.* (Сл.) Гл. Ге́ля.

**ГЛА́ЎДЗЯ**, *-і.* (Кл., Сл.). **Гла́ўдзячка.**

Пр. прым.: **Гла́ўдзін. Гла́ўдзяччын** (Кл.).

ГРУ́НЯ, *-і.* (Хал., пас. Янкі Купалы). Гру́нька, Гру́нячка (Хал., пас. Янкі Купалы).

Пр. прым.: Гру́нін, Гру́нчын (Кл.).

ГРЫПІ́НА, *-ы* (Кл.). Грыпі́нка (Кл.).

Пр. прым.: Грыпі́нін, Грыпі́нчын (Кл.).

ГРЫ́ША. Гл. Рыго́р.

ДАНІ́ЛО (-А), *-а.* Данілко (-а), Дані́лачко (-а).

Пр. прым.: Дані́лаў, Дані́лкаў.

Даніліха, Данілішын (Кл., Байл.).

Е́СІП, *-а.* Е́сіпко (-а), Е́сіпачко (-а).

Пр. прым.: Е́сіпаў, Е́сіпкаў.

Е́сіпіха, Е́сіпішын (В., Сл., Барб.).

Ё́ЎГА, *-і.* Яга (баба). Мянушка (Кл.).

ЗАХА́Р'Я, Заха́р'і, Заха́р'ю, Заха́р'ям (Кл., Сл.). Заха́рко (-а) (Кл.).

Пр. прым.: Заха̀р'яў, Заха́ркаў (Кл.).

Заха́рйіха, Заха́рйішын (Кл.).

ЗЕ́НЯ, *-і.* Зе́нька.

Пр. прым.: Зе́нін, Зе́нчын (Барб.).

ЗЬМІ́ЦЕР, *-а.* Зьмітрык, Зьмі́трачко (-а).

Пр. прым.: Зьмі́траў, Зьмі́трыкаў.

Зьмі́трыха, Зьмі́трышын (Вольн., Кл., Барб.).

ІВА́Н, *-а.* Іва́нко (-а), Іва́начко (-а) (не Іванушка).

Ва́ня, Ва́нька, Ва́нячка.

Пр. прым.: Іва́наў, Іва́нкаў, Іва́начкаў, Ва́няў,

Ва́нькаў, Ва́нячкаў (не Ванячкін, не Ванеччын).
Іва́ніха, Іва́нішын (Кл., пас. Янкі Купалы).
ІЛЬЛЯ′, *-і*.
Пр. прым.: Ільлёў (не Ільін).
Ільлі́ха, Ільлі́шын (Кл.).
КАЙТА′Н, *-а* (Блізн.).
Пр. прым.: Кайта́наў (Кл. Блізн.).
КАНСТАНТЫ′Н, Канстанты́на, Канстанты́ну і г. д. (Кл.). Ко́сьцік, Ко́стусь (Кл., Сл.). Ко́сьцічак (Кл.).
Пр. прым.: Канстанты́наў, Ко́сьцікаў (Кл., Байл.). Ко́стусяў (Кл., Крацк.).
Канстанты́ніха, Ко́сьцічыха, Канстанты́нішын, Ко́сьцічышын (Кл.).
КІРЫ′ЛО (-А), *-а*. Кіры́лко (-а), Кіры́лачко (-а).
Пр. прым.: Кіры́лаў, Кіры́лкаў, Кіры́лачкаў.
Кіры́ліха, Кіры́лішын (Кл., пас. Янкі Купалы).
КІСЕ′ЛЬ, Кісяля́, Кісялю́ і г. д. Бяскрыўдная мянушка (Кл.).
КО′СТУСЬ, *-я*.
Пр. прым.: Ко́стусяў.
Ко́стусіха, Ко́стусішын. Сл. Гл. Канстантын.
КУЛІ′НА, *-ы*. Кулі́нка, Кулі́начка.
Пр. прым.: Кулі́нін, Кулі́нчын (Кл).
ЛАДЫ′МЕР, *-а*. Лады́мярко (-а), Ла́дзік, Ла́дзічак, Вало́дзя, Валодзько (-а), Вало́дзячко (-а).
Пр. прым.: Лады́мяраў, Лады́мяркаў, Ла́дзікаў, Вало́дзяў, Вало́дзькаў (Кл.).
Лады́мярыха, Ва́ло́дзіха, Лады́мярышын, Вало́дзішын (Кл., Н.-Андр.).
ЛІСАВЕ′ТА, *-ы*. (Кл.) Лісаве́тка, Лісаве́тачка, Лі́са, Лі́ска, Лі́сачка.
Пр. прым.: Лісаве́цін, Лісаве́ччын, Лі́сін, Лі́шчын (Кл.).
ЛУКА′Ш, *-а́*. Лука́шко (-а), Лука́шачко (-а).
Пр. прым.: Лукашо́ў, Лукашко́ў.
Лукашы́ха, Лукашы́шын (Кл.).
ЛЯВО′Н, *-а*. Ляво́нко (-а), Ляво́начко (-а), Ле́ўка.
Пр. прым.: Лядо́наў, Лядо́нкаў, Ле́ўкаў (не Леўкін).
Лявоніха, Лявонішын (Кл., Глуск).
МАЛА′НЬНЯ, *-і*. Мала́нка, Мала́ньнячка (Кл., Зуб.).
Пр. прым.: Мала́ньнін, Мала́нчын (Кл., пас. Янкі Купалы).

МАКА́Р, Макара́, Макару́ і г. д. Мака́рко (-а), Мака́рачко (-а).
Пр. прым.: Макаро́ў, Макарко́ў.
Макары́ха, Макары́шын (Кл.).
МАНЮ́СЯ. Гл. Ма́р'я.
МАНЯ. Гл. Ма́р'я.
МАРКО (А), -а. Ма́рачко (-а).
Пр. прым.: Ма́ркаў.
Ма́рчыха, Ма́рчышын (Кл.).
МАРУ́СЯ. Гл. Ма́р'я.
МАРЫ́ЛЯ. Гл. Ма́р'я.
МА́Р'Я, Ма́р'і, Ма́р'ю, Мар'яю і г. д. Ма́р'ячка, Ма́ня, Ма́нячка. (Вайц., Кл.). Маню́ся, Маню́ська, Маню́сячка, Мары́ля, Мары́лька, Мары́лячка. Мару́ся, Мару́ська, Мару́сячка.
Пр. прым.: Ма́рйін, Ма́р'яччын, Ма́нін, Ма́нчын, Маню́сін, Маню́шчын, Маню́сяччын, Мару́сін, Мару́шчын, Мару́сяччын (Н. ж.). Мары́лін, Мары́льчын, Мары́ляччын (Кл., пас. Янкі Купалы).
Ма́р'я, Мары́ля, Маню́ся ўспрыймаюцца, як розныя імёны.
МА́ЎРА, -ы. Ма́ўрачка.
Пр. прым.: Ма́ўрын, Ма̀ўраччын (Кл.).
МІКАЛА́Й -я. Мікала́йчык, Мікала́йко (-а), Мікала́ячко (-а), Ко́ля, Ко́лька, Ко́лячка (-о).
Пр. прым.: Мікала́яў, Мікала̀йчыкаў, Мікала́ячкаў, Ко́ляў, Ко́лькаў, Ко́лячкаў.
Мікала́йіха, Мікала́йішын (Кл., Байл., В., Вольн.).
МІКІ́ТА, Мікі́ты, Мікі́це і г. д. Мікі́тко (-а), Мікі́тачко (-а). Пр. прым.: Мікі́таў, Мікі́ткаў.
Мікі́ціха, Мікі́цішын (Кл.).
МІКО́ДЫМ, Міко́дыма, Міко́дыму і г. д. Міко́дымко (-а). Міко́дымачко (-а).
Пр. прым.: Міко́дымаў, Міко́дымкаў.
Міко́дыміха, Міко́дымішын (Кл., Барб.).
МІ́НА, -ы. Пр. прым.: Мі́наў.
Мі́ніха, Мі́нішын (Зуб., Барб.).
МІТРАХВА́Н, -а. Мітрахва́нко (-а). Мітро́ш.
Пр. прым.: Мітрахва́наў, Мітрахва́нкаў, Мітро́шаў.
Мітрахва́ніха, Мітрахва́нішын (Кл., Сл., Барб.).
МІТРО́Ш. Гл. Мітрахва́н.
МІХА́ЛЬ. Гл. Міха́сь.
МІХА́СЬ, Міхася́, Міхасю́ і г. д. Міха́сько (-а), Міхасёк,

Міхасе̌чак (Кл.). Міхáль (Міхаля́, Міхалю́ і г. д.), Міхале̌к, Міхáлько (-а), Міхале̌чак, Міхале̌чко (-а) (Кл., Барб.). Міша, Мішка, Мішачка (Мішанька, Мішутка—няма).

Пр. прым.: Міхасе̌ў, Міхаськóў, Міхале̌ў, Міхалькóў, Мішаў, Мішкаў (не Мішчын, не Мішкін), Мішачкаў (Кл.).

Міхаліха, Міхалішын; Міхасіха, Міхасішын (Кл.).

МІ'ША. Гл. Міхáсь.

НАВУ'М, *-а*. Наву́мко (-а), Наву́мачко (-а).

Пр. прым.: Наву́маў, Наву́мкаў.

Наву́міха, Наву́мішын (Кл., Баян.).

НАСТА'СЯ, *-і*. Настáська, Настáсячка. Нáсьця, Нáсьцячка. Насту́ля, Насту́лька, Насту́лячка.

Пр. прым.: Настáсін, Настáшчын, Настáсяччын, Насту́лін, Насту́льчын, Насту́ляччын (Кл., Барб., пас. Чырвоны).

НАСТУ'ЛЯ. Гл. Настáся.

НА'СЬЦЯ. Гл. Настáся.

НІ'НА, *-ы*. Нінка, Ніначка.

Пр. прым.: Нінін, Нінчын, Ніначчын (Кл., пас. Янкі Купалы).

НІЧЫ'ПАР, *-а*. Нічы́парко (-а).

Пр. прым.: Нічы́параў, Нічы́паркаў.

Нічы́парыха (Зуб., Кл., Вайц.).

ПАЛА'Г'Я, *-і*. Палáжка, Палáг'ячка.

Пр. прым.: Палáг'іін, Палáжчын, Палáжаччын (Кл., Сл., Весн.).

ПАРА'СКА, *-і* (Н.-Андр., Кл., Кас.). Парáско і Парáхно—клічная форма (Н.-Андр., Кл.). Парáсачка (Кл.).

Пр. прым.: Парáшчын, Парáсаччын (Кл.).

ПАРХВІ'Р, ПАРФІ'Р (іншы раз Парфіл—з дысіміляцыяй), *-а*. Парфірка, Пархвірко (-а).

Пр. прым.: Парфіраў, Пархвіраў, Парфіркаў, Пархвірыха, Парфірыха, Пархвірышын, Парфірышын (Кл., Вайц., Барб.).

ПІЛІ'П, *-а*. Пілíпко (-а), Пілíпачко (-а).

Пр. прым.: Пілíпаў, Пілíпкаў, Пілíпачкаў.

Пілíпіха, Пілíпішын (Кл.).

ПРАКО'П, *-а* (Вайц., Кл., Байл.). Пракóпко (-а), Пракóпачко (-а).

Пр. прым.: Пракóпаў, Пракóпкаў, Пракóпачкаў (Кл., Байл.).

Пракóпіха, Пракóпішын (Кл.).

ПРО́СЬСЯ, -і (Зуб., Кл., Хал.). Прóсьсячка (Зуб., Кл.).

Пр. прым.: Прóсьсін, Прóсьсяччын (Кл.).

ПРУЗЫ́НА, -ы. Прузы́нка.

Пр. прым.: Прузы́нін, Прузы́нчын (Зуб).

ПЯТРО́, -а (Пас. Янкі Купалы, Глуск, Кл., Вольн.). Пятрýсь (Востраў). Пéтрык, Пéця, Пéцька, Пéцячко (-а) (Кл., Поб.).

Пр. прым.: Пятрóў, Пéтрыкаў, Пéцяў, Пéцькаў, Пéцячкаў (Кл.).

Пятры́ха, Пятры́шын (пас. Янкі Купалы, Хал.).

Параўн.: Пё́тра, (у) Пё́тры, (з) Пё́трай (-аю) (вв. Казекава, Угляны, Лекараўка Мінскага раёна, вв. Кліманты, Загорцы Маладзечанскага раёна).

ПЯТРУ́СЬ (Востраў). Гл. Пятрó.

РЫГО́Р, -а. Рыгóрко (-а), Рыгóрчык, Гры́ша, Гры́шка, Гры́шачка.

Пр. прым.: Рыгóраў, Рыгóркаў, Рыгóрчыкаў, Гры́шаў, Гры́шачкаў.

Рыгóрыха, Рыгóрчыха, Гры́шчыха, Рыгóрышын, Рыгóрчышын, Гры́шчышын (Кл., пас. Янкі Купалы).

САК, -а. Пр. прым.: Сáкаў.

Сачы́ха, Сачы́шын (Кл., пас. Янкі Купалы).

СЕ́МА, -ы. Сéмко (-а), Сéмачко (-а).

Пр. прым.: Сéмаў Сéмкаў.

Сéміха, Сéмішын (Кл., Барб., Вольн.).

СІДО́Р, Сідóра, Сідóру, Сідóрам і г. д. (Кл., Н.-Андр.). Сідóрко (-а), Сідóрчык.

Пр. прым.: Сідóраў, Сідóркаў.

Сідóрыха, Сідóрышын (Кл.).

СЬПІРДО́Н, -а. Сьпірдóнко (-а).

Пр. прым.: Сьпірдóнаў.

Сьпірдóніха, Сьпірдóнішын (Кл., Байл.).

СЫЗО́Н, -а. Сызóнко (-а).

Пр. прым.: Сызóнаў, Сызóнкаў.

Сызóніха, Сызóнішын (Кл.).

СЫМО́НАВЫ. Так завуць (некалькі сямей) па дзеду (Кл.).

СЫНКЛЕ́ТА, *-ы.* Сынклётка, Сынклётачка.
Пр. прым.: Сынклёцін, Сынклёччын, Сынклётаччын (Кл.).
ТАДО́РА, *-ы.* (Сым., Сл.) Гл. Хвядо́ра.
ТАДЭ́ЎШ, *-а.*
Пр. прым.: Тадэ́ўшаў. Гл. Хвадзе́й.
ТАМА́Ш, *-а.* Тама́шко (-а).
Пр. прым.: Тамашо́ў (Барб.).
Тамашы́ха, Тамашы́шын (Кл.). Гл. Хама.
ТАРЭ́НТА, *-ы* (Кл., Барб., Глуск). Тарэ́нтачко (-а) (Кл.).
Пр. прым.: Тарэ́нтаў (Кл., Барб.).
Тарэ́ньціха, Тарэ́ньцішын (Кл., Барб.).
ТАЦЯ́НА, *-ы.* Тацья́нка, Тацья́начка. Та́ня, Та́нька, Та́нячка.
Пр. прым.: Тацья́нін, Тацья́нчын, Та́нін, Та́нчын, Та́няччын (Кл.)
ТО́ДАР, *-а.*
Пр. прым.: То́дараў.
То́дарыха, То́дарышын (пас. Янкі Купалы).
ТРАХІ́М, *-а.* Трахі́мко, Трахі́мачко (-а).
Пр. прым.: Трахі́маў, Трахі́мачкаў.
Трахі́міха, Трахі́мішын (Кл.). Гл. Атрахі́м.
ТЭ́КЛЯ, *-і.* Тэ́клячка.
Пр. прым.: Тэ́клін (Кл., Глуск).
УЛЯ́Н, *-а.* Уля́нко (-а), Уля́начко (-а).
Пр. прым.: Уля́наў, Уля́нкаў, Уля́начкаў.
Уля́ніха, Уля́нішын (Кл.).
УЛЯ́НА, *-ы.* Уля́нка, Уля́начка (Кл., Глуск, Весн.).
Пр. прым.: Уля́нін, Уля́нчын, Ю́лін, Ю́льчын (Кл., пас. Янкі Купалы).
ФРА́НЯ і ХРА́НЯ. Фра́нька, Хра́нька, Фра́нячка, Хра́нячка.
Пр. прым.: Фра́нін, Хра́нін, Фра́нчын, Хра̀нчын (Кл., пас. Янкі Купалы).
ХАДО́СЬСЯ, *-і.* Хадо́ська, Хадо́ськсячка.
Пр. прым.: Хадо́сьсін, Хадо́шчын (Кл., пас. Янкі Купалы).
ХАЛІМО́Н, *-а.* Халімо́нко (-а).
Пр. прым.: Халімо́наў, Халімо́нкаў.
Халімо́ніха, Халімо́нішын (Кл.).
ХАМА́, *-ы.* (Барб.) Хо́мко (-а), Хо́мачко (-а).

Пр. прым.: Хамо́ў (не Хамін).

Хаміха, Хамішын (Кл., Барб.). Гл. Тама́ш.

ХАНЬЦІЁ́Н, *-а*. (Барб.) Ханьціе́нко (-а).

Пр. прым.: Ханьціе́наў, Ханьціе́нкаў.

Ханьціе́ніха, Ханьціе́нішын (Барб.).

ХАРТО́Н, *-а*. Харто́нко (-а), Харто́начко (Барб.).

Пр. прым.: Харто́наў, Харто́нкаў.

Харто́ніха, Харто́нішын (Барб., Кл., Слаб.).

ХАРЦІ́НА, *-ы*. Харці́нка, Харці́начка, Хартэ́нка.

Пр. прым.: Харці́нін, Харці́нчын, Харці́наччын, Хартэ́нчын (Кл.).

ХВАДЗЕ́Й, *-я*. Хвадзе́йко (а), Хвадзе́ячко (-а).

Пр. прым.: Хвадзе́яў, Хвадзе́йкаў.

ХВЕ́ДАР, *-а* (Кл., Барб., Сл.). Хве́дзя, Хве́дзька, Хве́дзячка, Хве́дарко (-а), Хве́дарачко (-а).

Пр. прым.: Хве́дараў, Хве́дзяў, Хве́дзькаў, Хве́дзячкаў, Хве́даркаў (Кл.).

Хве́дарыха, Хве́дарышын (Кл., Барб.).

ХВІРО́Д, *-а*. Хвіро́дко, Хвіро́дачко.

Пр. прым.: Хвіро́даў, Хвіро́дкаў.

Хвіро́дзіха, Хвіро́дзішын (Кл.).

ХВЯДО́Т, *-а* (Зуб., Кл.). Хвядо́тко (-а) (Кл.).

Пр. прым.: Хвядо́таў, Хвядо́ткаў (арф.).

Хвядо́ціха, Хвядо́цішын (арф.) (Кл.).

ХО́ЦІМ, *-а*.

Пр. прым.: Хо́цімаў.

Хоціміха (Кл.).

ЦІМАХВЕ́Й. Гл. Цімо́х.

ЦІМО́Х, Цімаха́, Цімаху́, Цімахо́м і г. д. (Кл., пас. Чырвоны).

Цімашо́к (Кл.). Ці́ма, Ці́мка, Цімо́шка (Вайц.).

Пр. прым.: Цімахо́ў (Кл.).

Цімашы́ха, Цімашы́шын (Кл.).

Ю́ЗІК, *-а*. Ю́зічак, Ю́зя.

Пр. прым.: Ю́зікаў, Ю́зяў, Ю́зічкаў.

Ю́зіха, Ю́зішын (пас. Янкі Купалы).

Ю́РКО, *-а*. Ю́рачко.

Пр. прым.: Ю́ркаў, Ю́рачкаў.

Ю́рчыха (Глуск, Хал.).

ЮСТЫ́Н, *-а*.

Пр. прым.: Юстынаў. Юсты́нішын (Глуск).

ЮСТЫ́НА, *-ы*. Юсты́нка, Юсты́начка. Пр. прым.: Юсты́нін, Юсты́нчын (Кл.).

ЯН, *-а*. Я́нко (-а), Я́начко (-а).
Пр. прым.: Я́наў, Я́нкаў.
Я́ніха, Я́нішын (Кл., пас. Янкі Купалы).

ЯСЬ, *-я*.
Пр. прым.: Я́сява (Н. ж.).
Я́сіха (Зуб.).

ЯЎДЗЕ́Й, *-я*. Яўдзе́йко, Яўдзе́ячко.
Пр. прым.: Яўдзе́яў, Яўдзе́йкаў.
Яўдзе́йіха, Яўдзе́йішын (Кл., Барб.).

ЯЎСТРА́Т, *-а*.
Пр. прым.: Яўстра́таў.
Яўстра́ціха (афр.) (Барб., Сым.).

ЯЎЦЕ́Х, *-а*.
Пр. прым.: Яўце́хаў (Сл.).

---

## ЗМЕСТ

